# Полымя Рэвалюцыі

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

Орган
Праўлення Саюза
Совецкіх пісьменнікаў
БССР



*КНІГА ДЗЕВЯТАЯ*




МЕНСК ЛІМ
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
1935

Ц. Гартны

# ПЕРАГУДЫ

**Раман***

Адам Каніца, выпусціўшы з сянец Паўла Перагуда, як пабіты вярнууся ў хату. У вушах звінела няўпэўненая, ні да чаго не абавязваючая, кінутая Паўлам на хаду фраза: „Добра, пагавару“. З кім і што ён будзе гаварыць? Як, наогул будзе гаварыць? Ды ці захоча, нават, гаварыць.

Лахматая галава вікла к долу. Раскудлачаныя валасы спускаліся капяжом на вузкі памаршчынены лоб. У вачах не было ніякай выразлівасці. Раптам ён гэтак паглядзеў на Люцю, што тая ўся аж уздрыганулася.

Ма быць нічога не будзе—Павал не выказаў жадання памагчы. Каніца махнуў разуверана рукою і зацяжна ўздыхнуў.

— А ці я вам не казала?—з дакорам прамовіла Люця.

Яна тут-жа сарвалася з месца, падышла да вакна і пачала прагна ўглядацца ў вузкую шчыліну агароджы, у якой мігнуліся постаці вышаўшых з двара Яніны з Паўлам.

— Вось людзі, на іх усё ліхое!—злосна праказаў Каніца, прысеўшы каля вакна і падапёршы рукою бараду.

Люця адышла ад вакна. На хаду акінула позіркам хату, быццам шукаючы нечага забытага. Кожная рэч кідалася ў вочы, выпуклялася, і нібы шаптала нячутнаю моваю просьбу не пакідаць яе без дагляду...

Не дайшоўшы да мыцяльніку, яна павярнулася к старадаўнаму рудому камоду пад прошвеннаю накідкаю: на ім стаялі выпадкова кімсьці прынесеныя ў хату дзве фарфуровых групкі. Люця ўважліва, па чарзе, аглядзела абедзве групкі, пераставіла іх на месца пустых блакітных флакончыкаў з-пад парфумы, а апошнія падала на ўзровень шклянога гранёнага яечка, яшчэ ў яе дзіцячыя гады падоранага паняю Турановаю... Ад камода Люця перавяла позірк на фатаграфію маткі. Задаволеная ўхмылка праз дзесяць гадоў сочыцца з падфарбаванага местачковым фатографам яе твару. Каб яна чула Люціны скаргі!

Адна за другою буйныя слёзы выкаціліся з Люціных цёмна-рудых вачэй і патанулі ў светла-жоўтым шоўку святошняга плацця. Люця выцерла вочы. Яе погляд пераняла цікавай рэзьбы этажэрка. Хто так адмыслова ўмеў выразаць? Вось палічкі: на верхняй—чыесьці дробныя рэчы; (мо' і яна іх палажыла); мяшэчак у брыжах, вышыты рознакаляровым галёнам па цёмнасінім аксамітным полю; паношаныя шаўковыя, ружовага колеру, кутасы. Люця яшчэ памятае іх на бацькавым поясе, перацягнуўшымі картуновую ў сінія гарошынкі кашульку. Тады Адам Ясевіч



* Пачатак гл. „Полымя рэволюцыі“ № 8.

(яшчэ ў поўнай сваёй самавітасці) быў маладым, фартаватым мужчынам, толькі што пахаваўшым бацьку і стаўшым самастойным гаспадаром-дзедзічам. Колькі гонару мелася ў кожным яго кроку, у хітрай скупой ухмылцы! Як зайздросцілі яму ружанаўцы, калі ён праходзіў па вёсцы, або на добрым сіваку варочаўся з жонкаю з мястэчка! Мала хто асмельваўся пярэчыць Адаму Ясевічу, хоць ён гаварыў часта бязглуздзіцу. Цяпер кутасы, вышмарганыя, ляжаць, як непатрэбная нейкая рэліквія. Не, яны ўжо не падышлі-б бацьку.

На ніжняй палічцы—часткі паламанага грамафона: скрынка з адламанай мембранай, з закасаным у трубку, пачарнелым сукном... Каму ўсе гэты рэшткі астануцца? Бацьку? Аксені Яўмічцы? А мо'...

Люця рэзка адвярнулася ад этажэркі і знянацкі рашчыніла ва ўсю шырыню свае буйныя, празрыстыя вочы:—быццам хочучы ахапіць імі беззваротнае мінулае—здзівілася: перад ёю стаяў павесялеўшы бацька. На прасветленым яго твары яна злавіла праблескі невядомай радасці.

Адам разняў рукі і падаўся да дачкі. Палажыў далоні на Люціных плячуках.

— Нічога, дачка! Мы яшчэ не згінулі!

Ён пацалаваў Люцю ў лоб, затрымаў масляніста-ліслівую грымасу на твары.

— Каніцу нялёгка зламаць, даражэнькая!

Адам падняў угору ўказальны палец, прыжмурыў левае вока. Потым зрабіў два крокі да стала і так стукнуў па ім кулаком, што задрыжэў не толькі стол, а, здаецца, нават, падлога.

— Павал, усё-ткі, не адмовіўся памагчы. Ты-ж мо' чула, Люця, як ён сказаў? „Добра, пагавару". Бачыш,—разуважаў Каніца дачку—Паўлу нельга было іначай сказаць, калі „тая" стаяла пад вакном і вартавала знарок. Цяпер трэба шыта-крыта... Раз ужо мы не ў воку—сцеражыся...

— Не ведаю, ці выйдзе што добрае з вашай просьбы...

Гэтага было даволі на тое, каб Каніца адразу асеў, завагаўся. Рэзкім махам рукі ён перарваў даччыну гутарку. „Сапраўды, ці-ж можна па двух словах рабіць тыя ці іншыя вывады аб чалавеку? Ці не можа стацца, нарэшце, так, што Павал усяго-на-ўсяго праявіў сваю хітрую тактыку. Бач гэтакі самы большэвік, як і іншыя—ён. Чаго можна ад яго чакаць?"—падумаў Каніца.

Люця зноў глядзела ў вакно, за новы дашчаны плот, у садок. Там красаваліся ружовыя, бардовыя і бэзавыя ружы; пад самай навіссю цукровак-яблынь і чырвонабокіх сапяжанак гайдаліся тонкія жоўта-крэмавыя каронкі. І зноў ахапіла адчуванне прыкрай да млосці, да болю разлукі. Заўтра, пазаўтра, ці сённі нават? Ой, як міла, што яны з бацькам удваіх дома. Можа там, у Перагудаў, дзе так раптам абарвалася бяседа, іх чакаюць, нервуюцца? Магчыма, злуюцца, абмяркоўваюць прычыны іх замаруджанасці... Пятрусь ці не хвалюецца, нават? „Дарма, гэта ўсяго здаецца. Чаму-ж, калі так, ніхто не знайшоўся прыйсці запытаць, што з імі тут? Ці-ж трэба вярнейшая характарыстыка Перагудаўскай безудзельнасці, халоднага разліку".

Люця глянула ў вулічнае вакно—двое якіхсьці мужчын мігнулі каля палісадніка. Насцераглася—вось бразне клямка ў варотцах. Дарма. Ніхто не паказваўся. „Дзе Пятрусю ўспадзе ў галаў прыйсці даведацца?" Але нават не зацікавіўся іх доўгай адсутнасцю сам Васіль Лагода? Люця паслала па яго адрэсу колкае ўпічышча.

— Слухай, Люця,—ізноў выпрастаўся над сталом Каніца:—Абярніся сюды...

Люця паслухала.

— Вось што прышло мне ў голаў, дачушка—слухай. Можа было-б лепш, каб уздзейнічаць на Паўла праз цябе. Ён, па мойму, да цябе нічога гэткага не мае, каб... Я прыкмячаў і пры стрэчы ўчора і сённі на бяседзе, што ён к табе добры... Як ты думаеш, га-а? Улучы зручную хвіліну, дачушка, ці-ж цябе вучыць, якім чынам-і-ы...

Люця згадзілася.

— Я паспрабую з Паўлам пагаварыць... Можа ён і цяпер дома... Ці не пайсці нам?...—яна пытальна паглядзела на бацьку. Той кіўнуў у знак згоды.

## XVI

У Перагудаву хату вярнуліся будні. Нізкі прадоўжны абедзенны стол стаў на свае месца. Папрастарнела. Аб нядаўнай бяседзе дапамінаў толькі белы чысты, у чырвоных пеўніках ручнік, які вісеў над трыма блішчастымі абразамі на покуці, павяўшыя галінкі клёну і непастарэўшая палоска дзеразы. Дзве лавы на ножках, замянілі струхлелыя старыя дошкі—на козліках. Ды крыху ў іншым парадку віселі на сценах, паабціратыя ад мух фатаграфіі. Картка Паўла, на якой ён зняты пры станку ў зборачнай завода, знаходзілася на сярэдзіне. На гэтай фатаграфіі Павал мог бачыць сябе некалькімі гадамі малодшым. Некалькі картак былі прысланы з Амерыкі ад дзядзькі Ігната. Але значным фактам з'яўлялася прысутнасць у сям'і новага члена—Люці Адамаўны, былой—Каніца. Яна тупала па хаце неяк асабліва чынна, няўпэўнена, як новы, але адчуваючы свае правы сем'яніна, чалавек. Было прыкметна, што цесная Перагудава хатка шокіравала яе кожнай сваёй рэччу. Люця больш маўчала, упарта раздумвала, неахвотна беручыся за працу. Але паціху гаспадарскія абавязкі вайшлі ў абыход Люці. Патупаўшы да снедання ў хаце і гадзін за тры за чатыры мо'—па слову перакінуўшыся з кожным сем'янінам, а ў дадатак лісліва і завідліва паўглядаўшыся на Паўла, яна пераняла ад свекрові мыццё пасуды.

Пад ціхі, аднастайны бразгат місак і гаршкоў, Павал між іншым спыніўся думкамі на гісторыі старое, дажываючае апошнія часы хаты. Чуць памятна яму, як бацька перавозіў яе з талакою ружанаўцаў за пятнаццаць вёрст з нейкага фальварку. Гэта была гадоў з дваццатак прастаяўшая пад страхою і мясціўшая ў сабе двух чалавек парабкоў хібарка. Пасля іх, выгнаных фальваркоўцам са службы, хатка трапіла на вочы шукаўшаму зруба Лявона. Яшчэ тады яна выглядала здаровай, а гэта... Павал акінуў позіркам сцены, столь, няроўна ўтрамбаваную зямлю... якая ўсё-ткі малюсенькая як сабачая будка! Ці мо' так яму здаецца пасля прасторных кантор і клубаў, з якімі ён асвойтаўся, да якіх прывык? Але не: учора меў выпадак пазнацца з Каніцаваю хатаю, з памяшканнем сельсовета—абодва будынкі выразна кантраставалі з бацькаваю халупаю. Сапраўды, далей прыкра было-б заставацца чацвярым у гэткім непрыветным памяшканні. І ён адчуў салодкае задаваленне ў тым, што знашоў магчымым памагчы брату з бацькамі паставіць новы будынак. Як дарэчы, што на прыгуменні выростае новая хата! Усё-ж яе заканчэнне яшчэ шмат патрабуе сродкаў і клопату! На ім, на Паўлу, ляжыць не малы абавязак... Зразумела...

Моўчкі, нічога не сказаўшы Люці, украдкаю паглядзеўшай у яго бок

Павал вышаў. Звонкі, гаваркі стук сякер перакатваўся па прыгуменню, па двары, разносіўся далёка за пляц, дзе глух у палавеючым жыце. Старыя з Пятрусём весела пагдядзелі на Паўла.

Лявон з Пятрусём падвялі Паўла да зруба. Цеслі гасцінна прывіталіся з Паўлам.

— Хацелася-б пры табе ўвайсці ў яе,—выказала сваё жаданне Домна.

Павал з гаспадарскаю цікавасцю абышоў навакола зруба, пільна выверыў замкі ў вуглах, памеры вакенных вырэзаў, бабы ў падрубе, першы вянок закладкі. Усё выглядала знарочыста падабраным, адмыслова падагнатым адно да другога. Пятрусь заўважаў па братаваму выгляду, што якасць будоўлі яго здавальняла. Лявон папахкваў люльку, ловячы ўважлівыя сынавы позіркі на цесляў.

— Добрага дзерава дасталі,—пахваліў Павал адначасна і матэрыял на хату і бацьку з братам.

Тыя абодва задаволена ўсміхнуліся—разам і ад гонару і ад лесці. Пятрусь пахваліўся:

— Бацькава работа:—Бачыш, выбраў хваіну ў хваіну.

Лявон зацягнууўся, і ў сінім едкім дыме самасея праглядала радасная ўхмылка на яго твары.

— Пятнаццаць на трынаццаць?—запытаўся Павал.

— Малая?—усумніўся Пятрусь.

— Не-э, хопіць... Навошта вам большая чацвярым...

Яны вярнуліся на месца, з якога пачалі агляд. Павал адышоўся на пару крокаў і праверыў узрокам адлегласць ад дарогі. Зруб вокнамі быў павернуты ў поле.

— А як вы лічыце наконт таго, што хата ўцякае ад дарогі, павярнуўшы вокны ў процілежны бок?

— Мы доўга меркавалі, як лепш і ўсё-ж спыніліся на тым, як бачыш... А-ат...

Да іх падышла Люця.

— Хата, бадай, як майго бацькі,—сказала яна да Паўла манерна, з прыціскам на словах „майго бацькі".

— Не меншая...—пагдядзеў на нявестку Лявон:—Можа Адамава на які вянок і вышэй, а ў шыркі, або ўдажкі—мала большая.—Хопіць для нас, абы жылося...—сказала Домна.—Вунь мы, аднак, звякавалі ў якой, а тым часам...—Каб не Совецкая ўлада, да не выгадаваны ёю наш Павал—яшчэ-б жылі ў старой... Дзякаваць ім...

Люця доўга змярала поглядам стройную, шваграву постаць. Колькі ў ёй бурлівай жыццёрадаснасці! Якім палкім агнём гарэць яго вочы! Павал хутка засланіў сабою і хату, і мужа, і старых Перагудаў: ён заваражыў Люцю, якая здрыганулася ўсім целам, калі ўлавіла яго парыўчаты зрух з месца. Пятрусь сачыў за жонкай: і гэта ад яго не схавалася, ён сярдзіта адвярнуўся ў бок. Следам сарваўся з месца і дэманстрацыйна пашоў да гумна.

— Мо'ж будзем абедаць разам—запытала Домна сыноў.

— Я зараз вярнуся. Не чакайце мяне...—гукнуў Пятрусь.

— Ты-ж куды гэта?—запытаўся Лявон.

Люця з Паўлам пакінулі прыгуменне і вярнуліся ў хату. Неўзабаве прышлі старыя. Разгаварыліся.

— Ужо людзі прабуюць касіць, — сказаў Пятрусь, увайшоўшы у хату.

— Ужо?.. Паспеем і мы,—Лявон.

— Ці-ж не час?—не згадзілася Домна.

— Чаму-ж, заўтра можна і нам выходзіць,—падаў Лявон.

— А як парасло сена?—справіўся Павал, лагодна пазіраючы ў бацькаў спакойны твар.

— Чаму ты пытаеш?

— Бо мо' калгас адрэзаў?—паіранізаваў Павал.

Лявон сцяміў куды хіліць сын і на яго твары выступіла чырвань. Адчуў сябе няёмка і Пятрусь, заёрзаўшы на месцы.

— А я табе скажу, сыне, што на поплаў, наогул, ружанаўцы пакрыўджаны калгасам.

— Вазоў са тры ці накосім!—няўпэўнена адмовіў за бацьку Пятрусь.

— Хопіць, сыне. Ці-ж нам больш за ўсіх трэба—матнуў рукою Лявон.

— А мне, ведаеце, думаецца,—сур'ёзна пачаў Павал, адлажыўшы лыжку,—што мо' і пара-б канчаць з аднаасобніцтвам...

На гэта Пятрусь заўважыў:

— Вам лёгка разважаць, а паспрабуйце на справе... Што гэта—у мястэчка пераехаць?... Не так усё проста, як здэцца. Няхай, во, Люця скажа...

Гэтым Пятрусь хацеў, наперш ае, даказаць перад усімі, што ён лічыць Люцю за аўтарытэтную асобу, не крыўдзіцца на яе таксама, падругое, каб Павал зразумеў, што яму няварта залішне часта перакідацца з ёю любезнасцямі. Але Люця, як назнарок, змаўчала, насмешліва паглядзеўшы на мужа.

Не думаю, каб яно было так,—цвёрда адказаў Павал.—Бацька ў дзесяць разоў правільней за цябе разважае.

— Ды яно-ж так, калгас нядрэнная справа, дзеці,—уставіў свае слова Лявон. Толькі прывычка нас прывязала да сваіх кусочкаў, да сваіх каровак, сошак, платоў, з-за якіх чалавек слепа ідзе на разбой. Дурнота—не больш. Хоць і ўчора, добра Павал кажа, галёкаеш на ўсю вуліцу, сварышся—а з кім, на каго—і не падумаеш... Не Туран жа на нас наступае. І не старшыня з воласці пільнуе кожны наш неасцярожлівы крок, а свае вокала людзі: у сельсовеце і ў калгасе... Нашыя, з якімі нам не расстацца... А наадварот... Бачыце, як мірна і гладка вырашылася справа з выганам, хіба трэба было вэрлах паднімаць? Але неяк у чалавека смеласці не стае. Нагавораць яшчэ к гэтаму і баішся—жарты калгас! Ой, ой!

— Трэба зазіраць наперад, тата, і крыху быць смялейшымі. А таксама менш такіх нагаворнікаў слухаць.

Недаспадобы былі Пятрусю бацькавы словы. І тон старога яму паказваўся зусім не падыходзячым да зместу гутаркі. Перакідаючы ў руках агрызак хлеба, ён нервова лупаў вачыма то на бацьку, набіваўшага люльку, то на Паўла, які прадаўжаў раўнадушна знаёміцца па фатаграфіі з дзядзькам з Амерыкі. Люціны позіркі на яго яшчэ больш хвалявалі Пятруся. Выйшаўшы са сцерпу, ён раптам падняўся, стукнуўшы ўслонам па лаве. А дале загаварыў:

— Дзякуй за ласку, першым у сіло лезці. Гэткае шчасце, як калгас ніколі не ўцячэ. Вось няхай перш Васіль багацее, а мы, як былі беднякамі, так і... Абы не чапалі нас...

І бацькі, і Павал спужана павярнуліся да Пятруся. Ніхто не мог вытлумачыць сабе, чым былі прадыктаваны яму сказаныя словы. Яго непрыхільнасць да калгаса, вядомая бацькам, яшчэ ні разу аднак, не вы-

лівалася ў гэткія формы, як цяпер. І здзіўленне, выступіўшае на іх тварах, было зусім натуральным.

Люця яхіднічала, з-пад ілба пазіраючы на мужа: на гэты раз у яе нутры тулілася спачуванне Пятрусю.

— Вось гэтага я ўжо зусім не чакаў ад цябе, Пятрусь, разуважліва пераняў Павал:—Ты гаворыш, як чалавек, якога бязлітасна пакрыўдзіла совецкая ўлада. Моваю, удзячлівай кулакам—скажу адкрыта, у вочы. Брат-жа... Нібы ты быў памешчыкам і рэволюцыя ад цябе адабрала ўсю, нажытую чужым потам, маёмасць? Нібы ты заняў месца Турана і не можаш даравацьь, што ў маёнтку гаспадарамі былыя яго парабкі... Ці-ж калгасы нешта гэткае, што перагарадзіла табе дарогу— і ні сюды, і не туды... Дзіўлюся, браце, дзе ты запазычыў гэткіх думак!..

Пятрусь перамяніў паставу: яго выпрастаная постаць раптам ссутулілася, як у злоўленага на гарачым учынку; ён з натугаю паглядзеў на Паўла, і ўжо цішэй праказаў, сарамліва:

— У кожным разе,—калгас яшчэ не ў сіле, як след, памагчы...

— Ну, а вось Лагоды запісаліся і працуюць... і Волька здаволена гэтым.

— Во-олька-а!.. Толькі што-а... Волька-а... Волька і ты адно... А мне...

— А табе іншае! Хто-ж ты, перапытваю, нарэшце?

Пятрусь сціскаўся на хаду, трацячы веру ў свае зменчывыя намеры і няўстойлівыя погляды. Дапамінак аб сястры, пастаўленай ім упіку бацьку, варушыў яго сумленне; упартасць не дазваляла прызнацца, а ён часамі адчуваў, як невыразныя якіясці думкі, што часамі лезлі яму ў голаў, ткалі тонкія, непрыметныя знізкі спрыяльных к калгасу пачуццяў. Ён дваіўся ў параўнаннях рэзка супроцьлежнага настрою ў сястры і швагра. Але Паўлава спасылка на Вольку кранула яго самалюб'е...

— На гэты раз пойдзем касіць паасобна, а далей... пабачым,—сцішаючы голас да шэпта праказаў ён, адзеў шапку і на хаду да дзвярэй паклікаў бацьку.

Паедзем, тата, да забярэм рэштку лат...

Лявон глянуў на Паўла і вышаў за Пятрусём з хаты. Праз паўгадзіны, не больш, яны выехалі з двара на гасцінец, дзе схаваліся ў палавеючым жыце.

Павал прачыніў вакно, весела паглядзеў ім услед. На яго павеяла з поля салодкім водырам, бліснула золатам непарушных жытоў. Дзесць на гарызонце чарнела шнурком хваёвых вяршын Каленкаўская дача.

## XVII

Якраз гэтай самай парою стаяў у адчыненых дзвярах сваіх сянец Адам Каніца. Яго ўзрокі таксама накіроўваліся ў бок Каленкаўскае дачы, але ён быў настроены зусім інакшым чынам. Ні яскравае цёплае сонца, залаціўшае пышную расліннасць у садку ды на гародзе, ні шырокая палоса пастаўніка за гумном, чакаўшая касы, не ўтаймоўвалі яго разварушаных нядобрымі адчуваннямі думак. Ён выглядаў, як мядзведзь, упершыню вылезшы з свае бярлогі пасля доўгага сну і вырашаў, у які бок зрабіць свой першы крок. Усё, што бачыў ён, выглядала аднакавым, нават варожым і, здавалася, кожная рэч гаварыла аб яго безнадзейнасці. Гэта адчуванне не пакідала яго цэлы дзень, які асабліва здаваўся яму маркотным і сумным. Ніяк нельга было знайсці спакою; здавалася, што

юркая, непадатлівая сельсоветчыца неадступна пільнуе яго хату, двор, поле, самога; прысутнічае ці ў сенцах, ці ў клеці, ці на двары пад вакном. Чужая і нячулая да яго хваляванняў Аксення Яўмічка аўтаматам верціцца па хаце, бегае несціханна з дзвярэй у дзверы. Ці-ж дзяліцца з ёю сваімі думкамі і перажываннямі? Няяснымі і незразумелымі ёй? А Люця—тая ўжо ў Перагудаў... Каніцу не хацелася верыць у навочную сапраўднасць і ён раз-па-разу пазіраў у вакно, туды, дзе стаіць сватава хата—а мо' дачка падбяжыць наведаць яго, адзінокага. Кратала сэрца нездаваленне—як хутка свае дзіця можа забыць роднага бацьку? А каб прышла Люця, каб зазірнула хоць на адзін момант—ён выліў-бы перад ёю назбіраную за цэлыя суткі скаргу і мо' пачуў-бы слова развагі, уцехі, заспакоенасці... Можа Люця ўжо сумела як-кольвечы перамовіцца з Паўлам, вобраз якога пацмянеў у Каніцавым ваччу. Вось стукнулі варотцы ў браме і мігам Адам адвярнуўся к вуліцы—бліснула іскраю хаценне—Люця мо'... З надворку прасунула забруджаны лыч пярэстая надворная свіння. Зарохкала, водзячы лычам у паветры... „А няхай ты здохні“,—вылаяўся Каніца соладка і шчыра. „Хто-б то не прычыніў варотцаў!“ І мо' ніколі, як цяпер, не выявілася перад ім тая прорва адчужанасці і страшнай адзінотнасці, якія рабілі нямілымі, непатрэбнымі і далёкімі ад яго і свінню, і таму, у полі, дзесяцігектарныя палосы пад раскошным жытам, ды ярыною, уся гаспадарка ў цэлым... якая, якбы чароўны талісман, дзесяцігоддзямі спрыяла Каніцаваму жыццю, паднімаючы іх род напаверх ружанаўскае грамадскасці, становячы ў шэрагі знатных і слаўных ружанаўцаў—а цяпер стаўшая крыніцаю бяды. Адсюль, з любое шчэлкі, з-за куткоў выступаюць пачварныя дзівы ракавых лічбаў— 300 пудоў... Трыста пудоў, за якімі нястрымнымі вагамі абвісла становішча кантрольшчыка, цвёрдазаданніка, чалавека, якому няма месца там, дзе раней не было месца другім.

Раптам Каніца страпянуўся, павадзіўшы ў бакі галавою, як бы вылузваючы яе з якоесць цеснае рамкі і, упарта пратэстуючы, праказаў:

— Няўжо такі прышоў час мне пакорна схіліцца перад лёсам? Няўжо такі я страціў падпору? Не павінна таго быць! Не-э-э!

Каніца рашуча пераступіў парог і апынуўся пры плоце. Нядаўна пастаўлены аполкавы плот струною бег ад новае брамы к гумну. На выбрукаваным дробнымі каменчыкамі двары самавіта тупала свіння, квакталі валястыя, чубатыя куры-шурпы. Усё знаходзілася на сваім месцы, як перад гэтым даў яму лад ён сам, Каніца. Хто мае права гэты лад парушыць? Дарма ён паддаецца суму і дазваляе бяссіллю авалодаць сабою. Гэ-э! Яшчэ ўсё тут, што бачаць вочы, яго...

Ён засмяяўся і зірнуў у гарод: за шчыльнай агароджай танула ў пышнай расліне дзесяць роўных град. Шэрая, сталёвага колеру, капуста раздымае шырокае лісце над зялёным, у чырвоныя рыскі, бурачнікам; светла-зялёны маркоўнік чуць прыкметна зліваецца з крыху зелянейшым лісцём крылатага мультану. На дрэве поўна садавіны. Пад кучаравымі грушамі пярэсцяцца пасаджаныя Люцяю кветкі... Здаецца ў гародзе ніколі не бывае ніякае змены—вечна бушнее раскошная зеляніна. Так усё ўстойліва і моцна, як прылітае цэментам. Хто-ж меў права?..“ Каніца не дадумаў, і трусліва азірнуўся на браму. На вуліцы пачуўся чыйсьці голас—ён насцярогся—хаця-б не шчуплая, пранозлівая сельсоветчыца. У Яніны Крэмень вельмі падобны голас... Было-б дзівам, каб яна пакінула на сёння яго ў спакоі... Вось гутарка бліжэй і выразней... Каніца павярнуўся тварам да вуліцы. Дзве постаці, з поўнымі мяшкамі травы на плячах, абміналі суседнюю хату. Наперадзе, куды яны ішлі,

пустая вуліца. А ў проціlежным канцы? Праз густое лісце бэзу ў палісадніку ён прыкмеціў шэрыя абрысы Перагудаўскіх будынкаў. Магчыма там, па прыгуменні, тупае Павал... Прыслухаўся. На перабой, у двух канцах вёскі людзі кляпалі косы. Каніцу страсянула гарачлівая руплівасць: ён напружыніўся ад злосці на сябе, на Люцю, на ўсё, што не мінула праз дзень яго думак—чаму так марна прапала ў яго столькі часу. „Жарты, гэткі вялікі дзень! І амаль што пальцам не пашавяліў...

Адам вярнуўся ў хату. Адчыніў вакно. Постаць трымалася роўнае, прыўзнятае паставы, ногі ўпорліва стаялі на падмеценай Аксеняю падлозе. На стале ляжаў ракавы кантрольны ліст, якога пакуль Каніца не прыкмячаў. У двор прайшла з прыполам травы Яўмічка.

— Ты каня папасвала?—мякка запытаў Адам.

— Яшчэ на прыпоне.

— Барджэй ідзі забяры, Аксеня, а то...

— Вось упушчу карову...

— Ідзі па каня, а я...

Выпадковы ўзрок, трапіўшы на стол, улавіў белы квадрат паперы. Ліст пацягнуў да сябе. „Ах, кантрольны!“ Мігнулася надзея: Каніца зробіць новы манеўр; ён папросіць Паўла напісаць абскарджанне на кантрольную. „Што скажа на гэты конт Павал?“ І разам:

„Што-а за прымха!“

У вакне Адам улавіў Васілёву развязную постаць, яго вясёлы твар. Скрывіўся ад нездаволення, але тут-жа адагнаў гэта пачуццё. Чаму-ж не—няхай і Васіль. З ім мо' лепш, як з кім, абмяняцца думкамі“.

— Ад сваіх мо'?—падаў насустрач Каніца і следам:—Ну, ты, Аксеня, кінь з караваю, няхай яна...

Работніца спалохана аглянулася на гаспадара і барджэй зайшла на другі бок каровы, якая спяшалася ў хлеў.

Лагода недаверліва паглядзеў на Яўмічку і весела адмовіў дзядзьку Каніцы:

— Не, з калгаса.

— Нават з калгаса? Як ты старанна яго наведваеш!.. Працаваў?

У Каніцавым голасе адчувалася іронія і жарт.

— Які, аднак, ты добры ўдарнік!

Васіль зразумеў дзядзькаў намёк—замлосніла нешта ў яго нутры. У запытанні, апроч іроніі, прагучэла яшчэ нотка патайнога дакора. Няўжо такі Каніцу непрыемна тое, што, ён, Васіль Лагода, уцягнуўся ў калгасную працу? „Мо', хіба, я не апраўдваю яго спадзяванак у поўнай меры? Што ён хоча гэтым сказаць?“

— Кіньце, дзядзька!—супакоіў Лагода:—Плакаць трэба... Думаеце зробіш так, як хацеў-бы... Сочаць за табою, як за якім злодзеем... Недаваряюць... Абмінаюць і азіраюцца,—а то і папікнуць. Адзін Сніпіч чаго варты... Ах, паскуда! Язык, як мянташка... Навучыўся гаварыць, а-ах...

Каніца заўважаў на Васілёвым твары трывожную задуменнасць, якое не магла схаваць пад сабою робленая, знарочыстая ўхмылка. Шэрыя каціныя вочы палахліва сеялі няўпэўненыя позіркі.

— Пацíху так, непрыметна, заціскаюць зашмаргу ўсё тужэй... Не тое, як думалася, зусім не тое, дзядзька. Апознішся на гадзіну—заўвага, паўдня не паробіш—вымова, пагроза. Бяруцца, як след... Пэўна—гэта на доўга справа... Робіцца страшна неяк, як паглядзіш наперад... Не, дзядзька, калгас не наша справа... Наша мінулася...

Яшчэ патайней:

— А за ўчарашняе, як прыстаў сёння Сніпіч. „Ты—кажа:—самы падбухторнік аказаўся ўчора“.. „Бачыў—кажа—як ты наздрочваў ружанаўцаў супроць сельсовета“. „Калгаснік—кажа—ці-ж так павінен астойваць агульную справу?“ „Нясе—кажа—ад цябе непаправімым фальбаркоўцам. Мы гэта запішам табе ў радок“... Бачыце, якая гутарка, куды хіліць.

Каніца зрабіў намеклівы ківок галавою. Яны азірнуліся па двары і да вуліцы. Аксеня скрыпнула варотамі хлява—зачыніла.

— Спяшайся па каня, нябога!—гукнуў Каніца работніцы. Калі яна схавалася за гумном, Каніца загаварыў:

— Цяпер і гэтай жанчыне я не веру. Хто яе ведае, што яна пра цябе думае. Можа знарок служыць, каб выверацъ чалавека.

— Ці ліха?—падозрана глянуў ёй услед Лагода.—Не чула-б толькі яна, калі я вам...

— Эт, або ўжо, думаеш, кожнае слова і перакажа...

— І карантыш той, старшыня калгаса, столькі нагаварыў, пэўна са слоў таго-ж Юстынкі Сніпіча. Я цэлы дзень сёння прахадзіў, як у мяшку якім... Не адгаворышся...

— Табе, сапраўды, не варта было перад людзьмі выкрывацца. Кожная зараза бачыць... Калі што рабіць—то ўмела...

Лагода перапалохана ўтаропіўся Каніцу ў твар. Потым, супакоіўшыся тут-жа, пачухаў патыліцу, нешта зарупела ісці дамоў.

Перад тым, як рушыць з месца, задумліва пракезаў:

— Вы гадак, на яго ліха зручны... Такіх мала... З дымам-бы і—скончана...

Каніца барджэй зачыніў вакно, стаўшы тварам да дзвярэй.

Васіль ураз апусціў фіранку.

— Ага, добра,—праказаў Каніца.

І, каб не адхіляцца ў бок, суцешыў Лагоду:

— Нічога, сыне, мацуйся... Сядзі!—асадзіў за руку.

— Я такі не добра зрабіў, што ўвязаўся ў гутарку,—кінуў Адаму Васіль...

І падумаўшы крыху:

— А каб не Павал—сяляне маглі-б задаць перцу... Так-бы папомнілі выган, што толькі трымайся...

Вось цяпер—са мною чым кончыцца—чорт яго ведае...

— Пройдзе,—суцешыў Каніца, якога мала датычыла трывожлівасць Лагоды.

Адам пераключыўся думкамі на Паўла.

— Дык, што, ты кажаш, гаварыў Павал?—запытаў ён тонам, на які нельга было не адказаць.

Лагода замяўся: ён фактычна, не расчуў тады ніводнага слова, як след, бо своечасава рэтыраваўся ад натоўпа. Але, абмовіўшыся пра Паўла, не хацеў прызнацца. Перадаваў па свайму:

— „Супроць каго вы падняліся“,—кажа! „Вы слухаеце розных там... кулацкіх падпявал... „Адным словам, да таго цвёрда і хітра сказаў, што ўсе мужчыны адразу перанастроіліся, аселі... Я зразумеў, што пасля гэтага пачнецца, як у большэвікоў бывае... і паціхеньку сышоў... Ды, думаю, добра, што гэта зрабіў, бо... а, ну, не спынілася-б на тым... Як вы кажыце?

— Пра мяне, часамі, не ўспамінаў?

— Не-э... Ці вы маеце лад...

— Ну то ліха з імі... Абы толькі Павал нас не чапаў...

Самазаспакоенасць падняла Каніцу з месца і дазволіла зрабіць некалькі крокаў па хаце.

Якраз за вакном пачуўся голас Аксені. Адам барджэй адчыніў вакно і ў цёмны надворак праказаў:

— Завядзі, Аксеня, каня ў хлеў і можаш ісці сабе гуляць...

## XVIII

Каніца папрасіў Васіля крыху пачакаць, а сам клапатліва выбег у сенцы. Лагода пачуў, як у сенях зашоргалі яго крокі, застукала, забразгала. Потым украдліва, як злодзей, ён прайшоў дваром да брамы, папрабаваў зашчапку.

— Ведаеш, дзяўчына мо' і нічога, а прасачыць не лішне,—апраўдаў сваю надмерную падазронасць Каніца.

Ён спыніўся ў мыцельніку, дзе ў пацёмку захадзіў каля начыння. Праз хвіліну падышоў к сталу і пачаў увіхацца з ложкаю ў руках каля прынесенага з сабою гаршчэчка.

— Не агрэшваўся, амаль, праз увесь дзень... Каб ім скулы на язык, як я...—вылаяўся ён па адрэсу сельсовета.

Глытнуўшы дадаў:

— Агонь запалю, а то... каб ім цёмна было ў ваччу...

Сумная малюсенькая газніца загайдала доўгія цені. Лагода няўпэўнена пазіраў на Адама, угадваючы, як яму лепш зрабіць: казаць ці не.

— Я чуў, дзядзька Адам, што ў вас нецікавыя справы?

Каніца нашарохана запытаў:

— Ты гэта пра вошта?

Лагода завагаўся.

— Кажы, кажы,—падагнаў яго Каніца.

— Ды я... пра кантрольнае гэта, бач...

Гаршчочак стукнуў дзянцом, аб стол.

— Так, ліха іх матары, прыпіраюць, як след... Падумай адно—трыста пудоў узваліць на плечы старому чалавеку!.. Ці-ж я вытрымаю... Лёгка сказаць!..

— І што вы маеце рабіць?

— Думаю...

І ў нейкім задуме, як у атарапленні, ні то падбіраючы чарговыя словы да абарванага сказа, ні то адчуваючы бяссільнасць шавяліць языком, ён прастаяў каля трох хвілін, пакуль рашыўся адкрыцца.

— Адна надзея на Паўла... Павал, каб толькі ён захацеў—памог-бы... А сам...

— Вы прабавалі яго прасіць?

— Прасіў, нябож... Праўда, неяк нескладна атрымалася—„гэта" з сельсовета прысутнічала, але ён даў абяцанку...

У Лагоды на твары выплывала здзіўлена-насцярожаная ўхмылка.

— Што-ж Павал хаця сказаў вам?

Каніца сумліўна матнуў галавою:

— Невыразна, сыне, яксці... На выхадзе з хаты толькі кінуў: „Добра, пагавару".

— Гм!—замармытаў Лагода і прытуліў вуха да вакеннага шыляванне. З хвіліну прыслухоўваўся да звычайнага адвячоркавага гоману на сяле, водгалас якога прабіваўся ў хату. Пасля спачувальна сказаў:

У Перагудаў не дапэўнішся... Цяпер яны пачулі, што час працуе на іх...

Каніца недаўменна ўзорыўся ў Лагоду.

Потым кінуўся да Лагоды і, хапіўшы за стрыфель яго піджачка, сярдзіта пераказаў некалькі разоў засаб:

— Ты праў, сыне... ты праў, праў... сыне, праў... Перагудаў недапэўнішся... пачулі моц. . І наперакор усяму, рысуючыся, каб не паддацца адчаю, хвастліва запытаў:

— Мне здаецца, што яшчэ Каніца не скончаны. Го-а?

— Хто можа дапусціць гэта!—скрывадушнічаў Васіль.

Пад гэткі настрой, ён дачакаўся, што Адам прыпомніў запытаць яго:

— Ты мо' хацеў чаго прасіць?..

— Сена хацеў прасіць возікаў са два.

— А ты-ж, хіба, каровы ў калгас не адвёў?

Гэта запытанне не спадабалася Васілю, але ён нічым не выказаў свайго нездаваленння.

— Дзе-ж, агаліцца так, каб з голаду прапасці...

— Ты праў... праў... Сена... возікаў два сена... гм... гм... Яно-б мо'... не скажу табе зараз.. Возік які... А троха ў калгасе...

— Хxi-xi x! О-охх!—не стрымаўся Лагода, абмылкова прыняўшы апошні Каніцаў сказ за жарт.

Адам вытлумачыў Васілёва непаразуменне заўвагаю:

— Я не на жарты... У самога обмаль... Бачыш, яшчэ свая карова, няўрокам, конь будзе зімаваць... А поплава, цяпер не столькі, як было раней... Ды канюшыны і лыгі не сеяў...

Васіль схітрыў:

— Што-ж, веру... Дзякуй... Вы ўжо дазвольце праведаць дзе—і я папрашу дазволу касіць... А наконт Паўла, то мо' ўлучу момант і закіну таксама слова.

Каніца прасвятлеў. Апусціўшы рукі на лагодавы плячукі, весела загаварыў:

— Я заўтра праверу, а можа і возікаў два знайдзецца... Сапраўды, мне ўжо не так многа і трэба. Гэта-ж не бываляшняе, што сваё пойдзе і яшчэ дакупіш. Гаспадарка сёння не тая... Яшчэ, мабыць, і леташняга копак са дзве заваляласся. Дам... а ты не забудзь... не забудзь, сыне, наконт Паўла... Добра?

— Яшчэ, дзядзька, я-б парадзіў вам часткаю збожжа завезці ў маё гумно... У калгасніка хаваць надзейней. А да вас могуць часцей наведваць—запрапанаваў Васіль.

Паслуга з гумном паказалася і яму даволі трапнай. Ён сур'ёзна хапіўся за гэту прапазіцыю. А гэта не дрэнная справа! Добра! „Сапраўды—калгаснік, які не есць"... Потым усумніўся ў сур'ёзнасці яе: „Але, ці Васіль гэта сур'ёзна кажа?" Праверыў яго настрой, хапіўшыся за думку: „Было-б добра, каб не ўздумаў калгас заняць пад сваё збожжа гумна". Гэта сумненне цяжка было ўтаіць ад Лагоды.

— А ты думаеш, гумно ў цябе астанецца на доўга?"

— Ці ліха! З год пастаіць...А пачую .. лепш спалю, а не...

Каб не смуціць Васіля далейшымі недаверлымі адносінамі да ўслужлівай прапазіцыі, Адам не забыўся падзякаваць.

— А будуць пагаворваць аб забранні гумна, ты чуцмеш, вядома...

Ён тут-жа павярнуўся ў бок мыцельніка, праказаўшы:

— Давай, суседзе, перакінем па чарцы... Паўпляшкі асталося ад вяселля... Разумееш,—усяго паўпляшкі з цэлае капы пляшак,—падкрэсліў ён і ўвішліва звярнуўся ў мыцельнік ды назад. На стале апыну-

лася пляшка з недапітай зуброўкай і тарэлка з сухімі кусочкамі недаедкаў ад сыра ды хлеба. Каніца наліў чарку.

— Будзем яшчэ жыць, суседзе. За наша здароўе!—ахнуў, закусіў, наліў Васілю.

— Смялей будзешісці дахаты. Усё будзе добра!

Лагода не спрачаўся з чаркаю, але з словамі не згадзіўся.

— Трудна, дзядзька, сказаць як будзе... Прыціснулі ўжо завельмі...

Першыя чаркі яны прагналі другімі, але Каніца ў час перапыніў бяседу, бесцырымонна адставіўшы пляшку на лаву. Лагода з недажованым асушкам падняўся з месца.

— Дык я прыду наконт сена, а з Паўлам абавязкова буду мець размову... Дзякуй за ўсё, дзядзька...

— З-пад парога дапомніў:

— А наконт гумна—падумайце лепш...

Каніца прайшоў за Васілём да вешніц. Калі той пералез на прыгумень, ён шэптам падаў:

— Дабранач!.. Значыць—умовіліся: сена і гумно...

— Так-так!—на хаду адгукнуўся Васіль.

Каніца пастаяў на адным месцы, пакуль заглухлі Лагодавы сляды за гумном і вярнуўся. Апынуўшыся ў сенцах, запёр дзверы на закрутку і на завалу, старанна заткнуў камяком травы акенца ў сцяне. Потым схадзіў у хату па газніцу і, вынясшы, прайшоў у адчыненую клець. З правага боку, акрытыя лахмоццем, стаялі кублы з салам. У большым, што ў кутку, каля крайняе фасы, ляжала кускоў дваццаць пазалеташняга, другія два хавалі ў сабе дзесяціпудовую тушу свінні, заколатай перад вялікаднем. Сала вылежвалася пад вострым пах свежых аўчын, вісеўшых на працягнутым праз усю камору вешале, прыхаваных дзяругаю. Каніцу ахапіла ўцеха: ён паставіў газнічку і наладзіўся праверыць спраты. Гэта ён рабіў даволі акуратна праз азначаны тэрмін, прыблізна ў дзве нядзелі, не давяраючы не толькі Аксені Яўмічцы, а бывала і сваёй дачцэ. Апошнія дні далі яму большую падставу на гэта: перад вяселлем і ўдзень вяселля хто толькі не хадзіў у камору. Ён спрытна адставіў дошкі і ўпяў вочы ў паўнюткую пшаніцаю фасу. Жменя патанула ў зярне, паднялася і цёмная струмень збажыны палілася назад роўненькім струменем, здаецца нават, ціха пазвоньваючы.

— Чаго добрага і гэта маё дабро гатова пайсці да іх...

Падазроны ўзрок пранізаў цёмную паласу, якая пачыналася па другі бок парога, у сенцах. Дошкі спрытна вярнуліся на сваё месца. Жыта, якім была напоўнена другая фаса, Каніца праверыў праз вузенькую шчыліну. Агледзіў таксама запасы мукі.

— Аднак, зусім да рэчы... Трэба выкарыстаць Лагодаву прапазіцыю. Зерне ды сала перавесці не мешала-б.

Думкі да таго паказаліся яму слушнымі, што Каніца ажно спалохаўся, каб іх ніхто не падслухаў. Ён няўпэўнена абводзіў пільным узрокам па каморы і доўга не адважваўся пераступіць у сенцы. Пасля столькі-ж часу вагаўся з замком, не давяраючы лёгкаму ходу ключа.

## XIX

Васіля Лагоду абудзіла сумятлівая тупатня Волькі. Яна, як і кожны дзень, увіхалася каля печы, каб згатаваць снеданне і хутчэй бегчы ў калгас. Надыход прыпарнага часу, касьбы і жніва, перадаваў ёй агульны настрой руплівасці і дбання. Волька калацілася ўсёй постаццю,

прымаючы блізка да сэрца ўсе калгасніцкія прыгоды. Калгас вабіў Вольку сваім цікавым ёй, новым, аграмаджаным жыццём. Яна пільнавалася яго і лічыла брыдкаю справаю ўрываць, як-то рабілі некаторыя, хвілінкі і гадзіны ад калгаснага працоўнага дня.

Цяпер Волька бегала па хаце, як на спрунжынах, пазіраючы то ў вокна, то на ложак, дзе мешкавата варочаўся муж. Даўно ўжо ўзышло сонца. Кудахталі за плотам у гародзе куры, а Васіль усё ляжаў на ложку. Волька пякла блінцы; скаварада шыпела ад подмазкі, апалонік грукаў у берагі дзежкі. Чаго-ж сцерагчыся, падумаеш! пара самому ведаць, што далей валяцца ў пасцелі горш, як сорамна. Але Васілю не падабалася жончына руплівая ўвіхлівасць.

— Табе, я бачу, і сон нямілы—гэтак зарупеў калгас... Братава сястра...

Не азіраючыся, Волька адказала:

— Брыдка спаць, калі ўжо ўсё прачнулася. А калгас гэткі мой, як і твой... павінен быць...

Жончына рэпліка прышлася не да густу Лагоду; ён заерзаў па ложку, падняў голаў і перадражніў Вольку:

— Бяры сабе і маю палавіну... Можа, часам Павал падумае прысці табе на дапамогу...

Недарэчнасць сказанага, прасочанага атрутлівай злосцю, не смуціла Лагоды. Наадварот, Васіль быў пэўны, што дацяў жонцы як след. Волька занервавалася—не данясла скаварады ў печ, а бразнула ёю аб прыпек.

— Сталы чалавек, як табе не брыдка бязглуздзіцу малоць. Пры чым мой брат, калі ты ненавідзіш калгас? Не носяць цябе на руках, бедны! І галоўнае, даводзіцца рабіць! А ты думаў, што за цябе іншыя будуць рабіць.

Васіль рэзкімі гэстамі рук адмахваўся ад Вольчыных слоў, якія відаць, траплялі ў цэль; сыкаў, як вужака, пляваўся. Раптаў ён апынуўся доле. У аднэй бялізне порстка падышоў да вакна. Відаць было па рэзкай узрушанасці, што Лагоду апанавалі вострыя перажыванні ўчарашняга дня. Раскошны пейзаж, што рассцілаўся за вакном, выглянуў у Лагодавым ваччу шэраю аднастайнаю плямінаю, ад якое, аднак, яму не хацелася адрывацца. Ён стаяў хмуры і заспаны.

— Ты-б памыўся, ды снедалі-б; блінцы пастылі і на работу пара. Вво-а... чуеш?—лагодлівей падала Волька.

У хату ўляцеў праз вакно водгук сігнальнага звона ў калгасе. Волька засумяцілася, увіхаючыся каля печы. Хутка яна скончыла паліць засланіла і аднесла блінцы на стол.—Снедай, во, а я пабягу, каб не спазніцца.

Васіль угледзеў, як яна накіравала ў дзверы.

— Стой! Чаго цябе нясе нячыстая!—груба гукнуў і прысеў ля стала. Рукі вяла працягнуліся да блінцоў.

— Снедай сама,—калгас нідзе не дзенецца.

Ужо з-за парога Волька адказала:—Я дарогаю з'ем... пайду... Ты дагоніш мяне.

— Пойдзеш такі... Пойдзеш... Ну, то скажаш старшыні, гэтаму сукіну сс... што мяне сёння ў калгасе не будзе... Добра? Зазнаўся вельмі... Я не парабак які, каб... Лаючыся, ён жадна ўмінаў блінцы, быццам на іх спаганяў злосць на старшыню калгаса.

— Васілька, не рабі гэтага... У цябе і так многа прагулаў... і ўжо ходзяць усялякія гутаркі...

Лагода ўзгарэў, як кастрыца: мігам устаў, замахаў рукою, шпурнуўшы далёка на хату кавалак блінца:

— Увязала мяне нечыстая сіла ў калгас... Абабралі, як цурку; з гаспадара зрабілі машыну нейкую... Не пайду—можаш ісці...

Волька дагадвалася, што з ім штосці такое здарылася, але час не дазваляў ёй кідацца ў роспыты. Расхваляваная дарэшты, яна нервова патупала каля парога і, адарыўшы мужа выразным, пранізваючым узрокам, крута сарвалася з месца і выбегла з хаты. У дварэ павярнула на прыгумень, каб не паказвацца мужу на вочы.

Васіль кінуў есці, апусціў к сталу вочы і доўга сядзеў у цяжкай задуме. Калі злосць паціху ўлеглася і адлягло крыху ад сэрца, ён агледзеўся па хаце і ўбачыў, што астаўся адзін. Адчуў цішу, у якой гулі мухі, а на дварэ, у сонечных праменнях, мірна квакталі куры. Заварушылася нешта, накшталт, сумнення... Ён пачаў рэвізаваць сваю тактыку нявыхаду на работу і знашоў, што яе лепш замяніць іншаю. „Гэтым не выграеш... Яшчэ пару разоў не з'явішся і выкінуць з калгаса... Тады Волька, магчыма, права". Гэта ўздзейнічала. Ён паспешна сабраўся і накіраваўся ў калгас. Па дарозе нечакана для самога, вынікла жаданне сустрэцца з старшынёю калгаса. Ідучы ён пільна азіраўся па баках сцежкі, замаруджваючы крокі там, дзе бачыў аратага, ці касца. На адгоне ў кілометр ад калгаснага цэнтра, Лагода раптам астыў. А мо' ўжо яго чакае гатовае рашэнне выключыць з калгаса, і старшыня паднясе яму гэта ў выглядзе прыкрага падарунка? „Не, лепш, каб з ім не сустракацца". Ужо яго вочы не шукалі людзей абапал сцежкі і брала нервовая дрыготка ад рэзвага гоману касцоў ды грабцоў. Ён на момант спыніўся; набліжацца да касцоў ці не? Ураз выглядзеў шырэйшую разору між лыгі і аўса ды вышаў абходам да калгасніцкага двара. Новая перашкода! Па дварэ тупала пара мужчын, якіх здалёк было не пазнаць; а калі з іх адзін старшыня? Што яму сказаць, стрэўшыся чуць не ў палову працоўнага дня? Ды пасля неаднаразовых запэўненняў, што спазненняў ён, Лагода, не дапусціць. Бадай... ямчэй вышла-б, каб ён завярнуў на поплаў і там схлусіў, што прышоў пазней з-за іншае работы ў двары. Васіль памкнуўся ужо абмінаць вешніцы, як зусім нечакана старшыня агарошыў яго воклічам:

— Лагода?!

Сорам заліў ружовасцю Васілёў твар. А старшыня, як незнарок, калоў яго дакорлівым узрокам, чакаючы тлумачэння. Не дачакаўшыся, згіранізаваў:

— З поплава?

Лагода адчуў сябе ў сіллі. Старшынёў надыход замарозіў яго думкі". „Што яму адмовіць?" Насупроць жадання—прызнаўся:

— Не, таварыш старшыня, крыху прыпазніўся. Іду з дому—ой, галава развальваецца ад болю... Ледзве падняўся з пасцелі. Думаў зусім не ісці, але сумненне... Касавіца—як жа!

— Ты ўсё сваё спаганяеш, Лагода?—ціха, але з прыціскам праказаў старшыня:—а нашто было маніць, што больш не будзеш зводзіць час?.. Я бачу, што табе, Васіль, калгас мала чым абыходзіць, га-а?

Здатны на многае, Лагода не мог проста глядзець у вочы старшыні. Мармытнуў штосці невыразнае сабе пад нос, думаючы пусціцца на апраўданне, але не паспеў: ужо гучней і больш рашуча падаў старшыня:

— Што-ж, мілы чалавек, варочайся, адкуль прышоў. На сёння табе работы ў калгасе няма. А пытанне аб далейшым паставім на чарговае паседжанне.

Старшыня рушыў у вешніцы. Васіля ашаламаніла: некі момант ён не ведаў, дзе ён і што яму рабіць. Пахіснуўся грунт пад нагамі і млосная цяплыня распаўзлася па ўсёй істоце. Ужо з двара ён выгукнуў старшыні.

— Спыніцеся, таварыш старшыня, на адно слова!

І калі той нават не азірнуўся, Васіль стрымгалоў пераляцеў аддзяляючую іх адлегласць, забег старшыні наперад і разняў рукі.

— Залічы, прашу, сёнешні дзень за паўдня, але дай работу... І не стаў, калі ласка, пытання на абгавор... Больш не будзе спазненняў— запэўняю...

Старшыня даверыўся яго сірочаму тону. Крытычным поглядам абмерыў Васіля і падатліва сказаў:

— Яшчэ раз пакладуся на тваё запэўненне. Пагляджу... Ідзі ў кладоўку, вазьмі лапату, ды адпраўляйся капаць раўчук для адводу вады ад сілоснай траншэі. На паўдня работы хопіць... Толькі памятай!.. Не сарамаці больш Волькі!

## XX

Васіль хітра падміргнуў вокам у след старшыні ў знак перамогі і павярнуў у бок кладоўкі. Памяшканне па нядбайнасці кладаўшчыка было не толькі не замкнута, а нават аставалася з непрычыненымі дзвярамі. У гэткіх выпадках Лагода не саромяўся падкрэсліць свае гаспадарскія пачуцці.

— Гэта завецца дагляд!—сказаў ён з разлікам, каб хто пачуў. А сам задаволена ўвайшоў, агледзеў, дзе што паложана, і на выхадзе адчыніў дзверы на расхлёст... Потым доўга пералічаў у думках нагледжаныя ў кладоўцы рэчы і толькі пры траншэі кінуў шкадаваць, што не затрымаўся каля іх лішніх пяці хвілін.

З прыкрасці сярдзіта ўбіў лапату ў кучу нязвезенай глеістай зямлі, і кіўнуў галавою. Задумаўся. Чым можна вытлумачыць пасылку яго на гэткую работу? Ці ён не можа трымаць касы ў руках? Або горшы за іншых? Заключыў: „Ведаю, старшыня захацеў наздзеквацца“. Так-жа ён і наробіць старшыні! Няхай папомніць!

Лагода дэманстрацыйна прысеў, потым расцягнуўся на траве. Ляжаў так каля паўгадзіны. Нарэшце, як падпечаны, рэзка ўсхапіўся, даследваў наўкола траншэі і вырачыў вочы, як пры знаходцы. „Калі-ж так, то вада ў мяне пацячэ зусім не туды, куды старшыні хочацца. Пачакай!“ У гэты-ж міг ён пачаў зацята капаць раўчук. Цяжкая лапата вёртка хадзіла ў яго пруткіх руках. Вочы шукалі адпаведнай мясціны, кудэю-б спрытней было павесці ўлонне раўчука так, каб ненапрактыкаванаму чалавеку ўсё паказвалася нармальным. Пасля доўгіх меркаванняў вывеў звілінамі лінію ў нізкае месца, дзе пракапаў не больш, як на корг. „Сюды вадзе не пацячы, а туды...“ — ён кіўнуў галавою ў бок траншэі і ліхамысна засмяяўся. Задаволены адышоўся к месцу, дзе ляжаў, і зноў апусціўся на траву. Неяк на ўсё ён глядзеў цяпер скрозь пальцы, дзесьці ў глыбіні душы цешачы цмяную, але ўпартую надзею, што перажыванае мінецца, пройдзе. Калгас і бальшэвікі, трывога і неспакой. „Кудравы ясень“... Якое слаўнае жыта парасло для... калгаса. І гэтулькі жыта! Хутка пачнуць жаць ды не для яго, Лагоды... Волька, якая жыла дагэтуль самавітаю імасцю, важнаю гаспадыняю, цяпер штодня бегае на працу ў калгас. „І падабаецца?! Перагудаўскае котла!“

Агідлівая міна скрывіла Васілёў твар... „І там, дзе бывала не магла

ступіць чужая нага, рызыкоўна, гаспадаром расхаджвае Юстын Сніпіч. Найміт. Галяк... Што гэта чаўпецца ў свеце—не ўзяць у глузд!"

Заёрзаў па траве. „А хто самы старшыня" На варце?" Хі!" Зрабіў агідлівую грымасу: быццам яго, Лагода не ведае: Тураноў падзённік... Ды яшчэ ён, гэты... яму, Васілю Лагодзе, чытае маралы, дае ўшчункі... Хіба тут не боль?..

Горнасць здушыла горла, галава апусцілася да расстаўленых калень, рукі цапка звязаліся пальцамі на ссунутай на лоб шапцы. У нутры ўсё быццам заварушылася, паабрывалася, згрудзілася ў адну кучу. Здавалася, што ён урасце ў зямлю, так нізка асела яго постаць.

У гэтым душэўным разладзе Васіль не заўважыў, як зусім недалёка вырасла між жыта на сцежцы Яніна Крэмень. Яна, трэба было думаць, ішла ў канцылярыю калгаса. Вось ужо чуцён шорпат яе крокаў. Ён жвава ўсхапіўся на ногі, выпрастаўся. Рука працягнулася к дзяржанню лапаты, але не дацягнулася, асталася вісець у паветры.

„Напэўна старшыня даслаў праверыць маю работу?" Ен-жа цяпер будзе мяне правяраць...

У Васілёвым ваччу стаў дзядзька Адам у паставе, якая выклікала спагаду. Няўжо гэта дробная дзяўчына магла яго так напалохаць?

— Добры вечар!—мякка і лагодна сказала яна.

Яніна ўзяла ў рукі лапату, паставіла яе пад вострым кутом: перакладзінка на дзяржанні прышлася падпорай на паясніцы. Пра Васіля яна многае чула, хоць не стыкалася, як зараз. Глядзела спакойна, упярэджана.

— Раблю як бачыце,—павярнуўся паказаць выкапаны раўчук:—мо' і не тую работу, да якое прыгодны. Але воля старшыні... Бачыце, во, мая сёнешняя праца... Вада ўжо не пальецца ў траншэю, як здарылася летась...

— Мне здаецца, што вам, грамадзянін Лагода, зручней было-б на поплаве з касою. Нагрузка большая і праца цікавейшая. Дарма вас старшыня сюды перакінуў.

— Ці-ж я не аб тым?—згадзіўся Васіль.—

І следам:

„Чаму яе не цікавіць раўчук? Напэўна не заўважыла нічога! Добра, калі так. Значыць.."

Адчуў задавальненне:

— Старшыні лепш вядома...

— Ён у вас не благі таварыш.

— Як каму.

— Для ўсіх.

— Не, таварышка. Ен...

— Хіба старшыня вас крыўдзіць?

Невыразны ківок галавы, выразней сцвярджальнага адказу.

— Хіба ў выпадках, калі вы заслужыце... Лагода... А гэта напэўна, з вамі бывае? Прызнайцеся!

Васіль насцярогся:

Да чаго ў яе выбегла гэткая ўпічлівая ўхмылка? Нябось яна нешта ведае—відаць па выразу зманлівых чорных воч...

— Бачыце я быў хутаранец—пячатка—можа таму.

— За сумленную працу не павінен спаганяць... Шануйце калгас, як свой хутар бывала, лепш нават, тады ўсё будзе добра. Вас прынялі ў калгас, як і ўсіх, і прывілеяў не чакайце... Мінуліся...

Лагода не знаходзіў патрэбных слоў. Маўчаць-маўчаць, адвярнуцца

і не бачыць Крэмень, якая злеплена з аднаго з старшынёю матэрыялу. Толькі і паспеў прaказаць:

— Таварышка... таварышка...

Рэзкі, бразгучы звон к абеду, данёсшыся з калгаса, спыніў яго словы.

— Бывайце!—кінула Яніна і пабегла да калгаса.

## XXI

Гэтым часам у „Кудравы ясень“ наведаўся Адам Каніца. Ён ішоў з бярэмем думак, прапаноў і запытаў. Усе яны вярцеліся каля аднаго, асноўнага пытання,—яго, Каніцавага, сучаснага становішча. Мала пакладаючыся на практычнасць Лагоды, ён, аднак, адчуваў у Васілю нешта блізкае і роднае сабе. Гэта блізкасць заключалася ў аднакіх поглядах на рэчы, у падобных адносінах да бягучых падзей, у разуменні адным думак і перажыванняў другога. Да ўсяго гэтага Лагода падаў яму, Адаму, такую трапную параду з гумном! З самае раніцы, як добрая знаходка, цешыла Каніцу Лагодава прапазіцыя. Але больш за ўсё рупела абяцаная Васілём гутарка з Паўлам. Каніца адправіў з поля каня з Аксеняю, а сам, нібы для агляду жыта, накіраваўся да „Кудравага ясеня“.

Лагодаў не было дома. Двор заставаўся на запоры і каля ганку насцярожліва ляжаў стары верны, рабы Спевак. Сабака мігам узняўся на ногі, як толькі Каніца паказаўся з-за плота. Некалькі разоў адрывіста брахануў, але не кінуўся да вешніц. У Адамавай постаці Спевак нібы пазнаў знаёмага чалавека. Каніца паклаўся на сабачую карэктнасць і, гаспадарна, прайшоў у двор. Але Спевак у імгненне вока сарваўся з месца і з дзікім звягам скочыў насустрач Каніцы. Той з перапуду шчыльна прытуліўся да вугла, пасля крута матнуўся к зямлі, быццам-бы хочучы штосьці падняць. Спевак адскочыў да плота, не спускаў падазронага ўзрока з нахабнага, водлуг яго сабачай логікі, Каніцы. Каніца не паспеў сабрацца з думкамі, як сабака зноў усхапіўся на ногі, і памчаўся з двара. Хвілін праз пяць у вешніцах, с лапатаю на плячах, паказаўся Васіль Лагода. Спевак, віляючы хвастом, бег наперадзе. Адам рыўком падняўся з прызбы, здзівіўшы гаспадара нечаканаю стрэчаю.

— Добры вечар, дзядзька!.. Вон, каб ты здох!—змяшаў у адно, прывітанне і лаянку, Васіль.

Каніца гасцінна засмяяўся.

— Быў на грабарцы ці што?

І, азіраючыся няўпэўнена на Спевака, дадаў:

— Заядлы ваш сабака, маладзец.

— Грабараваў... дажыўся...

І наконт сабакі:

— Ды ўжо абароніць тую маемасць, што асталася... Мо' укусіў часам?..

— Эх, што і казаць... Не-э...

Яны абодва апусціліся на прызбу.

— А я, ведаеш, сыне, да таго надумаўся за дзень, што рашыў прысці да цябе пасядзець, адпачыць, хоць... Моташна на сэрцы... Гм...

— Можа хацелі што сказаць?. Ці, бок, мая жанчына не прыходзіла...

— Не бачыў... Ды сказаць заўсёды ёсць што...

— Мая, бачыце, стараецца ўсё для калгаса, некалі для дому не працавала так... Ці то каб перад братам выслужыцца, ці...

Намёк на Паўла насцярог Каніцу.

— Перад Паўлам, хочаш сказаць?..

А ўжо-ж... Але дарма... Вось скажы, Васілька, ці ты, бок, яшчэ яго не шчупаў часамі?

Лагода паціснуў плячыма і без жаднай зацікаўленасці адказаў:

— Не ўдалося, пакуль... Думаў прайсці да цесця, але... Да мяне-ж ён не прыдзе... Дзе вы бачылі—у хутар...

Следам ён паспяшыў выліць сваю скаргу на старшыню калгаса.

— У мяне сёння дзень, каб гэткіх больш не было. Начальства да таго папсавала настрой, што я дагэтуль не магу супакоіцца... Ці мне трэба хадзіць вось з гэтай прыладай? На ворагі казана. А сёння-ж вымусіў, зараза... Насядаюць, дзядзька... насядаюць...

Ён падышоў да дзвярэй і таўхануў рукою.

— Замкнёны.

Доўга не думаючы, прасадзіў руку ў вакенца, і хутка бразнуў засоўкаю.

— Пойдзем, дзядзька, у хату,—паклікаў ён Каніцу.

У сенцах той украдліва парадзіў Лагодзе.

— А ты што думаў—і аб тваіх справах трэба сказаць Паўлу. Чаму-ж, няхай ведае. Сястры датычыць...

На Васілёвым твары лягла недаўменная грымаса.

У хаце абодва падышлі да стала і селі адзін супроць другога. Каніца на лаве—Васіль на ўслоне.

— Не еў цэлы дзень,—апраўдаўся ён, дастаўшы з-пад абруса кавалак ранішняга блінца. Напхаў рот да адказу, ажно вылупіў вочы і пачаў жадна мяць.

— Вы кажаце: Павал... А мне зусім не верыцца, ведаеце...

— Ці ты маеш лад?!

Між тым сэрца востра кальнула ў самога.

— Хіба ты закідаў Паўлу, што?..

Каніцава барада апала на падстаўленыя далоні.

— А я ўсё не трачу надзеі.

— На другога спадзявайся ды сам не паддавайся,—кажа прыказка... Вось як, дзядзька...

І дадаў, каб не атрымалася ў Каніцы ўражання, што не хоча выканаць яго просьбы:

— Я, зразумела, памятаю нашу гутарку... Не з'есць, хоць-бы і Павал, калі запытаю. Аднак вы шукайце і іншых шляхоў...

Каніца збянтэжыўся, яму стала душна і млосна. Моўчкі адвярнуўся і адчыніў вакно, у палісаднік; штосьці неўцямнае прамармытаў. Потым заявіў:

— А ўсё-ткі я схіляюся верыць Паўлавай абяцанцы: ён дакляраваў не на вецер... Відаць, чалавек чакае зручнага моманту—адказная справа...

Раптам павярнуўся к сталу і ўпэўніў Васіля:

— А пашукаць іншых шляхоў, само сабою, сыне, не шкодзіць. Вось і цяпер: я прышоў да цябе, каб разам удвух напісаць у сельсовет абскарджанне. Як твая думка, Васіль?

— Давайце,—ахвотна згадзіўся Васіль.

Ён рад быў выслужыцца перад дзядзькам Адамам. Хутка на стале апынуўся абрывак зжаўцелай паперы і побач бляшаная асадка з заскарузлай бутэлькай чарніла.

— Можна пачынаць.

Каніца падняў вочы да столі, быццам там быў напісаны патрэбны змест заявы. Гэтым часам Лагода ўважліва вывеў адрас і зірнуў на Каніцу.

— Ды навошта, сыне, тут многа думаць! Чым прасцей, тым лепш. Або вельмі трэба з імі далікаціцца! Начальства вялікае, падумаеш. Пішы: „Надоечы я атрымаў з сельсовета і гэтак далей... Ты-ж павінен ведаць як гэтыя заявы складаюцца.

— Угу... добра...—прамармытаў Васіль і ўнік у паперу.

Заява паглынула іх увагу да таго, што яны не заўважылі ўваходу ў хату Волькі. Завагаўшыся як быць, Волька хутка прагнала ад сябе нерашучасць і спакойна захадзілася ў мыцельніку.

Мо‘-б так і скончылі яны пісанне, не зважаючы на Вольчыну прысутнасць, каб тая знячэўку не выпусціла з рук медзяную конаўку, аглушыўшую хату рэзкім бразгам. Мужчыны раптам схамянуліся, паўскакалі з месц. Васіль уюном павярнуўся да дзвярэй і, угледзеўшы жонку, гукнуў:

— Цябе чаго прыгнала? Не можаш пабавіцца лішнюю мінуту ў двары?.. Няхай-бы абівалася ў калгасе...

Яго твар збегся ў веер глыбокіх маршчын, з якіх каржаком тырчэў чуць не перпендыкулярна ўстаўлены нос, над вачмі навіслі капяжамі густыя бровы.

— Ідзі правер у хлявах! Васіль пасачыў, пакуль яна зачыніць дзверы і падняў напісанае.

— Перабіла, на яе немач.

Прачытаў цішком і дадаў у іншым тоне:

— Алей, бадай, хопіць... Сапраўды, навошта вельмі распісвацца— не вялікія паны.

— І я кажу,—падмацаваў Каніца.

Прыўстаўшы, зазірнуў у напісаны ліст.

— Прачытай, сыне, адно,—папрасіў і насцярогся. Васіль памахаў лістком у дзядзькі Адама перад носам, папераджальна азірнуўся на дзверы і прачытаў:

„*У Ружанскі сельсовет, яго старшыні ад Адама Каніцы гэта заява*:

> Моцна прашу сельсовет і яго таварыша старшыню ўважыць маю нізкую просьбу, каб зняць з мяне няправільна накладзенае, пэўна па намаўленню маіх многалікіх непрыяцеляў, цвёрдае заданне. Бо які ўжо я вельмі такі кулак, што тэк бязлітасна з мяне здзекуюцца,—няхай скажуць добрыя людзі! Крыўды я нікому ніякае не зрабіў. А аддаць трыста пудоў збажыны—значыць пакінуць мяне без кавалачка хлеба. Ці-ж я павінен уміраць з голаду? Калі не верыце мне, то вельмі прашу таварыша старшыню спытаць наконт мяне паважанага Паўла Перагуда, які надоечы прыехаў у госці і якому яго бацькі павінны ўсё расказаць аб маім сучасным становішчы. Таварыш Перагуд нават дакляраваў мне, што сам пахадайнічае за мяне перад сельсоветам. Яшчэ раз прашу зміласцівіцца і збавіць мне, наколькі мага, няправільную накладку. Прасіцель“...

Выпрастаўшыся, Каніца перазірнуўся з Лагодай. Іх твары роўна зіялі ў рахманай ухмылцы: і ад здаволення тым, што зрабіў дзядзьку канкрэтную паслугу. Ён падумаў сам пра сябе: яшчэ я гаджуся на сёе-тое.

— Вазьміце дзядзька,—працягнуў заяву да Каніцы.

Адам узяў тоўстымі бруднымі пальцамі паперку, паглядзеў для большай пэўнасці на яе і быў памкнуўся залажыць у кішэню, але ў рассеянасці не данёс рукі, паклаўшы яе на стале.

— Распісацца трэба,—прыпомніў Васіль Каніцу.

Адам замахаў галавою, апусціўся на лаву. З натугаю накрэмзаў некалькі кручкоў. Уздыхнуў. Пачырванеў. Працягнуў Васілю заяву.

— Добра будзе?—зусім забыўся пісаць

Каніца павольна падняўся і вышаў на хату.

У парозе, удзячліва, але тонам, які намякаў на ласку, праказаў:

— А я ўжо, Васіль, намеціў табе лунку поплаву; у Лазовым загіне; можаш касіць хоць заўтра.

Пераступіўшы ў сенцы, дадаў:

— Думаю пра гумно... Пакуль нічога дрэннага не чутно?

— Не-э!

— Не чуваць... А вам дзякую за сена.

Яны прайшлі сенцы, не адвярнуўшыся ўбок, дзе за адчыненымі дзвярыма Волька перасыпала вобмешкаю накрышанае свінні зелле. Яна гіранічна ўсміхнулася, калі цяжкая Каніцава нага зачапілася за парог, а ён з разгону хапіўся рукамі за вушакі. Каніца паглядзеў на парог і сплюнуў. Але тут жа заўважыў недалікатнасць сваіх паводзін і загаварыў іх:

— Усё-ж мне будзе прыемней, калі ты скосіш, а не гэта дзяўчо з сельсовета наложыць руку... Ха-ха-ха!—Рэзкі рогат Каніцы пакаціўся па двары, выбег за вешніцы, у поле.

Волька выглянула з за вушака сянец. Яны ўжо былі за агароднымі платамі. Тады Волька ўбегла ў хату, стала пры стале, зазіраючы ў адчыненае вакно. Да яе дайшоў якісьці сказ з упамінам Паўла.

— Што яму даўся ў знак Павал?—гняўліва падумала яна, і адвяла вочы на стол.

На стале ляжала забытая Каніцава заява. Волька спешна разгарнула паперку, прабегла вачмі па напісанаму. Уведзеная ў заяву прозвішча Перагудаў пасеяла ў яе нутры вострую падазронасць. Яна скеміла цяпер, чаму Васіль выправадзіў яе з хаты, пішучы заяву. У адну хвіліну напрасілася была думка ўзяць і парваць гэту паперку на дробныя шматкі, а потым яна адумалася: лепш будзе папярэдзіць Паўла. Пралезшы ў вакно, Волька гукнула:

— Васіль! Вы забылі напісанае!

Каніца, пачуўшы голас Волькі, пужліва зашарыў рукамі ў кішэнях, за пазухаю і, нічога не намацаўшы, разгублена праказаў да Васіля:

— Заяву пакінулі... Так...

Ён рвануўся ісці назад. Лагода пераняў яго знакам рукі: пачакайце. Але Каніца не мог спакойна стаяць на адным месцы: ён пабег услед за Васілём і якраз наскочыў, калі той сур'ёзна перасцерагаў жонку.

— Глядзі-ж маўчы... Бо калі толькі дачуюся...

Волька дэманстрацыйна адхілілася на хату; у абурэнні прастаяла хвілін з дзесяць, і калі ізноў кінула ўзрокам у вакно, то заўважыла, як Каніца прагна перахапіў з Васілёвых рук заяву і палажыў яе за пазуху.

## XXII

Павал Перагуд падахвоціўся прайсці з бацькам аглядзець сенажаць. Паабедаўшы, яны вышлі з дому і хутка апынуліся ў паплавах. Аднаасобніцкія сенажаці межавалі з калгаснымі лугамі. У калгасе касавіца

была ў поўным развоі. Значная частка паплавоў ужо рызыкавала перад аднаасобніцкімі лугамі гушчынёю настаўленых, уёмістых коп пахучага мурагу. Каля коп рухава ўвіхалася бойкая армія калгаснікаў. Узорнымі скрыжаваннямі мігалі ў паветры ўзнятыя граблі, перакідаючы тоўстыя біркі сена. Тарахцелі калёсамі вагромністыя кары, запражаныя парамі коней. Капа за капою здымаліся з мейсца, перакладаючыся ў вазы, якія на вачах выраслалі ў велічэзныя, падобныя на гумны, стагі. Гэтыя сянныя горы раптам зрываліся з мейсца і пасоўваліся да калгасных будынкаў... Далей ад жыта, на сярэдзіне паплавоў яшчэ ўвіхаліся каля разложаных роўнымі дарожкамі пракосаў. Дзесць убок, за густымі альховымі кустамі звінелі пад мянташкамі косы. Над поплавам, у сінім цёплым паветры, перагукваліся рэзвыя галасы калгаснікаў. Паўла захапляла агульная карціна калектыўнай працы: За тры гады, пакуль ён не быў у вёсцы, адбыліся вялікія зрухі ў справе ўмацавання калгаснага будаўніцтва. Ідэя калгасаў яскрава і паспяхова ажыццяўляецца, замацоўваючы на справе мудрую, пранікненную палітыку комуністычнай партыі і яе геніяльнага правадыра таварыша Сталіна. Як радасна адчуваць сябе барцом мільённае арміі будаўнікоў новае, соцыялістычнае грамады! Якое шчасце быць членам слаўнае партыі, паставіўшай сваёю мэтаю ператварыць вялікія ідэі перадавых людзей усіх вякоў у яскравую, цвяцістую сапраўднасць!

Ахутаўшыя Паўла ўздымныя, натхнёныя пачуцці прымусілі яго затрымацца на мейсцы, адстаць ад бацькі. Лявон толькі возіркамі аддаваў увагу рабоце калгаснікаў; стары пільна разглядаў наперадзе сябе, дзе ад лёгкай нізіны пачыналіся палоскі аднаасобніцкіх паплавоў. Іх шнурок ляжаў памежным з дарожкаю, што падзяляла калгасніцкія землі ад зямель аднаасобніцкіх. Частка шнурк›ў абразалася сценкаю і вострым клінам выходзіла ў калгасніцкія палеткі. Само сабою напрашвалася выраўненне граніцы. Лявон заўсёды прыкмячаў недарэчнасць цяперашняй размяжоўкі Ён нездаволена мармынуў сабе пад нос, калі яго вочы змерылі працяг сенажаці —захацелася тут-жа выказаць свае меркаванні сыну. Азірнуўся—Павал стаяў наводдаль, прагна ўглядаючыся ў бок увішлівых калгаснікаў. Тады мімаволі выпалі з думак нядаўнія намеры— паклікаў сына:

— Чаго-ж запыніўся, Павал.

Крутнуў галавою, скеміўшы, што сына захапляе супольная дружная праца калгаснікаў. Хітра і намекліва ўхмыльнуўся.

— Заўважалі, тата, як суладна ў іх ідзе работа.

— Няўрокам... Чаму-ж, сынок, або яны не ўмеюць касіць... Гаспадары тыя самыя... Пры тым калгас іх зусім не падвёў, як гэта думалася некаторым.

Стары зноў мерыў узрокам сваю палоску.

— Трэба, тата, падавацца ў калгас. Годзе ўжо марнець на вашых шнурках... Перадавыя людзі ўжо гэта зрабілі...

— Я думаю пра гэта, сыне—не адводзячы ад поплава ўзроку—адказаў Лявон—усё ж чакалі цябе, каб усім разам абмеркаваць, справа важная.

Яны параўняліся з кучкаю нізкарослага лазняка. Куст мо' на паўлокця быў абкошан з перагудаўскага боку. Зглядзеўшы гэта Лявон здрыгануўся ўсёй постаццю. У вачах загарэўся злы помсны агеньчык.

— Г-г-г, ліха яго матары... шкоднік гэты, ачамера, зноў нарабіў, Во-а... Нну-ж, прахвост, дачакаецца ён ад мяне. Я, бо, казаў Пятрусю, што трэба касіць, а то гэтыя зладзеі нічога не пакінуць...

Павал насцярожана памаўчаў. Бацькава ўзрушэнне адлюстроўвала

векавыя непаладкі цераспалоснага, аднаасобніцкага землекарыстання. Якім пакутнікам выглядаў у яго ваччу прыкованы да старога ладу векавымі традыцыямі кожны земляроб! Балюча рабілася, што ў гэтым ярме ўсё яшчэ знаходзіцца і яго бацька. Павал дакараў сябе: бач тут і яго, Паўлава, частка віны. Ен не здолеў знайсці лепшага падыходу да сваіх бацькоў. А, гэта, бадай можна было-б зрабіць. Напісаў-бы яшчэ некалькі пераканаўчых... настойлівых лістоў. Падабраў-бы больш важкія довады, ярчэйшыя прыклады... Бацькі ўсё-такі да яго прыслухоўваюцца, прызнаюць аўтарытэтам.

— Пара, тата, рашаць пра калгас...

Лявон ураўнаважыўся і выразна зірнуў Паўлу ў вочы. У нутру старога прабегла нешта трывожліва-руплівае, затрымаўшае на першы час адказ сыну. Прыцішаным голасам вымавіў:

— Вядома, сынок...

Гутарачы, Перагуды абышлі поплаў, потым накіравалі да жытніх палеткаў.

— Нядрэннае жыта, аднак!—задаволена пахваліўся Лявон.

— Але горшае за калгаснае...

— Трошкі можа і горшае,—не хацеў прызнацца стары:—Усё ж хлеба да вялікадня хопіць. Коп з дзесятак нажнем.

Усмешка выдала радасць старога. Павал суха стрэў бацькаву пахвальбу, даўшы сваім выразам зразумець яму, што ў гэтым залягае шмат фальшы і забабоннасці. Аднак, следам заключыў: гэта ўжо рэшткі старога, народжаныя і ўмацаваныя старым ладам устоі. Бацька здорава разварушыў іх у сваім нутры, раскалыхаў цвёрдасць веры і аддаў іх грунтоўнай крытыцы. І ў вачах старога, і ў тоне пахвальбы заўважаецца выразнае хістанне, а зацікаўленасць калгасам, чаго бацька не хавае пры сабе—сведчыць за наяўнасць крутога нераломy ў яго псіхіцы, у яго веры ды надзеях. Безумоўна, бацька хутчэй наблізіўся-б да калгаса, каб яму не ставіў дробных перашкод Пятрусь.

Адной з асноўных прычын тут з'яўляецца Пятрусёва зблiжэнне з Каніцай.

Каніца!

Павал не давёў думкі да канца: перад імі знаходзілася мейсца, адкуль ёмка было агледзець палеткі. Лявон першы спыніўся, памкнуўшыся штосьці сказаць сыну, але не натрапіў на патрэбнае слова і замаўчаў. Павал у гэты момант зорка ўглядзеўся ў недалёка прабягаўшы гасцінец, па якому ішла жаночая постаць. Ен пазнаў Яніну Крэмень. Яна, відаць, ішла ў калгасны цэнтр, уважліва, падоўгу разглядала абапал гасцінца. Яна таксама хутка прыкмеціла Паўла. У адзін момант ён забыўся пра кампанію з бацькам, сарваўся з мейсца:

— Тавар-рыш Крэ-эм-мень!—прагучэла ў ціхім паветры.

— То ты астанешся, сыну у? гукнуў Лявон. Але Павал не пачуў. Ён заўважыў бацькаву адсутнасць, калі той ужо заварочваў на гасцінец. Падышла Яніна.

— Уваходзіш у гаспадарчыя абавязкі?—жартавала яна.

Яніна расцвітала сонечнай усмешкай. Доўгія завітыя пасмы яечорных густых валасоў рэзка выдзялялі тонкі, прыемны твар. Буйныя смарагдавыя вочы ўпарта глядзелі ў Паўлаў натхнёнпы твар.

— Не быў-бы то гаспадарнік!

Здавалася Паўлу—Яніны словы напомнілі ласку сонечных праменняў.

— Аднак-жа нешта цябе пацягнула сюды.

— Вось гэта прыгожасць палёў, ці...

Павал прызнаўся:

— Усё разам...

Развёў рукамі. І тут-жа павярнуўся ў бок калгаснага лугу, дзе ішла касавіца.

— Паглядзі якая цудоўная карціна!.. Якая дзівосная гармонія працы!

— Залюбаваўся і чуць не прапусціў цябе.

Яніна какетліва кіўнула галавою; палажыла на яго руку сваю. З жаночаю дапытлівасцю праказала:

— Многа страціў-бы.

— Павал-жа шчыра.

— Безумоўна!

Ён парываўся ў шчырым прызнанні, але няведама чаму стрымліваўся і глянуў туды, дзе схаваўся за жытам яго бацька. Адвёў заўвагаю:

— Агітаваў старога запісацца ў калгас... Упартыя людзі гэтыя старыя...

Праз некалькі крокаў Яніна праказала:

— Я баюся, каб ты не перасямейнічаў у сваіх паводзінах...

Павал ураз-жа пачуў, што нагам цяжэй ступаць. Яго напружаны ўзрок настойліва лавіў незразумелы яму дзяўчынін настрой, падказаўшы ёй гэткі неасцярожлівы абвінавачвальны закід.

„Як гэта магло прыйсці Яніне ў голаў? Ды што яна разумее пад словам „перасямейнічаў“? Да чаго гэта заўвага?“ Заварушыўся ў памяці прыцямнеўшы эпізод з Каніцаю. „Няўжо яна намякае на той выпадак? Дзіўна“. Абвостранае падазрэнне блутала і пачуцці і ногі: не хацелася ні ісці, ні стаяць. Як-бы знарочыста Янініна маўчанне націскала на плечы і адымала ахвоту гаварыць. „Што-б гэта значыла? Адразу пасля гэткай ветлівай стрэчы“, губляўся Павал у дагадках.

Непрыкметна для сябе ён ужо на крок астаўся ззаду. Яніна ішла, адвярнуўшыся к жыту, памінутна згіналася. Павал не вытрымаў—спыніўся і не паспеў астаяцца, як рэзкім паваротам Яніна адскочыла ад жыта і схапіла яго за руку. Тузнула.

— Пашлі!

На гэтым мейсцы вузкая сцяжынка—строма ўрывалася ў жыта. Глыбокая разорка вільнула двума крутымі загібамі. Яніна, не выпускаючы Паўлавай рукі, павярнула пад простым кутом управа. Павал на завароце спыніўся.

— У чым справа? Не правядзеш мяне далей?

Ён моўчкі закрочыў следам за Янінай. Гасцінец хутка затуліўся густым жытам.

— Годзі ўжо Каніцам панаваць, сказаў Павал сам сабе, любуючыся жытам.

— А ты, бок, Павал, больш яго не наведваў?—з гарэзнай усмешкай запытала Яніна.

Гэта было празмерным. Павал умомант павярнуўся назад і суха праказаў:

— Табе, мабыць, не хочацца, каб я цябе праводзіў... Бывай!..

Не ўлічыўшы Паўлавага настрою, Яніна з мейсца заўважыла:

— Дапамінаць хоць малую памылку ніколі не шкодна.

Ужо з сажэннага адгону Павал дакорліва кінуў:

— Ах, ты ўсё яшчэ не кідаеш свайго тону... і ўподбег закрочыў ад Яніны.

Павал нават не пахіліў галавы ў яе бок.

Праз пару хвілін ён быў на пустым гасцінцы. Жоўты пясок паказаўся да таго брудным, што не хацелася ўніз глядзець і ён накіраваў да вёскі.

Прайшоўшы каля ганоў шпаркім крокам, ён раптам пачаў сцішаць хаду і потым спыніўся. Пацягнула азірнуцца назад, ці часамі, не ідзе па яго слядах Яніна.

З таго боку, дзе мусіла ісці Яніна да калгасу, даносіўся звон кос і рэзвыя галасы касцоў. Лепяткая жаночая гутарка вабіла Паўла да сябе. Магчыма, у ёй зліліся і мілыя ноты Янінінай нязлослівай размовы. Ці... яна, не верачы ў яго заўзятасць, стаіць на мейсцы расстання і рве ў жыце валошку? Няхай—ён ужо не ўвойдзе ў жыта, як-бы ні тлумачыла Яніна гэтай яго ўпартасці.

Ён крута ўзняў голаў, прыпадняўся на пальчыкі, каб прамерыць узрокам паверх жыта і ўзрушліва адвярнуўся. На адгоне некалькіх сажняў ішоў з раскрытаю грудзінаю Каніца. Знянацкасць яго з'яўлення збянтэжыла Паўла: ён зразу нібы разгубіўся, але ішоў далей. Каніца заходзіў бокам, каб пераняць Паўла спераду. Тым больш Паўлу рабілася непрыемна. Калі Каніца не зачэпіць, ён першым не маргне і вокам. Але Адам быў не з тых, каб не выкарыстаць гэткае зручнае спатканне з чалавекам, на якога ўся была яго надзея.

Нагнаўшы Паўла, Каніца шырока разняў рукі і, захлёбваючыся ад здаваленне, праказаў:

— На лаўца і звер бяжыць. А вот-жа як добра, што я цябе тут злавіў!

У Адамавым вачу плавала масла; цмяны агеньчык адмысловай хітрасці праглядаў з-пад апушчаных густых веек.

— Чаго, Павал Лявонавіч, трапіў сюды? Успамінаеш юнацкія гады? Нябось, цягне ў поле? Дзень добры, суседзе!.. Ну, як, па-твойму ураджай?..

Каніца павярнуў голаў да калгаснага жыта.

— Бачыш, суседзе, што нарабілася: усе палоскі пасточвалі ў адно і зараз, вось, будуць здымаць, каму трэба, каму не трэба, гэткае ўдалае жыта... А нашаму брату за якавую працу—дулю.

Сказаўшы гэта, Адам праверыў, якое ўражанне зробяць на Паўла гэтыя яго словы. Каніцава надмерная развязнасць глыбока скаланула Паўла, ён зачырванеўся ад злосці, сабраў твар у суровую міну і рэзка абсек:

— Вы, дзядзька Адам, самі не ведаеце, што гаворыце... Падобныя гутаркі ні да чаго добрага не давядуць... На іх можна толькі...

— Я ведаю, дзе і пры кім гавару...—панахабнічаў Каніца.

— Дарма, вы памыляецеся. І горка памыляецеся.

Павал раптам рушыў з мейсца:

— Лявонавіч, на хвілінку!.. Выбачай мяне я з гарачкі,—хапіўся Каніца, зразумеўшы, што праліčыўся і ў форме, і ў тоне гутаркі.

— Бог з імі і з іх справаю, вядома... Вось ты, Павалка, скажы мне, прашу цябе, ці часамі яшчэ не меў, выпадкам, гутаркі... наконт таго?.. Мяне страшэнна трывожыць гэта; я начамі не сплю—вось-вось, здэцца, стукнуць дзвярыма, войдуць у хату і..

Гаворачы, Каніца азіраўся на гасцінец і пасля кожнага слова ці двух рабіў кароткую паўзу, як-бы думаючы, што сказаць, каб ямчэй яно прынялося Паўлам.

— Пакуль нічога такога,—суха і нехаця адказаў Павал.

Бледнасць лягла на Каніцавым твары,—ён ажно хістануўся назад і па-

лахліва вырачыў вочы. Губы доўга варушыліся, пакуль выпусцілі неабдуманае:

— Не было як, ці...?

— Напэўна „яна“ не даецца гаварыць?.. Го, гэта такое ліхое стварэнне...

— Што-а?! Гэта-а што-а яшчэ-э?—не стрымаўся Павал, выдаючы свае абурэнне.

Каб загаварыць чарговую няёмкасць, Каніца ўпрошліва, скорамоўна праляпятаў:

— Я буду прасіць і спадзявацца, Павал Лявонавіч... Толькі на цябе адна мая надзея...

Ён прыніжана сагнуўся, я яго рукі працягнуліся да Паўлавых, але не паспелі ўхапіцца: Павал крута сарваўся з месца, пакінуўшы, як пабітага, Каніцу аднаго.

Адам ашаломлена, глыбока дыхаючы, стаяў на адным мейсцы.

Калі-ж апамятаўся і паглядзеў услед Паўлу, той быў ужо далёка

## XXIII

Павал лёгка пазбавіўся ад прыкрага адчування, нагнатага стрэчаю з Каніцам Адышоўшыся на паўгоняй, ён ужо думаў зусім аб іншым. Яго вочы глядзелі ў адну кропку наперадзе, дзе з густых цёмных куп кляніны відаць было белае скрыжаванне крокваў на новым будынку бацькаўскае хаты. Здавалася, што гэта з яго верхавіны выскаквалі глухаватыя звонкія ўдары сякер, несучыся яму насустрач. З тых-жа кудравых карон выліваўся і звонкі стукат малатка аб касу. Павал дагадваўся, што з касою заняты яго бацька, які надумаўся сёння-ж пачаць касьбу. Вобраз старога вырас перад ім, як светлая здань. Сын успомніў далёкія гады свайго юнацтва, калі бацька тануў у ліпкім клопаце аб іх. З тае пары многа працякло вады ў рэчцы Войне, многа прамчалася часу, а стары ўсё яшчэ не пакідае свае клапатлівасці. А, на добры лад, водлуг Паўлавай думкі, яму можна было-б і адпачыць крыху. Дык дзе-ж! Не ў старога натуры. „Ён народжаны для таго, каб да апошняе хвіліны не адрывацца ад працы“. Паўлу зрабілася шкада бацькі і адначасна ў яго нутры паўставала нейкая цёплая, мяккая ганарлівасць за яго. Сапраўды, яго стары—цікавы чалавек і добры бацька. Магчыма ён, Павал, часткова вінават перад ім, што не зусім шчыра і не даволі гасцінна ўспамінае пра сям'ю. Шэраг доўгіх гадоў яму не даводзілася бачыць старых і рэдкія пісьмы больш напамінаюць аб сухой фармальнасці, ніж аб інтымным сваяцкім пачуцці. Нейкая, як-бы, халаднаватая чужасць тоўстым пластом ляжала між ім і бацькамі. Трэба гэтыя адносіны асвяжыць, абагрэць... Бацькі!.. Ён не пачуў, як у вачах затуманіла вільгаць і душэўная асалода ўзнесла яго на недасяжную вышыню. І раптам, ні адсюль, ні адтуль, быццам хтосьці зламысна шапнуў на вуха: „засямейнічаў“. Павал адразу вярнуўся ў сапраўднасць, азірнуўся, каб пераканацца, што ён тут адзін. Воддаль, так што адлегласць сцірала дэталі, ён заўважыў людскую постаць. Чалавек, здавалася, стаяў на адным месцы, але Павал убачаў рэзкі ўзмах руки. Ён на момант спыніўся; колкая думка стукнула ў сэрца. Каніца! Ён уздрыгнуўся ўсёй постаццю—як не дарэчы было адварочвацца. Пайшоў.

— Павал Лявонавіч!

Вокліч перацяў думкі і павярнуў Паўла да платоў гароду, з-за якіх вышла абазваўшая яго братавая.

Люця была, напэўна, у добрым гуморы, бо саладжавая ўхмылка бегала па губах.

— Прагульваліся ў палетку?—какетліва падала яна.

— Аглядалі сенажаці з бацькам... Пара касіць...

— Стары ўжо рыхтуецца—чуеце...

Павал кіўнуў галавою:

— Ён у нас дбайны чалавек.

Люця нічога не адказала: яна на некалькі крокаў падблізілася да швагра і так пільна зазірнула яму ў вочы, што той мусіў скасіць свой позірк крыху ў бок.

— Мо' пойдзеце памагаць бацьку касіць? Яшчэ хоць крыху ды памятаеце?

— Магчыма, патраплю,—рассеянна праказаў Павал, акінуўшы братавую з ног да галавы.

— Вось майму бацьку, небараку, прыдзецца сёлета аднаму спраўляцца. Як ён управіцца, хто яго ведае.

Люця намёкліва ўздыхнула, а праз хвіліну хапіла Паўла пад руку і сарвала з месца. Павал падатліва рушыў побач з братавай, але не знаходзіў чым абарваць няёмкую маўчанку. Люця, тым часам, пазірала яму ў вочы, чакаючы пачуць хоць што-небудзь наконт бацькі. Нарэшце не сцярпела:

— Я вас заўтра паспрабую навучыць, як трымаць касу.

Раптоўны смех, струменем брызнуўшы з яе губ, заглушыў кляпанне касы і разліўся па сядзібнай тэрыторыі.

— Вой, жыва не буду-у... х-ха-ах-а!—вымавіла яна рагочучы і строга паглядзела ў бок двара, да вешніц. Паглядзела і ўміг выраўнялася ў струнку, адразу прымоўкла. Павал адчуў на сваёй руцэ, як яе рука адразу падзеравянела і шчыльней прылягла да яго бока. Павярнуўшыся ўправа, ён угледзеў каля шула брата. Пятрусь стаяў з апушчанымі к долу рукамі, у адной з якіх быў кляпальны малаток. На галаве, здавалася, ходырам хадзілі ўзлахмачаныя валасы, пасмы якіх спускаліся на лоб, як у гайдамакаў; бровы навісалі над пыхаўшымі ліхімі агеньчыкамі вачамі. Пятрусь цалкам быў ахоплены руйнуючай зайздрасцю, якая кожны момант гатова была штырхнуць яго на неперадбачны крок. Адчуваючы нядобрае, Павал зрабіў спробу разрэдзіць згушчаную атмасферу, і на адгоне некалькіх крокаў падкрэслена мякка праказаў:

— Ну, як каса, браток?

Пятрусь не змяніў ні паставы, ні выразу ў твары: яго колкія ўзрокі быццам прыраслі да збянтэжанай Люці.

Праз доўгую хвіліну вырвалася з яго вуснаў сухое:

— Якая будзе!

Люця ўважліва паглядзела на Паўла.

— Вы дзе блыталіся ўдваіх?—падаўшыся ўсім тулавам да іх, сварліва мармытнуў Пятрусь.

Люця на крок адступіла назад і, стаўшы так, што Паўлава плячо затуляла яе грудзі, дзёрзка і крыўдліва адказала:

— На спацыр хадзілі, вось і ўсё...

На яе твары выступіла дражлівая міна.

Павал прабаваў усмешкаю змякчыць братава сэрца. Але дарэмна.

З-за вешніц на прыгумень вышаў стары Лявон і здзіўлена паглядзеў на абодвых сыноў.

Памаўчаўшы, пакруціў галавою і запытаў:

— Што ў вас там начаўплося? Ужо нешта ёсць!

Не атрымаўшы адказу, перапытаў:

— Павал? Пятрусь?...

Над паложанай на бабку касою апусцілася Петрусёва рука; раздаўся гучны, прарэзлівы бразг, у якім адметна вызначылася ўсё яго абурэнне.

Лявон крутнуў галавою, махнуў рукою і адвярнуўся да прыгумення.

Падняўшы голаў на рэзкі стук Петрусёвага малатка, стаяла, сагнуўшыся над трэскамі, старая Перагудзіха.

— Кідай там сваю работу ды ідзі давай палуднаваць,—сказаў ёй Лявон.

І павольна, услед за Паўлам, пашоў у хату.

Пятрусь частымі ўдарамі прастукаў датуль, пакуль да дзвярэй з бярэмем трэсак падышла маці.

## XXIV

Люця пакінула свякроў на гародзе, дзе абедзве яны абрывалі бушныя лісці бацвіння, і пабегла праведаць, ці не прачнуўся Павал. Была дзевятая гадзіна—бацька з Петрусём даўно ўжо накасіліся. Маці паспела выпаліць у печы ды вось другі прыпол назрывала бурачніку. Пара, здавалася, было прачнуцца і Паўлу. Люця цішком падышла да мыцельнікавага вакна і з-за сцяны зазірнула ў хату. Зазірнула і мігам адшатнулася: ёсць! Павал расхаджваў па хаце, яшчэ не паспеўшы адзецца, з расхлістаным каўняром у сарочцы, з закасанымі рукамі, але ўжо ў ботах. На плячы ў яго вісеў рушнік. Ен, відаць, не прыкмеціў Люці, бо яна смялей зверылася, ці не ідзе з гароду свякроў. Прыгумень быў пусты. Цесляры стукалі па кроквах, заганяючы ў прарэзы ўстоеў клінкі. Скрозь стук сякер чуваць было іх рэдкую дзелавую гутарку.

Пару хвілін пастаяўшы ў нерашучасці, Люця раптам хапілася за прамігнуўшую ў яе галаве думку: „А мо' Паўлу няма чым памыцца?“ І павярнула ў дзверы. Следам, нечакана для Паўла, апынулася перад хатнім парогам:

— Ах, вы яшчэ не гатовы якраз! Выбачце! У вас хоць было чым памыцца?

Павал адзяваў рубашку і, прасоўваючы голаў, сумятліва праказаў:

— Уваходзьце, нічога!

Яго рукі не траплялі гузікамі ў дзіркі.

— Ха-ха! Я вам памагу—рэзва запрапанавала Люця і працягнула к Паўлавым грудзям рукі.

— Ужо, дзякуй,—пераняў ён, не чакаючы ад братавай надмернай услужлівасці.

— А я перш думала, што Павал пайшоў памагаць касіць,—іранічна кінула яна, калі Павал адмерыў пару крокаў па хаце.

— Заспаў... Ну, а вы?

Люця на першы момант ні то не знайшлася што адказаць, ні то не захацела працягваць гутарку на гэту тэму.

— А дзе старая?—чакаючы ад братавай нечага незвычайнага, фармальна кінуў ёй запытанне Павал.

— На гародзе, збірае зелле,—неахвотна адказала Люця і нервова затупала каля прыпячка, у мыцельніку, застукала кухонным начыннем, пасля нечакана для Паўла, паставіла яму на стол снеданне.

— Пара снедаць!—пераняла яна падзяку, якое Павал не паспеў падаць і толькі далікатна кіўнуў галавою.

— Можа падзеліце бяседу?—запытаў праз хвіліну, залазячы за стол.

Люця падатліва прысела, але есці не намервалася.

Крыху памаўчаўшы, як-бы даючы Паўлу спакойна пачаць снеданне, яна хутка, з ліслівай інтанацыяй, прамовіла:

— А мой бацька сёння ранкам хацеў угледзецца... Прыходзіў пад хату, але вы спалі.

Павал уважліва паглядзеў на Люцю, якая, не змігнуўшы, калола яго сваім узрокам.

— Меў якую справу? Калі экстраная, чаму-б не разбудзіць.

— Тая самая, што вам вядома.

У Паўла на лбе сабраліся маршчыны.

— А што?

Люця ўстала з месца і рыўком апынулася ў вакне.

— Хто колечы ёсць у двары?—падаў Павал.

— Мне здалося... Нічога...

І, стаўшы пры вакне, яна ўпрошлівым голасам праказала к Паўлу.

— Бацька чакае абяцанай дапамогі... Сельсовет непакоіць небараку... Павал Лявонавіч, вы павінны гэта зрабіць... Ці нельга было-б гэту справу падагнаць, га-а?.. Ад вас цалкам залежыць...

Павал моўчкі скончыў са снеданнем, якое на сёння яму далося не ў смак: Люціна гутарка атруціла настрой і ежу. Пасля павольна падняўся з-за стала, намерыўшыся прыняць апарожненую пасуду.

— Павал Лявонавіч! Гэта не ваша справа!—гукнула з лёгкім раздражненнем, сачыўшая ўвесь час за ім, Люця. І не замоўк яе голас, як Павал адчуў лёгшую на плячы Люціну руку. У наступны момант яна вісела ў яго на шыі, прагна працягваючы голаў да яго вуснаў. Цёплы дых, перамешаны з выпарэннем цела і рэзкім пахам гліцэрынавага мыла ўрываўся ў яго ноздры.

— Бацька аддзякуе, Павал Лявонавіч!—млява вырывалася з яе расчырвоненых вуснаў:—Абяцаеш?.. Я таксама... Бяры ад мяне, што-а хочаш... толькі зрабі бацьку ласку...

Дых спіраў горла.

Павал адчуваў націск Люціных грудзей, прыкмячаў знарочысты націск у бок прыбранага полу. Ён дагадваўся аб скрытных, хітра-падведзеных манеўрах братавай. „Нне-э, галубка, не на таго напала... Не ўдасца“ у думках праказаў ён сабе і ўздрыгануўся, калі ўспомніў учарашнюю стрэчу з Каніцай у полі. Тут-жа, перад ім, у Люцінай асобе выраслі яркія, адваротныя рысы яе бацькі Павал адразу адагнаў мімавольную расслабленасць, схамянуўся і рэзка адняў ад сябе Люціны рукі.

— Будзе-э, Люця Адамаўна, годзе...

Яна не дала яму дасказаць: крута адхілілася назад. Едка, з прыціскам, так што голас апусціўся да звычнага сыкання, разанула Паўлу ў вочы:

— Ння-а-чэсны-і ты-і, Павал... Вось што-а...

Дэманстрацыйна, з задзёрам, вярнулася і ў падбежкі кінулася к дзвярам. З разгону стукнула абедзвюма рукамі, але не адчыніла. Адвярнулася: Павал упарта стаяў на месцы ды выразліва, з адценнем агідлівасці глядзеў на ўтрапёную братавую.

— Нехарошы-і ты, Павал...—разгублена-вінавальна праказала яна ціхім, надарваным голасам.

Павал усміхнуўся.

— Нічога... палепшаю з часам...—сказаў ён і ступіў да стала.

На двары хтосьці мігнуў між вокан. Люця адчула шорпат нейчых крокаў і адхілілася ад дзвярэй. У гэты момант пачуўся бразг клямкі

ў сянечных дзвярах. Люця шмыгнула к вакну і адчыніла правую фортку. Пятрусь перастулаў сянечны парог. Яна не паспела зачыніць вакно, як ён ужо выткнуў голаў у хату і цяжкім злавесным поглядам пранізваў збянтэжаную жонку. Знаёмы ўжо ёй выраз ляжаў на Петрусёвым твары, зводзячы ў адну чорную кропку і ўзрокі і думкі.

Павал не падаваў выгляду, што прыкмячае выбух братавай злосці: ён вольна стаяў пры стале, перакідаючы погляды то ў вакно, то да дзвярэй. Пятрусь стараўся яго не заўважаць, накіроўваючы ўсю эваю падазроную ўвагу на Люцю. Яна трымалася спакойна, памятаючы, што не адны з ім у хаце: азіралася на Паўла. Пятрусь, відаць, таксама памятаў яшчэ ўчарашнюю стычку з жонкаю, за якую атрымаў ад брата натацыю, і не асмельваўся перад Паўлам паўтарыць гісторыю.

Ён цішком зрушыў з месца, адступіўшыся на некалькі крокаў ад парога.

— Чаму-ж ніводнае з вас не наведалі поплаў?—нечакана абярнуўся па адрасу жонкі і брата.

Мяккі тон запыту канчаткова разрэдзіў атмасферу, і Павал знайшоў магчымасць адвярнуцца да брата. Люця дазволіла сабе прысесці, але не адмовілася ад рэзкага тону:

— Мы з табой не ўмаўляліся, здаецца... ці праўда?..

Пятрусь быў закранут сухавата дзёрзкім жончыным сказам—узгарэў, як кастрыца: знаёмы бляск у ваччу мігнуў па хаце, а галава крута ўзнялася ўгору.

— А самой не прышло ў голаў... Бяспамятная!

Люця заёрзала, нервова павяла плячыма і толькі разняла вусны, каб адплаціць мужу новай рэзкасцю, як яе пераняў чыйсьці трывожны выкрык, данёсшыйся ад прыгумення. Усе тр е кінуліся ў вокны.

— Напэўна штосьці здарылася на будоўлі!—дагадліва кінуў Пятрусь і выляцеў у дзверы.

Хутка ён вярнуўся назад і паведаміў:

— Цесляры ўсцягвалі кроквы і неяк выпусцілі з рук... Рыжаму стукнула па калене... Давай, Павал, пойдам памажам падняць...

Яны ўсе ўтраіх пашлі к прыгуменню, дзе каля стогнучага цесляра пры зрубе стаялі абое старых Перагудаў. Лявон выбачальна, перапрошліва гаварыў:

— І трэба-ж было мне не памагчы! Вось калі! Якое няшчасце. Можна была-б разам паўздымаць усе кроквы. Вось калі... Тфу, ты, прымха нейкая.

Перагудзіха давала сыкаючаму ад болі цесляру шырокі лісток бурачніку. Прыгаварвала:

— Прылажы на, Самусь, цявінку... На скорую руку... Закасай калошу, чаго там... Вот калі, няхай бог крые... А, а!

Рыжы быў крануты ўвагаю Перагудаў, і паспяшыў суцешыць:

— Нічога, дзядзечка... нічога... Пройдзе... вось я цявінаю, сапраўды... Дзякуй, цётачка. Ну, угадай ты.. здаецца і моцна трымаў, а вот-жа выкаўзнула... Рука неяк самлела раптоўна... Але нічога... О-о-о... Здорава, аднак...

Цесляр натужыўся і падняўся на ногі.

Відаць было, што яму балюча.

Тым не менш, калі яго таварыш падаў ініцыятыву узяць крокву, ён нават не дазволіў гэтага зрабіць старому Лявону, праказаўшы:

— Нічога, дзядзечка, не турбуйцеся, паднімем без вас.

Прасмаленая і цяжкая, як жалеза, кроква чынна ўспаўзла на прызначанае ёй месца, і ўсе з палёгкаю ўздыхнулі.

Пагладзіўшы бараду, Лявон праказаў:

— Вось трэба было адразу так, то абышлося-бы без усякага здарэння.

Пятрусь пазваў брата ўзлезці на рыштаванне, паглядзець, як завершаны зруб і ці добра замыкаюцца кроквы. Яны ўдвух некалькі разоў абышлі наўкола, прамацалі кожную мясцінку, вымерылі на вока роўнасць верхніх вянкоў і ўстаноўку крокваў. І ў момант, калі намерыліся зла-зіць, прыкмецілі, як узбегла на прыгумень Волька. Яна нервовымі махамі рукі падазвала старога Лявона і спужана паведаміла:

— Калгас вымярае граніцу. Прайдзіце, каб не вышла непаразуменне...

Спалоханы Лявон падазваў сыноў і жонку.

— Калгас абразае поплаў! —Трэба бегчы, Пятрусь.

Утраіх Лявон, Пятрусь і Домна мігам сарваліся з месца і кінуліся бегчы. Волька павярнула на загуменне. Павал не паспеў праказаць супакойваючага слова, як пачуў з-пад вешніц напоўгістэрычнае:

— Дзеткі! Пава-лка-а, што-ж гэта-а будзе-э?—выпала з вуснаў узрушанага Лявона.

Пятрусь таксама падаў якуюсць невыразную рэпліку.

Хутка ён першым сцігаў па гасцінцы, а за ім на адгоне трухалі старыя.

Абапёршыся плячамі на агарожу, спакойна стаяла Люця. Правёўшы гарэзлівым узрокам нашароханых Волькаю бацькоў, яна сачыла за Паўлам. Пасля таго, як ён здаволіў спакойным адказам зацікаўленых здарэннем цесляроў, яна падышла да яго і запрапанавала:

— Трэба прайсці і вам! Давайце разам... А то, чаго добрага...—яна адзела на твар сур'ёзную заклапочаную міну.

Павал падазрона паглядзеў на братавую і моўчкі пусціўся ісці. Люця перш пайшла за ім, пасля перад самымі вешніцамі раптам спынілася і ўжо калі ён вышаў у двор, стала наганяць. Па вуліцы нагнала, параўнялася. Павал не прымеціў, насцярожліва ловячы аддаленую гутарку.

— Гэта ўжо, напэўна, Пятрусь лямантуе?—праказала Люця, знянацкі абарваўшы Паўлаву ўвагу.

— Ах, ён заўсёды ўскіпае, як вар,—адказаў Паўла:—Трэба спяшацца, а то чаго добрага, заварыць кашу...

Яны ўзмоцнілі хаду і хутка былі на месцы. Пятрусь, тупаў вакол старшыні калгаса, махаючы перад носам абедзвюма рукамі; прарэзліва як шротам, сыпаў адборнаю лаянкай.

— Мала вам тае зямлі, што дагэтуль нахапалі... Як вам не сорам... Карыстаецеся сілаю... уладаю...

Тут-жа недалёка каморнік абціраў анучаю паднятую з зямлі і ўкачаную ў пясок астралябію. Ён сярдзіта азіраўся на спакойнага старшыню калгаса, які ўсё чакаў, пакуль Пятрусь выкрычыцца.

Па вузкай сцежцы разгнявана тупаў Лявон. Стары таксама адпускаў рэзкія лаянкі па адрасу калгаса, але яго словы заглушаў Пятрусёў лямант.

Заўважыўшы падышоўшага Паўла, Лявон крута павярнуў у бок тырчэўшай тычкі, падбег і, сярдзіта вырваўшы яе з зямлі, на ўсю сілу запусціў у густы лубін. Перагудзіха ўвесь час, клянучы агульнага „непрыяцеля“, бегала паўз сцэнку, збірала каменні і перакідала іх у глыб калгаснага поля. Яна не заўважыла падаспеўшых Паўла з Люцяю.

Ад усяго гэтага павявала нечым дзікім і адваротным для Паўла. Ён не мог сабе ўявіць, каб яго бацькі былі здатны так лёгка паддацца на падобныя рэчы. Адчуўшы едкую прыкрасць, сціснуўшы яго нутро і скалануўшую ўсёй постаццю, Павал порстка падбег да брата, стаў між ім і старшынёю калгаса і сярдзіта асадзіў Пятруся:

— Кінь, Пятрусь! Скажы толкам чалавеку, што хочаш сказаць...

Пятрусь адразу знізіў голас, апусціў рукі і затрымаўся на месцы. Да іх павольна сышліся ўсе прысутныя.

На момант, даючы ўлегчыся Паўлаваму воклічу, апала лёгкая мінутная маўчанка. У ёй выразна скрыжавалася некалькі пар напружаных ад злосці і раздражэння ўзрокаў.

— У чым справа?—запытаў Павал, стоячы та́к, каб добра было глядзець і на сваіх і на старшыню з каморнікам.

Не трацячы спакою і душэўнай роўнавагі, старшыня пацікнуў плячыма.

— Дальбо, не вазьму сабе ў тлум...

Пятрусь зычна крыкнуў да старшыні:

— Так, ён не возьме сабе ў тлум... Прытвараешся, браце...

Старшыня тым-жа тонам, што і раней гаварыў Паўлу:

— Як наскочылі, ну-думаю—пачнецца. Брат з налёту збіў астралябію, ажно тая чуць не разляцелася на часткі... Можа што і зломана?—пытальна зірнуў ён на каморніка.

Той абвёў вачыма струмант са слядамі зямлі на ножках, супакойваючы кіўнуў галавою.

— Бацька ад сябе крычыць, маці... а чаго, спытацца? Я кажу абодвым: чакайце, разбярэцеся ў чым справа—куды! Слухаць не хочуць... А, бач, я ім казаў, і цяпер паўтараю, за гэты, вось, нікчэмны клінок, што пайшоў туды, вунь, да поплава,—старшыня ткнуў пальцам усцяж сценкі,— калгас у любым месцы прымерае больш. Хоць сядзібнай зямлі, калі ўжо дзядзька Лявон так высока цэніць свой абмежак... Але да чаго-ж паднімаць вэрхал... Мы не гонімся на ваша, нам трэба ўраўняць граніцу...

Кажучы гэта старшыня больш звяртаўся да старога Перагуда, ад якога зрэдку вочы пераводзіў на Паўла і рабіў выгляд, што, бадай, не прыкмячае Пятруся, якога, аднак, старшынёвы словы не ўтаймоўвалі. Лявон з свайго боку, недаверліва ўскідаў узрокі на старшыню, памыкаючыся перабіць яго на кожным слове; але не сустракаючы ад Паўла спрыяльнага знаку, толькі нервова ўскідаў угору бараду ды час ад часу мераўся схапіць старшыню за крысо. Калі-ж старшыня сціх, стары Перагуд павярнуўся ў бок, куды паказваў старшыня, і нязгодліва прамовіў:

— Вунь які кусок, мо' на поўгона ад поплава, і такая тлустая глеба! Дзе калгас знойдзе такое, каб мне замяніць... Ды навошта тая менка прышлася... Я хачу пры свойцы застацца.

Задыхаўшыся, Лявон на ноту знізіў голас і страсянуў барадою перад самым носам старшыні.

— Або ты мне ручаеш, што дасі другую?

Старшыня не ўцярпеў і зарагатаў. Яму заўторыў каморнік, увесь час маўчаўшы. З'явілася лёгкая ўсмешка і на Паўлавым твары. Люця крывілася ад няёмкасці ці то за Лявона, ці за словы старшыні.

— Чаму-ж у вас, дзядзька Лявон, гэткае недавер'е да калгаса? Хіба вы маеце справу з Тураном, ці, наогул, з якім ворагам працоўных сялян? Кіньце... Нам вашага акрайка зямлі не патрэбна—нам неабходна граніцу вывесці...—пацвердзіў старшыня...

Лявон адчуў некаторую няёмкасць, адступіў. Следам павярнуўся да Петруся. Той цвёрда адрэзаў рукою адмоўны жэст—насцярогшы абодвух старых.

— Ну, чаго-ж вы, бацька... Пятрусь... Вас не задавальняе хіба старшынёва прапазіцыя?.. Па-мойму,—нечага было кашу заварваць... Трэба згадзіцца... Сорамна на скандал ісці... сорамна.

Лявон перш замяўся, не верачы пачутаму, а далей з рэзкім дакорам вымавіў:

— Та-ак... Калі і ты, сыне з імі... Не чакаў—прызнаюся... Не чакаў.

Ён моцна пахмурнеў і тузануў Петруся за руку, а старой маргнуў вачыма: усе трое крута рушылі ісці.

## XXV

Ну, бачыў, што тут робіцца, га-а? Дзіўлюся. Пачакай, таварыш Нізок!—перапыніў старшыня калгаса каморніка, які пачаў выроўніваць шнур...

Сам азіраўся на Паўла.

Павал задуменна глядзеў услед нездаволеных і пакрыўджаных бацькоў. Яму зрабілася прыкра на душы, што да іх не дайшлі ні лагодлівыя, памяркоўныя прапазіцыі старшыні калгаса, ні яго шчырая развага. Векавы інстынкт уласнасці, атрутаю ўсмоктаны ўсёй іхняю істотаю, даваў аб сабе ведаць, упарта супярэчачы разумным думкам і новым павеям. Ён на момант усумніўся ў тым, аб чым намякалі яму частыя разумныя ды цвярозыя размовы старога аб калгасным будаўніцтве ў вёсцы. Няўжо стары хоча толькі адгаварвацца голымі словамі ад наспеўшых пытанняў часу, а ў пачуццях ён астаецца пры ўсім старым, зацвілым светапоглядзе? Загадкава і крыўдна, калі сёнешні выпадак характарызуе душэўны стан бацькі. Тады наперадзе яшчэ цяжкая работа для перакоўкі бацькавых поглядаў.

Аб Петрусю і гаварыць нечага...

Але ён рэзка абарваў гэтыя роздумы, разуважаючы старшыню калгаса і сябе разам з ім.

— Мне думаецца, што тут адыграла ролю не свядомае пачуццё, а настрой данае хвіліны. І стары, і Пятрусь перааццэняць свае паводзіны,—Павал спакойна і ўпэўнена паглядзеў старшыні ў твар.—Прыдзецца ў дамашніх абставінах вытлумачыць іх неправату.

І даведаўся:

— А, сапраўды, хаця-б не папсавалі астралябію?

— Упала на мяккую зямлю, будзе цэла...

Каморнік разняў ножкі інструмента і пачаў наводзіць яго ўсцяж сценкі, у бок паплавоў.

Павал развітаўся і пакінуў старшыню з каморнікам. Ён спярша памкнуўся да гасцінца, потым крута заламаў на сцежку, па якой можна было зайсці ў вёску Ружаны з канца яравых палеткаў. Гэты шлях займаў некалькі больш часу, ніж хада гасцінцам, і Павал спыніўся на ім з некаторым разлікам: няхай бацькі з братам, зайшоўшы дахаты, знойдуць больш часу падумаць над тым, што здарылася, халодней да яго аднесціся і тады магчыма будзе Паўлу спакайней выказаць сваю думку.

Калгаснае жыта пачыналася ад гасцінца і адыходзіла касяком у бок да калгаснага цэнтра, пакідаючы размежную прагаліну ярыны. На жоўтым жыце выразна выдзялялася раскінутая пад невысокім прыгоркам

правага берага рэчкі Войны вёска Ружаны. Напэўна самы ўзгорак перашкодзіў ёй пры сваім пашырэнні выводзіць будынкі ў адну лінію і вёска мусіла будавацца загінамі. З паўднёвага канца яна пачыналася Перагудаўскаю сядзібаю, процілежны—крайняю хатаю рэзка выдаваўся ў поле.

І ў распалажэнні вёскі, і ў яе знадворным выглядзе, здавалася, мала было новага ў параўнанні з тым часам, калі Павал яшчэ з'яўляўся яе жыхаром. Між тым гэта вялікае, неасяжнае новае, Павал адчуваў на кожным кроку, углядаў на кожным месцы, куды толькі не падалі яго зоркія погляды.

Гэта новае ўрывалася ў кожную хату, дзе, у адной рашуча ламала зломысную, упартую сабе перашкоду, у другой сустракала спробы непадданыя, у трэцяй, чацвёртай, пятай—гасцінна, свацця ўмяшчалася на покуці. Дзіўна і радасна? Здавалася так нядаўна вунь там—за гайком, у белым будынку, панаваў буйны фальбарковец Туран... Аднойчы, ад'язджаючы ў горад, Павал з бацькам стрэлі яго на гэтым самым гасцінцы. І жыва стаіць у Паўлавым уяўленні прыкры малюнак, калі на крык фурмана бацька палахліва звярнуў каня ў бок і воз накрыў іх палукашкам. А Туран задаволена разліўся ў рогаце. Колькі жорсткай нахабнасці ляжала на яго агідным прышчаватым твары і колькі пыхлівай ўпэўненасці ў сваёй моцы і непадатнасці! А цяпер будынкі шырока адчынілі дзверы новым гаспадарам. Гэтыя гаспадары прышлі з трактарамі і з маладою, ваяўнічаю энергіяй. І зямля, вякамі знаўшая іх рукі, іх працу—гасцінна адкрыла ім свае багатыя скарбы...

Глыбокі працэс ператварэння старога жыцця на новае магутнай паводкаю разліваюцца па вясковых прасторах. Павал не стрымаўся, каб яшчэ раз не сазнацца перад сабою, што ён глыбока ўдзячан таму моманту, у які паспела ў ім рашэнне наведаць вёску. Так выразліва і красамоўна на жывых фактах расказала яна яму столькі прыгожых навін! Так ярка засведчыла шпаркае развіццё па шляху свайго далучэння да новых пачаткаў жыцця. Ці так даўно была яго апошняя паездка на калектывізацыю, а колькі з таго часу вёска пасунулася наперад!

Павал успомніў пра Яніну. Было-б так прыемна ў гэту хвіліну падзяліцца сваімі адчуваннямі, сваімі перажываннямі з ёю; няхай-бы пераканалася, чым сапраўды ён дыша.

Умомант сфармавалася цвёрдае рашэнне абыйсці вёску з заходняга канца, з-пад сельсовета і па дарозе наведаць Яніну. Магчыма, яна дома!

Павал паскорыў хаду і абмінуў разгаліненне сценак, дзе трэба было заварочваць управа, каб ісці да бацькаўскай сядзібы. Прайшоўшы з поўганей, ён пачуў знянацкі, як выбухнуўшы з зямлі, рэзкі крык, голасна прагучэўшы зусім недалёка ад яго. Што за дзіва! Павал жвава павярнуўся: яму адразу кінулася ў вочы стада кароў, дратаваўшых канюшыннае поле. Да гавяды, высока падкідаючы ногі, каб не ламаць збажыны, бег з прутам якісьці мужчына. Адлегласць перашкодзіла Паўлу разгледзець яго мігаючы ў бегу твар, але па меры яго набліжэння ён пачаў пазнаваць нешта бачанае і знаёмае. Павал затрымаўся ў хадзе і пільна сачыў, да чаго прывядзе ўся гэта гісторыя. Чалавек, тым часам, выгнаў з канюшыны жывёлу, пастаяў момант на месцы, рупліва абвёўшы навакол сябе поглядам, і хутка рвануўся ў бок.

— Хто даглядае гавя-аду-у?—кінуў ён на весь голас.

З-пад куста раптам падняўся мужчына і, не паспеў утлуміць сабе, у чым справа, як тут-жа быў схвачаны падбегшым і адпіхнуты на куст. Усхапіўшыся з зямлі, ён трымаўся рукою за лоб. Павал, не чакаючы,

пайшоў да іх нацяньկі. Мужчыны не паспелі шчапіцца, як ён, пазнаўшы абодвых, жартліва гукнуў:

— Досыць! Як вам не брыдка, мужчыны! Юстын! Лагода!

Паўлаў вокліч збянтэжыў абодвых сваёй знянацкасцю, і ў наступную хвіліну яны, застыўшы на месцы, недаўменна паглядалі яму ў твар.

— Будзе ён мяне памятаць, прахвост! Я яму ўсёроўна не дарую гэтага! Вунь, глядзі, які гуз насадзіў. Так зналёту таўхаць,—абарваў кароткую паўзу Васіль, замахаўшы перад Юстынам кулаком і паказваючы на выскачыўшы на лбе гуз.

Павал паперачальна падняў перад шваграм руку:

— Годзе, Васіль.—І паглядзеў на Сніпіча.

— Я з гарачкі... Але паглядзі ты сам, што ён нарабіў!

Лагода гарачыўся:

— Быццам то мае гавяды стравілі чужую канюшыну... Здохні ты з імі...—кінуў ён Сніпічу.

Сніпіч раптам прыняў суровую паставу і гучна праказаў:

— Я ведаю твае манеўры—шкоднік!.. Цябе-б трэба было, во гэтай папруцінай. Ты яшчэ за гэта не тое адкажаш... За падбухторванне сялян даравалі, дык вунь чым аддзякваеш... Не здохнеш ад гуза!..

З поўдзесяціны здратавана канюшыны... А яшчэ што будзе з каровамі... Вось і папрасі чалавека... калгасніка, называецца... Вядома—тут назнарок усё робіцца...

Васіль затрапятаўся, як у ліхаманцы, і ступіў крок да Сніпіча.

— Пад-ду-маеш, гаспадар вялікі! Ну, сам паспрабуй папасвіць гавяды, ці пааpаць—нябось распанеў... Толькі вандзыгаць, нічога не робячы, па полі з папруцінай... Гэта кожны ўмее. . Ведаем і гэткіх калгаснікаў, як ты..

Лагода строіў дражлівыя міны, торкаючы ўгору вастраватаю барodкаю і зажмурваючы вочы, што пры наяўнасці гуза атрымоўвалася даволі камічна. Потым ён, як штосьці ўспомніўшы, затупаў каля лазняку. Пры ім валялася скамечаная шапка і неаблузаны—ад лісцяў лазовы дубчык.

Васіль падняў адно і другое і моўчкі пакінуў Паўла з Юстынам. На адгоне некалькіх сажняў ён да іх павярнуўся і пагрозліва памахаў у паветры дубцом. Юстын прыняў гэта на свой шчот, гукнуўшы ў адказ:

— Вось звядзі яшчэ пару гавяд, паглядзіш тады!

Лагода паскорыў хаду відаць, затрывожыўшыся не на жарты, каб не апушыла кароў, паспеўшых нагрызціся маладое сочнае канюшыны. Калі Павал, разышоўшыся з Юстынам, праз некалькі хвілін пасачыў за шваграм, той старанна, у падбежкі гнаў жывёлу напрамкам да калгаснага цэнгра.

Сніпіч зводдаля наглядаў за ім, абходным шляхам накіроўваючыся туды сам.

Новое здарэнне, у якім героем быў зноў блізкі па радні чалавек, навявала на Паўла не зусім прыемны настрой. Ён з незадавальненнем дапускаў, што падобныя з'явішчы могуць у многіх злажыць неспрыяльную думку пра перагудаўскую сям'ю. І мысленна ўдакорыў бацькоў за іх легкавернае збліжэнне перш з Лагодамі, пасля з Каніцамі. Зусім нецікавая радня!

Ураз ён спыніўся над выплыўшай інтрыгоўнай думкай: якім-бы чынам хутчэй і вярней абарваць гэтыя ганьбуючыя іх путы, і падбухторыў сябе: „Гэта трэба абмеркаваць, каб не адбілася ні на бацьку, ні на браце, ні на сястры".

Каля бацькаўскага гароду да яго данёсся стук сякер на пабудове. Павал спачувальна азірнуўся ў бок гумна, з-за якога выпадкова вышаў стары Лявон і пільна пагледзеў у яго бок. Але, пэўна, не распазнаў сына здалёк, бо ўраз-жа завярнуўся і схаваўся там, адкуль паказаўся.

Хутка Юстынава далонь апусцілася на плячо здзіўлена пагледзеўшага яму ў вочы Паўла.

— Ну, што абышлося ціха?—запытаў Павал, ехідліва ўхмыльнуўшыся.

Юстын махнуў рукою.

— Пойдзем!—паклікаў ён, заходзячы наперад.

І, калі яны прайшлі перагудаўскую сядзібу, Сніпіч крута павярнуўся да Паўла і запытаў:

— Што-ж ты мінаеш бацькаўскі гарод?

— Ёсць справа на тым канцы вёскі.

Юстын нечага засмяяўся.

*(Працяг будзе)*

Алесь Жаўрук

# САДЫ

Небывалая дагэтуль,
Нечуваная нідзе
Над Рачэнскім сельсоветам
Поўнач зорная ідзе.

І выходзіць к травам ніцым
Праз лябёды і званец—
Закаханы ў бліскавіцы
Масці светлае хлапец.

Ён праходзіць паўз фурманкі
У край сялібы,
У ночны дым,
Дзе за трактарнай стаянкай
Спяць арцельныя сады;

Дзе вартуе свет зялёны
Ад зайздрослівых вачэй
Дзед з унучкаю Алёнай
Сярод дзён,
Сярод начэй.

Толькі дзеду, мабыць, вечар
Распрастаў сухія плечы,
І, адтупаўшы, як след,
Прыкурнуў мо' ў будцы дзед.

І хлапец ідзе па росах
Да каханай,
сам не свой,
Паўз атаву,
Паўз пракосы
Праз пляцень,
густой травой.
Яблык водарная россып
Праплывае над бялёсай
Акуратнай галавой.

Хто падкажа хлопцу толькі,
Што, пакінуўшы пляцень,
Нехта з чорнай дубальтоўкай
Шугануў за ім, як цень.

Крок і—позна.
Нікнуць кветы.
Толькі
гук ляціць услед:
— Стой, паганец,
вораг свету
ўсіх калгасаў і саветаў!..—
І па стылю,
І па крэкту
Зразумела—
гэта дзед.

Ён вядзе героя к будцы,
К бэрам,
К дзеўчыне,
К агню.
І пакуль пярсцёнкі ўюцца,
І казычуць шкваркі нюх,—
Гучна ўтрох яны смяюцца
У маладую цішыню.

Дзед пытаецца пра косы,
Пра жняяркі,
і герой:
— Лепш не трэба,—
кажа,—косы!
І сяброўкі змеі-косы
Моўчкі пестуе рукой.

І тады каханцаў дзед наш
Зноў бярэ у абарот:
З інструктажам адпаведным
Накіроўвае ў абход.

Самакрутку прыпаліўшы,
Дзед махае ім рукой.
І ідуць яны па цішы
Лапухамі,
Крапівой.

Пад вясёлае мігценне
Зор,
на дзіва маладых,
Непаўторныя імгненні
Паўтараюцца для іх.

Яблык лепшыя гатункі,
Як на выстаўцы, вісяць
Далятаюць пацалункі
А гаворкі не чуваць.

І рукой махнуўшы:
— Дзе там!—
Адыходзіць ў будку дзед.

---

Расцвітаюць двойчы кветы,
Нечуваная нідзе
Над Рачынскім сельсоветам
Поўнач зорная ідзе.

---

Рагачоў, 1935 г.

Алесь Жаўрук

## ПРА ТАВАРЫША

(апавяданне майго знаёмага слесара „ЦИАМ“)

На Палессі ёсць у мяне таварыш.
Зараз некалі, а буду вольны—ну,
Да яго на тыдзень так, на пару
Я абавязкова загляну.

Ён ніякіх гэтых надзвычайных
І сусветных скрозь не ладзіў дзіў,
У бойках—непасрэдны мой начальнік,
А цяпер—калгасны брыгадзір.

На Палессі—крыжакоў мільёны,
І хоць Тураў не малы раён,—
Толькі так ніхто ва ўсім раёне
Не мастак на дзіч хадзіць, як ён.

У яго падлогі мыюць чыста,
У дзежцы квас кляновы, і як след
Грамата наводзіць урачыстасць
І пры ёй—будзёнаўскі партрэт.

І калі аднойчы ў росны вечар
З-за ялін мільгне мой самакат,—
На высокі ганак на сустрэчу
Выйдзе ён з дачкою на руках.

А назаўтра павядзе ў палеткі,
Граблі, як усім, і норму дасць,
Будзе зноў вучыць мяне на рэдкасць
Звонкія пярэбіркі складаць.

Будуць травы пахамі струменіць
Так, што захмялее галава,
Будуць жарты весялух адменных
Старыкоўскі табар хваляваць.

І калі мы вечарам, на славу
Коп нагробшы, вернемся ў сяло,—
Нас пасадзяць на шырокіх лавах
За дубовым вымытым сталом.

Гаспадыня скварак нам насмажа
І даставіць з клеці малака;
Стану рэзаць хлеб я і заўважу
Дымку ад загара на руках.

Там далей, глядзіш, яшчэ прычаліць
Пакурыць, пагутарыць да нас
Наш руды спявак—аднапалчанін—
Цэлага совета старшыня.

Мы цыгаркі скруцім. Будуць далі
Моўчкі ткаць вячэрняе радно.
Камандзіраў слаўных прыгадаем,
Добрых коней ўспомнім заадно.

Праплывуць знаёмыя да болю,
У памяці, Растоў, Бабруйск, Чыта...

---

А не дрэнна-б так і нам з табою
На Палессе заглянуць, чытач!

Масква, 34-35 г.

Ю. Віцьбіч

# АДОНІС

Урал. Першы год першай пяцігодкі. Хімічны, наскрозь прапахлы, серай завод. Ад калчадану пажаўцела цэгла будынкаў, ад газу пачарнела вакол будынкаў трава. Пах і колер старых кіслотных заводаў. Сапраўды на шчарбатым коміну відаць літары лічбы:

Юлій Блюм

$H_2SO_4$

1884.

А калі хто не дае веры паху і колеру, літарам і лічбам, то няхай возьме даведку ў старшага майстра. Завуць яго Іпат Кузьміч Чунін, і ён якраз на дзесяць год старэй за свайго завода.

Стары завод працаваў апошнія месяцы. Над чорным полем, дзе серкавы газ пакінуў толькі дзядоўнікі, ды кедры, што зялёнай сцяной абступілі поле, плыў рыжы дым. Калматыя лапы магутных кедраў затрымлівалі дым і не пушчалі яго далей. Туды далей, дзе нядаўна падняліся над абымшэлай цаліной вялікія будынкі новага кіслотнага завода. І нечакана адно з акон аднаго з будынкаў на момант заблішчэла. Мусіць схібіў прапахлы смолкай фільтр.

За гэтым акном спрачаліся юнак і дзед. Першы—сакратар комсамольскай ячэйкі, другі—загадчык сталом кадраў. Спачатку, абцёршы ўспацелую лысіну, загадчык адчыніў акно і адразу-ж зачыніў.

— Сёння, як вядома, заходні. Чуваць, як працуе „Юлій Блюм“.

— У вас, таварыш загадчык, бездакорны нюх і калі вы не бачыце стары завод, дык вецер вам аб ім напамінае,—сказаў сакратар, выцягваючы з кішэні юнгштурмаўкі блакнот, пад запісам:

Помнік качагараў. Сеяць проста ў грунт.

Вежа Гловера. Адрас бацькавай партшколы.

— юнак прыпісаў:

Загадчык сталом кадраў. Апошні раз праверыць на рабоце.

— І тады спакойна скончыў:

— Вы ніводнага разу не гаварылі з Кузьмічом і яго сябрамі, а гэта вельмі добрая рошчына для новага заводу. Наогул, вас, здаецца, паліцы размеркавальнікаў цікавяць больш за стол кадраў. Таму неўзабаве комсамол возьме на сябе гэту справу і трохкутнік нас цалкам падтрымае.

— Пачакайце! Пачакайце!—закрычаў загадчык і працягнуў уперад

руку з кальцом на пальцы, нібы жадаючы затрымаць сакратара.—Вы-с пераблытаеце ўсю картатэку! Гэта-ж вам-с не палітзаняткі праводзіць. Гэта-ж вам-с штатныя адзінкі вербаваць. Так-так! Штатныя адзінкі! Я за гэтым сталом гемарой нажыў, а вы-с мяне вучыць збіраецеся. Фактычна „Юлій Блюм“ з'яўляецца толькі дадаткам да новага заводу. Каб перакінуць яго штат сюды, патрабуецца, як вядома, цыркуляр трэста. А што датычыць размеркавальнікаў,—загадчык расшпіліў гузік на камізэльцы і падкрэсліў,—што датычыць размеркавальнікаў, дык я чалавек сямейны і не пад якой там-небудзь лесвіцай жыву. Жонка мая, як вядома, марыінскую гімназію на яць па першаму разраду скончыла. Прыкладам для вас-с Юрка, а для яе Георг. Да-да! Георг! У мяне самога спадчынная сталасць. Мой бацька належаў да пачэсных грамадзян і не які-небудзь там богам занядбаны бурлак. Ён меў сваю хатку, свой садок, свой гародзік, сваю кароўку, свае куркі, свае пчолы, свае...

— Досыць,—рашуча перапыніў сакратар і адразу-ж загадчыку здалося, што юнак проста не слухаў яго.—Досыць чакаць, калі спяшаецца Рэспубліка. Ініцыятыву трэст пакінуў за намі. Таму я абавязкова схаджу на стары завод, каб пагаварыць з Кузьмічом. Заўтра-ж іду. Вы, зразумела, таксама пойдзеце?

— Зразумела, таксама,—адказаў загадчык.—Пасля такой гутаркі гэта для мяне—справа гонару. Толькі дзе вам-с ведаць падыходы да рабсілы. Ха-ха! Вы-с проста не гледзячы на ваш-с, так сказаць, чын, ёсць хлапец, а ў мяне тут практыка. Нават за апошні час сотні штатных адзінак прайшлі, як вядома, праз мой стол, і грабары, і муляры, і шкляры. Я добра ведаю прывабу для старых кадраў, тым больш, што сам стары кадравік. На вялікі палец ведаю.

* * *

Сакратар і майстар сустрэліся на старым заводзе ў памяшканні кільнаў*). Яны сустракаліся і раней, але не ведалі прозвішча адзін аднаго, не адчуваючы ў гэтым асаблівай патрэбы.

— Дзе, Кузьміч, тая сіла, што прывязала цябе да старога завода?— запытаўся сакратар, моцна паціскаючы шурпатую руку.—Хачу з ёю пазнаёміцца.

Майстар адказаў не адразу. Ён спярша неяк недаверліва ўглядваўся ў шчырыя юнацкія вочы і потым на яго маршчакаватым твары задрыжэла ўсмешка.

— Не разумею вас, маладых. Якая такая сіла? Можа гэта наша вытворчасць? Дык я цябе зараз пазнаёмлю з ёю.

Знаёмства пачалося з памяшкання кільнаў. Толькі што выграблі з-пад каласнікоў жалезны агарак, у якім яшчэ засталася серка. Вадкая серка гарэла блакітным полымем і над ёю ўзнімаўся едкі дым. Рабочы закідваў рыдлёўкай у жорлы кільнаў зеленаваты калчадан. Сіні чад ахутваў будынак знадворку, прарываўся праз паддувалы ў памяшканне. Сакратар схапіўся рукамі за грудзі і балюча закашляў:

— Вось тут калісьці працаваў прафесар хімічнай тэхналогіі Патап Лобаў—сказаў Кузьміч.—Як цяпер бачу яго—рослы такі, смуглявы. Калі Калчак ішоў на Волгу, Патап адлітоўваў у жарлах кулі. Над жорламі яшчэ захаваліся рыскі. Гэта прафесар вуглем адзначаў колькі загрузіў калчадану. З азбукай ён пазнаёміўся ўжо ў Чырвонай арміі.

*) Кільн—печ для спальвання калчадана.

Нечакана рабочы, схапіўшы качаргу, пачаў варушыць у жорлах калчадан. Без ветру зашамацелі на заводскім двары кволыя дзядоўнікі. Усё ніжэй схілялі яны да прагорклай зямлі свае пурпуровыя чубы. Сакратар чамусьці ўспомніў, што ён добры бягун і ўсё-ж не скрануўся з месца.

— А вось тут калісьці працаваў Сцяпан Жукоўскі—паказаў Кузьміч на вежу Гловэра, дзе нават некалькі напластаванняў фарбы не здолелі пахаваць пад сабой надпіс:

Далоў цара і няхай
жыве рабочы клас.

Дзед не заўважыў, што юнак глядзеў на вежу так цёпла, нібы сустрэўся са сваёй добрай знаёмай.—Вось бачыш, таварыш, лозунгі? У пятым годзе напісаў Сцяпан. З таго боку вежы не хапае крыху свінца, а шчыліны замазаны глінай. Сцяпан разам з Патапам абадралі з вежы свінец на кулі. Цяпер Сцяпан Жукоўскі камандзір дывізіі. У яго два ордэны—адзін за Омск, другі за Спаск.

Сакратар і майстар ішлі міма свінцовых камер і веж Гэй-Люсака, як над галавой нешта загуло.

— Гагара крычыць,—адказаў Кузьміч на запытальны погляд юнака,—Клім Гагара. Ён працаваў на нашым заводзе качагарам. Калі наступалі чэха-славакі, Клім гудкамі сігналізаваў чырвонаармейцам. Легіянеры закідалі завод знарадамі. Бачыш, шчарбаты комін і прабоіны ў сценах? Потым Клім арганізоўваў партызанскія атрады. Памёр качагар у паравознай топцы. Яго спалілі японскія бароны. А сёння пра яго ўся Сібір ад Іртыша да Амура спявае песні.

— Ты, Кузьміч, даўно наведваў новы завод?—нечакана запытаўся сакратар. Майстар здзіўлена зірнуў на юнака.

— Яшчэ, як катлаваны капалі. Усё часу нехапае, і з нашых, здаецца, ніхто не наведваў. У нас там ні знаёмых, ні сваякоў. А цябе чаму цікавіць гэтае?

— А проста так. Нічога такога асаблівага,—усміхнуўся сакратар перад бакам з трубкай, пад кранам якой напаўнялася бутля. Усміхнуўся так загадкава, што дзед не зразумеў, каму прызначана юнацкая ўсмешка. Ці яму, які даўно не наведваў такі блізкі адсюль новы завод, ці крывой ад часу і кіслаты трубцы.

— Вось і зліў,—скончыў Кузьміч азнаямленне з вытворчасцю, паказваючы на бак—тут калісьці я дзесяцігадовым падпаскам пачаў працаваць. Коркі на бутлях алебастрам замазваў. Я цяпер старшы майстар і выконваю абавязкі дырэктара. А дзе я яшчэ працаваў? На заводзе няма мейсца, дзе я не працаваў. Нават цэлых пяць год начаваў пад лесніцай у канторы. Што пазнаёміўся цяпер, таварыш, з вытворчасцю старага завода? Цябе здзіўляе, што ты амаль не бачыў нашых рабочых. У нас добра кваліфікаваны народ. На змену працуе акрамя мяне яшчэ толькі пяць чалавек і ўсе яны на сваіх мясцах. Вось мы праверым:

— Э—гэ—гэй!. Ну, як, дзед, справа?—зычна закрычаў Кузьміч. У адказ з розных кутоў завода пачуліся галасы. Людзей не было відаць і таму здавалася, што гэта адказваюць самыя агрэгаты.

Адказвалі кільны:

— Пачынаю выгружаць агарак!

Адказвала вежа Гловэра:

— Серкавы газ—6%! Кісларод—11%!

Адказвалі вежы Гэй-Люсака:

— Моцнасць нітрозы ў першай вежы—4,5° Бомэ!

У другой вежы—1,7.°

Адказвалі свінцовыя камэры:

— Ішоў жоўты газ! Ідзе аранжавы!

Здавалася адказваюць самыя агрэгаты, але рабочы на зліве, уважліва паглядзеўшы на арэометр, задаволена сказаў:

— Моцнасць кіслаты 50° Бомэ.

І тады юнак пазнаў па галасах тых людзей, без якіх магутныя агрэгаты усяго толькі метал і цэгла.

— Як бачыш, таварыш,—скончыў сваю гутарку Кузьміч—усе жывыя на сваіх мейсцах, а за мёртвых адказвае Клім Гагара.

Сакратар уходзячы ўзяў з майстра слова, што той заўтра прыйдзе на новы завод.

Кузьміч астаўся каля зліву і адпусціў рабочага перакурыць. Астаўшыся адзін, ён хацеў замяніць поўную бутлю парожняй, як раптам упусціў яе. Бутля разбілася на дробныя аскепкі і кіслата трапіла за халявы ботаў. Дзед упусціў бутлю таму, што ў той момант, калі прыпадняў яе, нехта нечакана ляскнуў яго па спіне:

— Трыста рублікаў, паважаны, у месяц. Трыццаць чырвонцаў. Адразу-ж, як вядома, пропуск у зачынены размеркавальнік. Сушоныя смарчкі, маласольныя гуркі.

— Ідзі ты...

— пачаў і не скончыў дзед нават не паглядзеўшы назад. Толькі паставіўшы пад крант парожнюю бутлю, ён абыякава зірнуў на загадчыка сталом кадраў і павярнуўся да яго спіной. Кіслата абпальвала ногі і, праверыўшы паказанні прыбораў, дзед пабег да дзежкі з вадой. Улезшы ў яе па пояс, ён пачаў у вадзе сцягваць з сябе боты. Дзед і не глядзеў у бок загадчыка, які, пакідаючы стары завод, мармытаў:

— Перашкодзіла бутля з гэтай мурой. Усё-ж не сёння дык заўтра, а мой апрабаваны падыход пакажа сваю сілу. Гэты Іпат пяройдзе на новы завод. За яго я пэўна атрымаю прэмію. Магчыма парасё, а то і зусім падсвінка.

* * *

Калі старшы майстар прыйшоў на новы завод, сакратар сустрэў яго перад варотамі.

— А цяпер я пазнаёмлю цябе, Кузьміч, з вытворчасцю новага завода.

Праз увесь асфальтаваны двор, па якім прабягалі аўтакары з бутлямі, праходзіла алея з маладых блакітных елак. Не даходзячы да высокага белага будынку, над якім пыхкалі трубы кампрэсараў, алея скончылася. Нечакана Кузьміч убачыў, як уперадзе паміж блакітнай алеяй і белым будынкам проста на асфальце гарыць калчадан. Дзед не пачуў паху сярністага газу, але ён наогул даўно не заўважаў гэты пах. Яго здзівіла толькі адсутнасць над калчаданам дыму. Зрабіўшы некалькі крокаў, ён рашыў, што пэўна нейкі нядбалы качагар вываліў са сваей топкі шлак і вугаль разгарэўся. Яшчэ некалькі крокаў і Кузьміч схіліўся над кучай вугалля, дбайна прыглядаючыся да яе.

— Вось адзін з нашых лепшых маладых інжынераў,—паказаў сакратар на рослага смуглявага юнака, які ішоў насустрач.—Сын прафесара Патапа Лобава. З гэтага інжынера будзе добры акадэмік. Як на тваю думку, стары?

Кузьміч, уздрыгануўшы ад нечаканасці, паглядзеў на інжынера і раптам імпэтна схапіў адзін вугаль і таксама імпэтна рынуўся бегчы

назад да варот. Абодва юнакі здзіўлена глядзелі яму ў след. Потым сакратар закрычаў:

— Што такое, Кузьміч, здарылася? Ты нават са мной добра не пазнаёміўся. Я сын Сцяпана Жукоўскага.

Дзед пачаў гэтыя словы, калі знаходзіўся па другі бок ад варот. Ізноў уздрыгнуўшы ён паглядзеў на нас і тады ўпершыню ўбачыў над варотамі шыльду:

Хімічны

Кіслотны завод

імя

качагара Кліма Гагары.

Дзед пабег яшчэ хутчэй, трымаючы ў руках нешта падобнае да полымя. Ён ужо не чуў, як на двары новага завода смяяўся над сакратаром загадчык кадрамі:

— Што, вярбуеце рабочую сілу? Ха—ха! Гэта ад вашай палітграматы так Кузьміч уцякае. Ха—ха—ха! А вось пабачце, што заўтра-ж я перацягну яго на новы завод. Я на вялікі з прысыпкай ведаю, чым дыхаюць старыя кадры. Для мяне гэта раз плюнуць.

* * *

Невялікі пакой. З адзінага акна яго добра відаць стары завод. Перад акном стаіць вялікі стол, які займае амаль чвертку пакоя. Гэты стол нагадвае лабараторыю. Тут прыбор Орса і халадзільнік Лібіха. Тут некалькі манометраў і тэрмометраў. Тут дзесяткі шклянак з нітрозай і кіслатой. Тут дзесяткі кавалкаў сернага калчадану і пакетаў з жалезным агаркам. На сярэдзіне стала стаяць побач дзве мензуркі. У адной—кіслата, у другой—вада. У першай плавае арэометр, у другой—адоніс.

Пяцікрылая кветка. У батанічнай табелі яна вядома, як адоніс, у народных песнях, як гарыцвет. Сапраўды не толькі зводаль, але і паблізу кветка нагадвае ахоплены полымем вугаль. Дзіўнай здаецца яе прысутнасць на гэтым прапахлым хімікаліямі стале, за якім сядзіць, закрыўшы далонямі твар, Кузьміч.

Дзед прасядзеў за сталом усю ноч і раніцой не выйшаў на работу. Вельмі расхварэлася абпаленая кіслатой нага, а патрэбны сон праганялі неадчэпныя думкі. Ён пачынаў некалькі раз пісаць пісьмо і некалькі раз раздзіраў яго. На падлозе валяюцца лісткі, на адным з якіх толькі напісана:

„Таварыш Жукоўскі“.

на другім:

„Сцяпаныч“

Дзед узяў нарэшце трэці лісток і пачаў пісаць зноў:

„Сынок“.

Мяне ўчора апанаваў жах. Мне здалося, што я звар'яцеў. Я не змог адразу ўвязаць кіслотны завод з садовымі кветкамі. А ўсё так зразу-

мела. Не дарма-ж тая клумба нагадвае жарало паравознай топкі. Таму гляджу цяпер на гарыцвет і хочацца крыкнуць:

— Добры дзень, Клім Гагара!

Усё так зразумела. І дзядоўнікі на заводзе капіталіста Блюма і гарыцветы на заводзе качагара Гагары. Не дарма-ж тая клумба шугае полымем. І навошта пасля той клумбы аглядаць вытворчасць нашага новага завода. Усё так зразумела.

Ведаеш, сынок, не умею я пісаць пісьмы. Ты лепш прыходзь да мяне пасля работы разам с Патапычам. Я прызначыў сёння а пятай гадзіне ў сябе агульны сход нашага завода. На павестцы дня адно пытанне:

1. Пераход рабочага калектыву завода „Юлій Блюм" на завод Кліма Гагары.

Да гэтага пытання я далучаю яшчэ адно:

2. Захаваць завод „Юлій Блюм", як музей імя Кліма Гагары. Няхай паглядзяць сыны на жыццё бацькоў. Паведамі аб сходзе ваш трохкутнік. Толькі няхай больш не прыходзіць тая пляшывая поскудзь. Наогул, як трапіла яна на завод Кліма Гагары.

*Кузьміч.*

Дзед скончыў пісьмо, калі пачуў лёгкія крокі і знаёмы голас:

— Ну як-жа, Чунін? Хэ-хэ! Асноўны аклад трыста рублікаў плюс дзесяць працантаў прэміяльных.

Загадчык кадрамі абмацваў вачыма скромны пакой Кузьміча, яго стары гарнітур, да якога дзе-ні-дзе прыліплі дзядоўнікі, заўважыў на стале адоніс і ўсміхнуўся пра сябе.

„Дзіцячыя наукі".

— а услых, прыцмокваючы і згінаючы на руках пальцы, сказаў:

— Цудоўны пакой з найлепшымі паслугамі—вада, святло і цёплы клазет. З пакою добра відаць зачынены размеркавальнік. На сцяну я табе павешу карціну „Німхва". На акно я табе па стаўлю вазончык з геранню. У пасаг за жонкай узяў іх. Жонка мая, між іншым, скончыла Марыінскую гімназію па першаму разраду. Прынамсі там ёсць за што патрымацца. У герані, як вядома буйныя пунсовыя кветкі. Проста, як полымя ад прымусаў. Я бачу, што ты, Чунін, нават збялеў. Я разумею, добра разумею. Канечна, ад радасці. Гэта для цябе, паважаны, кар'ера на вялікі з пакрышкай. Хэ-хэ. А цяпер запоўні вось гэтую анкетку. Так сказаць на новую штатную адзінку. Хэ-хэ-хэ. Соцыяльнае паходжанне тваё, ластаўка, і бацькоў тваіх? Па якому разраду тарыфнай сеткі ідзе зарплата?

Кузьміч затыхаўся. Яму здалося, што ён упершыню за ўсё жыццё пачуў, як пахне сярністы газ. Нарэшце глухім, нязвычайным для сябе голасам сказаў:

— У мяне расхварэлася нага. Я не здолею ўстаць, каб спусціць цябе з лесніцы. Дык ты, як хутчэй спусціся сам.

---

Віктар Казлоўскі

# ЖНІВЕНЬ

Развінаецца дзень і кладзе
Па гасцінцах, па скатах, па пералесках
Распаленае дыханне сваіх грудзей
І высокую
сонцавых песень
усмешку.
Дзень стаіць
прад Рэспублікамі Советаў—
Ён вышэй усіх мар,
сіней воч
і такі тонкі—тонкі.
Ён трымае ў руках сваіх
каляровыя
вясёлкі букеты
І глядзіць у вякі,
сустракаючы позіркі
нашых патомкаў.
Ён на ўсходзе грыміць
медзяною трубой
горызонта.
І гул гарадоў
падымаецца
да нябёс.
І песні ўзвіваюцца,
як палёт пілота.
Настрою й пачуццяў—
высокі усплёск.
А ў зяніце звініць ён
на струнах промняў.
Распырскваючы ўзмахі
пякельнай гарачыні.
І кожны Рэспублікі сын
прыпомніў
Да чырвані раскалёныя
рэволюцыяй дні.
Каласоў галасы
рассыпаюцца і бягуць
Акіянскаю пенай
за край небасхільнай далі.

Ї узнёслая радасць,
згартаваная ў цесны гурт,
Работай і песняй грыміць,
як сталлю.
Ї зрок брыгадзірны
брыдзе
над жытнёваю пожняй,
Правяраючы жняяркавы
перабор.
А трактарыст—
гэткі удумлівы і сур'ёзны
Быццам сэрцавыя пульсы,
выслухоўвае матор.
Што-ж стаіш ты,
вязальшчыца, перад ім?
Падыйдзі і папраў
яго кудры чорныя!
Глянь колькі ласкі
у вачах яго сініх, як дым!
Ї позіркі ў гэткім адценні
Нікім не паўторныя.
Ї з усмешкаю скромнай такою
і кроткай
Ён азірнуўся
і сеў за руль.
На паркалі
ягонай касавароткі
Дзеўчына бачыла
чырвонаармейскую зару.
Дзень грыміць.
Ён іграе на нервах заката
Ї з усмешкай кплівай
глядзіць ён
у твар Эўроп!..
Гранітныя грані граніц,
як вякоў перакаты,
Перарэзалі з прошлага
у заўтрае троп.

27/VI 1-35 г. Менск.

Віктар Казлоўскі

# Я ТАКУЮ МУЗЫКУ АДЧУЎ

Незнарок вазьму я і крану,
Як свой нерв, як сэрца свайго хвалю,
Тонкую скрыпічную струну,
Каб яна смяялася й спявала;

Каб на смех, на плеск мае струны
Падыйшоў найлепшы мой таварыш,
З позіркам такім, як у вясны,
Аб якім так думаеш і марыш.

Толькі сам сябе не ўсцерагу,
Каб з напевам струнным мне незліцца.
Па маім настроі прабягуць
Голасу няўцямнага ігліцы.

Я такую музыку адчуў,
Ад якой не ўстоіш і на месцы.
З вамі я, таварышы, хачу
Гэты спеў краінаю пранесці!

Клічу я таварышоў сваіх,
А яны са мною поплеч сталі.
І найлепшы, даражэй за ўсіх,
Над вякамі ўстаў таварыш Сталін.

Міхась Лынькоў

# ПРА СМЕЛАГА ВАЯКУ МІШКУ І ЯГО СЛАЎНЫХ ТАВАРЫШОЎ

**Невялікая аповесць для дзяцей**

## Пра Мішкава дзяцінства і аб тым, як ён маліну любіў

Калі-б хто запытаў Мішку:

— Што ты любіш больш за ўсё на свеце?

Ён адразу-б сказаў, каб умеў гаварыць:

— Што люблю? Маліну люблю... Мёд люблю... Цяцяруковыя яйцы люблю...

— А яшчэ што?

— І яшчэ маліну...

Дужа любіў Мішка маліну і праз гэтую маліну вялікія непрыемнасці меў, і ўсякія праз яе няшчасці з ім здараліся, і пакуты. Але цярпеў, крыўды зносіў і знявагі.

Вось і сягоння напалі на яго няўдачы. Ішоў пануры, нізка схіліўшы галаву, хістаўся трохі з боку на бок і час ад часу вурчэў паціху, пад нос. Тады спынялася матка на якую хвіліну і пагрозліва касіла вокам і выскаляла зубы. Мішка таксама спыняўся, кідаў вурчэць і, схіліўшы да самай зямлі галаву, хітра сачыў за маткай, а ці не дасць часам яшчэ па загрыўку. Сачыў і быў гатовы адразу-ж кінуцца наўцёкі, падалей ад матчыных пачастункаў. Ну як-жа тут не быць панурым і сумным.

А пачалося ўсё раніцой. Яшчэ не паднялося сонца, яшчэ клубіўся туман над палянамі, як заварушылася Мішкава матка, грузна ўзнялася на пярэднія лапы, потым зяхнуўшы, стала на ўсе чатыры, шумна атрэслася ад моху, ад сухога лісту і падалася наверх з цёмнай бярлогі. Бачыў Мішка, як стаяла яна на краю бярлогі і выцягнуўшы галаву ўдыхала трапяткой і гарачай наздрынёй свежае паветра раніцы, потым павяла кругом галавой і замерла на якую хвіліну—прыслухалася. Аднекуль здалёк прыляталі глухія гукі балабонаў—відаць, пасвіліся на балоце коні. Ціха пранесліся над палянай качкі, пралапацеў крыллямі цецярук— аж аблізнулася матка, уздыхнула. Тады Мішку зрабілася сумна. Мо' таму, што ў бярлозе, пад вялікім яловым выварацнем, было цемнавата, мо' таму, што без маткі рабілася холадна і няўтульна. І Мішка паціху заскуголіў. Матка вярнулася назад, узяла Мішку зубамі за карак і паставіла на ногі. І Мішка ведаў, што гэта знача: „уставай, лодыр лежабока, час ужо па снеданне ісці!“ Ён паспрабаваў жартаваць, упірацца, забіраўся па карэннях аж пад самы верх бярлогі. Але, атрымаўшы некалькі лёгкіх кухталёў, пашоў паслухмяна з бярлогі.

Наверсе было халаднавата, стаяла раса і Мішка асцярожна пераступаў з нагі на нагу, зябка атрасаючы лапы ад сцюдзёных кропель вады, стараўся патрапіць у матчыны сляды, каб лішне не замачыцца. Але ўрэшце гэта яму надакучыла і ён кінуўся з усіх чатырох ног, абагнаў матку і пабег, што было сілы па кустах, па алешніку, спалохаўшы некалькі птушак, якія выляцелі з густой травы проста з-пад Мішкінага носу. Мішку хацелася сагрэцца, пабязуліць. Але ці разумее-ж гэтае матка. Яна, як заўсёды. Вось нагнала яго, злосная, узрушаная, і дала так па загрыўку, што ў Мішкі пазелянела ў ваччу і ён ткнуўся носам на зямлю, балюча накалоўшыся на хваёвую шышку. І да таго ўзлаваў, аж сам сябе не помніў. Злаўчыўся, ды як хопіць неўзаметку зубамі за матчыну нагу, аж узраўла старая мядзведзіца, кінулася нагу залізваць. А сам наўцёкі, аж задыхаўся, бягучы, засопся. Ды дзе ты ўцячэш. Чуе Мішка, зямля дрыжыць за ім—то бяжыць, наганяе матка. Аж у пот у халодны кінула. І вось нагнала. І такога часу задала, што той доўга не мог ачухацца, было тут і па загрыўку, і па таму месцу, адкуль хвост расце, хапіла і па баках. Толькі і рабіў Мішка, што абодвума лапамі хапаўся за галаву, вочы хаваў. І ўрэшце, як ударыць матка нагой, аж пакаціўся з узгорку Мішка і ніяк устояць не мог, учапіцца нагой за што-небудзь. Ляцеў, ляцеў, ды як шлёпнецца ў канаву, ускочыў у гразь аж па самыя вушы, ні павярнуцца, ні паварушыцца, ні з канавы гэтае выбрацца. Тырчыць пыса з вады, палахліва бегаюць вочкі, да ціха скуголіць Мішка—ад страху, дый ад болю. Паважна падышла старая маці, спынілася, над Мішкай нагнулася, лізнула языком у яго халодны нос—Мішка і вочкі закрыў з перапуду, а што калі дасць яшчэ за ўсе яго штукі. Але мядзведзіца асцярожна ўзяла яго за карак, падчапіла нагой і выцягнула з канавы. Ухапіўшы яго пярэднімі нагамі, высока падняла і патрэсла, каб асыпалася з Мішкі ліпучая гразь. Потым паставіла на ногі,—ідзі, маўляў неслуш, ды не дурыся болей. І пашоў Мішка, мокры, брудны, цярпліва ішоў па матчыных слядах, не адступаючы ад яе ні на крок, ціха, разважна, панура. Вось чаму сумны быў наш Мішка, ды час ад часу паціху вурчэў, спрабуючы агрызацца на матчыны загады.

Яны ішлі доўга. Прайшлі паўз паляну, дзе было складзена бярвенне і дровы. Матка перавярнула некалькі калод, знайшла пад імі багата чарвякоў розных і, забыўшыся на Мішкава непаслушэнства, частавала яго і ласавала. У паленніцы дроў выпарала невялічкае гняздзечка. У ім было з поўдзесятка маленькіх сіняватых яечак. Яны былі надзвычайна смачныя і Мішка аж задзіраў пысу ўгару і, звярнуўшы ў трубачку язык, высмоктваў іх і, забыўшыся, глытаў і шкарлупкі.

Пасля пайшлі праз балота, старанна абыйшлі месца, дзе чуваць былі конскія балабоны—з балабонамі чуваць былі і людскія галасы. І хоць Мішка ні разу чалавека не бачыў, але па таму, як ухілялася старая маці сустрэч з чалавекам, адчуваў, што гэта не іначай, як самы хітры вораг, магчыма, што нават хужэй, чымся жаба, альбо чмель, ці, скажам там, вожык. З гэтымі ўсімі паспеў пазнаёміцца Мішка і знаёмствы не далі яму асаблівай прыемнасці. Паспрабаваў раз жабу лізнуць языком—пляваўся колькі, ды дні з тры язык усё садніла, гарэніла. Добра даўся чмель у знакі, доўга ганяўся за ім Мішка. Прыгожы быў чмель, вясёлы такі, залацісты. Сам не вялічкі, а голас дае—ку-у-ды там, гудзіць аж трава калышацца. Ганяўся Мішка за чмелем і ўбачыў, як схаваўся той у невялічкую купіну. Тут і пачаў пароць яе Мішка, носам рыць. Рыў, рыў, ды як узраве нечакана, аж матку перапалохаў, тая з бярлогі была вы-

скачыла. Дні са два пух нос з таго часу, гарэў усё. Мішка і ў вадзе яго паласкаў, і аб матчыны бакі цёр, да сырой зямлі прыкладаў. Сяк-так адратаваў нос. І цяпер, калі заўважа чмеля, дык бокам, бокам, ды за куст куды падалей ад чортавай мухі. Вось вам і чмель.

Пра вожыка і казаць не прыходзіцца, гэта ўжо такі звер, страшней якога, мусіць, няма і на свеце. Дапяклі раз Мішку і пчолы. Хадзілі раз з маткай у глухі бор. Лазіла матка на хвою, залезла высока, высока, ледзь відно яе ад зямлі, з-за папараці, за якой прылёг Мішка. І вось, як зараве раптам маці, як затрашчыць нешта ўгары, сухія галінкі ляцяць, цярушацца, ды гуд пашоў па ўсёй паляне. Не злезла, а саскочыла маці, ды ходу; Мішка за ёй. Бяжыць, а пчолы за ім—і на галаву, і на хвост, і за пуза ўчапіліся. Лезуць сляпіцаю ў нос і ў вочы. Што ні рабіў Мішка—і аб кусты цёрся, па зямлі качаўся—нічога не дапамагала. Покуль з маткай у ваду ўскочылі, у рэчку—тады толькі і ачухаліся: ад пчол адмахнуліся. І дні тры хадзіў сам не свой, хварэў нават троху. у бярлозе адлежваўся. Вочы так паапухалі, што нічога не бачыў. Губы апухлі, нос, ні да чаго не дакрануцца. Але-ж якім потым мёдам частавала маці—еў бы, здаецца, штодня, ды смакаваў-бы. Вось яны якія тыя пчолы былі!

І хоць баяўся Мішка і жабы, і чмеля, і пчол, і вожыка, але бачыў, што матка на іх і вокам не кідае, зусім не баіцца. А чалавечы голас калі пачуе,—баіцца. Відаць чалавек страшней за чмеля, за жабу. Вось і цяпер матка асцярожна абнюхвае паветра і ідзе ў другі бок па глухіх балотных сцежках. „Відаць у авёс"—думае Мішка. І сапраўды, хутка выйшлі на вялікую паляну ў лесе. На ёй раскінуўся малады авёс. Ён яшчэ не паспеў, быў зеленаватым і толькі дзе-ні-дзе трапляліся жоўтыя, залацістыя лапікі спелага. Ад лёгкага ветрыку ходзяць па аўсе дрыготкія хвалі і яны поўнілі паляну ціхім, супакойваючым шолахам. Нібы пера-шэптваліся калосікі—шу-у—... шу-у-у-у... Любіў Мішка гэты шолах, гэтыя ціхія, ледзь чутныя, галасы аўсяных каласоў. Ляжа ў баразёнку і прыслухаецца. Над ім глыбокае сіняе неба, высока-высока плывуць празрыстыя хмарынкі, пад імі плавае каршак, праляціць крумкач, пранясецца стада качак. У іх крыллі—свістулькі, толькі і чутно: ф'ю... ф'ю... ф'ю!.. А авёс шуміць—шу-у-у... шу-у-у...

Слухае Мішка і дрэмле, зіму ўспамінае, калі шумелі дрэвы, як гэты авёс. Праўда шум той быў куды мацнейшы і грозны, хоць і чуў яго Мішка праз сон, праз сваю зімовую спячку. Не шумела, а гуло па верхавінах, па аснежаных лапах елак—угу-гу-у-у-у... у-у-у... І было тады страшна холадна, памятае Мішка, як курылася парнасць над бярлогай і ад парнасці тае звісалі празрыстыя ледзяныя сасулькі, аб іх накалваў нос Мішка, калі намагаўся пад самую вясну выпаўзці з бярлогі.

Любіць Мішка слухаць аўсяныя шолахі. А яшчэ больш да спадобы яму аўсяныя калосікі. Салодкія яны, пахучыя, як матчына малако. І аскубае Мішка авёс, поўнымі жменямі заціскае ў рот, а калі прытаміўся хадзіць на задніх лапах, калі наеўся, тады прылёг і, прымяўшы лапай колькі сцяблінак, ляніва перабіраў іх губамі, смакаваў кожны колас.

На паляне яны былі не адны. Прышоў яшчэ адзін стары мядзведзь. Быў ён надзвычай пануры, сярдзіты. Без усякай прычыны накінуўся на Мішку і так скубануў яго зубамі, што той аж зайшоўся ад рову. Тады заступілася матка і так грозна пачала наступаць на мядзведзя, так моцна ўдарыла яго пярэдняй лапай, што стары мядзведзь бегма кінуўся ў лес, затрашчала толькі ламачча ды кусты арэшніка. Па рыжай падпаліне на баку ў мядзведзя Мішка пазнаў у ім свайго бацьку і здзі-

віўся: вот дык бацька, вот дык добра выхоўвае ён сына, выскаляючы на яго зубы...

Без лішніх прыгод пашлі яны назад. Мядзведзіца ішла побач з Мішкам, старанна залізвала яму шыю, дзе былі сляды ад бацькавых зубоў, і ціха вурчэла пад нос аб нечым сваім, мядзвежым. Калі пераходзілі праз ручэй, мядзведзіца ўзяла Мішку ў пярэднія лапы і пачала купаць яго. Не асабліва паважаў Мішка гэтую аперацыю і ў другія разы з усіх сіл намагаўся наўцёкі, спрабаваў кусацца. Але цяпер, узгадаўшы матчыну абарону і клопаты, паслухмяна цялёпкаўся ў вадзе і падстаўляў пад матчыны лапы то адзін, то другі бок. Пасля купання весела бегаў па лесе, ганяўся за белымі матылямі, куляўся па зялёнай траве, каб хутчэй абсушыцца.

Калі прышлі ў бярлогу, матка завалілася спаць. Бярлога была прасторнай і ўтульнай. Хапала цёплага моху, сухога лісту. Уверсе было багата пераплеценых карэнняў ад паваленага дрэва, так што столь была добрая, шчыльная, ніколі не прапушчала дажджу. Бярлога была ў дзікім гушчарніку, ніхто не парушаў спакою, хаця і праходзіла недалёка лясная дарога, але была яна глухой і непраезджай. Колькі разоў выбіралася мядзведзіца з Мішкай на гэтую дарогу, каб пагрэцца на сонцы і ніколі не сустракалі тут чалавека.

Маці адпачывала, а Мішку не было ніякай ахвоты да сну. Ён у каторы ўжо раз абследваў бярлогу, абнюхваў кожны каменчык, кожны корань. Праўда, цікавага ў гэтым было мала. І калі ўсё гэта надакучыла Мішку, ён выбраўся з бярлогі на волю. Там было весялей. Добра было пакуляцца ў верасках, пабегаць сярод папараці, пастаяць перад муравейнікам і, запусціўшы ў яго лапу, разварушыўшы, хуценька, адскочыць у бок і пазіраць як бегаюць неўгамонныя мурашкі, цягаюць сцяблінкі, пераця͏гваюць белыя яечкі. Багата чаго ёсць у лесе і паглядзець, і паслухаць. Вунь дзяцел дзяўбе старую алешыну. Усеўся, учапіўся лапамі за кару і стукае сабе, дзяўбе носам—тук-тук, тук-тук... Паспрабаваў раз Мішка стукнуць носам па дрэву, але ніякага тук-туку не вышла. Адна толькі няпрыемнасць была, садраў нос і больш нічога...

А там вунь вавёрка пераскаквае з галінкі на галінку. Уселася, ды чапурыцца, не зважае на Мішку. Той і сяк і так—зубамі лясне, і лапай зямлю дзярэ, і голас спрабуе падаць—а вавёрка нічога, хоць бы зірнула раз, матляецца толькі хвост, як мяцёлка. Узлаваў тады Мішка, да хвойкі кінуўся, стукнуў лапай па ёй. Вавёрка пераскочыла на другую хвойку, з той на трэцюю. Мішка за ёй. Спрабаваў на хвойку ўзабрацца. І вот-вот, здаецца зловіць вавёрку, але дзе ты яе возьмеш, калі яна скача, як блыха. Раз такі скочыў з дрэва і сам Мішка, думаў што паляціць, як матыль, услед за вавёркай. І вот-вот, здаецца, зубам за хвост учэпіцца; раскрыў ляпу шырэй, каб хваста не ўпусціць. Дык дзе-ж ты бачыў! Секунда—дзве і поўен рот зямлі, ды нагу падбіў, так ляснуўся аб зямлю. Добра яшчэ, што дрэва было нізкае, маглі-б Мішкавы палёты кончыцца куды хужэй. Дасталося тады Мішку парадкам і ад маткі-і прышлося яму назаўсёды кінуць свае лётніцкія практыкаванні. Няхай яны, тыя вавёркі лятаюць, ды матылюшкі якія, а яму, Мішку, хопіць і па зямлі хадзіць ды на хвойкі лазіць.

Бегаў, бегаў Мішка каля бярлогі і ўспомніў, што сёння ён яшчэ зусім не спрабаваў малін. Гэта-ж трэба, каб у маліньніку жывучы, ды маліны не паспытаць. Успомніў і пра матчыны загады—без яе нікуды не хадзіць. „Але-ж гэта зусім блізка, недалёка ад дарогі, ці я заблуджуся? Ды матка спіць цяпер і не заўважа нічога...“—падумаў Мішка

і пашоў па-ціху ў маліннік, зусім не прадбачучы тых падзей, якія адбыліся з ім пасля ў гэты дзень.

Але аб гэтых падзеях раскажам далей.

## Пра вясёлую бараду і пра чорнага Жука

Пакуль Мішка будзе ласавацца малінай, нам прыдзецца сказаць некалькі слоў пра Буржуя ды пра чорнага Жука. Сказаць, каб жылі яны ў вялікай паміж сабою згодзе—будзе няпраўда. Заўсёды Буржуй задаваў вялікага форсу перад Жукам, важнецкі прахаджваўся перад ім, ганарыста трос барадой, або, набраўшыся надзвычайнага спрыту, нечакана кідаўся на яго, каб падчапіць на рогі. Жук выскаляў зубы, пагрозліва бурчэў і калі Буржуй не пакідаў сваіх ганарыстых выбрыкаў, Жук адыходзіў куды-небудзь пад куст, далей ад назолы. Лежачы там у цяньку, і ляніва адганяючы мух, Жук пазіраў прыжмураным вокам за Буржуем, за яго фокусамі і вывертамі. А чаго, чаго не вырабляў Буржуй. Вось ён забіраецца аж на самую верхавіну паваленага дрэва, гоцае адтуль з усіх чатырох капыцікаў на дол—не раўнуючы, як лёгкая ваверка ці той матыль. Вось ён убачыў высачэзны пень, абышоў яго, панюхаў, лізнуў, потым адышоў назад і, павярнуўшыся, пераскочыў яго з разгону, аж захрупасцелі капыцікі па зямлі, узнімаючы пыл над палянай, над верасамі.

І гэта не ўсё.

Вось ідзе чырвонаармеец. Буржуй ужо тут, як тут. Рожкі наперад і не дае праходу ні направа, ні налева. З дарогі не саступіць, ды пагрозліва памахвае галавой.

Ну што ты з ім зробіш?

Чырвонаармеец дастае з кішэні махорку, сыпле на далоню, падстаўляе Буржую.

— На, адчапіся, ірад, некалі мне тут з табою разгаворы разгаварваць...

А таму толькі гэта і патрэбна. Злізаў табаку, засыпаў за губу і жуе, пражоўвае, салодка прыжмурыўшы вочы. Да чаго-ж махорку любіць Буржуй, пра ўсякія фокусы тады забывае. Стаіць, не зварухнецца, толькі барада трасецца, ды з вялікага задаваления раскрые часам рот, ды на ўсю паляну:

— Бе-е-э-э!.. Бе-э-э!..

Глядзіць тады на яго Жук, глядзіць, уздыхае. Дужа яму не да спадобы табачныя практыкаванні Буржуя: ну, які там смак з табакі, ад дыму табачнага ўцякаў, як мага далей. Глядзіць, глядзіць, ды ўслед за Буржуем на ўсю паляну, на ўвесь лес:

— Га-а-ў!.. гаў!.. гаў!.. Га-а-ў!.. гаў!.. гаў!..

Залівaецца брэхам, ды хвастом па зямлі б'е—ад злосці на Буржуя, ад вялікай да яго знявагі.

Збягаюцца тады вясёлыя чырвонаармейцы. Рогат, жарты. Над Буржуем, ды над Жукам смяюцца:

— Чаго толькі вы не падзялілі!

Можна падумаць, што Буржуй і Жук такія ўжо адвечныя ворагі і што яны так не паважаюць адзін аднаго. Гэта зноў такі няпраўда. Калі пазнаёміцца з імі бліжэй, дык мы ўбачым, што яны самыя найлепшыя дружакі. І калі Буржуй фарсіў крыху перад Жукам, дык гэта толькі для віду, для адводу воч. Паспрабуйце-ка пакрыўдзіць каго-небудзь з іх, ну, хоць бы Буржуя. Тады такога дыхту задасць вам Жук, што вы дзеся-

таму закажаце крыўдзіць яго друга. Не адстане і Буржуй у спрытнай абароне свайго прыяцеля.

Але хто-ж такія Жук ды Буржуй? Адкуль яны ўзяліся? Як апынуліся яны разам і пры чым тут чырвонаармейцы?

Жук быў звычайным сабакам, звычайнай пароды. Ні асаблівымі здатнасцямі, ні асаблівымі талентамі ён не мог пахваліцца—сабака, як і ўсе сабакі. Толькі вось бок хіба крыху падпалены, дык гэта ўжо ад паходнага жыцця, прыпаліў ноччу ля агню, грэючыся ў халодную восеньскую ноч. Не такі ўжо і Буржуй прыгажун—шэрая ўзлахмачаная поўсць вечна ў рэп'ях, у саломе. Левы рог напалавіну збіты—страціў дзесьці ў гарачых бойках. Куртаты хвост—адна відзімасць. Але затое-ж барада—сапраўдная краса і гонар Буржуя. І хоць абскубена яна была крыху, і няроўныя валасіны былі ў ёй, і рэп'еў хапала ў ёй—усё-ж была яна барадой, якой і належыць быць у паважаючага сябе казла. За гэту бараду, а ні за што іншае і празвалі казла Буржуем... Ідзе Буржуй, барадой трасе. Бяжыць—барада падскаквае. Стане есці—барада матляецца. Прыго-о-о-жая барада!

І Жук, і Буржуй, былі да некаторай ступені вайсковымі асобамі. Жук быў у першым батальёне, Буржуй—у другім. Так і хадзілі штодня з палком у вялікіх паходах. Ці холад, ці спякота, ці снег, ці дождж—ідуць баявыя батальёны чырвонаармейцаў. І хоць цяжка ў дарозе—і ногі ныюць, і муляюць плечы—не сумуюць байцы, песні спяваюць, жарты ладзяць, гармонік заводзяць. А калі заціхае часам гармонік, тады выступаюць батальённыя весялуны—Жук ды Буржуй. І чаго-чаго толькі не робяць яны. Пераскаквае Буржуй цераз Жука. Жук намагаецца ўхапіць Буржуя за бараду, але, напароўшыся на рогі, спрытна ўцякае ў кусты, адкуль робіць спробы нечакана ізноў атакаваць свайго прыяцеля. Такі часам вэрхал узнімуць, такую тузаніну, што хоць ты вадой іх разлівай. Спектакль—дый годзе. А кончаць спектакль, ходзяць па шарэнгах, у вочы байцам пазіраюць. Ну ясна, трэба скарыначку хлеба даць, цукрам пачаставаць. І давалі, і частавалі. Любілі чырвонаармейцы сваіх весялуноў і з батальёна іх не адпускалі. Да таго любілі, што нават ганарыліся імі і задзіралі нос перад трэцім батальёнам, які не меў нікога,—ні казла, ні Жука.

Калі часам Буржуй па сваёй несвядомасці заходзіў пачаставацца у трэці батальён, яго адразу-ж знаходзілі і выводзілі адтуль. Чырвонаармейцы другога батальёна баяліся, каб трэці батальён не скраў часамі іхнага весялуна, іхнага барадатага актора. Скрасці, не скрасці, а падкупіць маглі—дужа ласы быў Буржуй на цукар і на махорку. Жук быў больш свядомым і свайму батальёну здрадзіць не мог—ніякія подкупы на яго не дзейнічалі, нават агрызаўся часам на такія подкупы і яго пакідалі ў спакоі. Ён быў таксама і больш храбрым, больш адважным, чым яго прыяцель. Ён не баяўся стральбы, боя. Разам з байцамі ішоў у атаку, хадзіў па начах у дазоры і старанна выконваў там дазорную службу: ніякі вораг не мог падкрасціся непрыметна ўночы да нашых часцей. Буржуй-жа пры першай стральбе страчваў увесь свой ганарысты выгляд, з усіх ног кідаўся назад, у абоз, за што і звалі яго часам дызертырам і сaрамілі перад усім батальёнам. Але якая-ж у Буржуя совесць. Стаіць нізка апусціўшы галаву, вокам не міргне. Страсане барадой ды завядзе сваю жаласлівую песню:

— Бе-э-э-э...

Ну што ты з ім зробіш!

Дык вось якія былі Жук ды Буржуй. І не дзіва, што чырвонаар-

мейцы ганарыліся імі, пеставалі іх, сваіх актораў-весялуноў, і задзірал носа перад трэцім батальёнам. Але ў хуткім часе здарыліся тыя падзеі, пра якія мы абяцалі расказаць яшчэ ў канцы першай главы. Гэтыя падзеі паставілі на другі план і Жука і казла Буржуя, а трэці батальён пачаў задзіраць носа і перад першым і перад другім батальёнамі. Аб гэтым мы далей і раскажам.

## Як Мішка трапіў на вайсковую службу

Была ціхая летняя раніца. Сонца яшчэ не паспела забрацца высока і пералівалася мільёнамі агеньчыкаў у роснай мураве, на палянах, паблісквала на вільготным лісці бяроз, рассыпалася залацістымі плямамі праз лапкі ялін, праз кучомістыя верхавіны хвой. І калі трапляла сонца на спелыя ягады маліны, яны гарэлі як камні-самацветы. І пах ад іх ішоў далёка-далёка, праз лес, праз балота, да самае лесавае дарогі. Ягады пахлі летам, сонцам, зялёнаю муравою палян, ды чым толькі яны не пахлі! Знай толькі адно: еш, не лянуйся! І Мішка стараўся. Спачатку абскубаў ягады лапай, еў, хапаў усё, сапеў, набіваў повен рот малінамі разам з лісцем, з маленькімі мурашкамі, з недаспелымі ягадамі. Калі-ж наеўся, стаў больш пераборлівым: стаіць, прыглядаецца, самую спелую ягадзіну выглядае. Выглядзіць маліну, на якой сонца больш пераліваецца і нацэліцца паважна языком, старанна зліжа ягадзіну і вочы прыжмурыць ад вялікага задаволення.

Вялікі ласун быў Мішка!

А ў гэты час па дарозе шоў полк. Шлі батальёны адзін за адным. За батальёнамі шоў абоз, паскрыпвалі колы, пастукваючы на карэннях хвой і ялін. Зрэдку іржалі коні. Чуў гэтае іржанне Мішка, але заняты ягаднай справай і не падумаў, што-б то магло значыць. Ці мала коні іржуць на балоце, яшчэ часам балабонамі пазваньваюць, калі бываюць там на начлезе. Дык вялікі то клопат, гэтыя коні, дужа яны Мішку патрэбны!

А полк тым часам спыніўся на адпачынак каля дарогі, чырвонаармейцы пачалі разыходзіцца па лесе: хто за вадой, кто па сушняк для цяпла, а хто і ў грыбы, ды па ягады падаўся. За імі следам пацягнуліся Жук і Буржуй. Хоць іх і не цікавілі дужа ягады, але-ж не маглі адстаць ад кампаніі. Такую прывычку займелі за свае паходнае жыццё.

А Мішка тым часам думаў ужо, як бы гэта падацца назад да роднай бярлогі. Але троху пабойваўся маткі—няйначай дасць цяпер па карку за самавольную адлучку. Ды і месца было дужа прыгожае, прыгравала сонца, маліннік пах, пад нагамі пасцілаліся пухнатыя махавіны—мяккія, цёплыя. Зялёнае лісце брусьнічніка ярка блішчэла на сонцы. Ну як не пабегаць тут, не пабязуліць, не перакуліцца некалькі разоў цераз галаву, ды, легшы на спіну, падняць угору свае куртатыя лапы і ўзірацца ў глыбокае сіняе неба, якое здавалася Мішку вялікім-вялікім возерам лесавым. Толькі дзіва—на возеры сонца плыве, углядаецца з вышыні, аж вочы прыжмурыў Мішка, да таго хораша на свеце жыць, калі гэта матка ёсць, і маліннік ёсць, і маленькія птушкі-малінаўкі табе песні спяваюць, ды сама ягада ў лапу просіцца. Не жыццё Мішку—маліна!

І толькі гэта ён на лапах падняўся ды сухую ігліцу з хрыбта абтрос, як, зірнуўшы перад сабой, амаль не самлеў, аж захалодала ў пятках. Проста перад ім вытыркнуўся з-за куста ніколі нябачаны ім звер. Быў ён увесь белы, меў чатыры нагі, як і кожны звер, але былі ў яго

яшчэ рогі. І самае страшнае—была ў звера дзіўная барада, яна матлялася з боку ў бок, наганяючы яшчэ болей страху на Мішкава сэрца. Ніколі і нідзе не бачыў Мішка такой барады, і ні ў бацькі свайго, ні ў шэрых ваўкоў, што траплялісяча сам на лесавых сцежках, ні ў другіх звяроў і звярушак, з якімі даводзілася сустракацца. Ні ў зайцаў, ні ў лісаў, ні ў тоўстых барсукоў, ні ў калючага вожыка.

— Відаць, у барадзе ўся сіла...—сумна падумаў Мішка, мяркуючы, як бы ямчэй даць лататы, як бы спрытней уцячы пад матчыну абарону.

А звер усё ўглядаўся ў Мішку вялікімі шклянымі вачмі, нерашуча перамінаўся з нагі на нагу. Паварушыўся Мішка, каб павярнуцца як назад, намеціць шляхі да адступлення. І адразу бачыць: барадаты звер нібы таксама выказвае намеры да адступлення, на цэлы крок назад падаўся. Акрыяў тут Мішка, узрадаваўся.

— Ну, значыць жыць буду, паем яшчэ маліны ў смак...

І так яму жыць захацелася, што нават храбрасці пачаў набірацца, смялець пачаў, на цэлы крок да белага звера пасунуўся. Усё думаў.

— Вот бы за бараду яго цапнуць, сілу тую адчуць... Не можа быць, каб была гэтая барада мацней за мяне...

Нават словы маці ўспомніў, што няма ў лесе звера мацней і храбрэй, чым яны—мядзведзі. На хвілінку якую задумаўся:

— А што калі гэта—чалавек? А чалавек-жа страшней за ўсё, страшней чмяля і вожыка...

Але ізноў узгадаў словы маці аб чалавеку, які ходзіць толькі на двух нагах, а дзве другія для прыліку носіць, матляюцца яны без усякай справы.

— Выходзіць, што не чалавек...

І ціха, асцярожна, ды на крок наперад. Ужо нацэліўся лапай каб за самую бараду ўхапіць. І што тут толькі нарабілася. Не паспеў Мішка лапы падняць, як барадаты звер узвіўся маланкай угору, ды як сігане праз куст, аж маліны як пырскі пасыпаліся, у лісце зацярушыліся, і толькі трэск пашоў па ўсяму маліннiку, ды голас такі смешны і недарэчны:

— Бе-э-э-э...

То барадаты звер ратаваў сваю скуру, уцякаў з усіх ног, не на жарты напалохаўшы Мішку, які толкам і не ведаў, што-ж яму далей рабіць пасля такой сустрэчы з незнаёмай барадой. І не паспеў ён ачухацца як след, як новая напасць прышла, куды страшнейшая і меўшая нечаканыя вынікі для ўсяго Мішкавага жыцця. Яшчэ не знік трэск ламаемых галінак,—то ўцякаў Буржуй, ратуючы сваю бараду,—як новы звер раптам напаў на Мішку, ухапіў яго зубамі за нагу. Новы звер быў падобны на вялікага ваўка, але розніўся ад яго сваёй масцю, была яна задужа чорная. То быў наш Жук, які прыбег, каб ратаваць Буржуя. Мішка налаўчыўся быў укусіць Жука за хвост. Жук адскочыў як апантаны, але з яшчэ большай злосцю накінуўся на Мішку і яны, кусаючы адзін аднаго, пакаціліся па паляне, узнімаючы цэлыя горы пылу і пажоўклага лісця. І такі вэрхал паднялі, такую тузаніну, што іх адразу-ж прымецілі і дзесятак чырвонаармейцаў абкружылі іх, адцягнулі ад Мішкі раз'юшанага Жука. Мішка сядзеў на задніх лапах, жалобна скуголіў ды пярэднімі лапамі прыкрываў галаву, нібы абараняючыся ад шматлікіх ворагаў.

Эх, не есці цяпер болей маліны!—думалася Мішку, коса пазіраўшаму з-пад лапы на акружыўшых яго людзей. Але загінуць яму не давялося

Чырвонаармейцы надзелі яму нашыйнік і павялі ўрачыста да дарогі, дзе стаяў на прывале полк. Чырвонаармейцы былі з трэцяга батальёна. Яны былі надзвычай рады, што ўрэшце і ў іх завялася такая цікавая звярушка, ды не абы якая, а самы сапраўдны жывы мядзведзь. Праўда, іхны мядзведзь быў яшчэ не задужа вялікі, але затое ён быў усё-ж больш цікавым, чым якія-небудзь там Жукі і Буржуі з першага і другога батальёнаў. І сапраўды ўвесь нават полк зацікавіўся Мішкай і столькі народу збеглася, каб паглядзець на яго, што Мішка толькі вачыма лупаў ды думаў пра сябе:

— Ну і людзей! І ў кожнага відаць матка ёсць.

Успомніў пра матку і жалобна заскуголіў.

— А ты не плач!—весялілі яго чырвонаармейцы, угаварвалі ды пагладжвалі па цёплай, шэрай поўсці—аж сэрца захадзілася ад страху ў Мішкі, калацілася, як падбітая птаха. Спачатку думаў надаць сабе суровага выгляду, ашчацініў хіб, выскаліў зубы, але ўбачыў, што ніхто яго не хапае зубам, не б'е лапай—і супакоіўся, стаў ласкава пазіраць на ўсіх.

— А ты даўно-б так, дурань ты гэтакі,—сказаў адзін з чырвонаармейцаў.—Няма, браце, табе чаго злавацца...

І хутка кавалачак цукру прынёс, палажыў перад Мішкай. Усе згрудзіліся, дзівіліся: што-ж будзе Мішка з цукрам рабіць. Мішка зірнуў на цукар, нагой варухнуў: нічога, не кусаецца! Тады асцярожна панюхаў—не, нічым асабліва страшным не пахне. Тады зусім асмеліўся і языком лізнуў. Спадабалася. Узяў лапай цукар і на язык паклаў. Да чаго-ж добра! Аж вочы прыжмурыў. Доўга смактаў кавалачак, ласаваўся, прагна пазіраючы кругом, а ці не дадуць яму яшчэ які кавалачак. І калі далі другі, да таго асмеліўся, што нават руку чырвонаармейца лізнуў ад вялікага пачуцця свайго, ад мядзведжай падзякі.

— Ну, цяпер мы з табой зусім прыяцелі!—жартавалі чырвонаармейцы і пеставалі Мішку, гладзілі яго, за вухам часалі. Мішка кінуў агрызацца, зубы скаліць, ды толькі соладка жмурыў вочы ад вялікай сваёй уцехі. Далі Мішку яшчэ хлеба, кансерваў рыбных. Палкавы кашцёр падаіў карову ў абозе, малака прынёс кацялок. Наеўся Мішка, напіўся і ад вялікага задавалення пачаў у пясочку куляцца, на задніх лапах хадзіць ды ўсякія фокусы выраблядь: цераз галаву куляцца, на пярэднія лапы станавіцца, як гімнаст які спрытны.

— А ну, Мішка, яшчэ! Паддай форсу, паддай!—падбадзёрвалі чырвонаармейцы новага весялуна, хапаліся за бокі ад смеху, трэці батальён віталі з удачай.

— Гэткага артыста набылі!

Адным словам, увесь полк узлюбіў Мішку за яго вясёлы нораў, за вялікі спрыт і ўсякае ўмельства ў немудрашчых справах мядзвежых. Толькі Жук пазіраў падазрона на Мішку, выказваў яўныя намеры ўхапіць яго знянацку за вуха, ды злосна вурчэў, калі Мішка падыходзіў да яго бліжэй. Але чырвонаармейцы намагаліся іх памірыць, зрабіць сталымі дружбакамі. Ды Буржуй баяўся падыходзіць блізка да Мішкі, усё паглядаў здалёк ды жалабна галасіў:

— Бе-э-э-э...

Відаць асцерагаўся за сваю бараду, якую паважаў праз меру, ганарыўся ёю. Пасмейваліся чырвонаармейцы над ім:

— Чаго галосіш, Буржуй? А яшчэ барадаты... І рогі ёсць, і капыцікі ёсць, а глядзі ты, баіцца... Бліжэй падыходзь, захадзі ў кампанію, махоркі дамо...

уніз, а палякам здалося, што гэта бомбы ляцяць. Ім падумалася, што гэта чырвоны самалёт ляціць, пабфарбаваўшы на крыллях іхныя знакі. І такая тут стральба пачалася, такая пальба з гармат і з ружжаў, што збіты з усякага толку лётнік павярнуў самалёт назад і паляцеў зноў на чырвоную тэрыторыю. Лётнік кіраваў машынай і палахліва азіраўся навакол, не разумеючы, чаму па ім, па польскім самалёце, так заўзята страляюць палякі.

Зірнуў ён і назад, на задняю кабіну. Зірнуў—і вочы на лоб палезлі; проста на яго пазіраў і не хто-небудзь іншы, а самы сапраўдны мядзведзь, ды пры тым у лётніцкім мундзіры.

Сон дурны, страшны сон!—падумалася лётніку і ён ушчыпнуў сябе некалькі раз да крыві, каб прачнуцца. Нічога не выходзіла. „Сон“ не праходзіў. Мядзведзь як сядзеў у кабінцы, так і сядзеў, ды яшчэ намагаўся стаць на заднія ногі. Пабялеў лётнік, надумаўся ўцякаць з кабінкі, падалей ад такога гасця, прыўзняўся на сядзенні, але Мішка таксама прыўстаў у кабінцы і пярэдняй лапай так пацісунуў за плячо лётніка, што той не асмельваўся болей і рухацца. А бензін тым часам сыходзіў, пачаў захлібацца матор, перабоі даваць. Самалёт ляцеў зноў над самым лесам, лётнік напалоханы выглядаў мясціну дзе-б зручней сесці. І не паспеў выбраць, як змяшалася ўсё ў стракатую кучу і абодвы нашы лётнікі—сапраўдны лётнік і лётнік па няшчасцю—Мішка—страцілі памяць. Яны праляцелі некалькі сажняў у паветры, збілі цэлую гару хвойнага вецця і, перакуліўшыся некалькі разоў па ўскраіне паляны, улягліся непадалёчку адзін ад другога, ледзь варушачы рукамі і нагамі. Перакулены самалёт павіс на высокім хваёвым гушчарніку. „Апусціліся“ на тую-ж паляну, з якой падняліся.

Збегліся чырвонаармейцы, вылілі на лётнікаў вядры са два вады, доктара прывялі. Той даў нашатыру, уліў на чарцы спірту ў рот. Вярнулася памяць да лётнікаў, заварушыліся жывей. Першым ачухаўся Мішка. Ён прыўзняўся на пярэднія лапы і асалавелым вокам—другое было падбіта, запухла—пазіраў на ўсіх не зусім добра разумеючы, што з ім здарылася. А навакол смяяліся, жартавалі над Мішкам, віталі яго.

— Герой, Мішка! А мы ўжо думалі, што ты здраднік. Гэта-ж трэба ў польскія лётнікі падаўся, мундзір надзеў, уцякаць у Польшчу надумаўся... Аж глядзім, ляціць Мішка назад, цэлы самалёт цягне!.. Маладзец Мішка, што прымусіў яго назад ляцець...

І толькі тады, калі заўважыў Мішка Жука і Буржуя, якія прыбеглі падзівіцца на здарэнне, прышоў Мішка канчаткова ў памяць і цалуючыся са сваімі таварышамі, сумна ківаў галавою. Гэта азначала яго думкі да сяброў, да Буржуя:

— Паляцеў-бы ты Буржуй, вот так, як я, даведаўся-б пачым фунт ліха, абскуб-бы сваю бараду аб хвойнік!

Хутка ачуняў і лётнік. У яго была вывіхнута нага і ён непамерна стагнаў, пакуль доктар завіхаўся ля нагі. Але потым аправіўся і ўсё дзівіўся, як гэта магло здарыцца так, каб па ім стралялі свае. І яшчэ больш дзівіўся саўдзельніку свайго апошняга шалёнага палёта—Мішку ў мундзіры. Лётніка ўзялі ў палон, самалёт сцягнулі з дрэваў, падправілі, перафарбавалі і адаслалі ў нашу эскадрыллю.

Так пачаў і закончыў Мішка сваю лётніцкую кар'еру, абмежаваную, як мы бачым, адным палётам, меўшым для яго не зусім вясёлыя вынікі—вока падбіў, лапы трохі пашкодзіў, сям-там памяў рабрыны. Адным словам, пешака хадзіць было дужа цяжка для Мішкі пасля яго лётнай аварыі. Таму і рашылі, пакуль паправіцца Мішка, зрабіць яго кавале-

рыстам, пакольki не было вольнага воза, дзе можна было-б вазіць Мішку. Магчымасці-ж для кавалерыйскай справы былі ў выглядзе вялікага старога мула, якога незручна было запрагаць у воз, а верхам на ім не адважыўся ехаць ніводзін з чырвонаармейцаў, бо веў ён сябе надзвычай непрыемна, як і належыць весці сябе патомку звычайнага ішака. Мул быў зусім вольны, хадзіў без усякіх абавязкаў і толькі псаваў дарма харчы. Таму на яго і паў выбар вазіць на сабе Мішку да таго часу, пакуль канчаткова ачуняе няўдалы лётнік. Чырвонаармейцы прымайстравалі на мула некалькі звязаных мяшкоў з сенам, вышла не сядло, а цэлая мядзведжая раскоша. Мішка мог садзіцца, мог ляжаць, мог нават станавіцца на гэтым сядле на заднія ногі. Адным словам мог масціцца так, як таго пажадае яго генеральская воля.

І Мішка важна сядзеў на высокім муле і ўрачыста пазіраў на ніз, дзе ішлі Жук і Буржуй. З мулам было багата клапот, быў ён наўздзіў упартым, наравістым. Упрэцца часам і з месца ні на крок. І колькі не ўпіраецца Жук—а яму даручылі вадзіць мула ўслед за сабою—за вяровачку—колькі не скача навакол Буржуй, падганяючы кавалерыю—мул ні з месца. Тады спрытны Жук змяніў тактыку. Ён кідаў повад, за які вадзіў кавалерыю і адбягаў назад, каб ухапіўшы мула за хвост, цягнуць яго назад. Упарты мул не падаваўся, зразумела, на Жукавы намаганні пацягнуць яго назад і смела рушыў наперад. А гэта толькі і трэба было Жуку і ўсёй нашай палкавой капэлі, як празвалі чырвонаармейцы Мішку, Жука і Буржуя. Капэля ўрачыста сыпала па дарозе, каб спыніцца дзе была патрэба ў ёй дзе, скажам, прасілі паказаць сусветную „гідру" ці іншае якое „прадстаўленне". Тут-жа на сядле, як на добрай шырокай сцэне, і пачынаў Мішка паказваць „гідру". Але тут часта здараліся ў Мішкі буйныя непаразуменні з мулам. Толькі гэта Мішка на спіну ўляжацца і нагамі задрыгае, паказваючы канание сусветнай „гідры", а мул возьме і зараве, і такім голасам, што ўсякаму прадстаўленню канец. Да чаго майстар быў мул крычаць, і да чаго быў голас яго празлівы, можна меркаваць хаця па тым, што нават Буржуй—да чаго ўжо скромная асоба, не меўшая асаблівага музычнага слуху—і той бег без памяці куды-небудзь у кусты, каб дзе далей схавацца ад мулавых галасавых практыкаванняў. Мішка, як артыст, не мог цярпець над сабою такіх мулавых зняваг і, спыняючы паказ гідры, пачынаў вучыць добрым манерам гэтага дастойнага патомка асла. Але як ты навучыш яго добрым манерам. І варта было мулу атрымаць разы два па загрыўку ад Мішкі, як ён зусім вар'яцеў і пачынаў выкідваць такія нумары, што Мішка адчуваў сябе як на самалёце: мул брыкаўся, кілаўся на дыбкі, імкнучыся скінуць артыста на зямлю, альбо кідаўся ў такі шалёны галоп, што ў Мішкі духі заходзіліся.

Звычайна, капэля ў такія хвіліны мела надзвычай трагічны выгляд. Мул шалёна скакаў, як мага вышэй падкідаючы заднія ногі. Мішка, учапіўшыся абедзвюма лапамі за сядло, і спаўзаючы з гэтым сядлом наніз, пачынаў несусветна раўсці, наганяючы яшчэ большую пан'ку на свайго скакуна. Побач з „кавалерыяй" ляцеў Жук, намагаючыся ўхапіць „кавалерыю" за павадок, каб спыніць яе. Зразумела і ён не адставаў у агульным канцэрце, удзельнічаючы ў ім басавітым брэхам. Услед за капэляй, высалапіўшы язык, ледзь паспяваў Буржуй і галасіў на ўвесь свой дрыготкі і хліпкі голас:

— Бе-бе-бе-бе-бе-бе...

— Ізноў артысты кур'ерскім паімчалі!—пасмейваліся чырвонаармейцы з сваёй капэлі. Кончыліся Мішкавы кавалерыйскія курсы даволі трагічна

для яго скакуна. Узлаваны мул, калі Жук павёў яго ў балотную канаву на вадапой, ніяк не хацеў варочацца на дарогу і ўсё намагаўся ісці далей праз балота. Упіраўся да тых пор, пакуль не загруз на ўсе чатыры нагі. І колькі не намагаўся Мішка і Жук, каб выцягнуць яго адтуль—нічога не вышла. Нічога не маглі зрабіць і падаспеўшыя чырвонаармейцы: мул загруз не на жарты: канчаткова і беспаваротна.

— Вот-жа жывёла ўпартая, лезе-ж куды на сваю загібель...—лаялі чырвонаармейцы Мішкаву кавалерыю.

Прышлося Мішку з мулам расстацца. Добра яшчэ, што да гэтага часу і лапы пазагойваліся пасля палёту і ён зноў мог трапна хадзіць пешака, як і хадзіў дагэтуль.

## Мішка—герой

Так жыў і ваяваў Мішка, быў артыстам, а калі даводзілася—рабіўся ваякай. Было ў яго жыцці багата і смешнага, бо быў ён надзвычай вясёлай асобай. Любіў сябе ўсцешыць і другіх пасмяшыць. І за гэта любілі яго, як толькі могуць любіць весялуна ў такіх цяжкіх і грозных умовах, як вайна, як даўгія паходы.

Было ў жыцці Мішкі багата чаго і гераічнага. Але сам ён ніколі не думаў аб тым, як-бы спецыяльна стаць героем, выкінуць які-небудзь асабліва гераічны ўчынак. Гераічнае прыходзіла само па сабе, прыходзіла неяк неўзаметкі, нечакана, як і заўсёды бывае з любой гераічнай справай.

Нам і засталося расказаць аб апошнім учынку Мішкі, калі ён зрабіўся самым сапраўдным, самым поўным героем.

Падыходзіла вайна да канца. Людзі пачалі пагаварваць аб блізкім замірэнні, але бойкі не сціхалі і зачыналіся часамі з яшчэ большай упартасцю, чымся з пачатку вайны. Была ўжо даволі позняя восень. Мішкаў батальён стаяў у тылу, адпачываў ад боек, хаця кожную хвіліну быў напагатове сустрэць ворага. Першы і другі батальёны былі на фронце, на перадавой лініі. Чырвонаармейцы трэцяга батальёна начавалі ў глухім лесе і хаваліся ад назольнага восенскага дажджу пад высокімі ялінамі, пад кустамі алешніку і ляшчыны. Сям-там расклалі пад дрэвамі невялічкія агні, грэліся, высушвалі мокрыя гімнасцёркі, мокрыя шынялі. Няпрытульна ў лесе позняй восенню. Няпрытульна і холадна. Мішка грэўся таксама каля агню. Нават лапу адну крыху абсмаліў, стараючыся падсунуць у агонь канец смалістага карча. Прыгрэўся Мішка і заснуў каля цяпла. А калі прачнуўся, пачало ўжо трошачкі развідніваць. Чырвонаармейцы яшчэ спалі, толькі зрэдку дзе стаялі паміж дрэвамі вартавыя. Не сунімаўся дождж. Ён сеяўся, як праз сіта і зольнаю імглой засціў дрэвы, засціў нізкае восенскае неба і да самых касцей праціnaў халоднымі дрыжыкамі анямелае ад сну Мішкава цела. Каб крыху сагрэцца і размяць здранцвелыя са сну ногі, Мішка палез на высокую хвою. Так практыкаваў ён кожную раніцу і гэта называлася Мішкавай гімнастыкай, яго фізкультурнай зарадкай.

Доўга лез Мішка на хвою. Саслізаліся ногі на мокрай ад дажджу хваёвай кары, ды не было нешта асаблівага спрыту ў Мішкі ў такія пахмурныя, непагожыя дні. Але сяк-так ускараскаўся на самую вершаліну, адкуль надзвычай добра былоназіраць над усім лесам, над лясавымі дарогамі, над далёкім полем, якое ледзь-ледзь чарнела скрозь дажджавую імглу. Усеўся Мішка на сук і пачаў азірацца. І тут заўважыў ён нешта цікавае для сябе, чаго ўдзень не бачыў і не заўважаў.

Зусім блізка ад яго батальёна з'явіліся паміж дрэў незнаёмыя коннікі, цэлыя групы гэтых коннікаў. Яны яўна набліжаліся да батальёна і шлі надзвычай асцярожна, перабягаючы групамі паміж дрэў, пільна ўглядаючыся наперад.

— Адкуль-то яны маглі з'явіцца? У нашым-жа палку амаль зусім няма коняй, што-б то значыла?—і толькі падумаў гэта Мішка, як адзін за адным раздаліся некалькі глухіх стрэлаў, потым яны зачасціліся і хутка пачалася такая страляніна, што хоць ты вушы затыкай. Яго спрактыкаванае вуха пачало адрозніваць басавітыя перакаты кулямётаў, ліхаманкавы бой вінтовак і ледзь не зваліўся Мішка з хвоі, калі недалёчка поблізу грымнула пярунамі гармата, грозна страсянуўшы паветра і веццe дрэў, з якіх паліліся ўніз цэлыя струмені вады на жоўты пясок, на мокрыя верасы. Дужа не любіў Мішка гармат. Мо' таму, што не асвоіў яшчэ артылерыйскія справы, мо' таму, што задужа ўжо грозна стралялі яны і водгукі стрэлаў доўга перакатваліся па лясах і палях, наганяючы жудасць і страх у Мішкава сэрца. Як бы там ні было, Мішка наважыўся пакінуць свой назіральны пункт і спусціцца ўніз, на зямлю, да сваіх. Але калі злез ён бадай на апошні сук, то заўважыў, што з сваіх не відаць нікога, усе даўно пабеглі кудысьці ў бок, у лагчыну, адкуль чуваць былі частыя стрэлы. Пад хвояй выстраілася больш чым сотня коннікаў і перад імі сядзеў на кані зусім незнаёмы чалавек і нешта торапка, спяшаючыся гаварыў да іх і злосна пакрыкваў, паказваючы рукой на лагчыну. І тут заўважыў Мішка сінія штаны на ім, ну няйначай тыя штаны, якія калісьці сілком надзявалі на Мішку і якія ён так странна падраў тады на дробныя мэтлухі.

— Няўжо ізноў тыя самыя штаны?—падумаў з крыўдаю Мішка?— Няўжо ізноў хочуць апрануць мяне ў гэтую адзежыну? Ды каб я сцярпеў?

Не мог, канешне, Мішка сцярпець такой знявагі, павінен ён яшчэ ў апошні раз расквітацца з гэтай амуніцыяй, ды так расквітацца, каб ніткі на нітцы не засталося ад гэтай прыкрай адзежыны. І толькі гэты чалавек пад дрэвам шабелькай махнуў, нейкую каманду пракрычаў, як Мішка, доўга не разважаючы і не думаючы аб парашутах, як дуж, гоцнуўся з дрэва і так лоўка патрапіў, што адразу апынуўся на кані пазадзе конніка з сіняй адзежынай. І толькі сеў, ды лапамі за штаны, і пачаў так шкуматаць іх, што толькі пыл паляцеў. І што тут нарабілася, Мішка і сам не ўяўляў добра потым. Адно памятаў, як зароў ён, скокнуўшы з хвоі на ўсё сваё мядзвежае горла. Коннікі ўсе шалёна панесліся, хто куды, скідаючыся ад страху на зямлю, валочачыся па зямлі паміж дрэў. Усе коні і тыя, што былі пад дрэвамі, і тыя, што ля кулямётаў і ля гарматы, адразу нібы ашалелі ад яго голасу, храплі, кідаліся пенай і шалёна імчалі, не разбіраючы ні лесу, ні дарог, ні блытаных лесавых сцежак. А з лагчыны, куды прымушаны быў адступіць Мішкаў трэці батальён перад нечаканым нападам прарваўшыхся польскіх уланаў, ужо чулася моцнае „ўра" і ашчаціненыя штыхамі чырвонаармейцы вярталіся назад, падбіраючы за сабой польскія кулямёты і гарматы, ловячы перапалоханых польскіх коняй, бяручы ў палон коннікаў. Мішка ўсё яшчэ сядзеў на кані, з якога даўно зваліўся коннік з ненавіснай для Мішкі сіняй адзежынай. Конь шалёна насіўся па лесе і, каб не скінуцца з яго, Мішка ўхапіўся за грыву і пярэднімі лапамі моцна ашчарэпіў конскую шыю. Урэшце, абяссілены конь на хвіліну спыніўся і спрытны Мішка хутка саскочыў на зямлю, не маючы асаблівага жадання шалёна гарцаваць па лесе.

Да Мішкі падбеглі чырвонаармейцы.

— Ну, і маладзец Мішка! Ты-ж проста герой, Міхайла Іванавіч! Ну, і Таптыгін! Гэткіх спраў нарабіў!

Мішка быў задаволены. Як-ніяк, Мішку ўпяршыню назвалі яго сапраўдным лесавым імем, паважаным Міхайлам Іванавічам Таптыгіным, як звалі яго прадзедаў і дзядоў. І толькі крышку сароміўся Мішка і ўсё неяк не мог раскумекаць як след, чаму гэта праз яго глыбокую ненавісць да ўланскай формы нарабіліся такія незразумелыя для яго справы і цэлы атрад коннікаў быў разбіт ушчэнт.

Такім быў апошні геройскі ўчынак нашага Мішкі. Апошні таму, што хутка скончылася вайна і Мішка вярнуўся да свайго мірнага жыцця, да глухіх лесавых бярлог, да лесавых сцежак і налітых сонцам маліннікаў.

### Што сталася з акторамі?

Што-ж сталася з нашымі героямі: Жукам, Мішкам і Буржуем? Дзе яны цяпер? Што робяць, жывуць як?

Жук вельмі пастарэў за гэтыя гады, сівым зрабіўся, аглух на адно вуха. Што-ж казаць—старасць... Але і да гэтага часу ён акуратна вартуе калгасныя свірны і гумны. І калі не дачуе крыху стары, дык яму дапамагае яго вялікае пакаленне: сыны і ўнукі —такі брэх учыняць, што вораг калгаснага дабра, як дуж, кідаецца падалей ад гумнаў і свірнаў, каб не трапіць на зубы сыноў і ўнукаў слаўнага Жука. А некаторыя з Жукавага племя, наслухаўшыся яго былых прыгодаў на вайне, на граніцу пашлі і дапамагаюць там чырвонаармейцам несці дазорную службу, вартаваць нашу граніцу ад ворагаў. Харошае племя ў Жука, вартае славы былога палкавога актора.

А што чуваць пра Буржуя? Нічога не чуваць пра Буржуя. Даўно загінуў актор яшчэ на самай вайне, ды загінуў па сваёй неасцярожнасці, сам сабе, можна сказаць, харакіры наладзіў. А вышла ўсё так: калі памятаеце—любіў Буржуй скакаць, пераскакваць праз што-небудзь: цераз плот, цераз пень, цераз канаву якую, і вось на прывале адным, калі гатавалі чырвонаармейцы кашу, Буржуй да таго разышоўся, што пачаў скакаць цераз вінтоўкі, якія былі складзены ў козлы, штыкамі ўгору. І це не разлічыў добра скоку Буржуй, ці паслізнуўся капыцікамі на мокрай мураве і не даў добрага разгону, але не ўдалося яму пераскочыць праз штыкі, напароўся на іх бедны актор, завіс і загінуў.

Батальённы капцёр прапанаваў быў пусціць актора ў кацёл, мяса Буржуева спажыць—трохі недалюбліваў ён калісь казла, ды і мяса была нехватка ў палку. Але чырвонаармейцы заступіліся за яшчэ цёплы прах свайго ўлюбёнца і далі капцёру суровы адпор:

— Як жа можна надругу такую над слаўным акторам рабіць? І зноўжа які наедак з яго: барада адна, ды косці старыя...

І ўрачыста пахавалі Буржуя пад высокай елкай, курганок яму насыпалі з жоўтага пяску, упрыгожылі папарацю і дзеразой і на невялікай дошцы гэткі надпіс пакінулі: „Тут пахаваны адзіны ў свеце любімы наш „Буржуй“

І ніжэй крышачку прыпісалі:

„Няхай жа мірна спіць у жоўтым пяску
Твая вясёлая барада...
І няхай сняцца табе мурожнага сена клок і
пачак махоркі зялёнай...“

Памяталі хлопцы пра табачную слабасць актора.

Так загінуў Буржуй. Сумавалі па ім хлопцы, але што-ж ты зробіш? Усякія ў жыцці здарэнні бываюць і тым больш на вайне.

А што сталася з нашым галоўным героем, з незвычайным ваякам Мішкам? Кажуць, што ён яшчэ жыве, хоць таксама пастарэў задужа, пасівеў і аблысеў, дзесьці ходзіць на Белавежскай пушчы—яго радзіме. Ходзіць дужа пануры, сумны, злосны. Мо' ад старасці, мо' ад нягод. Кажуць, па старому ненавідзіць усякія ўланскія формы. І не толькі ўланскія. Не любіць усё, што ходзіць з светлымі гузікамі па польскай зямлі і таму гэтыя гузікі баяцца з ім сустракацца.

Гэтаму можна верыць.

Гэта ў Мішкавым характары...

Дык вось якія слаўныя акторы былі ў нашым палку. Пра іх мы і расказалі тут, успамянулі іхныя справы, іхныя ўчынкі: звычайныя і незвычайныя, смешныя і несмешныя, геройскія і абыдзённыя, што здараліся з імі штодня.

Узгадалі іхную старасць, цёплымі словамі іх успомнілі.

А на гэтым канчаем.

1935 г.

---

Т. Кляшторны

# ДАРОГАМІ ШЧАСЦЯ

I

Там, дзе травы лугавыя,
Там, дзе вербы ля ракі;
Любай косы залатыя,
Любай вочы—васількі.

На калгасным полі рана
Песня чуецца яе,
Яна стройна і прыбрана,
Яна з сонцам устае...
Маё сэрца прыкавана
Да адзінае яе.

Ушаную наша свята
Я ўрачыстасцю сваёй:
Да яе прыеду ў сваты,
Прывязу дарункі ёй.

Падару шаўкі, атласы,
Сваё сэрца падару,
Авіем вянкамі красак
Нашу раннюю зару.

У совецкіх даль-прасторах,
Дзе красуе шчасце скрозь,
Не дагоняць ветры гора
Наш вясельны паравоз.

Нас у гэтых даль-прасторах
Ліхалеццю не дагнаць;
Будзе шчасце семафоры,
Нам, як маці, адчыняць.

З цеплатою дружбы чыстай
Нам адчыняць светлы ЗАГС,
Салаўі і цымбалісты
Там паручацца за нас.

А на дальным сінім пляцы
Ад світання залацей—
Сінявокае юнацтва
Нашых будучых дзяцей.

Там, дзе травы лугавыя,
Там, дзе вербы ля ракі:
Любай косы залатыя,
Любай вочы—васількі.

* * *

Па сенажаці квяцістай, густой
Моўчкі праходзіў з дачкою сваёй.

— Тата!—
Мне з плачам малая крычыць,—
Тата,
Ты кветку спаткаў—не тапчы!

— Любая дзетка,
Не плач па траве,
Чыстыя слёзы твае;

Чысты, як росы вячэрняй парой...
Лепш усміхайся вясной маладой.
Раніца сокам напоіць траву,
Кветка падыме сваю галаву...

Так мы праходзім далей і далей,
Гай салаўіны эддаль задрамаў,
Вечны рамантык лясоў—салавей
З кветак чаромхавых мёд дапіваў.

Колькі вякоў тут чаромхі цвілі,
Снегам губляючы цвет па зямлі!

Колькі праходзіла продкаў маіх,
Гай салаўіны быў не для іх!

Гэтаю сцежкай квяцістаю скрозь
Цвет асыпала мая маладосць.

Ветла кажу я дачушцы сваёй:
— Тут яшчэ з мамай тваёй
Мы так хадзілі...
Мядунка цвіла...

— Тата,
А я дзе была?
Што-ж вы не бралі мяне пагуляць?
Я не знайшоў што малой адказаць.

Я паказаў ёй між траў і між лоз
Танцы і гульні вясёлых стрэкоз,

Як узняліся яны чарадой
Па-над крынічнай лядовай вадой...

... Любая дзетка,
Як сонечны май
Шчасце сваё спатыкаць расцвітай!

Любая дзетка,
Шчаслівы наш час—
Гай салаўіны не замкнут для вас!

Гора з бядою па ветру сплылі,
Песціць вас сонца Совецкай зямлі.

А. Оршын

# КОБАЗЕЎКА

**З кнігі „Паўвека“**

## I

Калі ідзеш, не так моцна адчуваеш холад. Сакавік выдаўся капрызным: то ўсміхнецца і прылашчыць сонца, то абдасць марскім пякучым ветрам і нагоніць мокрага снегу і—раптам, падвечар, градусаў дзесяць—дванаццаць мароз. І варушышся—ходзіш па ўскраінах, дзе твой касцюм не ўзбуджае асаблівай увагі ў сустрэчных. На ўскраінах да „басоты“ прывыклі. Але вось, пачынаючы з ног, усё тваё цела быццам наліваецца і напаўняецца стомай—дзеравянее. Хочацца адпачыць—сесці, яшчэ лепш—легчы, выцягнуцца... Але дзе?..

І перад вачыма ўстае „Кобазеўка“. Брудная... такая не строгая, даступная, дзе за пры капейкі, у цёплым памяшканні, атрымаеш на цэлых 12 гадзін у поўнае сваё карыстанне плошчу ў аршын шырынёй і тры—даўжынёй з дзеравяным касяком пад галаву.

І кружышся цэлы дзень вакол... У пошуках чаго-небудзь з'есці ідзеш на бойню, на Волкавы могілкі, да „скорбящей“ на Неву, і адтуль несвядомая цяга да цяпла, да адпачынку зноў цягне да Новага маста, да абшарпанай Кобазеўкі...

Вось яна размесцілася ўздоўж набярэжнай Абводнага канала, ад Лігаўкі да Варонежскай. На Лігаўку глядзіць трыма радамі акон плоскі, брудна-ружовы з шэрым карнізам дом. У цэнтры дома, увешаны чырвонымі шыльдамі, пад'езд тракціра „Тамбоў“ Фралова. Злева, каля самага брандмаўера, падобны на тунель праезд, праз які відаць доўгі забрукаваны двор, заняты трыма флігелямі, у якіх размешчаны кобазеўскія ўстановы: пазычковая каса, танныя народныя лазні, танныя сямейныя лазні, гэта значыць—нумары, і начлежка.

Дзень. У кішэні ні капейкі. Ад слабасці і стомленасці ледзь трымаюць ногі. Холадна. Хочацца ў цяплыню. Думаецца, што ад цяплыні памацнееш. За рагом, на Набярэжнай у кобазеўскіх уладаннях, „Піцейны дом“, по-просту,—карчма Фралова. Там можна пастаяць пагрэцца каля печкі... А бывае, наскочыш на дабракоў—паднясуць шкалік і закусіць дадуць.

Насупроць карчмы, каля самай фанелі, стаяць двое возніцкіх коняй—гаспадары ў карчме. Каля коняй кружыцца нейкі кволы мужчына ў парыжэлым ватным пінжаку і шапцы-фінцы. Ён, відаць, выпіўшы: яго ногі ў залатаных „падшыванцах“ заплятаюцца. Нейкая небачная сіла кідае яго то да коняй, то да саней... Да саней адзін за другім падыходзяць гаспадары—барадатыя возцікі: у суконных світах і высокіх ба-

ярскіх шапках. Яны на хаду штосьці жуюць, моўчкі пераміргваюцца, гледзячы на п'янага, садзяцца на сваё месцы ў санях, кратаюць коняй і на развітанне, па чарзе, сцябаюць пугамі п'янага.

У піцэйным—пуста. Толька каля печы, на падлозе, падкурчыўшы пад сябе ногі і палажыўшы падбародак на калені, сядзіць дурны Ільюша і, гойдаючыся, бясконца паўтарае:

— Дай бог, дай бог, дай бог...

Каля стойкі мітусіцца Санька Канаўная. На ёй залатаны зялёны мундзір, а з-пад яго з усіх бакоў стырчыць бруднае паркалёвае барахло. Яна просіць у сядзельцаў на павер „шкалік". Яна плача і па барвяных крывападцёках бягуць самыя сапраўдныя слёзы.

— Ад-дам! Наліце! Я-ж тут заўсёды, каля Кобазеўкі працую!—яна умольна глядзіць на сядзельцаў і зверскі скрабе пяцярнёй сваю сівеючую калматую галаву.

Сядзельцы смяюцца. Зліваюць у піўны кубак недапітае з бруднай пасуды і даюць ёй.

— Хочаш дапівай... Слабавата, можа? Можна перчыку...

— Абармоты—вашу маць!..—крые Санька, але паднесены „шпунт" п'е.

Следам за мною ў карчму ўлазіць і п'яны з вуліцы. Цяпер ён цвёрда стаіць на нагах. Ён надзвычай рэзонна абураецца зверствам вознікаў.

— Гужаеды янбурскія! Хамаідалы!—лаецца ён і трэ чырвоны рубец на твары, пакінуты возніцкай пугай.

— Што, Бірук, не ўдалося!—пытаецца Санька.

Бірук азіраецца, шарыць у кішэнях, збіраючы медзякі і патрабуе „кручок".

— Пачастуй, Бірук!—просіць Санька.—Пачастуй. Можа, сходзіш!..

Бірук лезе ў бакавую кішэню, дастае адтуль акуратна складзены зеленаваты шалік і падае сядзельцу.

— Купі.

Сядзелец бярэ шалік, разварачвае, глядзіць на святло і пакачвае галавой.

— Дванаццаць капеек новы, у любым магазіне...

— Дай хоць поўфунта траскі на закуску.

Сядзелец моўчкі адмоўна круціць галавой.

— Вось забіў бабра!—зларадасна рагоча Санька.

II.

Вечарэе. Да Фролаўскай карчмы пастунова збіраецца спрадвечны і сталы яго наведвальнік. Гэта асаблівая катэгорыя наведвальнікаў— „убогая брацця", калекі і жабракі. Яны сцякаюцца сюды, у свой прытон, у свой перадначлежны прыпынак з усіх пунктаў купецкага міласердзя. Перадыхнуць. Апомніцца. Тут, седзячы на падлозе, яны дзеляць дзённую выручку. Пасля „трудоў праведных" выпіваюць і закусваюць. Тут, пасля дзённага маскарада, здаровыя часткі цела вызваляюцца ад грыма, павязак і іншых сродкаў сімуляцыі.

У фролаўскую карчму на правах заўсягдатаеў заходзяць толькі „стралкі". Заработак стралкоў грунтуецца выключна на жаласці і міласердзі „добрачынца". І „біць на жаласць" была асноўная і нялёгкая задача стралкоў. Майстэрства „дастаць да душы", „ужаліць у самае сэрца" не ўсім аднолькава даецца...

Зразумела, сярод стралкоў былі і сапраўдныя калекі: безногія, без-

рукія, сляпыя, абгарэлыя. Сярод жанчын было асабліва шмат гумозных сіфілітычак. Каля кожнага такога натуральнага калекі карміліся два, тры стралкі, у якасці „памагатых“, называўшых сябе сваякамі калекі.

Праваслаўнае купецтва і гаспадары—саматужнікі, заселяючыя Александра-Неўскую і Раждзественскую часці, культывавалі „божых людзей“ з мэтай пасярэдніцтва перад богам пры скончэнні жывата свайго, каб яно было безбольным, бессаромным і мірным... Ды наогул „божыя людзі“ ўмелі так пяшчотна, скрозь шматпудовую таўшчыню тлушчу, дабрацца да сэрца і выклікаць слязу жаласлівасці.

І церлася гэтая брація цалюткі дзень на вачах „міласціўцаў“, каля такіх цэркваў, як Івана Прадцечы, Волкавых могілкаў, Неўскай лаўры і асабліва ў „Скорбященской“ капліцы. Даваў падзарабіць стралкам і кранштадтскі цудатворца Іван, які часта прыязджаў у Піцер.

Да 7 гадзін вечара ў карчме няма як павярнуцца. А пад 8, у двары кобазеўскага дома, каля начлежнага корпуса, выстройваюцца дзве чаргі: мужчынская і жаночая. У мужчынскай чарзе трымаліся групамі. Найбольш дружным было звяно стралкоў. Яны са схільнасцю да дамавітасці, да ўтульнасці, адчуваюць пагарду да рызыкі: яны-ж бяруць толькі тое, што ім даюць.

...І ў начлежцы яны не бузяць, не задзіраюцца, а стараюцца калектыўна, па магчымасці, ахоўваць свой спакой ад жулья. Стрэлкі ў чарзе заўсёды першыя, каб без спрэчкі заняць свой аблюбаваны і аблежаны куточак. Стараецца трымацца групамі.

Пераважная большасць кобазеўскіх начлежнікаў—дробныя зладзеі. На мове высокакваліфікаваных налётчыкаў і кішэннікаў гэта—„шпана“, „вераб'і“, „басота“ і „шэрасць“. Кваліфікаваны злодзей добра апранут і мае кватэру. У Кобазеўку ён заходзіць толькі да „дзядзюшкі“*)— у пазычковую касу, аддаць у заклад „гарачую здачу“, гэта значыць, рэч, якую зараз-жа будуць шукаць агенты вышука і ад якой неабходна як найхутчэй пазбавіцца. А кобазеўская шпана? Яе справа сарваць у п'янага возніка скураную поласць, зрэзаць шлею або вуздэчку, збіць з п'янага барашкавую шапку, раздзець яго.

Любімы прыём кобазеўца—прымазацца да п'янай кампаніі масцеравых, дабіцца давер'я і абабраць тых, хто ап'янее.

Апроч гэтага прафесіянальнага жулья ў начлежку ідуць „пескары“. Гэта выпадковыя бяздомнікі—беспрацоўныя, накшталт мяне: застраўшыя сезоннікі, страціўшыя работу чорнарабочыя, вясковыя хадакі па мірскіх справах, багамольцы і прафесіянальныя валацугі. Гэта адзінкі. Гэта плывучы элемент—і тут ён з'яўляецца абсалютна безабаронным. Трапляючы ў начлежку, ён адразу становіцца здабыткам якой-небудзь з груп.

Пецербургскі сакавік мала падобен на вясну, а ўся трайная калона чакаючых начлегу апранута па-летняму. Рознастайныя да бесконцасці касцюмы—аднатыпныя. Гэта тыповая вопратка піцерскага „залатаротца“: пінжак або паліто калі яго выкінулі на подсціл сабаку, такія-ж штаны, апоркі або якое-небудзь іншае дзярмо на нагах і „елкас“**) на галаве. Бязумоўна, стаяць і апранутыя ў добрую пару і нават у добрае паліто. Але гэта рэдкі выпадак—хоць і магчыма для кожнага з іх. Гэта рэзультат „добрай справы“, і добрая вопратка, звычайна, праз дзень-два пераходзіць...

*) Загадчык пазычковай касы.

**) Галаўны ўбор.

дзіць да „дзядзюшкі“. З другога боку корпуса стаіць чарга жанчын. У бабскай палавіне 150 месцаў і ўсе 150 штодня заняты. Гаворань аб павялічэнні і да 200 месцаў.

Якія-ж жанчыны шукаюць прытулку ў Кобазеўцы?

Беспрацоўная сюды не пойдзе. Проста беспрацоўная не сцерпіць такой кампаніі на працягу і адной мінуты. Тут дно ямы чалавечых адкідаў. Лепшая частка—прафесіяналкі-жабрачкі. Усе астатнія—страціўшыя чалавечае аблічча прастытуткі. Апухшыя ад холада, п'янства і пабояў, у сіняках, і крывападцёках... У брудных лахманах, з тупымі, нахабнымі, і жалкімі тварамі. Цяжка вызначыць узрост такой жанчыны—трыццаць, пяцьдзесят?.. Дзе яна бывае днём? Дзе і як яна здабывае свой п'яны і горкі хлеб? Іх прабыванне на тым баку Абводнага канала праследуецца. Нават правы бераг для іх з'яўляецца недасягальным. Але на левым, ад царскасельскага да амерыканскага чыгуначных мастоў, яны размяшчаюцца як дома. Летам яны тут заклікаюць да кахання сезоннікаўгрузчыкаў і карэнных з барак. Выклікаючы агідлівасць сваім нахабным выглядам, яны шныраць каля брудных тракціраў Фралова, дзе прагульваюць свой заработак масцеравыя. Іх можна ўбачыць нават на дальніх мастах Волкавых могілак—яны і там шукаюць „кавалераў“. Злавіўшы мужчыну, яны вядуць яго ў кобазеўскія нумары. Кобазеўскія сямейныя лазні—іхняя база.

Шумная і жахлівая чарга. Мацерная лаянка не вісіць, а шыпіць гадзюкай каля чаргі...

Вось Райка—барыня, у выцертай плюшэвай, да немагчымасці бруднай накідцы, з муфтай, падобнай на халяву, падбягае то да адной, то да другой сваёй знаёмай у чарзе і просіць тры капейкі на начлег. Ёй сёння не пашанцавала: яна два разы была з гасцямі ў нумарах. Ад двух гасцей яна зарабіла грашыма 40 капеек, але... папалася на вочы свайму „кату“—Закрутцы і той адабраў у яе ўсю выручку. А за тое, што яна ўпіралася—наставіў ёй свежых сінякоў пад абодвума вачыма.

— На, вось!—басіць такая-ж, як яна, па празванню „Сапатка“ і дае ёй 5 капеек.—Дурніца!.. Узяла-б камень, ды ў лоб!

— Закрутку каменем не настрашыш, ён звер, душагуб! А пасля задушыць...—спачуваюць Райцы. І ва ўсіх у іх скрозь адурэнне і тупасць, скрозь прафесіянальную наіграную нахабнасць, прарываецца штосьці чалавечае: у вачах загараецца агонь гневу, а ў голасе гучаць ноткі спачування.

Паўтары сотні жанчын, падобных адна на другую, стаяць жывыя, гавораць, успамінаюць... Пад смуродам, брудам і агіднасцю сучаснага у кожнай з іх тлее мінулае.

— Дзякуй Марыша,—гаворыць Рая Сапатцы.—Я-я-к садануў... паміж вачэй...—скардзілася яна.—А я-ж таксама нарадзілася, як і ўсе, якія з'яўляюцца прыстойнымі...

— Цярпі, Райка, сама такую дарогу аблюбавала...—гнусава гаворыць высокая суседка, у якой замест губ і носа—дзве аб'едзеных шчыліны.— А памятаеш?..—усміхаецца яна, расцягваючы ў шыркі ніжную шчыліну на твары.—Памятаеш, як мы с табой у польскіх лакавых камашыках ды ў аксамітных сукенках з купецкімі сынкамі танцавалі?.. Чацвертыя білеты, нябось, давала тады свайму Закрутцы...

— У мяне Васенька, брацік, у Чорнай рэчцы ўтапіўся—не дагледзела я. 7 гадкоў было мне, а яму два,—задыхаючыся хрыпіць Райка і выцірае слёзы— яны сыплюцца градам.

* * *

Пры ўваходзе стаяў турнікет. Каля турнікета два чалавекі. Адзін атрымліваў грошы і выдаваў бляшаныя жэтоны з нумарамі, а другі забіраў дакументы.

З нумарам у руцэ беглі на верх займаць месцы.

У двух паверхах мужскога аддзялення было больш трохсот месцаў.

Даўжэзны, аршын пяцьдзесят, зал, падобны на чатырохкантовую трубу. Па сярэдзіне зала—праход, а з абодвых бакоў двухпавярховыя нары, пастаўленыя ў прасценках, паміж акон.

Калі мне трапляўся нумар ніжніх нар, я мяняўся з якім-небудзь калекай, якому было цяжка лезці на верх. На версе было спакайней і адтуль было больш зручна назіраць за жыццём начлежкі.

Палавіна дзесятае. Усе на месцы. Адносна ціха. Па радах праходзіць наглядчык начлежкі—Салаў. Гэта называецца „праверкай". Салаву можна паскардзіцца на ўсе непарадкі ў начлежцы: на неправільныя дзеянні служачых і на бузацёрства саміх начлежнікаў. Але ніхто і ніколі ні на што ні скардзіцца. Калі ў мяне адабралі тры рублі, я хацеў быў паскардзіцца, але мой сусед, бязногі Лара, прышоў у жах.

— Ты што, звар'яцеў? Табе-ж заўтра раніцой „пера" дадуць у бачыну. Вось дурань які!..—Лара ўхмыльнуўся.—Ты сам падлаві іх ды злямзі ў іх што-небудзь з-пад носу. Тады малайчынай будзеш... а то...

Салаў выходзіць з начлежкі і яна адразу ператвараецца ў падпольны клуб. Усе, у каго ёсць у кішэні хоць 10 капеек прыймаюць за карцёж. Гуляюць у ачко і жалезку. Быццам з-пад зямлі з'яўляецца гарэлка, піва закускі і папяросы.

Нагляд за парадкам прымаў на сябе „старшой", дзяжурны—Алёша Жукаў. За сажнёвы рост і нечалавечую сілу яго называюць „Званіцай". Ён крута распраўляецца і яго баяцца, як агня. Напрыклад, за гульнёй хто-небудзь з партнёраў, будучы п'яным задумае скруціць. Яго выкрыюць і пачнуць „совесціць", па-просту—біць. Падымаецца шум—ён прыцягвае да сябе ўвагу. Тады падыходзіць Званіца, бярэ і правага і вінаватага за каршэнь і да вялікага задавальнення прагнучых відовішча, стукае аднаго аб другога да таго часу, пакуль у абодвых не пакажацца чырвоная юшка, з зубоў, ці з носа—усёроўна. А бывае, што ён і зусім выкідае абодвых на вуліцу з чорнага ходу.

Лара не зводзіць вачэй з гуляючых, асабліва яго хвалююць тыя, хто п'е. Ён робіць глытальныя рухі. Яго ўсяго тузае сударга. Ён аж крэкча.

— Ёсць дзесяць капеек... але што-ж ты за іх зробіш?...— горка гаворыць ён, звяртаючыся да мяне. Потым шэпча: Нажываюцца... Ты думаеш вартаўнікі самавольна гандлююць? Не, брат! Усе яны ў Салава на водкупе. Чычас памерці! Не менш як дзясятку плацяць яму за вечар

## III

Прайшлі чуткі, нібы пры Кобазеўцы адчыніцца бесплатная сталовая для бедных. Заўсегдатаі начлежкі наогул любяць пафантазіраваць, а потым, паверыўшы ў сваю фантазію, як у сапраўднасць, бясконца жывіць у сабе прыемныя надзеі. Бесплатныя абеды для еўшых толькі выпадкова—мара. Але ў апошнія дні ў тракцірах і ў корчмах Фралова, асабліва ў начлежцы, пра бясплатную сталоўку загаварылі ва ўвесь голас. Больш за ўсіх радаваўся бязногі Лара.

— Тры разы ў тыдзень будуць карміць! Сам чуў, як Салаў Фролаву гаварыў.—А ўжо калек у першую чаргу ўблагатвораць, падміргіваў ён.

— Ды ўжо-ж... разяўляй рот.

— Будуць карміць, калі ў цябе новыя ногі выраступь,—смяюцца на нарах.

— Бязногі гаворыць праўду. Упраўляючы гаварыў акалодачнаму: катлы на 100 чалавек заказаны,—умешваецца ў гутарку вартаўнік.

— Хто-ж гэта будзе сярдзітым на сваю кішэню?—іранізуюць стралкі.

— Хто? А Кобазеў. Трымае-ж ён начлежку.. Можна-ж за тры капейкі даць бездомнаму месца, цяпло і нагляд,—наступае Лара і ўзбуджана скідаецца з нар на падлогу, бразгаючы палазкамі, на якія апіраюцца абрубкі яго ног.

— В-оо-сь дабрачынцу знайшоў!—засмяяліся навакол.—Яму за нас гарадская дума цэлых дзесяць тысяч даплачвае! Гэта ўсякае несмышлёнае дзіця ведае.

Гэта вось князь Вяземскі, той на свой кошт начлежку ўтрымоўваў, а цяпер, пасля яго смерці, яна на процанты з капітала ўтрымоўваецца. Ну і сталоўка таксама. Дык ён, кажуць, жыўцом гніў. Кажуць, чэрава ў яго лопнула. Ну, дык ён па абяцанні... для бедных, бяздомных... гавораць, што яму перад смерцю і палегчала.

— Той па абяцанню, а наш генерал цягнецца з-за гонару.

— Байкі адны. Ніякай сталоўкі не будзе. Няма дурняў.

Але вось пачалі рямонт у старой бандарні на Варонежскай вуліцы, побач з Фралоўскім тракцірам „Дзвіна“. З акна зрабілі дзверы, палажылі ступені. Абклеілі абоямі, пабялілі, памылі, пачысцілі. Нарэшце прывезлі доўгія сталы і лавы. Над дзвярыма павесілі шыльду „Бясплатная сталовая для бедных“.

Напярэдадні Благавешчання, ледзь не з абеда, дворнікі скраблі абледзенелыя панелі каля кобазеўскага дома на Варонежскай, густа пасыпаючы іх прыгожым жоўтым пяском. Потым падмялі ўвесь канец вуліцы, да самай новай канавы, а ў змрок закідалі яе дробна насечаным зялёным елаўцом. Падчысцілі і ўпрыгожылі таксама ўвесь кобазеўскі двор, ад Варонежскай да Лігаўкі.

У ажыўшай і памаладзеўшай старой бандарні палілі пліту, працілі шыбы ў вокнах і засцілалі сталы цыратамі. Упраўляючы Міхайлаў— румяны, тоўсты, рухавы, усмехлівы сангвінік робіць апошнюю праверку: „ці ўсё гатова да заўтрашняга дня, да адкрыцця“. Ён выходзіць са сталовай на вуліцу, спыняецца каля дзвярэй, тупае нагой па новых дзераввяных ступеньках, і, ссунуўшы на патыліцу капялюш-кацялок, сыходзіць на панель. З-за яго спіны паказваецца вострамордды, як шпіц, Салаў. Спускаючыся, ён таксама тупае па ступеньках, прабуючы іх моцнасць Абодва яны ідуць міма тракціра „Дзвіна“ і праз варота заходзяць у двор. У двары Міхайлаў гаворыць Салаву:

— Як-бы нам, Сымон Сымонавіч, выбраць да заўтрага, на адкрыццё, чалавек так сто мужчын... ведаеце, якія былі-б больш шляхетнымі, а? Якія былі-б больш цвярозыя, прыстойныя... і... дзесяткі тры баб... як вы думаеце?

Салаў глядзіць у бок, чмыхае носам і маўчыць.

— А-а?—спыніўся Міхайлаў.

— Наконт мужчын—справа простая, Сяргей Кузміч.—Салаў павярнуў да Міхайлава свой твар, быццам збіраючыся ўесціся ў яго.—Мужчын я дам хоць для самога гарадского галавы, не тое што для членаў управы, а вось з бабамі—клякса: ні воднай нельга пусціць. Самі ведаеце: усе ў сіняках, апухлі ад п‘янства, а галоўнае мацюгаюцца...

— Т-а-ак! Можа багамолкі якія ёсць?—смяецца Міхайлаў.

— Хіба вось што... ці не ўзяць сваіх вартаўнічак з лазняў ды з начлежкі? З дзесятак набяру гэтых, ды дзесятак сваіх...—развважае Салаў.

— Вельмі добра! Дасканала, Сымон Сымонавіч! Я ўпэўнен, што Ігнат Апалінар'евіч прыдзе ў захапленне ад вашай кемлівасці. Вы разумееце, апроч думскіх і сінодскіх, пры самым Канстанціне Пятровічу выказаў жаданне на адчыненні быць і прэвасвяшчэнны Пётр! Не скажаш-жа яму: „не прыяжжай моў",—смяецца Міхайлаў.

—Ды ўжо-ж зразумела, не скажаш—пырскае ад смеху Салаў.—Дык я спадзяюся на вас, Сымон Сымонавіч.

— Будзьце ўпэўнены, Сяргей Кузміч, усё будзе зроблена.

— Вы разумееце, сам Канстанцін Пятровіч зацікаўлен у гэтай справе.— Міхайлаў таямніча знізіў голас.—З верагодных крыніц вядома, што і сама ініцыятыва адчынення бясплатнай сталовай належыць яму. Наогул, Канстанцін Пятровіч вельмі заахвочвае добрачыннасць... любіць... Ну, а наш — дыпламат!— захіхікаў Міхайлаў.

— Дыплама-ат,—паўтарыў Салаў.—Але-ж ініцыятыву такой персоны, Сяргей Кузміч, і выконваць сапраўднае шчасце. Для выканання такой ініцыятывы ніякіх сродкаў не шкада—у сто разоў акупяцца... па службе акупяцца. Бо Канстанцін-жа Пятровіч у цара свой чалавек.

Міхайлаў разумеючы ківае галавой.

Вечарам, у часе абходу, Салаў перадаручыў адбор „бедных" для першага парадната абеда Алёшцы Жуку—Званіцы, які ведаў усіх начлежнікаў.

— Сто чалавек выберы для абеда... там будуць важныя паны...

Дык трэба каб бéз сінякоў каторыя... каб смірныя, цвярозыя. Можа багамольцы якія ёсць? Калекі, старыкі? Зразумеў?

— Да тонкасці, Сымон Сымонавіч. Каб, значыць, усё было па шляхетнаму.

— Выбярэш— а вось... білеты.—Салаў перадаў Жуку пачку білетаў.—Калі будзеш раздаваць білеты—накажы: каб заўтра ў дзевяць раніцы ўсе з'явіліся з двара к бандарні. Там іх чакаць будуць. А яшчэ лепш—раздай білеты заўтра раніцой пры выхадзе.

— Вельмі добра, Сымон Сымонавіч!. і каб адсюль проста туды!

— Дасканала. Дык глядзі-ж. Ты тут усіх ведаеш. Зразумеў. А то...— Салаў пагражальна крутнуў галавой.

— Ды ўжо-ж... зробім у лепшым выглядзе, Сымон Сымонавіч, не сумнявайцеся!

## IV

Раніцой, калі начлежка пачала разыходзіцца, Жук стаяў у дзвярах і выбіраў „здатных" для параднага абеда „беднякоў". Хватаў за каўнер патрэбнага, адкідаў ад дзвярэй і бурчэў:

— Пачакай!

Мяне ён таксама адсунуў у бок.

— Вось такія шпінгалеты—калі ласка,—кіўнуў ён мне галавой,—пастой тут, я табе першую бірку, гэта значыць ярлык дам...

Выпусціўшы „непатрэбных", Жук зачыніў дзверы, быццам баючыся, што мы разбяжымся, і падняў угару свой магутны кулак.

— Бачылі?—грозна запытаўся ён.—Аб вас, чэрцях, аб залатой роце клапоціцца сам наш генерал... сам яго прэвасхадзіцельства... ён хоча каб вы, басота, дарам пажэрці маглі. І гэта трэб адчуваць. Зразумелі?— пераймаў ён тон у Салава.—Зараз я кожнаму дам па ярлыку і вы з ім

ідзіце к бандарні, з задняга ходу, з двара. Там прапусцяць. Ну, будзе малебен, будуць аглядваць кожнага... дык трэба... каб сумленна... па добраму. Каб ніякіх агіднасцей, ато...—Жук усіх нас абвёў сваім пустым бяздонным позіркам, ад якога прабіраў мароз па скуры і варушыліся валасы.—Харчы сёння ўсё адно, як у лістаране Палкіна—засмяяўся Жук і адчыніў дзверы.—Ну, марш! І каб адсюль проста туды.

На вуліцы невялікі мароз. Над галавой сінее неба і коміны на дахах дамоў афарбованы аранжавым золатам не бачанага за дымам сонца. У паветры вурчыць хрыплаватая актава вякікага звана Івана Прадцечы. Звоняць на раннюю абедню.

Высокая званіца Івана Прадцечы відаць з двара Кобазеўскага дома. Званіца і тры царквы стаяць на тым баку Новай канавы ў такім-жа парадку, у якім карпусы Кобазеўскага „дабрачыннага“ камбіната на гэтым.

Прыход Івана Прадцечы—гэта цвярдыня піцерскага праваслаўя і купецкай набожнасці. Па колькасці прыхажан і багаццю яму няма роўнага нават у падвойна праваслаўнай Маскве! Апроч лясоў і рыбных ціхвінскіх азёр, прыход мае ў Піцеры больш дзесятка шматпавярховых прыбытковых дамоў, з якіх два на Глазавай вуліцы арэндаваліся публічнымі дамамі. (Два гады цягнецца судовая справа аб высяленні іх з царкоўных дамоў; за гэтыя два гады кватэрная плата павялічвалася ў тры разы.)

З пяці штатных папоў—чатыры буйныя памешчыкі. У настаяцеля айца Міхаіла Лебедзева, напрыклад, на граніцы з Пскоўскай і Ноўгародскай губерняў больш 600 дзесяцін лесу, ды столькі-ж зямлі здаецца пад культуру льна. Цяпер айцец Міхаіл скуплівае прыбытковыя дамы ў горадзе.

А. Міхаіл—заслужаны пратаіерэй: у яго больш дзесятка розных узнагарод. Ён асабіста ведае самога Пабеданосцава, які нават хрысціў у яго малодшую дачку Веру. А старэйшая Ірына замужам за сакратаром вучэбнай калегіі свяцейшага Сінода, сапраўдным статскім советнікам Ігнатам Апальнар‘евічам Кобазевым, які карыстаецца выключным давер‘ем у Канстанціна Пятровіча Пабеданосцава.

Больш гадзіны стаім—чакаем. Сонца падымаецца, але нас яшчэ не дастае. Мяркуем па звону, калі скончыцца ранняя абедня—адчыненне сталовай назначана пасля абедні. Холадна. Па два—па тры чалавекі выбягаем з групы, бегаем, грэемся; выходзім на вуліцу, паглядзець, што там робіцца.

Дзверы ў сталоўку адчынены. Каля дзвярэй, на панелі, на выцяжку стаяць двое гарадавых, у новых чорных шынелях з барашкавымі каўнярамі. Па маставой расхаджвае маладцаваты акалодачны. Не падалёку ад вугла каля панелі, ужо стаяць нечыя дзве карты. Вось пад‘язджае трэцяя пад самыя дзверы сталовай. Гарадавыя і акалодачны кідаюцца да дзверцаў. З карэты выходзіць высокі чыноўнік, у чорным паліце з капюшонам, у суправаджэнні лакея, і знікае у дзверах.

Заўважыўшы нас, акалодачны бягом імчыцца і на хаду крычыць.

— Пашлі вон адсюль, кішэннікі!..

Нас рассадзілі ў двух доўгіх і вузкіх пакоях за доўгімі сталамі, пакрытымі чыстымі цыратамі. Перад кожным паставілі талерку з лыжкай і відэльцамі, з белага метала. Ізноў мы чакалі, дзелячыся ўражаннямі. З буфетнай да нас даносіўся мерны гул галасоў і лёгкі далікатны смех. У кагосці рэзка скрыпелі відаць новыя боты. Потым заракатаў актавісты бас.

Гэта Арнаўтскі... Дыякан з Івана Прадцечы... зашэлясцела за нашымі сталамі.—Значыць, зараз пачнецца малебен.

Пасля ракатлівага „благаславі ўладыка“, Жук—ён з‘явіўся як з-пад зямлі—загадаў нам устаць.

Ракатаў басам Арнаўтскі, дрыготным альтам спяваў стары дзяк... Нарэшце, утраіх заспявалі „многае лета“. Да нас на сталы паставілі металічныя рондлі з супам. З буфетнай праз вузкія дзверы задам вылез тоўсты дыякан Арнаўтскі. Ён з дзяком нёс купель са святою вадою, а за імі, у скуф‘і, у адной епітрахілі паверх расы, з крапідлам у руцэ, ішоў сам айцец Міхаіл Лебедзеў, з мясістым, мускулістым, быццам вылепленым тварам.

— Ва імя айца і сына... ва імя айца і сына... агалашаў ён, шчодра паліваючы нас вадой з крапідла.

Следам ішлі: епіскап Пётр з Кобазевым, ззаду дробнымі крокамі семяніў член гарадской управы—Чэркасаў. Потым ішла група чыноўнікаў у чорных фраках—саслужыўцаў Кобазева. Разам з імі ішлі дзве дамы, якія разглядалі нас, як звяроў у заалагічным садзе.

Гасцей чакалі. Упраўляючы Міхайлаў і яго памочнік Салаў былі ў новых касцюмах і свяціліся гатоўнасцю да паслуг.

Кобазеў у форменным сурдуце, высокі, роўны, з безвалосым, аскобленым пад Пабеданосцава тварам, падвёў епіскапа Пятра да невялічкага, асобна пастаўленага стала. Прыслуга паставіла на стол рондаль з супам і паднесла на падносе, на чыстай беласнежнай сарвэтцы, срэбныя лыжкі.

Епіскап Пётр зняў клабук, перахрысціўся і ўзяў у рукі лыжку.

— А...можа, тут скаромнае?..—паглядзеў ён на Кобазева.

— Будзьце спакойны, ваша прэвасвяшчэнства,—вынырнуў упраўляючы Міхайлаў. Рыбнае, рыбнае. З асетровай галавізнай.

Член управы Чэркасаў, відавочна, захацеў есці: ён прабаваў лыжку за лыжкай. Ён адвярнуўся да доўгага стала, адламаў невялічкі кавалачак хлеба і яшчэ хлябнуў ложак пяць.

— А, ведаеце, надта смачна, я вам скажу. Я сам-бы не ад таго, каб тут абедаць. Дальбог, Ігнат Апалінар‘евіч—усміхаўся Чэркасаў, выціраючы хусткай вусы і бараду.

Прабавілі ўсе. Пасля супу прынеслі смажанага судака з бульбай для пробы.

Нарэшце парад скончыўся і ў сталоўцы засталіся мы адны. Мы з асалодай елі надзвычай смачны суп з галавізнай, на другую падалі пшонную кашу з алеем, а на трэцюю далі з сабой па кавалку ватрушкі з капустай. Наеліся мы на тыдзень... і елі па-чалавечы, за чыстым сталом, з чыстай пасуды.

На другі дзень у газеце „Новое время“ была надрукавана кароценькая, але выразная заметка:

„Учора ў раёне прыхода Івана Прадцечы, на Ямской, адчынілася бясплатная сталовая для бедных. Сталовую абсталяваў і будзе ўтрымоўваць на ўласныя сродкі вядомы дабрачынца і дзеяч асветы Ігнат Апалінар‘евіч Кобазеў.

На адчыненні прысутнічалі: вікарый Лаўры прэвасвяшчэнны епіскап Пётр, член С.-Пецербургскай гарадской управы Г. Чэркасаў і некалькі буйных чыноўнікоў Св. Сінода.

Лічым не лішнім напомніць, што І. А. Кобазеў вось ужо больш пяці год утрымоўвае на ўласныя сродкі найбольшы у С.-Пецярбургу начлежны дом.

Закранаючы пытанні аб дабрачыннасці ў Івана Прадцечанскім пры-

ходзе, нельга не ўспомніць таксама і таго, што толькі ў мінулым годзе купцом Міхайлавым на ўласныя сродкі пабудован прыходскі дом дабрачыннасці, а купцом Фраловым ахвяравана для прэстола ў галоўным саборы срэбная рыза вагою 112 фунтаў".

І начлежка цэлы тыдзень гаварыла аб гэтай заметцы. Мы верылі газеце, бо яна-ж пісала іменна так, як было на самай справе, напрыклад: Міхайлаў—мучанік зВаздвіжанскай вуліцы, пабудаваў дом дабрачыннасці і ў гэтым доме жыве 7 асірацеўшых купецкіх старух. Карчмар Фралоў рызу ахвяраваў—так, праўда. На адкрыцці сталоўкі архіерэй быў. Быў. Але мы ўсё-такі дапытваліся: што пабуджае генерала Кобазева траціць такія вялікія грошы на нас: на басоту, на залатароцаў, на жульё?! Чаго, уласна, ён гэтым дабіваецца? Да Благавешчання, да ачынення сталовай мы яго не ведалі, не бачылі; тут, у яго ўладаннях, яго прадстаўнікамі былі: упраўляючы Міхайлаў і памочнік Міхайлава—Салаў. Але мы добра ведалі, што ён генерал, што ён вялікі чалавек і служыць недзе ўпоблізу самога цара. А цяпер сваімі вачыма мы бачылі, што перад ім нават і архіерэй цішэй вады, ніжэй травы. Ён і так усё можа. Няўжо-ж гэта ён ад дабраты?!

— Пачакаем, відаць будзе...

— Відаць... сокала па палёту, а добрага малайца па соплях!—зняважліва каламбурылі на нарах.

## V

Недалёка ад Новага маста, супроць царквы Івана Прадцечы, у крутых берагах Абводнага канала завязла купальня, належачая Андрэю Ільічу Ільіну. Лёгкая дашчатая пабудова, падобная на плывучы барак, хавалася за берагамі, быццам саромячыся сваіх брыдкіх спраў. А справы сапраўды тут былі брыдкія. Пры купальні таксама, як і пры лазні, былі „сямейныя нумары". Толькі ў Кобазева іх было больш дзесяці, а пры купальні—два. У кобазеўскіх нумарах за мыццё мужчыны з жанчынай бралі 50 капеек, а ў купальні—30.

У наведваючых нумары ні тут, ні там пашпартоў не патрабавалі... і два маленькіх „сямейных нумаркі" ў доўгі летні дзень таргавалі не менш, чым любое з вялікіх купальных аддзяленняў. А каб „парачкі" не мазолілі вачэй „прыстойнай" публіцы, уласнік купальні Андрэй Ільіч зрабіў да нумароў асобны берагавы спуск і асобны ход.

Аднак, шыла ў мяшку не схаваеш,— кажа прыказка. Настаяцель прадцечанскага прыхода айцец Міхаіл Лебедзеў бачыў усю гэту агіднасць...—такая дасканалая прычына ўмяшацца, паказаць сябе!

Але Андрэй Ільіч яго прыхажанін. Праўда, вольнадумны прыхажанін, але не скупы. І а. Міхаіл рашыў пагаварыць з ім „па пастырскі" аб недапушчальнасці нумароў, гэтых прытулкаў распусты, упоблізу храма божага. Ён сказаў Ільічу аб гэтым у часе споведзі на першым тыдні вялікага посту. Сказаў строга, але мірна.

— Зачыні, грэх.

— А чаму вы, бацюшка, уперад не параіце зачыніць нумары свайму зяцю? Пры лазнях нумары выконваюць такую-ж службу, як і пры купальні. І ад божай царквы стаяць не на многа далей...—запярэчыў Андрэй Ільіч.

— Да ты што-ж, Андрэй Ільіч?—выпраміўся поп. Ты-ж так можаш дагаварыцца бог ведае да чаго? —шыя ў папа пачырванела, рукі задрыжалі. Ледзь крыж не выпусціў з рук.—Ідзі! Не магу цябе спавядаць. Не хочаш па-добраму—прыму нядобрыя меры!

Вынікам гэтай, згодна слоў Ільіна, гутаркі на споведзі з'явілася прадстаўленне праз пасрэдніцтва свяцейшага Сінода гарадской думе немаральных разбэшчваючых фактаў, якія маюць месца ўпоблізу цэрквы Івана Прадцечы. На экстрэнным паседжанні было пастаноўлена: „неадкладна ўказаныя нумары зачыніць і знішчыць. А за выкананнем гэтай пастановы даручыць нагляд прыставу трэцяга ўчастка Александра-Неўскай часці".

Андрэй Ільіч прыступіў да вясенняга рамонта купальні. Але... „неадкладна" прышоў думскі тэхнік, і рабочыя знішчылі асобны берагавы спуск, а два нумаркіператварылі ў дадатковую плошчу купальнага аддзялення.

Пра „пастырскую пільнасць" а. Міхаіла Лебедзева і „неаслабную ўвагу да пытанняў маральнасці" з боку гарадской думы,—пісалі у „Новом времени" і ў „Ведомостях С.-пецербурского градаачальника".

Гэтая падзея, не гледзячы на газетныя заметкі, не прыцягнула нічыёй увагі, апроч жаночага аддзялення Кобазеўскай начлежкі. Там настаражыліся. Зачыненне 30-капеечных нумароў датычыла галоўным чынам іх.

— Туды-ж лягчэй гасця знайсці... у купальню...

— Глядзіце, каб не зачынілі і нашы нумары... таксама побач з божым домам...—клапатліва кідалі заўвагі ў бабскай чарзе каля начлежкі.

Спачатку гэта былі толькі меркаванні. Але яны былі так падобны на праўду... І пра зачыненне кобазеўскіх нумароў пачалі гаварыць як аб немінучым факце.

— Змагаюцца з прастытуцыяй... чаму яны не зачыняць спачатку публічныя дамы!.. Вунь іх колькі ў горадзе! А-а?!. Там, нябось, утрымальнікі падкупляюць начальства грашыма!—аратарствавала ў карчме Фралова Санька Канаўная.—А нам без нумароў—капут! Проста тады пад Новы мост у канаву...

— А ўсё гэта доўгагрывая сатана!.. поп Міхаіл, усё!—злосна хрыпела Сапатка.

Чуткі распаўзаліся. Галодныя і на палову голыя жыхаркі кобазеўскага прытона хваляваліся.

— Куды-ж нам дзецца?!—з жахам пыталіся яны адна ў адной.

На вялікдзень, як заўсёды, лазні не адкрываліся тры дні. Зачынены былі і нумары. „Працавалі" ва ўсю толькі тракціры, корчмы і пазычковая каса. Масцеравыя спачатку прапівалі наяўныя грошы, а потым неслі да „дзядюшкі" польты, пінжакі і боты. „Кобазеўскія бабы" хадзілі вакол шумных тракціраў, „прысуседжваліся" за загуляўшых масцеравых, пілі ў задатак нават шкалік, але... нумары былі зачынены. У начлежку не было за што ісці... Узбуджаныя чуткамі і двухдзённым вымушаным постам яны аж вар'яцелі... урываліся ў тракціры—іх адтуль выганялі... Беглі ў карчму.

— Зачынілі! Чушкі вы чортавы!—раўлі яны, падаючы на пасыпаную апілкамі карчомную падлогу.

— Не скугольце, швабры! І без вас моташна!—сунімала Сапатка.—Трэба да яго ісці!..

— Да каго ісці?—накінулася на яе баб'ё.

— Да каго? Да папа гэтага!.. Выбіць яму ўсе вокны, каб памятаў! Усёроўна прападаць!

— Усёроўна прападаць!—як рэха пранеслася пад столлю фралоўскай карчмы.

— Пойдзем!—крычалі ў шалёнай ярасці бабы.

Сядзельцы за стойкай хапаліся ад смеху за бакі.

— Бабскі бунт,—вішчэў „старшой".

— Айда! хрыпела Санька Канаўная. І ўся маса рушыла за ёю да дзвярэй.

— Куды вы, ачмурэлыя!—прасунулася да дзвярэй на сваіх апухшых нагах Райка—барыня, мерачыся загарадзіць праход.

Па-мужчынску, з усяго размаху, Сапатка ўдарыла Райку кулаком у твар. Райка ўпала задам, стукнуўшыся аб сцяну патыліцай.

— Ідзі, пацалуй яго ў...,—задыхаючыся сіпіць Сапатка. Пойдзем!

З абодвых дзявярэй карчмы, душачы адна адну, вылазілі ахопленыя шаленствам прастытуткі.

Пад правадніцтвам азвярэлай Санькі Канаўнай бабская ватага перасекла Лігаўку і накіравалася да пераходнага мосціка, супроць Прадцечанскай вуліцы. Царкоўны дом, у якім жыў а. Міхаіл Лебедзеў, знаходзіўся у Прадцечанскім завулку і Санька правільна выбрала абходны шлях цераз глухую Прадцечанскую вуліцу. На Лігаўцы пры пераходзе цераз Новы мост, дзе быў паставы, іх затрымалі-б. Ватага падыйшла к пад'езду і спынілася. Каля парадных дзвярэй чакала двухмясцовая каляска на гумовых шынах. Барадаты фурман „травіў“ на лейцах сытага рысака. Бабы акружылі экіпаж.

— А-о-о! Чаго вас?..—здзівіўся фурман.

— Каго чакаеш?—грозна запыталася Санька.

— Чакаю чакалку, сляпую Наталку,—пажартаваў фурман.

— Кажы, каго, а то...

У гэты час з параднай паказалася высокая фігура а. Міхаіла.. Ён быў у скуф'і і ў дарагой расе з бабровым каўняром. Са страхам і недаўменнем пазіраў ён на брудны натоўп прастытутак, нервова памахваючы посахам, быццам баючыся паставіць яго на зямлю.

— Вам чаго?

Бабы маўчалі. Некаторыя пачалі падвываць, ляскаючы зубамі, на манер клікуш.

— Вам чаго?—павысіў голас а. Міхаіл.

— Навошта зачыняеш нумары?!—заскрыпела адразу некалькі галасоў.

— Якія нумары?—здзівіўся а. Міхаіл.

— Нумары... у купальні зачыніў, цяпер у лазнях? Пасадзі нас спачатку ў дом дабрачыннасці, а тады зачыняй!

— Куды нам дзецца?!

— Ты лепш забі нас адразу!

Натоўп асмялеў. Пасыпалася страшэнная лаянка.

За спіной а. Міхаіла стаяла захутаная ў скунсавае манто, пападзя. Лаянка ляцела па яе адрасу.

Гэтая выпадковая незвычайная магчымасць адкрыта, у вочы, выказаць сваю крыўду самаму моцнаму свайму крыўдніку, адплаціць крыўдай за крыўду ўраўняла на момант гэтых, страціўшых чалавечы твар, баб з крыўднікам—папом і яны раўлі.

А. Міхаіл струсіў. Ён нічога не разумеў. Умешвацца ў справы зяця ён і не думаў. Ён зусім шчыра запэўняў іх, што аб зачыненні кобазеўскіх нумароў нічога не ведае, запэўняў, што тут хутчэй за ўсё нейкае непаразуменне. Нарэшце ён абяцаў пагаварыць з самым Кобазевым.

Натоўп прыціх. А. Міхаіл і пападзя селі ў экіпаж.

„Вось ідыэты!“—з палёгкай уздыхнуў поп, калі яны выехалі з натоўпу.

На Лігаўцы яны сустрэлі акалодачнага. А. Міхаіл паскардзіўся. Але калі праз чвэрць гадзіны акалодачны і двое гарадавых з'явіліся ў Прадцечанскі завулак—там ужо нікога не было.

## VI

Сталоўка карміла 100 чалавек тры разы на тыдзень: у суботу, чацвер і аўторак.

Ярлыкі выдаваліся ў канторы ўпраўляючым у 8 гадзін раніцы і атрымаўшыя іх накіроўваліся ў лазню на дравяны склад пілаваць дровы.

Лазня, начлежка, пазычковая каса, а цяпер яшчэ сталовая і іншыя службовыя памяшканні, накшталт дворніцкай і кантор, расходвалі ў суткі каля 6—7 кубічных сажняў.

Да адчынення сталовай на дрывяным складзе працавалі сталыя „пары“ дрываколаў і кожная такая „пара“ распілоўвала і калола поўкуба „трэтніку“, зарабляючы па паўтара рублі на пару. Цяпер усю гэтую работу пераклажылі на сталаўнікоў.

У печы лазні рэзалі на „паўторнік“, а ў астатнія на „швырок“. Працавалі гадзіны 2—3. А потым, у 12 дня, ішлі абедаць. Добрым работнікам упраўляючы загадаў даваць „дабавачнае“: замест адной — давалі дзве талеркі супу або капусты і дзве талеркі кашы.

Вялікдзень быў позні—17 красавіка. Пасля фаміной нядзелі я хадзіў на „Волкаўку“ да Шчукіна, на гароды. Набівалі парнікі, але падзёншчыкаў не бралі. У Кашырына мяне забракавалі: „кволы“.

— Ты сам сябе цераз сілу цягаеш, куды табе працаваць!—адмахнуўся ад мяне нізенькі і незвычайна шырокі Кашырын у белым, з кагруднікам, фартуху.

Я ўспомніў пра Скапца. Казёл перанес справу на Пратасаўскі пустыр і працаваў з адчымі „пакупцамі“. Зайшоў. Папрасіўся.

— Насі!—коратка праспяваў Скапец.

А калі я прынёс мяшок тавару, ён даў мне 5 капеек. Я ўздумаў напомніць яму, што ён мне не дадаў пры разліку паўтара рублі. Скапец, не кажучы ні слова, выпхнуў мяне з двара.

У бясплатнай сталоўцы я абедаў тры разы. Тут таксама, з прычыны маёй страшэннай худабы, мне не давалі ярлыка, асабліва калі ярлыкі раздаваў Салаў. Ён заўсёды, калі я падыходзіў да яго, гаварыў мне:

— Ты пасля зойдзеш.

На вялікдзень, у чацвер ярлыкі раздаваў старшы дворнік Гурын. Гэты мяне шкадаваў—даваў кожны раз. Напярэдадні навалілі цэлы двор „паўторніка“ і трэба было яго зпажыць у штабелі. Падносілі плахі ўкладчыкам. Раставала. На двары было гразка. Вязлі ногі.

Маё знясіленне сапраўды было гранічным — я высах да касцей. Ад малакроўя ў мяне заўсёды звінела ў вушах і ад самага лёгкага нахілення ў вачах з'яўляліся мільгаючыя вясёлкавыя кругі.

З поўгадзіны я так-сяк варушыўся, прывалок некалькі невялікіх плашак, а потым пачалі слабець ногі—прышлося сесці. Адпачыўшы, я зноў узяўся за плашку. І тут здарылася нешта дзіўнае, яшчэ непаспытанае мною: я перастаў адчуваць сябе. Разам з тым я бачыў, як зямля з усімі штабелямі дроў, з дамамі, з лазняй, з чорнай высокай трубой, імпэтна падымалася ўгору, а праз пару секунд прысланілася чорным месівам гразі да самога майго твару. Я чуў, як хлапцы зарагаталі, але, схамянуўшыся, яны занепакоіліся. Чалавек 5 падыйшло да мяне, аднеслі мяне пад плот і пасадзілі на дровы. Падышоў Гурын.

— Не можаш? Давай сюды ярлык.

Гурына абступілі.

— Навошта табе яго ярлык?..

— Навошта? Раз не працуе... ну, дык... як-жа, раз няма загаду...

— Ладна, Гурын... хлапец працаваў... чаго там?..

— Гурын, заплюшч вочы...

— Хлапец схудзеў... Чуеш ты?

Гаварылі ўсе наперабой. Адчувалася пагроза. Гурын збянтэжыўся.

— Дык я-ж і сам шкадую, але Салаў... мне не шкода, не маё...

Нарэшце, зароў гудок на папярова-прадзільнай фабрыцы і мы пайшлі ў сталовую. Маё цела, здавалася, звісла на касцях і не слухалася мяне. Я змагаўся са слабасцю. Есці мне ўжо не хацелася, але я ўсведамляў, што для падтрымкі сіл трэба есці нават цераз сілу.

Падалі перловы суп з патрахамі. Хлябнуўшы дзве-тры лыжкі, я выбег на вуліцу: жывот не прыймаў супу. Ташната і нясцерпны боль выварачваў мае нутро. Пачала спыняцца сэрца. Я паміраў. Напружваючы апошнія сілы, я перабраўся цераз маставую на бераг. Спусціўся к самай вадзе—хацелася памачыць галаву, грудзі. На тым баку канавы ля берага стаяла барка. На ёй былі людзі і штосці крычалі. Трымаючыся за палю я памачыў галаву. На барцы закрычалі мацней. Я падняў галаву і ўвесь працілеглы бераг, барка, людзі і вада ў канаве пачалі павольна падымацца. Вось яна вада ля самых вачэй... Потым я страціў прытомнасць.

---

**Мікола Гваздоў**

# „ЯБЛЫЧКА“

Я гэтую песню даўно палюбіў
За дні баявыя,
За ўдалы матыў.

Бывала:
У доўгіх паходах цяжкіх
На зямлю паляжам—
Не людзі-мяшкі.

І толькі мой сябар расцягне гармонь,
Як гэтая песня—
Не песня—агонь—

Нас з ног падымае,
Дзе зморанасць цел?
А сіла той песні расце і расце.

І мала ей месца
У целе маім,
І цела ірвецца
І зноў у баі.

Адзінай адвагай згуртаваных сэрц
Мы рваліся з гэтаю песняй на смерць,
Аж толькі на ўсе на чатыры бакі
Ляцелі „зялёныя“ да „белякі“.

Мы неслі
сваю перамогу ў руках
І песня
Над намі лунала, як сцяг.

І слухалі песню
палі і бары,
разносілі песню
па свету вятры.

Папаўся бы вораг тады прада мной—
Яго задушыў-бы я песняй адной...

... Сыграй-жа, таварыш, на гэты матыў.
Я гэтю песню даўно палюбіў.

1935 г. люты. Чэрыкаў.

Ал. Дудар

# ЗАБОЙСТВА СЯМ'І ГЕКЛЕР

## I

У горадзе было асаднае становішча. З шостай гадзіны замыкаліся брамы і ўжо да самай раніцы на спусцелых вуліцах можна было пачуць толькі размераныя крокі патрулёў ды бразгатанне шпор загуляўшых афіцэраў. З пагрозай сачыла за горадам старая мікалаеўская крэпасць, сурова насоўвалася ноч з-за ракі. Там, у гэтай загадкавай цемры, маўклівасць якой час ад часу парушалася перастрэлкай, жылі ўсе надзеі дзесяткаў і сотняў тысяч людзей, загнаных зараз у свае ўбогія куткі і далёка не ўпэўненых у сваім заўтрашнім дні.

На тым беразе ракі Чырвоная армія падыходзіла ўжо вельмі блізка да Бабруйска. Ва ўсёй краіне партызанская вайна. Вялікая гатоўнасць і нязломная сіла адчувалася за грознай маўклівасцю рабочых прадмесцяў.

Капітан Абданк-Казуба Казубскі, начальнік артылерыі вучастка, польскі патрыёт і лодзінскі дамаўласнік адчуваў сябе ў гэтыя дні не зусім прывычна. Ні ўрачыстыя рэляцыі аб „перамогах", ні панічны страх акружаючай яўрэйскай беднаты перад яго асобай, ні тая маўклівасць, якая, здавалася, напаўняла сабою гарадок—нішто не магло схаваць бязрадасных перспектыў для арміі акупантаў. Маўчаць гарады, але гэта маўчанне вялікай нянавісці. Маўчаць суровыя лясы, але за кожным іх дрэвам мроіцца ўзброены паўстанец. Маўчаць і паслухмяна выконваюць загады салдаты—але хто ведае, якія думкі, якія пачуцці хвалююць гэтых людзей у мундзірах і канфедэратках. З усіх бакоў абкружае капітана падазроная і варожая стыхія: мала на каго можна пакласціся ў гэтыя трывожныя дні. Можна адвесці душу за чаркай гарэлкі з гасцінным гаспадаром, панам Мысліцкім. Чалавек шляхетны і інтэлігентны, адвакат, багаты,—яго імем называюць увесь завулак—але зараз сіла не за ім, не яго цяпер час. Можна сабраць цэлую каманду гуляшчых дзевак і на цэлую ноч заглушыць у жалезным разгуле ўсе свае трывогі і сумненні. Але дзеўкі разыйдуцца раніцою і сударгі пахмелля будуць дратаваць кароткае прысадзістае цела капітана і перад вачыма будуць плысці зялёныя кругі і нават далікатна падстрыжаная чорная бародка шаноўнага друга пана Мысліцкага будзе здавацца ненавіснай. А на вуліцы двойчы ненавісныя капітану шэранькія абшарпаныя хаткі яўрэйскай беднаты. На вуліцы нікога няма, бо суседзі хаваюцца па сваіх кутках пры адным з'яўленні грознай постаці капітана. Але пільны погляд пана Казуба-Казубскага паспее ўлавіць у садку насупроць статную

моцную фігуру самага ненавіснага з суседзяў Гдалі Геклера. Вочы капітана нальюцца ні з чым непараўнанай злосцю і рука міжвольна пацягнецца да рэвальвера, калі з таго-ж садка данясецца да капітанскіх вушэй звонкі жаночы смех, пераклічка маладых галасоў.

— Большэвіцкае кодла,—сціскае зубы капітан...

II

У Бабруйску вельмі добра ведалі Гдалю Геклера. „Дэр Вільнер токар", як яго звалі, у старазаветным гандлёвым гарадку, быў вельмі своеасабліваю фігураю. Кожны жыве ў гарадку выключна для сябе і сам за сябе адказвае. Значыць трэба ўмець выхапіць у другога з рук кавалак удачы і рупліва пільнаваць сваю. Трэба ўмець ашукаць пагрозу і ашукаць чалавека, бо іначай ён цябе ашукае. Так павялося спрадвеку і так павінна быць, бо іначай нічога не выйдзе, іначай свет перавернецца і чорнае зробіцца белым. А вось Гдаля Геклер умее рабіць усё акрамя ўдачы. Ён токар, ён механік, ён электра-тэхнік, ён канструктар. Ён можа зрабіць прыгожую меблю і разабрацца ў самым складаным механізме. З ім раіліся інжынеры, калі ставілі ў Бабруйску радыё-станцыю. І вось гэты самы Гдаля Геклер, непараўнаны майстар, можа над грашовым заказам якога-небудзь бедняка сядзець цэлы месяц. Цэлы месяц—абы зрабіць акуратна. А другі зрабіў бы гэты заказ у два разы хутчэй, у два разы горш і ўзяў бы за яго ў два разы даражэй. Геклер ніколі не аблічыць заказчыка, ніколі не стараецца абжуліць свайго кліента, нават не скарыстае чужой памылкі на сваю карысць. Ясна—дзівак, не ўмее рабіць удачы. Затое-ж у пяцьдзесят год толькі і нажыў, што гэтую хатку з садком ды яшчэ сям'ю душ пяць, дзеці пайшлі па бацьку. Такі-ж здольны і спрытны на ўсякія штукі Барыс, такая-ж вясёлая, шчырая і адзыўчывая да чужога гора Эстэр.

Гдаля Геклер не зважае ні на людскія толкі, ні на людскую злосць. Ён любіць і жыццё і людзей, і свой горад, і сваю працу. Для кожнага чалавека ёсць у яго сваё прывітанне, для кожнага дня—свая песня. Дзеці—яны пачынаюць жыць па новаму, яны цягнуцца з сягодняшняга дня ў свой, у заўтрашні дзень. У кожнага дня свая турбота і сягодняшні дзень не заменіць заўтрашняга. Павырасталі дзеці, пачынаюць жыць на свой адказ—нельга ім перашкаджаць. Але любіць Гдаля сваіх дзяцей шчырым бацькаўскім каханнем. Пільна глядзіць ён, каб Барыс не трапляў на чужыя вочы. Блізкае знаёмства з большэвікамі—кепская рэкамендацыя для кожнага пры белапаляках. Ці ведае ён, што Эстэр, што малады яе муж Саламон Баскін жывуць аднолькавым жыццём з Барысам. Можа ведае, можа здагадваецца, але ніколі ніхто не пачуў дакорлівага слова ад бацькі. Хай сабе збіраюцца маладыя, хай па свайму вырашаюць свае справы. Толькі трэба было-б крыху асцярожней. Гдаля мірна пражыў жыццё, выгадаваў большых дзяцей, выгадуе меншых. І ўнучат яшчэ спадзяецца падгадаваць ён. Жонка Шыфра нешта шапнула яму пра Эстэр, ды і сам Гдаля бачыць, што зяць акружае яе асаблівай уважлівасцю ў апошні час.

У горадзе развешан чарговы грозны загад камендатуры:

— За 24 гадзіны здаць зброю, тэлефонную апаратуру і вайсковую маёмасць у камендатуру. За невыкананне—расстрэл.

Прыходзіла ўстрывожаная сястра Сара.

— Паглядзі добра, Гдаля. Можа ў майстэрні завалялася што пада-зронае. Сам ведаеш, які час. Пра дзяцей людзі ведаюць, могуць данесці.

Гдаля ўсміхнуўся ў бараду.

— Хто на мяне будзе даносіць? У мяне-ж няма ворагаў.

Але ворагі былі.

Бежанец з Польшы Камінскі быў вельмі многім абавязан Геклеру. У сям'і лічыўся ён сваім чалавекам і адчуваў сябе такім. Ён вельмі добра ведаў, хто чым дыша ў сям'і, бо нічога амаль што ад яго не хавалі.

Але белапалякі былі заўсёды выдатнейшымі майстрамі подласці. Ці доўга было ўбіць у галаву такому дробненькаму і нікчэмнаму чалавеку, як Камінскі, што ён усё-ж такі паляк, а Геклер усяго толькі яўрэй? Знаёмства з капітанам Казуба-Казубскім давяршыла справу. А храбры капітан Казуба-Казубскі быў яшчэ больш небяспечным для Геклера ворагам. За нейкую драбніцу Геклера былі арыштавалі на пару дзён. За гэты час капітан забраў сабе карову Геклера. А калі Геклер пасля вызвалення звярнуўся да начальніка паліцыі, дык той скарыстаў выпадак, каб звесці нейкія старыя рахункі з капітанам. У выніку карову прышлося аддаць, а ў загадзе па гарнізону з'явілася непрыемная вымова. Капітан праглынуў знявагу свайго шляхецкага гонару і злосць сваю да часу заліваў гарэлкай.

III

Чарговы ўдар Чырвонай арміі ўнёс вялікі непакой у стан акупантаў. Капітан Казуба-Казубскі адчуў, што яго акцыі паднімаюцца. У такую адказную пару начальства, безумоўна, не асабліва сурова асудзіць начальніка артылерыі вучастка, калі ён дазволіць сабе маленькую вольнасць у адносінах да нейкага там яўрэя. Можна ўзяць рэванш.

Ніхто не ведае зараз, пра што гаварылі паміж сабою капітан Казуба-Казубскі і Камінскі ў гэтыя трывожныя для белапалякаў дні. Але васемнаццатага кастрычніка а шостай гадзіне ўвечары, калі асаднае становішча пазаганяла ўсіх у хаты, атрад пазнанцаў уварваўся ў мірны дом Гдалі Геклера.

Гэта было ў пятніцу. У невялічкай сталовай быў накрыт святочны стол. Хісткі бляск свеч згладжваў старасць і беднасць абстаноўкі. Святочнае ўбранне выглядала ўрачыста і салідна.

Шукалі доўга і старанна. Шукалі ў пакоях і на гары, у садзе і ў хляве. Кавалкі дроту, самадзельныя дэталі тэлефоннага апарата, абрыўкі провада—усё гэта паслужыла матэрыялам для абвінавачвання. У поўнач усю сям'ю павялі ў дыфензыву. А ў спустошанай хатцы закіпела праца. Цэлыя суткі пакавалі „пераможцы“ нямудрае дабро Гдалі Геклера і адразу адпраўлялі ўсё на станцыю. Нішто не было забыта—і мэбля і падсвечнікі і нават шклянкі са сподкамі паехалі ў Лодзь да маткі капітана Казуба-Казубскага. Абедзве каровы цяпер канчаткова перасяліліся да капітана ў двор пана Мысліцкага. За адно пазнанцы перакапалі ўвесь двор і ўвесь сад, шукаючы нейкага провада. Нічога не знайшлі.

Раніцою жонка Гдалі Геклера Шыфра і малодшыя дзеці—Фаня, Ліза, Мендэль і Ісаак былі вызвалены. Жахлівыя перспектывы адкрываліся перад імі. Хатка спустошана. Гдаля, Барыс, Эстэр і Саламон—у лапах дыфензівы і невядома, што з імі яшчэ будзе. Каму скардзіцца? У каго шукаць ратунку? За ракой не змаўкае перастрэлка і ў паноў афіцэраў пачынаюць свярбець пяты. Што ім цяпер да Шыфры, да яе галодных дзяцей.

Але ўстрывожаная, заплаканая, адразу пастарэўшая Шыфра, пакінуўшы дзяцей у Сары, сястры Гдалі, наважылася пайсці ў дыфензіву

паспрабаваць шчасця, можа хоць карову аддадуць. Але з дыфензівы Шыфра ўжо не вярнулася. А ўвечары прышлі і пабралі дзяцей—„для допыту“.

Доўга будуць помніць бабка і цётка заплаканыя тварыкі сямігадовай Фані і дзевяцігадовай Лізы. Некуды ў ноч, у цемру, у невядомае і страшнае забіралі іх невядомыя і страшныя людзі. Але хто і чым мог выратаваць іх з кіпцюроў жудаснай дыфензівы.

Два дні прабыла сям'я Гдалі Геклера ў арыштным доме. Пасля пераявялі ў крэпасць, у турму. Ніхто не мог зразумець, у чым справа. Следства вялося надзвычай інтэнсіўна—на допыт сям'ю выклікалі толькі раз. Але дыфензіва мела пэўныя і правераныя весткі, што ўбогая хатка Гдалі Геклера мела непасрэдную злачынную тэлефонную сувязь шляхам падземнага провада з большэвікамі на тым беразе ракі. Хто пасмеў бы супярэчыць гэтаму?

Капітан Казуба-Казубскі ўзяў рэванш. Ён у піку начальніку паліцыі накрыў гняздо большэвіцкіх агентаў. І яшчэ большы страх ахапіў беднату ў завулку Мысліцкага. Хто ведае, чыя хата прыглянецца заўтра капітану, дзе надумае ён шукаць чарговы прытулак большэвікоў!

Зняволеныя не адчувалі яшчэ жудаснай пагрозы, што навісла над іх галовамі. Ну высылка, ну канцэнтрацыйны лагер—і там-жа людзі яшчэ жывуць. Больш за ўсё турбаваўся Гдаля Геклер за Эстэр. Як яна ў яе становішчы перанясе ўсе нягоды. Каб не адбілася ўсё гэта на будучым дзіцяці.

І ўпершыню па-новаму паглядзеў мусіць Гдаля Геклер на пройдзены жыццёвы шлях. Мусіць больш мелі рацыі дзеці, калі прагна цягнуліся да новага жыцця, якое толькі што нараджалася з вялікім болем і смяротнаю пакутаю. Мусіць шматвяковая старазаветная мудрасць міру і спакою аджыла свой час і на яе месца з'яўляецца новая мудрасць інакшага складу, якую нясуць людзі з таго берагу ракі і якая так упэўнена гучыць у іх стрэлах.

Вечар выдаўся змрочны і цяжкі. Выў вецер. Халодны кастрычнікаўскі дождж хлястаў агаленую і аслізлую зямлю калючымі струменнямі.

Сям'я Геклераў ізноў сабралася разам у конторы начальніка турмы. Арыштаваным абвясцілі, што зараз іх адашлюць у Менск. І пакуль памочнік прыстава распісваўся ў прыёме арыштаваных „для дастаўкі на станцыю Бабруйск“ ні ў кога не з'явілася і цяню якіх-бы то ні было падазрэнняў. Праўда, здрыгануліся на момант старэйшыя члены сям'і, убачыўшы на чале канвоя капітана Казуба-Казубскага: нешта нядобрае хавалася ў алавяных яго вочках. Але трывога адразу-ж і ўляглася: праз пару гадзін грозны сусед застанецца ў Бабруйску, а ў Менску справа хутчэй высветліцца. А потым будзе відаць. Шкада зруйнаванай гаспадаркі, але-ж тут ужо нічога не парадзіш.

Так ішла, абкружаная канвойнымі пад халодным восенскім дажджом, пад чорным слязлівым небам сям'я Геклер. Дзеці туліліся да маткі і сястры. Саламон рупліва падтрымліваў Эстэр. Цвёрда вышагваў Барыс. Гдаля і Шыфра аднолькава адчувалі адну і тую-ж турботу—дзеці, што будзе з дзяцьмі.

Вось і яўрэйскія могілкі. Яшчэ хвілін пятнаццаць і сям'я будзе на станцыі.

Раптам канвой спыніўся. Капітан Казуба-Казубскі не дапускаючым супярэчання тонам заявіў памочніку прыстава, што далей яму ісці не трэба. Ён, капітан, сам давядзе арыштаваных. Паліцэйскі адказыраў і завярнуў назад. Капітан скамандаваў рушыць далей.

Але як толькі скончыліся могілкі, канвойныя завярнулі арыштаваных направа. Там бойня. Станцыя засталася налева. Страшная дагадка пранеслася ў галовах. Немы лямант напоўніў апошнія глухія завулкі. Чарней за ноч чарнела на шырокай пустой лугавіне шырокая, свежая выкапаная яма.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На бойні вартаўнік Брэгман пачуў некалькі стрэлаў і жудасныя крыкі. Але як толькі памкнуўся ён выглянуць з брамы, перад ім бліснулі штыкі.

— Назад, пся крэў! І глядзі, каб маўчаў пра тое, што чуў, а то і сам так заспяваеш...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пела скрыпка нудным ахрыплым, голасам. Цяжкія англійскія буцы калацілі ўсю карчму ад падлогі да столі. Полька ў самым разгары. Нікому няма справы да таго, што робіцца за дзвесце крокаў ад карчмы. Пазнанцы танцуюць і п'юць, і гаспадар ледзь паспявае напаўняць спусцелыя чары.

Адчыніліся дзверы і разам з рэзкім струменем халоднага вільготнага паветра ў карчму ўваліліся некалькі новых гасцей. Іх амаль што ніхто не заўважыў і яны адразу накіраваліся да прылаўка. Гаспадар заўважыў, што вочы іх гарэлі нейкім асаблівым бляскам, што адзенне ва ўсіх скрываўленае.

— Ну і змардаваліся-ж мы сягоння,—працэдзіў адзін, перакуліўшы чарку,—дзевяць жыдоў ухлопалі за-раз.

Другі старэйшы, кінуў на яго грозны погляд.

— Напіўся, пся крэў, і не ведае, што вярзе. З палявання мы... Ваўкоў білі.

— Не ваўкоў, а сабак.—падміргнуў трэці.

І ўсе зарагаталі.

## IV

Спачатку ўсе ў горадзе былі ўпэўнены, што сям'я Гдалі Геклера адаслана ў Менск. Так сказалі ў дыфензіве. Сёстры Гдалі кінуліся да багатых сваякоў і знаёмых. Пачалі наводзіць спраўкі. А па горадзе пачалі ўжо хадзіць злавесныя чуткі. І вось нарэшце прышоў адказ з Менска.

— Сям'і Геклера ў Менску няма і ня было...

Страшныя чуткі пачыналі рабіцца жахліваю праўдаю. На лугавіне каля бойні людзі бачылі кавалкі скрываўленага адзення. Бачылі кавалкі чалавечага чэрапа. Бачылі свежа-засыпаную яму, з якой тырчэлі канцы адзення. Падыходзіць да ямы салдаты не дазвалялі.

— Там закапаны сапныя коні. Калі ўздумае хто падыйсці—будзем страляць.

Чуткі рабіліся ўсё больш пэўнымі і ніхто ўжо не мог сумнявацца ў іх жудаснай праўдзівасці.

Пасля доўгіх клопатаў сёстры Геклера атрымалі ад генерала Мілеўскага дазвол пахаваць забітых на яўрэйскіх могілках. І праз пяць тыдняў, пасля забойства, па глыбокім снезе, пад узмоцненым канвоем войска і паліцыі, у прысутнасці толькі самых блізкіх сваякоў, зрабіла сям'я Геклера свае апошняе падарожжа.

Жудаснаю была смерць няшчаснай і ні ў чым непавіннай сям'і, але

не менш жудаснымі былі сцэны, якія адбыліся на могілках. Прыстаў папярэдзіў сваякоў забітых:

— Мы будзем вас тут цярпець толькі калі вы будзеце маўчаць. Калі хто з вас толькі пікне, мы ўсіх павыганяем.

Але перад тым жахлівым малюнкам, які разгарнуўся далей, змоўкла нават паліцэйская жорсткасць. Халадзелі ад жаху сёстры, рвалася і крычала старая маці Гдалі Геклера, перажыўшая сына і ўнукаў. Халадна і раўнадушна пазіралі паліцыянты, але не пасмелі выканаць сваю пагрозу—нікога не выгналі з могілак.

Пра нечуванае выключнае зверства маўкліва апавядалі здратаваныя, знявечаныя, бясформенныя трупы. І жудаснае маўчанне было многа галасней за самыя пышныя і гуманныя дэкларацыі страціўшых людское аблічча абаронцаў „цывілізацыі“ ад большэвіцкага „варварства“.

Швагер Геклера Фуксон ледзь не звар'яцеў, убачыўшы маленькія пакурчаныя трупікі сямігадовай Фані і дзевяцігадовай Лізы. Маленькія трупікі, пасінелыя, з прастрэленымі ножкамі, з размажджэранымі галоўкамі,—хто, у кім ёсць хоць кропля чалавечага пачуцця, мог бы спакойна глядзець на гэта?

Нешта жахлівае было там, ля бойні, жахлівей за смерць і за страх смерці. Эстэр, звычайна цвёрдая ў жыцці, не магла глядзець на гэта і загарнула шалем твар. Так і знайшлі яе з загорнутым тварам, з распушчанымі чорнымі валасамі, з разварочаным жыватом, з якога вываліліся ўнутранасці. Яна была цяжарнаю, на пятым месяцы.

Шыфра, маці, на вачах якой катавалі яе дзяцей, пасівела перад смерцю. У некалькіх месцах яе цела было пранізана кулямі, але закапалі яе яшчэ жывою.

Нават смерць і нялюдскія катаванні не маглі сцерці з твару бацькі, Гдалі Геклера, нечалавечага жаху перад звярынымі здзекамі над любімымі і найбліжэйшымі ў свеце людзьмі. Відаць, яго да канца прымушалі глядзець на крывавую бойню: Казуба-Казубскі меў некаторыя падставы не рабіць асаблівага шуму, і каты стараліся абыходзіцца халоднай зброяй і каламі.

## V

Сям'я Гдалі Геклера была выразана ўся. Ніякіх сведкаў забойства не засталося і капітан Казуба-Казубскі непадзельна заўладаў спадчынаю Геклера. А калі сястра Геклера падняла справу, патрабуючы следства і адзначаючы ролю Казуба-Казубскага ў забойстве, дык дыфензіва ў першую чаргу ўбачыла ў гэтым знявагу афіцэрскага мундзіра і з непараўнаным цынізмам прымусіла няшчасную ў пісьмовай форме прасіць прабачэння ў „зняважанага“ капітана.

Камінскі быў прыняты на службу ў паліцыі. Але дорага абыйшлася яму ўся гэтая справа. У яго пачаліся галюцынацыі: перад ім мітусіліся вобразы выразанай сям'і. Скончыў Камінскі вар'яцкім домам.

Белапольская ўлада абмежавалася фармальным следствам і ніхто з забойцаў не быў пакараны.

— Забіты пры спробе ўцячы,—спрадвечная формула катаў усіх вякоў і народаў—такою эпітафіяй ушанавалі акупанты магілу сям'і Геклера.

— Яны забіты, як большэвікі і яўрэі,—заявіў судовы следчы сястры Гдалі, якая дарэмна старалася дабіцца справядлівасці.

А калі нават буржуазныя яўрэйскія дэпутаты польскага сойма прымушаны былі загаварыць пра гэтую справу і падалі інтэрпеляцыю ў сойм, то вайсковы міністр генерал Саенскоўскі коратка адказаў:

— Следства вядзецца. Вынікаў пакуль што ніякіх няма.

---

Крыніцаю для нарыса служылі ўспаміны сястры забітага Геклера С. С. Геклер-Тункіль. Каштоўнейшыя ўказанні даў праф. С. Я. Вальфсон і гр. гр. Чэрток, Гарэлік І. Б., Варанчук, Гарэлік З. Б., Шуб Г. Г., Брэгман З. Я., Брэгман Б. М. (Рыер), Хаймовіч Х. А., Хесіна (Ліберман) М. С., Райхман А. М. Вялікая дапамога ў зборы матэрыялаў аказана дырэктарам Бабруйскага музея тав. Славіным.

---

А. Вечар

# МАЎЧЫЦЬ ГРАНІЦА

Кляновая моладзь,
Старыя асіны,
У лесе—сцежка
невядома адкуль.
На сцежцы
дзве пары слядоў ласіных
І ў кожным утоптана па лістку.
Ад кляновага лісця
Ляглі бясконца
На зямлі і траве такія сляды,
Быццам ляцела крывавая конніца
Праз асеннія буры
і дым.

Гэта—ўздагон за вятрамі,
Разам з імклівым лосем,
Шамоцячы жоўклымі травамі,
Праходзіла восень.
І ўвосень,
Калі аж на кожным пні
Вісеў павуціны апошні шоўк,
ішоў
І нюхаў салодач ласінай ступні
Стары пасівелы воўк.
Ціха...
Нехта лісцем апалым
Варушыць...
А можа—вецер?..
Раптам запахла металам,
Чаго воўк не любіў
больш за ўсё на свеце.
Секунда праходзіць звонка
І стыне ў трывожнай паўзе.
Чалавек стаяў перад воўкам
Узняўшы суровы маўзер
На лінію вока.
Праходзіць мінута, праходзіць дзве,
Можа больш яны так стаялі,—
Воўк не бачыў яшчэ людзей,
Якія-б цэліліся і не стралялі.

І, быццам хаўруснікаў двое,
Што справа адна заве,
Пашлі нецярплівай хадою
На ўсход чалавек і звер.
Пашлі злачынцы хмурыя,
І ў дыстанцыі крокаў сто
Былі так аднолькавы:
Сівая скура
І колеру хакі пальто.
Лес парадзеў.
Ідучы без дарог,
Чалавек у пальто
Стараўсяісці па воўчы,
Але нецярпенне расло
І гусцела, як змрок,
Як сама цішыня,
Як шолахі ночы.
Хацелася ўпасці яму
і не кратацца з месца.
Ці не занадта далёка нянавісць яго завяла?
А можа—нічога...
Проста так—
пад месяцам
Расквітаў неспакой чорнай кветкай зла.

Адчула яго перш за ўсё аўчарка.
Кранула хвастом,
галаву адняла ад лап.
—„Ў чым справа?
Якая замежная марка
На караблях цемнаты
да нас прыплыла?
Што бурчыш так трывожна, Мілка,
Чатырохногі таварыш мой?
Мне шкада, што прырода зрабіла памылку
І стварыла цябе нямой".
Вінтоўка армейская наперавес.
Зблiжаліся хутка і проста.
Там, дзе, канчаўся лес,
З'явілася постаць.
Шчоўкнуў затвор.
Рывок.
—„Стой... рукі ўгору... ні з месца"...
Чалавек ўцякаў па крывой
Паміж дрэвамі пералеска.
Спыніўся на міг за сасной.
Та! Та!
Хоча маўзер бараніцца.
Два стрэлы з вінтоўкі
І ціха зноў.
Маўчыць ноч,
Маўчыць граніца.

---

Е. Садоўскі

# МАШЫНІСТЫ

Дзед Васіль ужо не працаваў. Але звыкласць брала сваё. Ён уставаў таксама рана, як заўсёды, адкідаў коўдру і доўга кашляў, трымаючыся рукой за грудзі. Пасля браў з крэсла прыгатаваны з вечара кісет і асцярожна, стараючыся не прасыпаць ні аднэй крупінкі, круціў сабе першую зарадку.

Жыў дзед Васіль у чыгуначным гарадку, там, дзе дамы быццам цаглінм, цесна стульваюцца адзін з адным. Навокал гарадок быў успаваны густой сеткаю чыгунак, і па ім цэлыя суткі безупынку хадзілі: то доўгія таварныя саставы, то скорыя пасажырскія паязды, то адзінокія, няўтрымныя паравозы. У вокны дзедавай кватэры ўрываўся грукат калёс, даносіліся гудкі—і толькі гэта прыносіла старому машыністу крыху ўцехі. Здаецца ўжо больш, як пяць год дактары ў адзін голас трубілі яму:

— Пара, таварыш Паўтаржыцкі, пакідаць работу! Час.

Але ён не здаваўся. Надзеў акуляры, пачаў менш курыць, а аб тым, каб пакінуць работу, нават і слухаць не хацеў.

І вось здарылася. Аднойчы рана, збіраючыся ў дэпо, дзед пачаў абуваць боты. Але што за чорт? У назе тупы боль. Дзед закусвае губу. Нацягвае рукой нагу, але боль не праходзіць. На момант зноў прылёг, каб аддыхацца. Але і зараз, калі нага ляжала спакойна, боль не спыняўся. У гэты дзень упершыню за многія гады дзед не мог падняцца з пасцелі. Нагу лячылі. Тры дні—дзень у дзень—ля дзедавага дома спынялася машына прафесара Бірукова. Боль сціх, але прафесар забараніў і думаць аб рабоце. Дзедаву нагу ўхуталі цёплай абмоткай. Яна матляецца ўжо не ў боце, а ў прасторным галёшы. А ў дзедавых руках палка. Глядзіць гэта ён на палку—паламаць бы яе, ці закінуць. Прыдуць заўкомаўцы — угавораць. І церпіць дзед палку, праз сілу церпіць.

Паўз вокны мільгацяць паравозы. Многія дзед пазнае па гудку.

— Пахомыч памчаўся,—гаворыць ён і спяшаецца да вакна праверыць ці не памыліўся. Часта праязджаючы ля яго доміка, машыністы ўглядаюцца ці не стаіць дзед. Яшчэ здалёк заўважыўшы яго, яны доўга махаюць яму шапкай, або злёгку тузаўнуўшы за шнурок, вітаюць яго радасным гудком. Дзед у адказ нізка кланяецца і доўга глядзіць услед, пакуль, нарэшце, дзе-небудзь у блакітнай далі не знікне апошні вагон.

Больш за месяц не даваў боль хадзіць дзеду і ён цэлымі днямі праседжваў ля акна, перакідваючыся жывым словам з таварышамі.

— Чакай, дзедка, увечары пастаўлю паравоз у дэпо—прыдзем,—крычыць яму з пуці, памахваючы шапкай, машыніст велізарнага паравоза, які імчыцца забіраць састаў.

І часта ўвечары змененыя машыністы, ідучы да дому, забягалі праведаць дзеда. Стары мітусіўся, кідаўся ставіць самавар, але машыністы садзілі яго на месца і расказвалі аб сваім дэпо, заспакойвалі яго, абы толькі не трывожыў ён хворую нагу.

Гаварылі аб усім. Аб справах брыгадных, аб блізкіх знаёмых. Памочнік машыніста—высокі Бадзянок развінаў свежую газету і ўслых чытаў дзеду апошнія навіны. Як на зло ў дзеда пачаў слабець зрок. Кожны прачытаны радок даваўся цяжка, і гэта яшчэ больш узмацняла вымушаную бяздзейнасць. Гаварылі аб усім і толькі аднаго баяліся закрануць у бяседах.

Апошнія пятнаццаць год стары ездзіў на адным паравозе. Таварны паравоз „Щука“ 32-71, як і дзед выглядаў старым. Хоць Паўтаржыцкі хадзіў за ім, як за ўнучкам, паравоз прыкметна старэў. Труба яго ў самым версе пакрылася цёмнашэрымі плямамі. Такія-ж плямы з'явіліся і на круглым целе паравоза. У адным месцы былі яшчэ прыкметны сляды прабоіны, нанесеныя асколкам бомбы. Прабоіна даўно была залатана, але гэтыя сляды былі гонарам для дзеда і ён нездарма гаварыў, што не прамяняе свой паравоз на самы быстраходны электравоз.

І дзед са сваёю „Щукай“ былі быццам адно цэлае. Прыходзячы на паездку, машыністы жартуючы часта пыталі:

— А што, дзед Паўтаржыцкі, паехаў ужо на сваім паравозе?

Гісторыю паравоза „Щукі“ добра ведалі не толькі ў дэпо, але і на ўсім вузле. Дзед тады быў маладзейшым. У гімнасцёрцы зашчытнага колеру, у высокіх ботах, у сініх штанах, ён скарэй быў падобен да кавалярыста, як да машыніста. І „Щука“ дзеда была маладзей. Бывала, прычэпіць трыццаць цяплушак і пятнаццаць платформ—полк перакіне. Лёгка возьме.

Ноч. Высокі лес, вузкімі карыдорамі якога віюцца сталёвыя ніці рэяк, здаецца калонай пяхотных войск, якая спыняецца на прывалах. У цяплушках цішыня. На конях наморднікі. Разумныя коні прывучаны там, дзе трэба маўчаць. У дзеда памочнікам малады хлапец па прозвішчу Страказа, і сам быццам страказа. Дарогу ведаюць. Ліхтары наперадзе паравоза прытушаны. Дзед выглядае з вакна паравоза, прыкладвае далонь да лба казырком і доўга ўглядаецца:

— Што, Страказа, не падвядуць вочы!—жартуе ён.

Страказа маўчыць, раз жартуе, значыць выпаўзем, — думае ён і спрытна закідвае лапату вугля ў топку.

Дздед хацеў Страказу пакінуць у дэпо.

— Молад ты яшчэ. Сямнаццаці няма, а рэйс складаны. Заставайся, я Кляменко вазьму. Страказа не адказаў, а ўвечары перад адыходам першым прышоў. Дзед паглядзеў, што ён ужо знаходзіцца на паравозе, махнуў рукой і пакінуў.

Нядаўна прайшоў шумлівы летні дождж з грознымі ўдарамі грома і зараз ад леса павявае прахладай. У лясной начной цішыні стук калёс ідзе гулкім водгуллем і дзеду здаецца, каб гэта было ў яго сілах, ён далонямі заглушыў бы гэты шум, шлях быў кароткім, знаёмы да кожнай лагчынкі, але складаны.

Левы ўчастак белапольскага фронта прарваў храбры гурт чырвоных байцоў. Нечаканым і руйнуючым ударам ён змёў вялікія сілы ворага. Біліся, як ільвы, адзін на трох, але ворагу ішло падмацаванне, і калі-б

не хуткая падмога з тыла, над храбрымі байцамі навісла-б пагроза смерці, або што ўсероўна для іх—адступленне.

Дзед не ведае ваенных тонкасцей, але ён быў пад вечар у габінеце начальніка, калі там камендант з перавязанай рукой і запалёнымі ад бяссоных начэй вачыма, нервова бегаючы па пакоі, расказваў якое мае значэнне для поспеха смелага прарыва кожная мінута.

Рэйкі то падаюць уніз, быццам кубарам коцяцца з гары, то быццам зноў узняўшыся на ногі, узыходзяць наверх. Ад гэтага поезд то прыцішае, то паскарае ход.

Дзед трэці дзень адчувае недамаганне. Дзесці прадула. Ломіць косці. Ад павышанай тэмпературы па ўсяму целу ўзбуджэнне, а ў галаве нудны шум. Перад выездам, каб не прыкмецілі, ён асабліва трымаўся, жартаваў са Страказой. Настойваў і амаль не пашоў з байцамі ў круг танцаваць, ды толькі прышоў час адпраўляць поезд. Надышоў змрок.

Страказа раздабыў вінтоўку і пры водблесках святла, падаючага ад распаленай топкі, разглядае яе.

— Ваяка,—смяецца дзед. А ну, пусці вагоны без паравоза? Нельга. Чаго-ж ты ні аднаго патрона не захапіў, як страляць будзем?

— А і сапраўды забыўся. Дзед, можа збегаць у байцоў пазычыць?

— Не трэба, не...

Дзед не паспеў закончыць слова. Перад вачыма вогненным маятнікам узмятнулася чырвоная паласа. Спачатку ён думаў, што гэта разарваўся кацёл, але паравоз не спыняў ходу. Такая-ж чырвоная паласа ўсхапілася і на другім баку. Дзед кінуўся да рэгулятара і перавёў на поўны ход.

Дзесці пазадзе спалохана прагучэлі выстралы. Паўтаржыцкі азірнуўся, але ў гэты момант на яго навалілася штосьці грузнае і склізнуўшы па целу, прыпала да ног.

— Страказа!—крыкнуў дзед і прыпаў да вакна.

— Ці не разабраны рэйкі?—падумаў дзед. Ён дрыжачымі рукамі запаліў ліхтар і, выстаўляючы яго на двор, паглядзеў наперад.

Зноў пачуліся выстралы, некалькі куль скрабанулі па трубе. Дзед хутка забраў ліхтар. Калі ён ставіў яго на падлогу, бледныя прамені ад лямпы мігнуліся на твары Страказы. У дзеда захаладзела ў сэрцы. Страказа ляжаў закінуўшы галаву, з шыі тонкімі ніткамі струменіла кроў. Паўтаржыцкі кінуўся на калені і схапіў рукамі шыю, падняў галаву памочніка машыніста.

— Халодны, халодны,—вырвалася ў яго і ён дрыжачымі рукамі павольна апусціў цела забітага таварыша. Дзед зняў піджак, накрыў ім твар таварыша і калі ён прыгнуўся, на левую руку маладога героя ўпалі дзве вялікія слязы.

А „Шчука“, быццам адчуваючы пагоню, гнала вярсту за вярстой і з сілай урывалася ў раннюю, світальную летнюю сівізну. Ужо было амаль светла, калі дзед, прыцішаючы ход, нарэшце, зусім спыніў поезд ля канчатковай мэты іх рэйса—раз'езда „Вялікія паляны“.

З вагонаў высыпалі байцы, яны рынуліся да паравоза. Першым ускочыў на высокую ступеньку паравоза худы матрос у форменнай шапцы і доўгіх штанах—клёш. Ён ухапіўся за жалезныя пярылы, убачыў распрасцёртае цела Страказы і, абярнуўшыся да масы байцоў, падняў руку.

— Цішэй, таварышы! Скажам слова аб двух... Аб двух героях. Аб адным, хто заплаціў жыццём за наш шлях і другім—які не пабаяўся-б яго аддаць—за нашу з вамі агульную справу.

Ад хваляван ня ў дзеда Паўтаржыцкага заняло дыханне і, адчуваючы

прылівы шчасця, утаропленымі вачыма ён глядзеў як адыходзіў к ляску полк і строіўся ў баявым парадку.

Асколкамі бомбы паравозу „Щука“ адарвала кусок трубы і адбіла верхні вугал тэндэра.

* * *

Госці доўга заседжваліся ў дзеда. Ён частуе машыністаў квасам уласнага прыгатавання. Асцярожна ступаючы, ён водзіць іх у невялікі сад ля доміка. Дзед заглядае сябрам у вочы і чакае той мінуты, калі яны самі пачнуць гаварыць пра тое, што яго так хвалюе.

Як „Щука“?

Але машыністы маўчаць. Прыязджала камісія, аглядала „Щуку“ і ў сваіх жорсткіх вывадах амаль не пахавала паравоз. Толькі добры рамонт можа выратаваць яму жыццё.

Дзед садзіць гасцей на любімай лаўцы, ставіць ля дрэва палку і, перабіраючы расчоскай пушыстую бараду, марыць.

— Ну, што такое нага? Пасядзі тыдзень без руху, дай адпачыць і яна, чартоўка, сама скакаць папросіцца. А я пацярплю ўжо, так і быць, пацярплю. А нага вылечыцца, зноў на „Щуку“ прыду. Прывітанне,—скажу ёй. Засумавалася. Прымай, скажу, гаспадара. Не да твару нам старэць.

Машыністы маўчалі, а калі адыходзілі, наважылі ў чым бы то ні стала, вярнуць жыццё паравозу.

* * *

Прайшло з месяц. Дзеду лягчэй было ступаць на хворую нагу і неяк у поўдзень, утойваючы ад хатніх, ён выбраўся ў дэпо.

Хтосці па дарозе ўбачыў дзеда і, засопшыся, абагнаў яго. Прыбег у дэпо, расказаў і насустрач яму праз шырокія поўкруглыя вароты дэпо вышаў паравоз, адрамантаваны, амалёжаны.

Да бакавой сценкі паравоза была прыбіта медная таблічка і на ёй залатымі літарамі гарэлі словы: „Імя героя грамадзянскай вайны і героя працы Васіля Паўтаржыцкага“.

*З рускай мовы пераклаў В. КАЗЛОЎСКІ.*

Л. Бэндэ

# ТВОРЧЫ ШЛЯХ ЯНКІ КУПАЛЫ

Сваю літаратурна-мастацкую творчасць Я. Купала пачаў у 1905 годзе, у час, калі „пролетарская барацьба выклікала вялікае бражэнне, часткова і рэволюцыйны рух, у глыбінях пяцідзесяці—стамільённай сялянскай масы, сялянскі рух знайшоў водгук у арміі і павёў да салдацкіх паўстанняў, да ўзброеных сутычак адной часткі арміі з другой". (Ленін, т XX, ч. II, стар. 30). Першы яго верш „Мужык" надрукаваны ў Менскай газеце „Северо Западный край" 15 мая 1905 г. У гэтым сваім вершы Купала, у тоне мяккай іроніі, пералічвае крыўды і скаргі селяніна на тыя ўмовы, у якіх ён знаходзіцца. Селянін непісьменны, цёмны і забіты, зносіць лаянку і крык, дзеці яго галеюць век без хлеба, у жонкі падзёрты чаравік, нястача грошай і г. д. і ўсё гэта не гледзячы на тое, што ён вечна „арэ і сее", што вочы яго заліты горкім потам, што ён працуе, як той вол рабочы. Таксама і другі верш „Думы маркотныя", датаваны 1905 г., адлюстроўвае цяжкае ўражанне аўтара ад акружаючай яго рэчаіснасці.

Там працавітыя,
Хлебам нясытыя,
Снуюцца людскія цені,
На кій ўпёртыя,
Босы, абдзёртыя,
Трасуцца рукі, калені. (том VII, стар. 66).

Навакол сябе паэт бачыць жудасныя малюнкі рэчаіснасці, якія наводзяць на паэта „маркотныя думкі", цяжкі і сумны настрой.

Аднак творчасць Купалы стала разгарнулася, пачынаючы з канца 1905 г. і пачатку 1906 года, у час найбольшага ўздыму рабочага руху і сялянскіх паўстанняў, у час, калі „у сувязі з рабочым рухам" (Ленін) узнімаўся нацыянальна-вызваленчы рух прыгнечаных рускім царызмам народаў. З'яўленне Купалы, як паэта, арганічна звязана з абуджэннем і рэволюцыйнай актывізацыяй пад уплывам барацьбы рабочага класа і пад яго кіраўніцтвам, беларускіх сялянскіх мас, з уздымам нацыянальна-вызваленчага руху.

Рэшткі прыгонніцтва, у пачатку XX века ў ва ўсіх і ўсякіх відах і формах няшчадна прыгняталі і душылі ўсю масу сялянства, яны душылі і пролетарыят, перашкаджалі яго барацьбе супроць капіталізма, звязвалі і тармазілі гэтую барацьбу, і „пролетарыі пад чырвоным сцягам абвясцілі вайну гэтаму прыгнёту" (Ленін), рэштак прыгонніцтва. Пад свой чырвоны сцяг, для сумеснай барацьбы пролетарыят заклікаў і сялянства, арганізоўваў яго барацьбу, кіраваў ёю.

„Адна з галоўных адразняльных рыс нашай рэвалюцыі заключаецца ў тым, што гэта была **сялянская** буржуазная рэвалюцыя ў эпоху вельмі высокага развіцця капіталізма ў ва ўсім свеце і параўнальна высокага ў Расіі. Гата была буржуазная рэвалюцыя, бо яе непасрэднай задачай было звяржэнне царскага самаўладства, царскай манархіі і разбурэнне памешчыцкага землеўладання, а не звяржэнне панавання буржуазіі. У асаблівасці сялянства не ўсведамляла гэтай апошняй задачы, не ўсведамляла яе адрознасці ад больш блізкіх і непасрэдных задач барацьбы. І гэта была сялянская буржуазная рэвалюцыя, бо аб'ектыўныя ўмовы вылучылі на першую чаргу пытанне аб змене карэнных умоў жыцця сялянства, аб ломцы старога, сярэдневяковага землеўладання, аб „расчыстцы зямлі“ для капіталізма, аб'ектыўныя ўмовы высунулі на арэну больш ці менш самастойнага гістарычнага дзеяння сялянскія масы“ (Ленін, т. XI, ч. II, стар. 115—116).

Але, калі па свайму соцыяльна-эканамічнаму зместу наша рэвалюцыя 1905—6 г. была буржуазнай, то па рухаючых сілах яна ёю не магла быць. Ліберальная буржуазія не была і не магла быць рухаючай сілай рэвалюцыі. Самастойнасць і арганізаванасць пролетарыята, непрымірымасць і адданасць яго барацьбе, крайняя рэвалюцыйнасць сялянства, абумовілі сабою тое, што ліберальная буржуазія заключала саюз з самаўладствам, з'яўлялася па сутнасці сваей контррэвалюцыйнай.

Кіраўніком, правадыром гэтай рэвалюцыі з'яўляўся пролетарыят; пролетарыят і дэмакратычнае сялянства з'яўляліся рухаючымі сіламі буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905—6 г. „Перамога рэвалюцыі,— пісаў В. І. Ленін,—магчыма толькі пасрэдствам рэвалюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пролетарыята і сялянства“ (Ленін, т. VIII, стар. 249).

Адсюль наша ленінска-большэвіцкая партыя выводзіла і „асноўную тактыку соцыялістычнага пролетарыята ў буржуазная рэвалюцыі: весці за сабою дэмакратычную дробную буржуазію, асабліва сялянскую, адрываць яе ад лібералаў, паралізаваць няўстойлівасць ліберальнай буржуазіі, развіваць барацьбу мас за поўнае знішчэнне ўсіх слядоў прыгонніцтва, памешчыцкага землеўладання ў тым ліку“ (Ленін, т. VIII, стар. 235). Пролетарыят усімі мерамі падтрымліваў сялянства ў яго барацьбе супроць рэштак прыгонніцтва, супроць памешчыкаў, але свае задачы і мэты барацьбой супроць рэштак прыгонніцтва не абмяжоўваў, як гэта рабілі меншавікі.

На жаль, такога меншавіцкага парадку абмежавання задач рэвалюцыі 1905 г. дапушчаны і аўтарам гэтых радкоў (глядзі артыкулы: „Шлях поэты“ ў часопісах „Маладняк № 5—6 1930 г., „Полымя“ № 6—7 1930 г. „Матэрыялы да гісторыі беларускай літаратуры“ і ўступ да кнігі „Беларуская літаратура“—1931 г.). Задачы рэвалюцыі 1905 г. у названых артыкулах вызначаны і абмежаваны толькі задачамі буржуазна-дэмакратычнага характару. Там напісана, што рэвалюцыя 1905 г. „павінна была рэвалюцыйным націскам знішчыць рэшткі прыгонніцкіх адносін, што перашкаджалі развіццю капіталістычнага спосабу вытворчасці“. Правільна, што бліжэйшай задачай рэвалюцыі 1905 г, было знішчэнне рэштак прыгонніцтва, але абмежаванне яе задач і размаху толькі гэтым—груба памылкова, і яно няўхільна прывяло мяне да ігнаравання ленінскага вучэння аб перарастанні буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў рэвалюцыю соцыялістычную. З маіх выказванняў аб рэвалюцыі 1905 г. выпала важнейшае звяно—перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў соцыялістычную, якое было чужым для меншавіцкай канцэпцыі і якое

таксама выпадала, як чуждое ей—з трацкісцкай „тэорыі перманентнай рэволюцыі“.

У простай сувязі з гэтай меншавіцкай трактоўкай рэволюцыі 1905 г. знаходзяцца і іншыя грубыя палітычныя памылкі, дапушчаныя мною ў названых артыкулах. Правільна ацэньваючы рэволюцыю 1905 г., як сялянска-буржуазную рэволюцыю, што, скажам, адмаўляў меншавізм і яго рознавіднасць—трацкізм, не адмаўляючы рэволюцыйнай ролі сялянства наогул у буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі,—як гэта адмаўляў меншавізм і яго рознавіднасць трацкізм,—я, тым не менш дапусціў у сваіх артыкулах такую блытаніну ў ацэнцы рухаючых сіл рэволюцыі 1905 г., што ў радзе карэнных пытанняў яўна пераклікаюся з меншавіцка-трацкісцкай канцэпцыяй. У маіх артыкулах, а асабліва ў артыкуле „Шлях поэты“ па сутнасці змазаны кіруючая роля рабочага класа і яго самастойныя задачы ў буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі. Гаворачы што „рабочы клас, як найбольш рэволюцыйны, як найбольш паслядоўны, узнімаючы сялянства на барацьбу, дапамагаючы яму, кіруючы ім...“ я не вылучыў з уласцівай для большэвікоў сілай, ролю рабочага класа „як адзінага да канца рэволюцыйнага класа, як адзінага магчымага правадыра пераможнай буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі“ (Ленін). Меншавіцкай з'яўляецца і тая пераацэнка ролі буржуазіі, якая дапушчана мною ў маіх артыкулах 1930—31 г. Адзначаючы факт актывізацыі ў рэволюцыі 1905 г. буржуазіі ўсіх нацый былой царскай імперыі, я не вызначыў у дастаткова выразнай форме характар гэтай актывізацыі, не паказаў у дастатковай меры контррэволюцыйнасць буржуазіі, яе здраду рэволюцыі і г. д.

На жаль гэтыя грубыя палітычныя памылкі, дапушчаныя мною ва ўступных частках артыкулаў, знайшлі сваё адлюстраванне і ў канкрэтна-крытычнай частцы артыкула „Шлях поэты“, а таксама і ў ацэнцы першага перыяду творчасці Я. Купалы ў кніжцы „Янка Купала“ (1932), якая ў канкрэтна-крытычнай частцы не многім адрозніваецца ад артыкулу „Шлях поэты“.

> „Мы ўсімі сваімі сіламі дапаможам усяму сялянству зрабіць рэволюцыю дэмакратычную, каб тым лягчэй было нам, партыі пролетарыята, перайсці як мага хутчэй да новай і вышэйшай задачы—рэволюцыі соцыялістычнай“ (Ленін, т. VI, стар. 418).

Рэволюцыйнае вырашэнне задач буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі азначала-б разам з тым і вызваленне нацыянальна-прыгнечаных рускім царызмам народаў, забеспячэнне вольнага нацыянальнага развіцця.

Творчасць Купалы, асабліва ў першым яе перыядзе (1905—8 г. г.) таленавіта адлюстроўвае ўдзел сялянства ў рэволюцыі, як рухаючай яе сілы, асаблівасці сялянства, як соцыяльнай сілы, прымаючай удзел у нашай рэволюцыі, адлюстроўвае ўздым нацыянальнага руху беларусоў.

Творы паэта за першы перыяд яго творчасці, сабраны ў асноўным, у зборніку „Жалейка“, які выйшаў з друку ў 1908 г. Ужо гэты зборнік паказаў, што Купала паэт багатай адаронасці, які ўмее адчуваць, тэмпераментна і ярка, умее адлюстроўваць маляўнічай мовай характэрныя і тыповыя рысы і з'явы сучаснай яму рэчаіснасці.

Талент ёсць нішто іншае як „уменне адчуваць і паказваць жыццёвую праўду з'яў“ (Дабралюбаў). Купала належыць да ліку таленавітых пісьменнікаў.

Сваімі ідэямі і вобразамі, сваімі карэннямі паэзія Купалы асабліва першага перыяду глыбока ўваходзіць у гушчы беларускага сялянства, у яго быт і псіхалогію, у яго фальклор і г. д. Вобразы і ідэі паэзіі

Купалы цесна звязаны з светаўспрыйманнем селяніна, з яго разуменнем наўкольнай рачаіснасці і вырашэннем соцыяльных праблем свайго часу. Шмат песень-вершаў Купалы сваёю напеўнасцю, меладычнасцю, а таксама рад яго вершаў і паэм сваімі сюжэтамі ідуць ад народнай песні, легенды, казкі.

Аднак, творчасць Купалы мае і літаратурныя крыніцы. Гэтымі крыніцамі з'яўляюцца, у першую чаргу, творчасць украінскага паэта рэволюцыянера-дэмакрата, Тараса Шэўчэнко, творчасць рускага паэта, песняра народнага гора і пакуты, Некрасава, творчасць беларускага паэта папярэдніка Купалы—Багушэвіча. Уплыў творчасці названых пісьменікаў асабліва значна адчуваецца на першых паэтычных кроках Купалы. Сляды ўплыву, ці ва ўсякім разе крэўнасць і блізкасць творчасці Купалы і творчасці названых пісьменнікаў, а асабліва Шэўчэнко адчуваецца ў пэўнай ступені і на ўсіх этапах творчага шляху Купалы.

Некрасаў, Шэўчэнко і ў пэўнай меры Багушэвіч у сваей творчасці былі выразнікамі дэмакратычных імкненняў сялянства, выразнікам імкненняў перадавых для свайго часу пластоў грамадства супроць прыгонніцтва і яго рэштак, супроць нацыянальнага прыгнёту. Дэмакратычны змест творчасці названых пісьменнікаў быў блізкі і Купале, як паэту беларускага сялянства, беларускіх народных мас, абуджаных „ад феадальнай спячкі", прышоўшых у рух. Увогуле дарэволюцыйная творчасць Купалы стаіць побач з творчасцю Шэўчэнко і Некрасава, ствараючы разам з іхнай творчасцю выдатнае сузор'е сапраўды дэмакратычнай народнай паэзіі трох суседніх народаў, прыдушаных агульным ворагам— расійскім самаўладдзтвам, прыгонніцтвам і яго рэшткамі.

У выразных, нярадасных, а жудасных і сумных вобразах паказвае Купала беларускую вёску і жыццё беларускага селяніна.

А па вёсках люд убогі
Век бяда ў крук гне,
Вечна ў лапцях гное ногі,
Зрэб'е спіну гне (Том I, стар. 77.)

Матэрыяльныя нястачы, беднасць і галеча, холад і голад безупынна былі невылазнымі „гасцямі" беларускага селяніна. Няма ў селяніна шчасця і долі, жыццё яго:

Горш за ўсякае стварэнне,
За сабаку і чарвякоў.

Цяжкая, мала прадукцыйная праца выматвае з яго ўсе сілы, бярэ ўвесь час яго жыцця. Селянін прыніжаны, непісьменны і цёмны „як тытун у табакерцы", „як асенняя ноч, як туман"; на яго плячах „абарваны лахманы, ногі ўкручаны цвёрдай лазой".

Селянін прыгнечаны памешчыкам, казной,ураднікам і магазіншчыкам. Ён:

Царскі нявольнік, панскі нявольнік,
Нявольнік слуга абодвух,—
Цару салдатам, парабкам—пану—
А кепска, ох, кепска жыці для слуг.

Паэт стварае выразныя рэалістычныя вобразы, якія праўдзіва адлюстроўваюць цяжкі прыгнёт селяніна рэшткамі прыгонніцтва, памешчыцкай кабалой, адработкамі і г. д. Паэт ясна бачыць гэты цяжар памешчыцкай эксплаатацыі і з вялікай сілай нянавісці да памешчыкаў

з гарачай сімпатыяй да сялян—ахвяр гэтай памешчыцкай эксплаатацыі паказвае процілегласці паміж памешчыкам і сялянствам, выкрывае драпежніцтва памешчыкаў. Вобразы, у якіх Купала выказвае процілегласці паміж драпежнікамі памешчыкамі і іх ахвярамі сялянамі надзвычай выразныя і яркія. Асаблівай выразнасці ў паказе гэтай процілегласці паэт дасягае—прыёмам кантраста, якім вельмі ён часта карыстаецца. Як правіла яго вершы аб сялянскай долі і няволі пабудаваны на супроцьстаўленні, параўнанні галоднага жыцця селяніна з распусным і сытым жыццём пана. „Сошка худая“ „Век бедны, галодны“ араты супроцьстаўляецца багатаму пану. Пан, які весела з паняй „едзе за граніцу“ супроцьстаўляецца мужыку, якому „хоць зубы злажы на паліцу“.

Сыты, раскормлены,
Вясёлы вечна.
Сільны пад стан,
З трудоў слабейшага
Жыве бяспечна,—
Гэта—ваш пан.

Худы, прыгорблены,
Працай сцягоны,
У вобуві з лык,
Холадам, голадам
Век катаваны,—
Гэта—мужык.

У такіх і падобных да іх вершах паэт не толькі канстатуе процілегласць становішча мужыка і пана, але заўсёды падкрэслівае і адлюстроўвае процілегласць і непрымірымасць інтарэсаў эксплаататара памешчыка і эксплаатаванага селяніна, нянавісць мільённых мас сялянства да эсплаататараў памешчыкаў.

Параўнанні, эпітэты і метафары, як і іншыя мастацкія сродкі, якімі паэт карыстаецца для характарыстыкі гэтай соцыяльнай процілегласці, яўна падкрэсліваюць глыбокую нянавісць аўтара да памешчыкаў, сімпатыі да селяніна, боль за яго гора і няшчасце.

Паэт сваімі пачуццямі і думамі моцна звязан з „беднымі і загнанымі“—людзьмі беларускай вёскі. Ён вельмі добра і глыбока ведае жыццё селяніна, яго гора і беды, яго крыўды і скаргі. З поля зроку паэта не знікае і той факт, што селяніну апрача памешчыцкага гнёту і кабалы, даводзіцца цярпець і ад казны, ад воласці, ад царскіх чыноўнікаў. Паэт, так-жа выразна, як і ў паказе памешчыцкай эксплаатацыі, паказвае, як абірае селяніна воласць, казна. Паэт праўдзіва паказвае, што царская казна не лічылася з тым, што селяніну няма чаго есці, што ён галодны і абшарпаны, што і для дзетак яго „солі хлеба няма“, а абдзірала яго да апошняй ніткі, а калі не было чаго абдзіраць, то гарапнікамі ўраднікаў здзірала з яго шкуру і кідала яго ў турмы.

А паследненькі грош
З цябе лупіць казна,
Хоць у хаце дзецям
Хлеба солі няма.

Хоць заклаў ты кажух
Абы чынш заплаціць,
Хоць у лапцях ты з лык
Мусіш вечна хадзіць.

Хоць кароўку сваю
За падаткі прадаў,
Хоць апошні ўмалот
Магазіннік забраў. (Том VI, стар. 9.)

А да ўсяго гэтага яшчэ існуюць здзекі ўраднікаў, земскіх, прыставаў, розных чыноў, якія „охальничают и рукоприкладствуют“. Як у вершы Багушэвіча „Быў у чыстцы“ селянін параўноўвае сучаснае сваё жыццё з жыццём у часы паншчыны, так і Купала, малюючы вобразы прыгнечанага рэшткамі прыгонніцтва жыцця сялянства ў вершы „Даўней і цяпер“, робіць гэтае параўнанне і няшчадна выкрывае новыя формы прыгнёту і ўціску, якімі памешчыкі і самаўладства скавала сялянства. Паэт паказвае, што ў часы паншчыны сялянін узаконена рабіў на пана, а:

Цяпер-жа ў двор сіл
Цягне астаткі,
Каб зарабіць
На ўсе падаткі.

Раней за правіннасць селяніна секлі панскія слугі, а

Цяпер-жа земскі
Дый з казакамі
Чыніць расправу
Штодзень над намі. (Том VI, стар. 26.)

Зусім праўдзівы вывад паэта, што адмена прыгону не знішчыла „апякуноў“ над працоўнымі, а толькі змяніла назву чыноў.

Вершы першага перыяду творчасці паэта ў сваёй большасці прысвечаны паказу цяжкага бяспраўнага жыцця беларускага селяніна, прыдушанага памешчыкамі і самаўладствам. У шматлікіх і featuring рознастайных вобразах паказвае паэт гэтае жыццё і прыгнёт. Вобразы жыцця сялянства заўсёды афарбаваны сумнымі і змрочнымі фарбамі, песні аб гэтым жыцці прасякнуты мінорнымі тонамі. Скарга, плач і слёзы, кроў і бяда, неадлучныя словы ў лексіконе вершаў Купалы, прысвечаных паказу жыцця сялянства.

Так-жа неадлучным элементам характарыстыкі беднасці вёскі з'яўляюцца вобразы сіраты, змерзлай пад чужымі вокнамі і варотамі, якая з паднятай рукою просіць кусок хлеба, вобразы жабракоў, старцоў, удавы з малымі дзецьмі, калек і г. д.*).

---

*) Няправільнай і грубай памылковай з'яўляецца ацэнка першага перыяду творчасці Купалы, як у маім артыкуле „Шлях поэта“, так і ў кніжцы „Янка Купала“. Там ацэнка пабудована не на аснове марксісцска-ленінскай метадалогіі, а на аснове меншавіцкай, на аснове Плеханаўска-Пераверзіянскага атоежсамлівання аб'екта і суб'екта. Пераверзеў, атоежсамліваючы аб'ект і суб'ект, лічыць, што ўсякі мастацкі твор трэба разглядаць як вобраз, а вобраз як праекцыю соцыяльнага характара. Адлюстраванне і аб'ект адлюстравання, вобразы і рэчаіснасць згодна Пераверевў тожсамыя. Пераверзеў таксама лічыць, што ўсякі мастак у сваёй творчай практыцы абмяжован толькі вобразамі сваёй соцыяльнай групы, і ўсе яго вобразы толькі праектуюць яе соцыяльны характар.

Беспадстаўна, па адных знешніх адзнаках я ў сваім артыкуле „Шлях поэта“ і кніжцы „Янка Купала“, па-пераверзіянску замкнуў творчасць Купалы на першым яе перыядзе ў кола вобразаў вясковай беднаты, у той час, як вобраз бедняка ў творчасці Купалы з'яўляецца толькі адным з вобразаў, у якіх адлюстроўвае паэт прыгнечанне рэшткамі прыгонніцтва становішча беларускага сялянства, з'яўляецца адной з характарыстык гэтага становішча. Замкнуўшы творчасць Купалы першага перыяду ў кола вобразаў беднаты, механістычна разглядаючы суадносіны паміж вобразамі і рэчаіснасцю, ігнаруючы тым самым ленінскую тэорыю адлюстравання, я прыняў не поўнае і аб-

Паэт, глыбока спачувае ўсім прыгнечаным і пакрыўджаным, іх гора і беды лічыць сваім уласным горам.

Не хачу весяліцца, гуляць
Дзе бяда, слёзы, скаргі ўкруг.

Паэт таксама бачыў і ў сваіх вершах адлюстраваў і той нацыянальны ўціск, які цярпелі беларускія народныя масы ў часы царызма.

Для нацыянальна-прыгнечаных каланіяльных народаў царызм устанаўліваў розныя абмежаванні, тармазіў рост прамысловасці, затрымліваў іх развіццё, асуджаў ік на цемру і адсталасць, і т. д.

У вершы „А хто там ідзе“ Купала ў патрасаючай сілы вобразах адлюстроўвае гэтае соцыяльнае і нацыянальнае прыгнечанае становішча мільёнаў беларускіх працоўных мас, выражае іх глыбокі і палкі пратэст.

А хто там ідзе, а хто ідзе
У вагромністай такой грамадзе.
—Беларусы.

А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях.
—Сваю крыўду.

А куды-ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды-ж нясуць на паказ сваю.
—На свет цэлы.

А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несць навучыў, разбудзіў іх сон.
—Бяда, гора.

А чаго-ж, чаго захацелася ім,
Пагарджоным, ім, сляпым, глухім.
—Людзьмі звацца.

Гэты рэалістычны вобраз, праўдзіва паказваючы жудаснае становішча беларускіх працоўных мас, прыгнечаных падвойным прэсам соцыяльнага ўціску, у свой час зрабіў вялікае ўражанне і глыбока ўсхваляваў Максіма Горкага.

У сваім лісце да украінскага пісьменніка М. М. Коцюбінскага М. Горкі пісаў: „Меня эта вещь взволновала“.

М. Горкі з вялікай любоўю пералажыў гэты верш Купалы на рускую мову і надрукаваў яго.

---

межаванае адлюстраванне паэтам рэволюцыйнай барацьбы і сялянства, у прыватнасці вясковай беднаты, за самую сапраўднасць. Адсюль: не гледзячы на неаднаразовыя ўказанні аб рэволюцыйнай ролі сялянства, аб яго барацьбе пад кіраўніцтвам рабочага класа, у маёй кніжцы як і ў артыкуле „Шлях поэта“ наяўны рад грубых палітычных памылак у ацэнцы ролі вясковай беднаты ў буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі. Пры ацэнцы першага перыяду творчасці Купалы ў мяне зусім беспастаўна падкрэсліваецца „нясмеласць“, каб узняцца на рэволюцыйную барацьбу, а таму плачучай часткі—бядняцкіх мас (гл. „Янка Купала“, стар. 34, 35). Груба памылковай з'яўляецца і фармуліроўка: „Купалу як і бедняка таго часу не захаплялі пролетарскія соцыялістычныя ідэалы“ (там-жа стар. 27), узятая ў такім выглядзе гэтая фармуліроўка (далей гаворыцца: „яго бядняк, як і сам паэт“, гаворыцца аб вобразе бедняка“), разам з падкрэсліваннем „нясмеласці“ вясковай беднаты, вядзе па сутнасці да меншавіцка-трацкісцкага адмаўлення рэволюцыйнай ролі вясковай беднаты, да таго што „масу здольную на рашучую рэволюцыйную барацьбу сялянскай беднаты“ (Ленін) я па сутнасці закрэсліў і тым самым груба змазаў гістарычную сапраўднасць.

Зразумела, што гэтая „метадалогія“ не дазволіла правільна і ўсебакова поўна ацаніць рэволюцыйна-дэмакратычныя элементы ў творчасці Купалы ў першым яе перыядзе.

У такіх вобразах Купала адлюстроўвае,—у першы перыяд яго творчасці,—жыццё і прыгнечанае становішча беларускага сялянства, соцыяльныя процілегласці паміж сялянствам і памешчыкамі, іх дзяржавай і казной. Гэтыя жудасныя вобразы даюць глыбока праўдзівы малюнак тых бед і гора, прыгнёту і здзекаў царскага начальства, якія цярпела сялянства ва ўсёй Расіі.

Рэалістычныя вобразы, у якіх паэт адлюстроўвае становішча прыгнечаных сялянскіх мас, спалучаюцца ў яго з выражэннем і адлюстроўваннем тых дэмакратычных імкненняў і жаданняў, рэволюцыйных парываў і крыху пасіўнасці, дробнабуржуазных мараў і палітычнай наіўнасці, якія характэрны для масы сялянства ў часы першай нашай рэволюцыі.

Купала ярка адлюстроўвае ў сваіх вершах той „першабытны дэмакратызм“, які характарызаваў масу нашага сялянства ў першай рэволюцыі, тыя імкненні да знішчэння памешчыцкага землеўладання, якія ў свой час выклікаліся ў сялян: „зямля нічыя, зямля божая“, імкненні пазбавіцца ад прыгнёту і абдзіранняў казны.

Хоць нам гэтую зямельку-матку
Бог бясплатна дараваў
І плаціць чыншоў, падаткаў
За яе нам не казаў.

Гэты погляд селяніна, што „зямельку-матку бог бясплатна дараваў“, імкненне селяніна пазбавіцца ад прыгонніцка-памешчыцкай эксплаатацыі, ад абдзірання казной, пашырыць свой шнур за лік памешчыцкіх і казённых зямель чырвонай ніткай праходзіць праз вершы Купалы. І гэта з'яўляецца не толькі суб'ектыўным поглядам і імкненнем паэта, а ідэалагічным выражэннем тых рэволюцыйных пачуццяў, таго першабытнага, інстынктыўнага дэмакратызма, які ўласцівы быў нашаму сялянству ў эпоху буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, у яго барацьбе з памешчыцкай уласнасцю, з рэшткамі прыгонніцтва. „Селяніну патрэбна зямля, і яго рэволюцыйнае пачуццё, яго інстынктыўны першабытны дэмакратызм не можа выразіцца інакш, як у налажэнні рук на памешчыцкую зямлю“ (Ленін т. VI, стар. 109).

Адлюстроўваючы гэтыя рэволюцыйныя пачуцці і інстынктыўны, першабытны дэмакратызм нашага сялянства, Купала адлюстроўвае і тыя рэволюцыйныя парывы да барацьбы, да волі, якія характэрны былі для сялянства. Рад вершаў Купалы напоўнены заклікам ісці здабываць сабе волю, „шчасце сабе будаваць небылое“, „крышыць усё абманнае, злое“, „здабываць свабоду“.

„І за праўду сваю, дачакаўшы пары,
З касой вострай сваёй дружна, смела пастой“.

Паэт зварачаецца да селяніна з заклікам праснуцца, устаць, бо ўжо:

Усе ўстаюць,
Як свет божы вялік.

Устаць і ісці на барацьбу за волю і „за долю сваю ваяваць, ваяваць“, не спыняць барацьбу, нават і тады, калі цябе абязброяць.

Калі стрэльбу ў цябе
Адабралі тваю,
Ты з-за стрэшку вазьмі
Касу востру сваю.

Іншыя вершы, будучы заклікам да рашучай барацьбы, самі з'явіліся адлюстраваннем той рэволюцыйнай барацьбы, якую вяла перадавая частка сялянства пад кіраўніцтвам рабочага класа супроць самаўладства і памешчыкаў.

Аднак, такія рэволюцыйна-рашучыя настроі сялянства і тая рэволюцыйная барацьба, якую вяла перадавая частка нашага сялянства ў саюзе з рабочым класам і пад яго кіраўніцтвам, не поўна адлюстраваны ў вершах Купалы.

Рэволюцыйная барацьба рабочага класа і яго саюзніка сялянства супроць рэштак прыгонніцтва абуджала ў паэта надзеі і веру, што прыйдзе час расплаты з катамі і эксплаатататарамі працоўных, што „прыдзе хвіля,—поймуць людзі, дзе праўда зарэ“. Як гаварылася ўжо ў радзе вершаў, паэт заклікае сялянства ісці са зброяй шукаць і здабываць гэтую праўду. У сувязі з такімі баявымі, рэволюцыйнымі настроямі ў паэта праяўляюцца ў радзе вершаў глыбокія сімпатыі да рэволюцыянераў, барацьбітоў за вызваленне працоўных. Такія вершы, як „Там“, „Перад вісельняй“ і рад іншых з'яўляюцца самымі яркімі вершамі першага перыяду. Яны поўны глыбокага спачування да рэволюцыянераў, да тых:

Што ідуць за тых на катні здзек,
Хто сваёй працай поркай, цяжкай
Свет корміць,—сам галодны век,
Адзеты лапцямі, сермякай.
Што ідуць, каб бедным і галодным
Дзянькі сыцейшы зацвілі,
Зрабіць нявольніка свабодным
Даць беззямельнаму зямлі.

Баявым заклікам гучыць зварот паэта да бедных і галодных, да прыгнечаных беларусоў, ісці туды, дзе кроў ліецца за волю, дапамагаць тым, што:

Пашлі на смерць, пашлі вайною,
Хто труд свой потам аблівае,
Над кім стаіць з нагай кайцар.
. . . . . . . . . . . . . . . . .

До спаць. Паўстаньце грамадою
Ідзіце ім там памагаць,
Паўстаньце крэпасцю такою,
Каб вораг вас не мог зламаць.

Паўстаньце покуль цар зверодны
Крыві ўсяе не выссаў з вас.
Паўстаньце. Край ваш стогне родны,
Заве збаўляць, як зваў няраз.

Паўстаньце, гляньце, бажа мілы,
Свабода, сонца вас заве.
Крыху адвагі і дужай сілы,
А шчасце вечна зацвіце.
(Том VI, стар. 12—13.)

Верш „Перад вісельняй“ апошні з гэтага цыклу, найболш поўна і ярка выяўляе гэтыя глыбокія сімпатыі аўтара да рэволюцыянераў, глыбокую, агністую нянавісць да самадзяржаўя да „прыблуды з-пад Нявы крывавай“, да „ката-цара і капітала“, „душагубаў“, якія „ўсіх звераў сталі падлей“, да ўсёй царскай чорнасоценнай зграі; яго імкненні да рашучай дэмакратызацыі краіны.

Гэтыя сімпатыі і спачуванні аўтара да рэволюцыянераў, яго імкненні да рашучай дэмакратызацыі і барацьбы таксама не ёсць яго толькі індувідуальныя асаблівасці, а гэта і адлюстроўванне тых сімпатый да рэволюцыянераў, якія ёсць у нашага сялянства, тых імкненняў сялянства „да рашучай дэмакратызацыі палітычных адносін (бо без дэмакратычнага дзяржаўнага ладу сяляне не змогуць асіліць прыгоннікаў-памешчыкаў) і к знішчэнню памешчыцкага земляўладання“ (Ленін, т. VII, стар. 241), на якіх штурхала іх барацьба за зямлю супроць рэштак прыгонніцтва.

Палкія заклікі Купалы на барацьбу спалучаюцца ў яго творах з адсутнасцю яснага ўяўлення аб той сіле, якая здольна кіраваць барацьбой сялянства—аб рабочым класе, з ігнараваннем рабочага класа як адзінага кіраўніка сялянства; заклік да волі з абстрактным уяўленнем аб ёй, з пошукамі мужыцкай патрыярхальнай праўды і г. п.

Воля ва ўяўленні паэта з'яўляецца прыроджанай уласцівасцю чалавека, яна ў сутнасці чалавека, але яе паны закавалі ў кайданы і душаць вольны дух і сілы чалавечыя. Воля гэта нейкі абсалют роўны сонцу. Сонца, як метафара, што выяўляе ўяўленне аўтара аб волі, заўсёды бытуе ў вершах Купалы аб волі. Парыванні яго да гэтай волі незаўсёды спалучаюцца з заклікам да барацьбы за яе. Часта на месца закліка здабываць волю, ёсць бяссільныя ўздыханні і пасіўныя чаканні. Яго мары аб волі і пошукі „праўды“ яўна абмежаваны наіўнымі ўяўленнямі дробнага селяніна аб такім ладзе на глебе дробна-таварнай, уласніцкай гаспадаркі.

Дзе-б і праўда жыла, дзе-б і доля цвіла,
Не стагналі-б дзе людзі над горам-бядой
Слёзаў дзе-б не цякло, кроў-бы дзе не плыла,
Паляцеў-бы туды, паляцеў-бы з душой.

У яго марах многа ад таго мяшчанскага соцыялізма, аб якім пісаў В. І. Ленін.

Буржуазна - дэмакратычныя свабоды ў разуменні Купалы ёсць канечны пункт усякага руху, усякай барацьбы класаў; яны ёсць усё для таго, каб запанавала воля, шчасце і згода паміж людзьмі.

І зажывем шчасліва мы тады,
Як прадзеды век нашы не жылі.

Пазітыўныя ідэалы і патрабаванні паэта не выходзяць з абмежаваных рамак дробнага гаспадара, з рамак мяшчанска-соцыялістычных мар і ўласніцкіх імкненняў селяніна. У гэтых адносінах характэрным з'яўляецца верш „Чаго нам трэба“.

Трэба нам, трэба перш-на-перш хлеба,
Хлеба, каб стала на цэленькі год,
Дроўцаў палена, конікам сена,
Капейку якую сабе на зварот.

Трэба нам, трэба, як сонца з неба,
Лепшы, даўжэйшы зямельны шнурок,
Сытай скацінкі, новай хацінкі,
Каб красаваўся пры хаце садок.

На свята скварку, часам і чарку,
Булкі і сыра гасцей частаваць,
Цэлы адзетак, кніжка для дзетак,
Трэба нам школы на вёсках прыдбаць.

Роўнай дарогі, ботаў на ногі,
Мультану жонцы на лепшы каптан;
Жыць смела ў хаце і не баяцца,
Каб не ганялі ў воласць, у стан і г. д. і г. п.

Усё гэта па думцы паэта можа даць тая воля, якую ён заклікае ў сваіх вершах.

„Маса сялян не ўсвядомлівае і не можа ўсвядоміць таго, што самая поўная „воля“ і самае „справядлівае“ размеркаванне хоць-бы нават і ўсёй зямлі не толькі не знішчыць капіталізма, а, насупроць, створыць умовы для асабліва шырокага і магутнага яго развіцця“ (Ленін, т. VI, стар. 451), а значыць не знішчыць працэсу пролетарызацыі і разбурэння дробна-сялянскіх гаспадарак.

У марах дробнага селяніна да „ўраўніцельнага“ і „справядлівага“ размеркавання ўсёй зямлі наша большэвіцкая-ленінская партыя бачыла не толькі рэакцыйную утопію ўвекавечыць дробную вытворчасць, але і рэволюцыйны бок: імкненне змесці рэволюцыйным шляхам усе рэшткі прыгонніцтва. У той час, калі наша партыя „вылучае і падтрымлівае толькі рэволюцыйна-дэмааратычны змест гэтых мужыцкіх імкненняў, дробна-буржуазны соцыялізм узводзіць у тэорыю сялянскую бессвядомасць...“ (Ленін, там-жа стар. 454). Гэтую сялянскую бессвядомасць узводзіць у прынцып у абсалют і наш паэт.

Для яго, дробна-буржуазнага рэволюцыянера і радыкала не зразумелым засталося тое, што перамога сялянства ў буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі не дасць „ніякай гармоніі, ніякай ураўнавальнасці, ніякай „соцыялізацыі“ (Ленін), а наадварот, „новую барацьбу, новую няроўнасць, новую рэволюцыю“ (Ленін), рэволюцыю, да якой і імкнуўся пролетарыят.

Купала ўспрыймаў навакольную рэчаіснасць з пазіцыі пратэстуючага супроць рэштак прыгонніцтва дробна-буржуазнага дэмакрата. Ён пратэставаў супроць сучаснага яму самаўладна-прыгонніцкага ладу ў імя буржуазна-дэмакратычнага, у імя такіх ператварэнняў рэчаіснасці, якія не выходзяць з рамак дробна-буржуазных адносін, якія грунтуюцца на дробнай уласнасці і таварнай вытворчасці. Для Купалы ёсць толькі адзін пласт працоўных і эксплаатаваных—гэта сялянства. Сялянства паводле яго ўяўленняў адзін пласт, які корміць увесь свет, усё грамадства.

З гэтых абмежаваных уяўленняў паэта вынікаюць як пазітыўныя ідэалы паэта, так і яго апалогетыка дробнаўласніцкім інстынктам, псіхалогіі і імкненням сялянства, яго прakланенне перад заможнымі элементамі вёскі, усхваленне іх. Паэт у мякка-лірычных тонах апісвае вясковага кулака Сцёпку Жука, як добрага і сумленнага гаспадара.

Гаспадар усім на дзіва,
Усімі хвалены на вёсцы
Жыве згодна і пачціва.

Паэт апісвае яго як працавітага і эканомнага гаспадара, як вясковага добрачынніка. Эксплаататарскай сутнасці яго паэт не хоча заўважаць, затое заўважае, што Жук:

Песняй роднай весяліцца,
Вечна весел, не ўздыхае.

Простым выражэннем гэтага захаплення кулаком, усхвалення прыватнаўласніцкіх інстынктаў моцнага гаспадара з'яўляюцца ў творчасці

Купалы ноты прымірэння з навакольнай рэчаіснасцю, заклік не барацьбой, а працай перамагаць цяжкае становішча і ажыццяўляць тыя патрэбы, якія так ярка выражаны ў вершы „Чаго нам трэба“.

Працай усё зможам, новы быт зможам
Гора затопчым сільнай нагой,
Зможам нядолю, зможам няволю
Светач запалім шчасця свайго.

Адмаўленне ад рэволюцыйнай барацьбы супроць самаўладства, памешчыкаў і буржуазнай інтэлігенцыі, якая здраджвала справе народнай свабоды, гучыць даволі часта ў вершах Купалы. Замест закліку да рэволюцыйнай барацьбы паэт заклікае да класавага міру ўнутры нацыі, як шляху дасягнення „долі і волі“, заклікае ўсіх суседзяў жыць у згодзе, любіцца, кінуць „дзікую нянавісць“ (класавую таксама, бо ненавісць, паводле яго думкі, скарыстоўваюць ворагі) і жыць як родныя дзеткі адной „нашай маткі“ Беларусі.

А пачнемо жыці ў згодзе.
У пачцівай, харошай,—
Знойдзем долю, знойдзем волю,
На зваротак—грошы.

Урагам нашым прыступіцца
Трудна тады будзе,
Дый у суседзяў ласку маюць
Згадлівыя людзі.

Дык любімося, суседзі.
Кіньма сваркі, зводкі;
Жыйма, як родныя дзеці
Аднэй нашай маткі.

Такімі вершамі Купала становіцца на буржуазна-кулацкія пазіцыі нашаніўцаў, адлюстроўвае такімі вершамі буржуазна-кулацкія ідэі і тактыку „Нашай нівы“. Такія-ж ноты гучаць і ў другіх вершах, якія фальшыва выдаюцца за думкі „мужыка-беларуса“, а па сутнасці яны з'яўляюцца мастацкім выражэннем прымірэння буржуазна-кулацкіх элементаў беларускай нацыі з самаўладствам, імкнення да пагаднення з манархіяй.

Ужо ў перыяд „Жалейкі“ Купала яўна праяўляе хістанне паміж рэволюцыйнай масай і контррэволюцыйнай буржуазіяй. Побач з гарачай сімпатыяй да рэволюцыянераў Купала праяўляе не менш шчырыя сімпатыі ідэям „Нашай Нівы“ (ідэям беларускіх нацыянал-ліberalаў) і час ад часу ўсхваляе іх у сваіх творах, праяўляе аднолькавы з імі падыход да з'яў соцыяльнай рэічаіснасці.

Адмаўленне ад рэволюцыйнай барацьбы, пропаведзь класавага міра ўнутры беларускай нацыі, апяванне „асветніцкага“ шляху да „волі і долі“, а таксама рад іншых рэакцыйных элементаў, аб якіх будзе гутарка ніжэй,—усе гэта з арсеналу „Нашай Нівы“.

Сваю ліру—жалейку, якая апявала і галасіла аб адсутнасці „долі і волі“ ў працоўных сялянскіх мас, якая клікала „сонца праўды“ і заклікала да паўстання, паэт перастрайвае на іншы лад; яе настрайвае ў адпаведнасці з праграмнымі ўстаноўкамі „Нашай Нівы“—служыць усяму народу.

Вось паэт збіраецца ісці па загонах, „па мазольным аратым сляду“, па лугах і барах зялёных, селах і вёсках і спяваць на туж-

лівай жалейцы сваёй усім шчаслівым і нешчаслівым, выклікаць у іх лепшыя думкі.

На жалейцы сваёй, на гуллівай
Там я песні пачну распяваць;
Прыслухайся, шчасліў, нешчаслівы
Думкі лепшы хачу вызываць.

Незаўсёды гэтыя думкі былі карысны справе працоўных, няшчасных.

У такім надкласавым аб'ектывізме паэт, пазней, ужо ў зборніку „Шляхам жыцця“, бачыў вольнасць і свабоду творчага генія, паэта-мастака.

У поўнай згодзе з беларускімі нацыянал-ліберадамі Купала захапляецца ўсім „сваім родным“, „беларускім“ і ў радзе вершаў апявае і ідэалізуе яго з яго дзікасцю, адсталасцю, абмежаванасцю і правінцыяльнай заскарузласцю—толькі таму, што яно „сваё“ „беларускае“. „Прырос неяк, як корч да зямлі“ прызнаецца паэт.

Разам з усім гэтым у яго песнях з'яўляецца і матыў „айчызны“; яго захапляе мінукае, „залаты век“ Беларусі. Паэт наўпярок гістарычнай праўдзе малюе гэтае мінулае ў ружовых фарбах, ідэалізуе яго ў духу буржуазных нацыяналістаў з „Нашай Нівы“.

Калі ў вершы „А хто там ідзе“ і іншых падобных вершах Купала разглядае нацыянальны прыгнёт у сувязі з усім прыгнётам селяніна самаўладствам і памешчыкамі, а нацыянальнае вызваленне бачыць у непарыўнай сувязі з соцыяльным вызваленнем ад прыгнёту памешчыкаў, цара і царскіх чыноўнікаў, то ў радзе іншых вершаў праяўляе яўна буржуазны разрыў соцыяльнага і нацыянальнага вызвалення, надае нацыянальнаму больш увагі, чым соцыяльнаму і нават часамі супроцьстаўляе адно другому: ва ўсім гэтым ярка сказваецца буржуазны ўплыў нашаніўцаў.

Уплыў буржуазна-нацыяналістычных ідэй беларускіх ліберадаў з „Нашай нівы“, з якімі паэт пачаў зближацца ўжо ў 1907—8 г., сказваецца не толькі на змене аб'екта і ідэй яго вершаў, але парадждае ў паэта няверʻе ў сілы рэволюцыі, а яго вершы афарбоўвае густым і змрочным песімізмам.

Рад вершаў „Жалейкі“ насычаны сумнымі настроямі паэта, цяжкімі перажываннямі і барахтаннем у жыццёвых супярэчнасцях. Паэт часта звяртаецца да сваіх песень і дум, апявае іх—як свае суб'ектыўныя перажыванні, у мінорных тонах. Яго песні напоўнены плачам і скаргаю, густа афарбаваны змрочнымі фарбамі. Яны поўны бязвер'ем у тое, што прыйдзе тая воля, якую заклікае ў другіх сваіх вершах паэт. Сумныя і мінорныя настроі аўтара часам пераходзяць у просты істэрычны крык, у адчай.

Гэтыя настроі паэта з'яўляюцца не толькі і не столькі выражэннем плачу сялянства, сколькі выражэннем таго песімізма, які ахапіў буржуазную і дробна-буржуазную інтэлігенцыю пасля паражэння рэволюцыі 1905 г., песімізма ўласцівага класам асуджаным на немінучую пагібель.

Песімістычныя вершы „Жалейкі“ ёсць выражэнне пачатку таго ідэйнага заняпаду, які асабліва ярка выявіўся ў паэта ў сборніку „Гусляр“, калі паэт трапіў у палон буржуазных ліберадаў і парваў сувязь з рэволюцыйнымі сялянскімі масамі.

## II

Другі перыяд творчасці Купалы прыпадае на 1908—10 г. Вядома, што паміж першым і другім перыядам яго творчасці нельга правесці нейкую абсалютную граніцу і сказаць: тут канчаецца перш, а тут пачы-

наецца другі. Якасці ўласцівыя першаму перыяду ў сваіх элементах сустракаюцца ў другім перыядзе, характэрнае для другога перыяда сустракаецца ў зародку, у асобных элементах у творчасці першага перыяду.

Другі перыяд творчасці Купалы можна з поўным правам назваць перыядам заняпаду. Гэты перыяд у творчасці Купалы ў асноўным супадае з эпохай рэакцыі, якая наступіла пасля паражэння рэволюцыі 1905-6 г. г. Рэволюцыйны націск рабочага класа і сялянства ў рэволюцыі 1905 г. быў недастатковым, каб знішчыць самаўладства. Калі большасць рабочага класа ўдзельнічала ў рэволюцыі, то сялянства толькі меншая частка „у 1905—1906 гадах сяляне, уласна толькі пужалі цара і памешчыкаў. А іх трэба не пужаць, іх трэба знішчыць, іх урад—царскі ўрад—трэба сцерці з твару зямлі“ (Ленін, т. XI, ч. II, стар. 113). Калі рэволюцыйная барацьба рабочага класа дайшла да рашучай барацьбы з царызмам, да снежаньскага паўстання, тады „лібералы ўсе цалкам подла здрадзілі свабодзе народа, адхіснуліся ад барацьбы. Царскае самаўладства скарыстала гэтую здраду народнай свабодзе лібералаў, скарыстала цемнату сялян, якія ва многім верылі лібералам, і разбіла паўстаўшых рабочых“ (Ленін, т. XI, ч. II, стар. 114).

Таксама подла, як і рускія лібералы, здрадзілі народнай свабодзе і беларускія нацыянал-лібералы, фактычна стаўшыя на шлях падтрымання самаўладства супроць рабочых і рэволюцыйных сялян, пайшоўшыя на пагадненне са сталыпінскім рэжымам.

За разгромам рабочага паўстання царызм разграміў салдацкія і сялянскія паўстанні, і па ўсёй краіне наступіў перыяд разгула контррэволюцыі. Рабочы клас адступіў. Партыя рабочага класа ідзе ў глыбокае падполле, пераварвае вопыт новых форм барацьбы, вучыць рабочы клас гэтаму вопыту, рыхтуе яго да новых баёў. У асяроддзі дробна - буржуазных партый пануе разброд, разачараванне ў народнай рэволюцыі, у здольнасць мас да рэволюцыйнай барацьбы, рэнегацтва, распад, дэмаралізацыя і г. д.

У асяроддзі буржуазнай і дробнабуржуазнай інтэлігенцыі пышна расквітае ідэалізм, містыцызм. Вера ў рэволюцыю, якую згубіла напалоханая рэакцыяй інтэлігенцыя, замяняецца пошукамі новай рэлігіі і новага бога. Гэты распад і рэнегацтва захапляе літаратурную буржуазную і дробнабуржуазную інтэлігенцыю. „Як некалі занадта яркі свет сляпіў нашу інтэлігенцыю і выклікаў у яе галавакружэнне, так цемрадзь ночы выклікала ў яе марадзёрскія нахілы і штурхнула на шлях „пашальвання“ (В. В. Вароўскі).

У рускай літаратуры з'яўляюцца пасквілянты, якія аплёўваюць рэволюцыю, льюць памыі і розны свой дробнабуржуазны бруд на галаву пролетарскіх рэволюцыянераў. З'яўляецца рад пасквілянскіх і марадзёрскіх твораў у Л. Андрэева, Ф. Салагуба, Арцыбашэва, Вінічэнкі і інш., якія ярка сведчаць аб тым разлажэнні і рэнегацтве ад рэволюцыі, аб тых міязмах разлажэння, якімі рэнегацтвуючая інтэлігенцыя атручвала грамадскае паветра.

Гэты заняпад і бязвер'е характэрны не толькі для рускай буржуазнай і дробна-буржуазнай літаратуры, яно характэрна ў розных варыяцыях і для беларускіх пісьменнікаў. Творы Цёткі пасля 1906 года, творы Гаруна, частка твораў Коласа, частка вершаў Купалы выразна пацвярджаюць гэта.

Другі перыяд творчасці Купалы праходзіць пад знакам заняпаду, афарбоўваецца характэрнымі для ўпадніцкай літаратуры фарбамі. У яго

творчасці знікаюць гучныя рэвалюцыйна-дэмакратычныя ноты, баявыя заклікі да лепшай долі і волі; знікае глыбокі дэмакратызм, які быў выяўленнем дэмакратычнага руху і дэмакратычных імкненняў сялянства; знікае і ваяўнічая імклівасць і гордая пропаведзь свабоды чалавечай натуры і „духа“, непахіснасць яе ні перад якім прыгнётам,—якія былі характэрнымі элементамі ў творчасці першага перыяду. Праўда, ад першага перыяду асталося яшчэ спачуванне народнаму гору, аплакванне сялянскай долі, але ўжо і гэтае ў другім перыядзе гучыць па інакшаму. У вершах зборніка „Гусляр“ не адчуваецца ўжо той глыбокай непасрэднасці, той цяплыні ў слёзах аб прыдушаных сялянах, той веры ў сілу мас, што прыдзе лепшая доля, што характэрна для раду вершаў „Жалейкі“. Песімістычны струмень, які прабіваўся праз пэўны цыкл вершаў „Жалейкі“, у „Гусляры“ выліўся ў шырокую раку і стаў пануючым.

Народнае гора і слёзы сялянскія, ад якіх паэт у „Жалейцы“ не аддзяляў свайго гора і слёз, у „Гусляры“ часта існуюць ужо самастойна. Яго „душа“ не адчувае ўжо ранейшай непасрэднасці і ён зварочваецца да яе, каб яна адгукнулася звонкай песняй на стогн векавы ўчарашніх аб'ектаў яго ліры. Паэт просіць у поля даць яму сілы любіць яго па ранейшаму, бо адчувае, што гэтыя сілы яго пакідаюць, што ірвуцца тыя ніці, якія так моцна звязвалі яго з сялянствам, са сваім народам у перыяд „Жалейкі“.

Блуджу я, маркотны,
Па родных загонах.

Паэт усведамляе, што ён адрываецца ад народнага гора, што ён пачынае блукаць з маркотнымі думкамі, што ён замыкаецца ў шкарлупу інтэлігента са сваімі „душэўнымі“ перажываннямі. Ён гаворыць, што не плача над братнімі магіламі, не плача над тым, што сялянская ніва не родзіць, не плача над доляй „роднага народа“. Грудзі яго сціскаюцца болем пры думцы, што з ім, з паэтам, будзе, калі не хопіць сіл пець.

Я не плачу па родным народзе,—
Сяк ці так дажыву долі яснай.
А мне толькі сціскаюцца грудзі
І ў вачах слёзы цмяцца не міла,
Калі ўздумаю, што са мной будзе,
Як пець песні не стане ўжо сілы.

Месца долі народнай часта займаюць суб'ектыўныя перажыванні паэта. Кругавід засланы беспрасветнымі цёмнымі хмарамі. Кругом нуда, маркотнасць, сум, ледзяная халадэча, жудасць і магільная ціш. Глуха праходзяць гады, „маладосць з вольным поглядам гасне пад горасці лёдам“.

Цёмнасць расставіла сеці,
Слёзныя віхры ўзнімаюцца,
Губяцца сілы ў рассвеце...
Божа, як жутка на свеце!
Стужа зблізкаецца.

Паэт бяссільны змагацца з гэтай ледзяной, сцюдзёнай, жудаснай рэчаіснасцю, якая расставіла сеці і душыць усё жывое. Ён не верыць і ў свае сілы і ў сілы мас, ад якіх ужо адарваўся і замкнуўся ў вузкае кола сваіх суб'ектыўных перажыванняў. Суб'ектыўнае сваё няверʻе паэт асвятляе ўпадніцкай філасофіяй наканаванасці. Чалавек і чалавецтва цалкам, па яго поглядах, бяссільны змяніць рэчаіснасць, на роду чалавека

напісана вечна пакутаваць, цягнуць цяжкі крыж пакуты і мучэнняў. Асуджанасць на безвыходнасць, на пакуты і беспрасветнасць, хаваюцца ў сутнасці чалавецтва, гэта натуральны закон, які нельга змяніць.

Нязнанай сілай правіць светам
Пачатак, бытнасць і канец;
Народ тоўпехаецца ў гэтым
Як стада зблуканых авец.

Свет створаны і пабудаваны так, што „за годам год, за родам—род“, нідзе і ні ў чым няма канца, няма і не будзе канца і чалавечым пакутам.

Упадніцкай філасофіяй безвыходнасці і накананай асуджанасці філасофіяй пасіўнасці і нявер'я ў творчыя сілы чалавека прасякнуты такія творы як „Адвечная песня“, „Сон на кургане“, „За песень жыцця“, „Беззямельныя“ і радінш. У містычна-сімвалічнай паэме „Адвечная песня“ *) паэт малюе жудасную трагедыю селяніна, які ад нараджэння і да самай магілы церпіць здзекі і пакуты. У час нараджэння дзіцяці на ім з'яўляюцца цені і прарочаць яму вечныя мукі. Усё жыццё селяніна, як і ў чалавека з драмы „Жизнь человека“ Л. Андрэева, паэт паказвае ў трагічных і жудасных вобразах, а цень яго пасля смерці, выйшаўшы з магілы, гаворыць

Раскрыйся канава магіла:
Страшней цябе людзі і свет.

Нявер'е ў творчыя сілы чалавека, у рэволюцыйную змену і перабудову свету, акружаючай паэта рэчаіснасці, прыводзіць яго да крайняга суб'ектывізма, да згубы ўсякіх перспектыў, да ўцякання ад жыцця.

Уцёкі ад жыцця—характэрны матыў вершаў Купалы перыяду „Гусляра“. Іншых шляхоў як да магілы паэт не хоча бачыць. Шмат яго твораў завяршаюцца трагічна.

Так цяжка жыць паміж жывымі.
У магіле будзе мо' лягчэй.

На зямлі думы яго закуты ў путы супярэчанняў, у кайданы містыкі, „дух“ асуджаны на вечнае блуканне ў жыццёвай цемрадзі. Выхад можа быць толькі ва адыходзе ад жыцця, у „загробны край“, у магілу, або ў космос да „зораў агністых“.

Стаю на магілках і думу
У слязлівым сэрцы калышу,
Ганю ад жыццёвага шуму
У загробны край сваю душу.

Магільным холадам, пахам магільнай зямлі вее і ад любоўна-лірычных вершаў паэта.

Непрыветлівая да земнага шуму яго ліра імкнецца „шлях залаты“ працерабіць і зорна ўзнесціся ў нябесныя высоты.

Мець бы мне крыллі саколлія,
Мець бы мне волю зарніцаў,
К нізям не рваўся-б ніколі я,
З высі глядзеў на зямліцу.

*) „Адвечная песня“ знаходзіцца ў надзвычай блізкім падабенстве з драмай Л. Андрэева „Жизнь человека“.

Але ж як чалавек наогул, так і паэт у тым ліку сваёю дзейнасцю, жыццём і ўсёй сваёй сутнасцю прывязаны да рэальнага, земнага свету, са ўсімі яго супярэчнасцямі. Ён толькі ў фантазіі сваёй можа ствараць іншы, загробны ці нябесны свет і ўзнесціся да херувімаў, знайсці там „спакойнасць вялікую“. Рэальная жыццёвая абстаноўка хутка абразае крыллі ў нашага паэта і дае яму знаць аб сабе штодзённа і шточасна, разгортваецца перад ім ва ўсёй сваей непрыгляднасці. Паэт кідаўся ад „загробнага краю“ да „прыволля нябеснага“, але гэта не давала яму выйсця з „жыццёвай ціны“.

Крыкам разгубленага інтэлігента гучаць і яго пасіўныя звароты да сонца-долі.

„Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?“ Але веры ў тое, што ўзойдзе сонца волі і сваімі праменнямі развее цьму рэакцыі і ледзяную халадэчу ў паэта няма. Калі пачалася рэволюцыя паэт думаў, што „душы ўжо вольныя“. Але вось „дунулі сіверы з поўначы“ і развеялі яго веру ў вызваленне.

Думалі душы—ужо вольныя—
Дні ўсе шчаслівасці блізка,
Дый знаць гаротным бяздольнае
Суджана з роду, з калыскі.

Такімі ўпадніцкімі, беспрасветна-песімістычнымі настроямі авеяна амаль уся творчасць Купалы другога перыяду.

Адпаведна гэтым ідэйным зменам, адпаведна ўпадніцка-песімістычным настроям адбываецца змена і тэматыкі вершаў, і вобразная сістэма, рытміка вершаў і слоўнік паэта. Суб‘ектыўныя пачуцці разгубленага інтэлігента, перажыванні яго „душы“ і гістэрычны крык займаюць адно з асноўных месц у лірыцы „Гусляра“. Месца рэалістычных вобразаў характэрных для „Жалейкі“ часта займаюць сімвалы, персаніфікаваныя містычныя і міфалагічныя істоты. Русалкі, ведзьмы, вар‘яты, здані і цені, жыццё і доля, бяда, крыжы і смерць, курганы і разбураныя замчышчы— вось тыя сімвалічныя і персанафікаваныя вобразы, у якіх паказвае паэт жудасць і вар‘яцтва свету. Усе гэтыя вобразы, так адзін на другі нанізаны, што сапраўды ствараецца змрочны і жудасны малюнак свету.

Канкрэтна-прадметныя, узятыя з слоўнага асяроддзя сялянства, адпаведныя яго светаўяўленню эпітэты і параўнанні „Жалейкі“ папаўняюцца ў „Гусляры“ лексікай інтэлігэнтнага асяроддзя.

Не ўнік паэт у гэты перыяд сваёй творчасці і ад захаплення эстэтызмам. Захапленне беспрадметным хараством, бляскам формы, гукапісам і музычнасцю без адпаведнасці зместу, бравіраванне формай, захапленне супакоем пейзажа,—усе гэтыя элементы ў наяўнасці ў „Гусляры“.

## III

Трэці перыяд творчасці Купалы ў асноўным ахоплівае 1911—16 г. і супадае з гадамі новага ўздыму рэволюцыйнай хвалі і першымі гадамі імперыялістычнай вайны.

Гады 1910—1914 з‘яўляюцца гадамі новага ўздыму рэволюцыйнай хвалі, новага ўздыму рабочага руху, бражэння ў царскіх войсках, бражэння ў глыбокіх пластах сялянскіх мас. Пад уплывам рабочага руху пачынаецца ў гэтыя гады ажыўленне руху ў асяроддзі дэмакратычнай моладзі, галоўным чынам студэнцтва; ажыўленне руху нацыянальна-прыгнечаных народаў, стогнучых пад прыгнётам „ваенна-феадальнага імперыялізма“ (Ленін).

У 1911—1914 гады ў творчасці Купалы наглядаецца зжыванне тых глыбока-ўпадніцкіх настрояў, якія характэрны для „Адвечнай песні“, „Гусляра“ і іншых яго твораў, праяўляецца некаторае прасвятленне. У яго паэзіі пачынаюць гучэць ноты бадзёрасці. Калі ў „Гусляры“ паэт заклікаў „горда пакінуць“ зямлю і рваўся то да „зораў агністых“, то ў „загробны“ край, шукаў супакою для сваёй „душы“ сярод „магільных пліт“, дык у новы перыяд яго творчасці яго думка:

Як вецер, як птушка, дзе сонца, дзе зоры
Так рвецца, нясецца ў даль думка мая;
Абыймецца з небам, пакоціцца ў мора,
У вялікае мора людскога жыцця.

Подых новага ўздыму рэвалюцыйнага руху, новае рэвалюцыйнае бражэнне ў гушчах сялянства аздараўляюча дзейнічае на паэта. Як адлюстроўванне гэтага новага ўздыму, рэвалюцыйнага руху ў творчасці паэта зноў пачынаюць гучэць парывы да свабоды, з „цьмы нядольнай“ на шырокі простор волі:

За свабоду сваю
Усёй душой пастаю;
У вагонь, у ваду
Я за ёю пайду.

Ён заклікае вецер пець аб свабодзе, шумны, зялёны бор аб свабодзе грымець, гарачае сонца распаліць па ўсёй чыста зямлі ланцугі няволі. У радзе вершаў паэта зноў пачынае магутным голасам гучэць баявы заклік паўстаць на барацьбу, прымусіць ветры веяць у другі бок. У гэты-ж час быў напісан і баявы, агністы, велізарнай мастацкай сілы і глыбока-эмацыянальны верш „Зваяваным“. Мы не можам не перапісаць яго цалкам, бо ён найбольш ярка выяўляе новы ўздым рэвалюцыйных пачуццяў у нашага паэта, бо ён з'яўляецца найбольш яркім узорам рэвалюцыйна-дэмакратычных элементаў творчасці Купалы.

Спіце ўсе тыя, што праўды па свеце шукалі,
І, не здабыўшы, у дамоўкі без часу зышлі.
Граззю ў вас кідалі, вольна дыхнуць не давалі...
Хай-жа пацешацца: ужо вы спачылі ў зямлі...

Гулка нясецца стогн лесу ў начныя пацёмкі,
Плача-галосіць у коміне вецер глухі...
Спіце вы, слаўныя гора і працы патомкі,
Хутка над вамі распалім памінкаў агні.

Мала вас, мала было паміж цёмнымі намі;
Сільны яшчэ быў наш блуд і туман кругом нас!
Вы, перамогшы усё, узняліся арламі,
Бліскам былі нам, тым бліскам, што гас і не згас.

Грозна нясліся магутныя вашыя клікі;
Нават каменныя душы скідалі свой сон;
Радасцю дзіўнай звінеў ваш край бедны, вялікі...
Сіл не хапіла... запеў пахаронны вам звон.

Свежыя наспы мураўка яшчэ не пакрыла,
Жвір толькі свеціцца, змыты сцюдзёным дажджом...
Спеце! Мы вашых на век не забудзем магілаў;
Збуджаны вамі, мы ўскрэслі, мы больш не заснем!

У творчасці паэта мы зноў часта сустракаем вобразы сялян, касцоў, беззямельных, сірот і г. д., вобразы прыдушаных цяжкасцямі соцыяльнага жыцця, вобразы сялян, што разбураюцца працэсам капіталізацыі

буйных памешчыцкіх латыфундый („Раскіданае гняздо“). Паэт на гэтым этапе шырока выкарыстоўвае сюжэты народнае творчасці, надаючы ім густую соцыяльную афарбоўку, выяўляючы і ў старой сівізне сярэднявечча антаганізм паміж прыгоннікамі і прыгоннымі. Паэмы прыгонніцкай эксплаатацыі ў феадальную эпоху паэт імкнецца паказаць шырока і align="" рознастайна. Ён зусім праўдзіва паказвае, што прыгоннікі прыгняталі і эксплаатавалі не толькі рабочую сілу сялян, але і інтэлектуальныя здольнасці працоўных, прыгняталі і душылі таланты, калі яны пакорліва не станавіліся на службу прыгоннікам („Курган“). Прыгнечанае і бяспраўнае становішча прыгонных у эпоху прыгонніцтва ярка адлюстравана ў паэмах Купалы.

З усіх гэтых твораў паэта дыхае глыбокае яго спачуванне прыгнечаным, эксплаатаваным сялянам, прыгонным. Гэта глыбокае, сапраўды шчырае спачуванне прыгнечаным і эксплаатаваным сялянам безумоўна выгодна адрознівае Купалу ад паноў з „Нашай Нівы“, якія патрасалі жабрацкаю торбаю сялян, як своеасаблівым штандарам для дасягнення сваіх сугуба-класавых, буржуазна-кулацкіх інтарэсаў.

Аднак, у вобразах сялян Купалы, мы заўважаем усё больш і больш як тыповае і характэрнае тое, што было адным з момантаў у перыяд „Жалейкі“. Гэтай тыповай і характэрызуючай рысай вобразаў сялян у паэзіі Купалы выступае паказ пасіўнасці, талстоўскага адрачэння ад палітыкі і барацьбы. „Трэба праўды шукаць не тапаром, а розумам“— гаворыць селянін Лявон у п‘есе „Раскіданае гняздо“. Гэтае адмаўленне селяніна ад „тапара“, як зброі ў барацьбе з памешчыкамі, зброі, якую апяваў паэт у перыяд „Жалейкі“ паэт не толькі канстатуе, але яўна яму сімпатызуе, узводзіць ва ўсеагульны прынцып паводзін, нават і для інтэлігенцыі.

Паэт, з вялікай сілай мастака, канстатуе антаганізм паміж памешчыкамі і сялянамі, рэзка і просталінейна нападае сваёю творчасцю на паразітычныя класы, але не хоча бачыць выйсця, і ў сілу філасофіі рока і асуджанасці, якая так ярка выявілася ў другім перыядзе, не бачыць выйсця з існуючага стану, бо чалавек бяссільны змяніць законы свету. Адсюль і частыя ноты прымірэння з рэчаіснасцю.

Паэт яшчэ часта пратэстуе супроць прыгнёту і разбурэння селяніна, але гэты пратэст не з пазіцый пролетарскага рэволюцыянера, а з пазіцый патрыярхальнага селяніна, які як дрэва прырос да свайго шматка зямлі.

Новыя соцыяльныя зрухі і змены як у экономіцы, палітыцы, так і ў людзях, якія адбываліся пасля рэволюцыі 1905-6 г. тое, што рэволюцыя, не гледзячы на яе паражэнне, усё-ж нанесла новы ўдар рэшткам прыгонніцтва, тое, што сталыпінская аграрная палітыка азначала новую дзікую форму грабяжу і разбурэння сялянства—паэт не ўсвядоміў з усёй глыбінёй.

Мастак-рэаліст ён адчувае, што робіцца нешта новае, што „Старыя парадкі раскідаюць па свеце, а новых лепшых, нешта не відаць і не відаць“,—і канстатуе праз старца з „Раскіданага гнязда“. Паэт адчувае і заўважае, што гэты працэс адбываецца пры ўдзеле новых сіл: „Як вярнуўся малады паніч недзе з далёкага краю, з навукі, дык усё пашло ўверх дном—усіх чыншавікоў сталі чысціць“—але як патрыярхальны селянін не разумеў гэтых працэсаў, так і паэт іх не асэнсаваў.

Паэт адлюстроўвае ў сваіх „вясковых“ вершах старую вёску, старога патрыярхальнага селяніна, які не змагаўся, а плакаў, вёску, якая верыла ў царскія законы, а не ў свае сілы, якая пакорліва падала на калені

перад сваімі прыгняталькікамі. Вобразы Лявона і Марысі Лявоніхі найбольш яркія вобразы гэтага цыклю. Паэту не зразумелымі засталіся тыя працэсы, якія адбываліся на глебе сталыпіншчыны ў беларускай вёсцы; пасілены працэс дыферэнцыяцыі сялянства, глыбокае пранікненне класавай барацьбы ў гушчу сялянства, шырокае яе разгортванне засталіся незаўважанымі паэтам. Ён таксама не хоча заўважаць на вёсцы новых людзей, якія сяму - таму навучыліся ад рабочага класа ў рэволюцыйнай барацьбе, якія не мірыліся з безыходнасцю, але якія змагаліся ў рэволюцыйнай барацьбе, пад кіраўніцтвам пролетарыята шукалі выйсця.

Імкненне стаць над класавай барацьбой ярка выяўлена ў творчасці Купалы ў трэцім яе перыядзе. Змяняецца і погляд яго на сваю песню, на аб'ект яе.

Песня мая не зачэпе сягоння
Думкай сваею ўсіх хат і сяліб,
Зваленых хат і людзей у прыгоне,
Усходным зярном неабсеяных скіб.

Зваленыя хаты, людзі ў памешчыцкім прыгоне і неабсеяныя скібы пачынаюць уступаць месца „роднаму краю“, „Беларусі-маці“. Пры гэтым часта „маці-бацькаўшчына, святая Беларусь“ абстрагуецца ад канкрэтных рэальных людзей, яе жыхароў.

Беларусь рабочых і сялян, прыгнечаных самаўладствам і капіталістамі часта падмяняецца Беларуссю інтэлігентаў.

„Маці-бацькаўшчына“ пачынае займаць усе думкі і сэрца паэта. Дзе-б ні быў, ён думкамі і сваім сэрцам жыве з „родным краем“ і ў лірычна-цёплых тонах апявае яго. Разам з гэтым культ „роднага слова“, гнанага пануючымі класамі Расійскай імперыі з'яўляецца неадлучным матывам песень аб „бацькаўшчыне“.

На селяніна паэт часта пачынае глядзець ужо, толькі як на чалавека-беларуса, які нацыянальна прыгнечаны. Соцыяльны прыгнёт як-бы адыходзіць на задні план.

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі—
Любі сваю ніву, свой край.
І, колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай.

Раіць паэт селяніну. Абароне „бацькаўшчыны“ ад нацыянальнага ўціску, імкненню да „вольнай бацькаўшчыны“ прысвечана паэтам многа глыбока-эмацыянальных вершаў. У гэтых сваіх вершах паэт з уласцівай яму мастацкай сілай выкрывае зверскую нацыянальную палітыку царызма, тэмпераментна нападае на прыгняталькікаў. Ужо гэтае выкрыванне і канстатыцыя нацыянальнага ўціску з'яўляецца бясспрэчна вялікай сілай паэта. Тым больш, што гэтая канстатыцыя не бесстароннага наглядальніка, а чалавека, які глыбока спачувае прыгнечаным „нізам“.

Бясспрэчна, што ў гэтым палкім імкненні паэта да нацыянальнай свабоды і роўнасці яшчэ адлюстроўваюцца прагрэсіўныя і дэмакратычныя імкненні, абуджаных развіццём капіталізма і актывізаваных рэволюцыяй 1905 г. беларускіх мас да палітычнай свабоды і дэмакратыі супроць сярэднявечча і царска-памешчыцкага ўціску.

„Для украінцаў і беларусаў, напрыклад, толькі чалавек, які сваімі марамі жыве на Марсе, мог-бы адмаўляць, што тут няма завяршэння нацыянальнага руху, што абуджэнне мас да авалодання роднай мовай і яе літаратурай (а гэта—неабходная ўмова і спадарожнік поўнага развіцця капіталізму, поўнага пранікнення абмену да апошняй сялянскай сям'і) тут

яшчэ адбываецца. „Бацькаўшчына“ тут яшчэ не прапяяла ўсёй сваей гістарычнай песні. „Абарона“ „бацькаўшчыны“ яшчэ можа быць тут абаронай дэмакратыі, роднае мовы, палітычнай свабоды супроць прыгнятаючых нацый, супроць сярэднявечча, тады як англічане, французы, немцы, італьянцы хлусяць цяпер, кажучы пра абарону сваёй бацькаўшчыны у данай вайне, бо не родную мову, не свабоду свайго нацыянальнага развіцця абараняюць яны на справе, а свае рабаўласніцкія правы, свае калоніі, „сферы ўплыву“ свайго фінансавага капіталу ў чужых краінах ды інш.“ (Ленін, т. XIII, стар. 350).

Пролетарыят і яго партыя, будучы самымі рашучымі ворагамі ўсякага ўціску, прызналі і падтрымлівалі гэтыя прагрэсіўныя, дэмакратычныя імкненні нацыянальна прыгнечаных народаў. Але наша партыя заўсёды папярэджвала, „каб гэтае прызнанне не ператварылася ў апалогію нацыяналізма, трэба, каб яно абмяжоўвалася найстражэй толькі тым, што ёсць прагрэсіўнага ў гэтых (нацыянальных **Л. Б.**) рухах,—каб гэтае прызнанне не вяло да зацямнення пролетарскай свядомасці буржуазнай ідэалогіяй“ (Ленін, т. XIX, стар. 49). Вось чаму мы не можам цалкам узяць усю дарэволюцыйную творчасць Купалы, у прыватнасці і ўсе нацыянальныя яго матывы, а павінны сурова вылучыць у іх прагрэсіўнае ад рэакцыйнага.

Побач з прагрэсіўнымі і дэмакратычнымі элементамі ў нацыянальных матывах, як і ва ўсёй творчасці Купалы, бытуюць і рэакцыйныя элементы, палітычна шкодныя.

Там, дзе паэт выступае супроць варварскі дзікага метада ломкі патрыярхальшчыны, там ён выяўляе прагрэсіўны пратэст, але там, дзе ён выступае супроць прагрэсіўных фактаў капіталістычнай рэчаіснасці, там яго пратэст рэакцыйны. А ў „Раскіданым гняздзе“ паэт малюе патрыярхальную Беларусь, прыросшага да свайго клачка зямлі селяніна, які адмаўляецца ад барацьбы і палітыкі, які пакорліва зносіць здзекі памешчыкаў, калі не хапае сіл зносіць—вешаюцца; ён малюе Беларусь, якая плача і моліцца, якая на калені падае перад прыгнятальнікамі. Купала мастак-рэаліст, які з глыбокай крыўдай канстатуе процілегласці паміж сялянствам і памешчыкамі - прыгоннікамі, паміж казной, самаўладствам і прыгнечаным ім сялянствам, па меры захаплення нацыяналістычнымі ідэямі губляе рэалістычныя рысы, здраджвае сабе як рэалісту, а яго творы набываюць рамантычную афарбоўку, скажаюць гістарычную праўду.

Мастак-рэаліст у свой час у вершы „Няма мінуўшчыны“ паказаў у гістарычна праўдзівых вобразах, мінулае беларускага народу, як і ў радзе іншых вершаў яго сучаснае. Мастак-рамантык, у інтарэсах нацыянальнай і нацыяналістычнай ідэі, у радзе вершаў зборніка „Шляхам жыцця“ груба скажае гістарычную праўду, у ружовых рамантычных фарбах малюе і ідэалізуе феадальную эпоху, з яе паходамі „сваіх“ князёў, „за свой скарб, народ“, з яе „вечавым голасам“ і законамі. Навакольную прыроду, пейзаж паэт таксама ўспрыймае праз „нацыянальныя пачуцці“. У раскацістых хвалях „вольнага Нёмана“ ён шукае ўспамінаў аб „залатым веку“. У шуме вод Нёмана паэт чуе сумны голас аб былым велічы „роднага краю“—Беларусі, у якім раней усё было інакш, добра і шчасліва.

Край, дзе жыццё я сваё пачынаю,
Шмат весялей прыглядаўся на свет,
Песні і казкі інакшыя баяў.
Шчасце цвіло ў ім, як макавы цвет.

Буйным жыццём усё чыста кіпела,
Слава далёка за мора ішла,
Ворага кожны за плечы браў смела,
Цемра чужынцаў нястрашна была.

Панам быў дома і слаўным за домам
Мой, патаптаны сягоння, народ;
Змог не толькі знаць штукі з заломам,—
Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.

З вольнай дружынаю князь на пасадзе
Вольнаму люду законы пісаў:
Слухалі князя, а князь што не ўладзіў—
Слухаў, што веча яму звон казаў.

Паэт сумуе аб старых законах і ў іншых вершах ён абвінавачвае царызм за тое, што „з балотам змешаны старыя законы“. Фальклорны матэрыял, казкі і легенды паэт стылізуе ў духу нацыяналістычнай рамантыкі мінулага. Вобразы „лірнікаў“, „чарадзеяў“, сівых гусляроў і „забытая скрыпка“—са скрыпачамі, як выразнікаў „народнай душы“, як шукальнікаў бальзаму „жывой вады“ для аблягчэння „гора народнага“, вольных і ні ад каго незалежных, часта ўпрыгожваюць рамантыку мінуўшчыны.

Дзівамі кветкі купальскай
Кожную зваблю душу;
Буду няласкаў і ласкаў,
Багаў фальшывых скрышу!

„Крышачы“ адных фальшывых багоў, паэт аддана моліцца другім не менш фальшывым багам.

Паэт замыкаецца ў сваю нацыянальную шкарлупу і нічога не хоча бачыць і знаць апрача свайго „роднага краю“.

Знаю толькі пушчы Белавескай гоманы,
Знаю толькі рэчку—з плытнікамі Неман.

Эканамічна адсталую, з перажыткамі ў глухіх кутках патрыярхальшчыны, балотную і вазёрную Беларусь, паэт ідэалізуе і апявае ў пяшчотналірычных, цёплых тонах, як „царэўну“ з „лебядзінаю яснотаю“. Характэрным і тыповым у гэтых адносінах з‘яўляецца верш „Маладая Беларусць“. Узвышанасць і празмернае нанізванне пяшчотных параўнанняў, эпітэтаў і метафар—характэрны паэтычны прыём пры апісанні Беларусі.

„З свойскіх кветак-пралесак—карона твая,
уся сама ясната лебядзіная“.

Або:

„Зіхаціш і гуслярскаю песняй звініш...“

Ці яшчэ:

„Смела ў сонца ідзеш, як жывы агняцвет
Сееш ласкавы сны залацістыя...“

У такіх-жа цёплых і пяшчотных тонах паэт апявае ўсё б е л а р у с к а е, „сваю хатку, свой тачок“, сваю „прызбу, плот з праслам і“, „абычай сельскай прастаты“, пайзаж і г. д.

Лірычнае апяванне паэтам „родных межаў“ прасякнута зусім беспадстаўным поглядам на беларусоў, як людзей асаблівага соцыяльнага складу.

Беларус—гэта чалавек з чыстай душой, яму неўласціва „крывадушнічанне“, абман і г. д.; ён пакорлівы і працавіты, „мірны і ласкавы“, які нікога не крыўдзіў, але сам зносіць крыўды. У беларускім народзе, паводле поглядаў аўтара, няма і багатых людзей, гэта суцэльны вясковы просты і гаротны, „крыўдай успаяны“ народ. Беларуская нацыя, згодна яго поглядам, гэта нацыя асаблівая, якой не ўласцівы класы, класавыя процілегласці і класавая барацьба. Беларусы, паводле ўяўленняў аўтара, усе дзеткі адной маткі і злучаны паміж сабою „адной думкай“.

Калі другія народы выдумалі троны, кароны, вісельні, кулі, то ўсе гэтыя якасці не ўласцівы баларусам.

Свет там выдумкі хітрыя знае—
Троны, кароны, вісельні, кулі,—
Выдумаць гэтага мы ў сваім краі
неяк мінулі.

У адпаведнасці з гэтым, па сутнасці буржуазна-нацыяналістычным уяўленням паэт і ў трэцім перыядзе сваёй творчасці паўтарае знаёмыя нам ужо заклікі да любві і класавага міра ўнутры нацыі да нацыянальнай еднасці ўсіх беларусоў.

Кіньма сваркі і звадкі, адной дзеці маткі—
Мы злучаны думкай адной;
Пры згодзе і ладзе ў нас доля заядзе,
Палічаць і нас за людзей.

Гэтае апяванне і ідэалізацыя вясковай правінцыяльнай абмежаванасці і супакою, патрыярхальнай нерухомасці і пасіўнасці, прапаганда буржуазна-нацыяналістычных ідэй аб класавай еднасці і нацыяльнай выключнасці беларускай нацыі спалучаецца ў паэта з варожасцю да горада. Горад уяўляецца паэту і малюецца ў яго творах толькі як разгульна-кабацкі, у якім:

Страва, карты, хто што хоча,
Льецца рэчкаю віно.

Ачараваны і асліплены буржуазна-нацыяналістычнай ідэалогіяй паэт варожа выступае ў сваіх творах і супроць ідэі саюза рабочага класа і сялянства, супроць саюза працоўных мас Беларусі з працоўнымі іншых нацый. Паэт раіць беларусу ні да каго не хадзіць за парадай, а шукаць яе і праўду, то ў сваёй „душы“, то „каля плота“.

О, не хадзі к другім за радай,—
У пушчы сонца не шукай!
Дабудзь з сваёй душы ўсе праўды,
Сваіх дум, сэрца запытай.

Або:

„Не шукай сабе дружакаў
Між чужынцаў, між піяўкаў,
Ні у месце, ні ў палацы,
Ні пры лёгкай панскай працы,—
Не шукай ты там дружакаў“.

Такія вершы Купалы прасякнуты нацыяналістычнай нянавісцю да „чужынцаў“ наогул. Усе „чужынцы“, паводле ўяўленняў паэта, „ворагі беларушчыны,“ якія „таргуючы імям хрыстовым, цемру і зваду спладзілі ўкруг“ і беларусоў сваіх „брацціяў запрэглі ў нявольны плуг“.

Паэт не хоча адрозніваць працоўных і эксплаатаваных у другіх нацыях, для яго ўсе „чужынцы“ аднолькавай натуры.

„Зусім законную і натуральную нянавісць да велікарусаў-прыгняталь-нікаў“ (Ленін) Купала пераносіць і на велікарускіх працоўных, на рабочы клас, скачваецца „тым самым у балота буржуазнага нацыяналізма“ (Ленін) і ў гэтых адносінах.

З такой-жа нацыяналістычнай нянавісцю аўтар ставіцца і да культур іншых народаў, разглядаючы іх як культуры наогул. З пазіцый беларускай „нацыянальнай культуры“—буржуазнай культуры, Купала піша радкі, поўныя нянавісці супроць культур усходняй і заходняй.

Годзе заходняй ці ўсходняй культуры!
Для беларуса цана ім адна,
Усе вы, панове, аднакай натуры:
З сэрца чужога кроў ссалі-б да дна.
Вашу карысць нам і вашы заслугі
Добра ўжо скеміў таптаны народ;
Добра вядомы і путы і плугі,
Песціў якімі ваш Захад і Усход.

Купала не разумеў, што як заходняя і ўсходняя культуры, так і культура беларуская не простыя матэматычныя велічыні, а што ў кожнай культуры, у тым ліку і ў беларускай, ёсць дзве культуры. Пакольні ў кожнай нацыі, ёсць дзве нацыі, дык і:„Ёсць дзве нацыянальныя культуры ў кожнай нацыянальнай культуры. Ёсць велікаруская культура Пурышкевічаў, Гучковых, Струве,—але таксама ёсць велікаруская культура, якая характарызуецца імёнамі Чэрнышэўскага і Плеханава. Ёсць такія ж дзве культуры ў украінстве, як і ў Германіі, Францыі, Англіі, у яўрэяў і т. д.“ (Ленін, т. XIX, стар. 47, падкрэслена Леніным), у тым ліку і ў беларусоў.

„У кожнай нацыянальнай культуры ёсць, хаця-бы не развітыя элементы дэмакратычнай і соцыялістычнай культуры, бо ў кожнай нацыі ёсць працоўная і эксплаатаваная маса, умовы жыцця якой няўхільна нараджаюць ідэалогію дэмакратычную і соцыялістычную. (Ленін, т. XIX, стар. 40, падкрэслена Леніным).

Тыя элементы творчасці Купалы, якія адлюстроўваюць дэмакратычную ідэалогію працоўных і эксплаатаваных мас, безумоўна з'яўляюцца элементамі другой культуры, чымся тыя, дзе ён выступае супроць гораду, супроць „чужынцаў“ наогул, супроць заходняй і ўсходняй культур без дыферэнцыяцыі іх.

Сваю нянавісць да „заходняй і ўсходняй“ культур, паэт імкнецца апраўдаць абаронай беларускай „нацыянальнай культуры“ нібыта некласавай.

„Буржуазны і буржуазны-дэмакратычны нацыяналізм, на словах прызнаючы роўнапраўе нацый, на справе адстойвае (часта тайком, за спіной народа) некаторыя прывілеі адной з нацый і заўсёды імкнецца да дасягнення большых выгод для „сваёй“ нацыі (г. зн. для буржуазіі сваёй нацыі) да раздзялення і размежавання нацый, да развіцця нацыянальнай выключнасці і г. д. Талкуючы больш за ўсё аб „нацыянальнай культуры“, падкрэсліваючы тое, што падзяляе адну нацыю ад другой, буржуазны нацыяналізм раз'ядноўвае рабочых розных нацый і абдурвае іх „нацыянальнымі лозунгамі“ (Ленін, т. XIX, стар. 76—77, падкрэслена Леніным).

Такую, аб'ектыўна, справу рабілі і вершы Купалы, у якіх прапагандуецца буржуазны нацыяналізм у розных, у тым ліку і замаскаваных, узвышаных формах.

Да чаго-ж імкнецца паэт, якія яго станоўчыя пазітыўныя ідэалы ў трэцім перыядзе яго творчасці? Мы паказвалі ўжо раней, што яго пазітыўныя імкненні і ідэалы не выходзяць з рамак буржуазна-дэмакратычных свабод, з рамак буржуазна-дэмакратычнай беларускай дзяржаўнасці, з заможным жыццём заснаваным на прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці. Праўда і ў трэцім перыядзе гэтыя ідэалы не акрэслены, расплыўчатыя, не канкрэтныя, выразна нідзе не сфармаваныя ў яго творах. Тым не менш рад твораў ускосна, а некаторыя і проста выяўляюць яго палітычна-грамадскія ідэалы. Паэту хочацца бачыць Беларусь роўнай сярод іншых народаў, хочацца, каб аднавілася яе былая „сіла і слава", каб яна „заняла свой пачэсны пасад між слявянамі", каб беларусы распусцілі „свае крылля, як усе народы".

У адпаведнасці з гэтымі палітычнымі імкненнямі паэта стаіць і адлюстраванне прыватнаўласніцкіх імкненняў заможна-кулацкіх элементаў вёскі, адлюстраванне ўрастання іх у сталыпіншчыну, прымірэнне іх з існуючым палітычным ладам. Ад імя гэтых элементаў гаворыць аўтар у вершы „Ці-ж гэта многа?!"

Ад свету, ад бога,
Жадаю нямнога!—
Зямелькі з валоку,
К ёй шнур неўдалёку,
З святлічкай хацінку,
За жонку дзяўчынку,
Кусок сала к хлебу,
Рубля на патрэбу,
Здароўя чым болей
Крыху долі, волі—
І ўсё! больш нічога...
Ну, ці-ж гэта многа?!

І гэта сапраўды нямнога. Гэта тое, што па сутнасці жадалі кулацка-заможныя элементы атрымаць ад сталыпінскага рэжыму.

Працэс яднання Купалы—ідэолага дробнага вытворцы, дробнабуржуазнага радыкала з беларускімі нацыянал-лібераламі яўна адбываецца ў трэцім перыядзе яго творчасці. І гэта выяўляецца не толькі ў ідэалізацыі патрыярхальшчыны і феадальнай мінуўшчыны, у нянавісці да горада і народаў іншых нацый („суседзям"), у палітычных імкненнях і сымпатыях да кулацка-заможных элементаў,—гэта выяўляецца і ў агульных з нашаніўскімі лібераламі разуменні шляхоў дасягнення мэт. Паэт пераймае не толькі ідэі „Нашай Нівы", але і вобраз іх мышлення, пачынае гаварыць іх мовай.

Калі ў першым перыядзе сваёй творчасці дасягненне нацыянальных мэт і ідэалаў, паэт часамі браў у непарыўнай сувязі з рэвалюцыйнай барацьбой сялянства супроць памешчыкаў і цара, то ў другі і асабліва ў трэці перыяд паэт і ў гэтым пытанні становіцца на пазіцыю беларускіх „адраджэнцаў" нацыянал-рэфармістаў.

„Адраджэнскі" рух у асяроддзі беларускай інтэлігенцыі, успрыймаецца паэтам як усход „маладой Беларусі", як гарантыя сапраўдных шляхоў вызвалення Беларусі.

У вершы „Ужо днее", Беларусь, апавядаючы сваю гісторыю, пера-

лічваючы мінулыя крыўды і здзекі, якія над ёю чынілі „чужынцы“, горда заяўляе вуснамі паэта:

Я жыва! Народ мой са мною, пры мне!
Я ўсё перанесла і вышла з хвалой,
Я сільна, я вечна ў сваёй старане!
Прайшло засляпенне, мінае трывога;
На небе ўжо новая відна зара.
Шырок прада мною гасцінец-дарога.
Ужо днее! Ужо днее!—к сваім мне пара.

Паэт заклікае „старонку сваю“ ўстаць і выйсці сустракаць вясну адраджэння.

„З поўначы сівер кідаў табою,
Як абарвану з лістоў галіну
З захаду зверы ішлі чарадою
Рваць твае грудзі... Вышла жывою,—
Выйдзі-ж спаткаці вясну!“

„Адраджэнскі“ рух, па ўяўленню паэта, прагнаў цёмную ноч і трывогу за лёс „бацькаўшчыны“, адкрыў ёй сцежку для „грамадскай згоды і супольнасці“, да навукі і культуры. Ён навеяў напевы аднаўлення і нават цяжкую працу касцоў, аратых і лесарубаў, зрабіў не столькі цяжкай, сколькі прыемнай.

Разгледжаны намі ідэйны комплекс творчасці паэта спалучаецца з расчараваннем у сілу рэволюцыйных мас, з нявер'ем у іх здольнасці. Былая вера ў масы сялянства знікае, а яе месца займае горкая крыўда на іх, што яны абыякавы да „пракоркаў“ і не падтрымліваюць іх.

Такой горкай крыўдай гучаць заключныя радкі вершу „Прарок“, у якіх паэт не без утрыроўкі паказвае як сяляне ставіліся да „пракоркаў адраджэння“.

Так гаварыў і з рабства клікаў
Людзей на волю той прарок,
Ждучы з трывогаю вялікай
Ад іх адказу неўнарок.
А людзі, глянуўшы на сонца,
Адказ казалі грамадой:
—Пакольқі-ж нам дасі чырвонцаў
Калі мы пойдзем за табой?

Усё гэта прывяло да таго, што паэт стаў быў адным з ідэолагаў буржуазна-дэмакратычнага „адраджэнцтва“.

Ідэалогія буржуазнага „адраджанізма“ не дазваляла паэту правільна зразумець і сутнасць імперыялістычнай вайны. Паэт не зразумеў класавай сутнасці імперыялістычнай вайны, не зразумеў таго, што імперыялістычная вайна няўхільны спадарожнік імперыялістычнага капіталізма, а ўспрыняў яе, як надыход нейкай адвечнай крыўды, як праяўленне не чалавечых, а звярыных інстынктаў у чалавеку, навеяных „паганым змеем злосці“.

З'ядае крыўда нас ад векаў,
Няма ні крыўды, ні парадку,
Стаў чалавек звер чалавеку,
Труюць адзін аднаго звадкай.“

І ў часы імперыялістычнай вайны Купала заставаўся ў палоне буржуазна-нацыяналістычных ідэй „адраджанізма“. Беларусь-„бацькаўшчына“ у ранейшым яе разуменні паэтам, не пераставала паланіць яго. У вершы

„Бацькаўшчына“ (1915 г.) паэт разглядае сябе неадрыўна ад ідэі „бацькаўшчыны“.

І калі здекваецца нада мною хтосці—
Над бацькаўшчынай здекваецца ён маёй,
Калі-ж над ёй—мяне тым крыўдзіць найцяжэй...

Патрыятызм к сваёй беларускай „бацькаўшчыне“ выклікаў у паэта і патрыятычныя ноты ў адносінах да расійскай імперыі. У 1914 г. ён піша „Песні вайны“. У гэтых песнях паэт зусім непрыкрыта, у поўнай згодзе з усімі беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі з „Нашай Нівы“ піша:

Хто за славу выйдзе з славай—
Тых не зломіць бой крывавы;
Хто за праўду праўдай стане—
Тых сустрэне змілаванне.

Гэтымі радкамі паэт, па сутнасці, станавіўся на пазіцыі апраўдання імперыялістычнай вайны, як вайны за „праўду“, а на самай справе вайны імперыялістычных драпежнікаў.

Стаўшы на пазіцыі апраўдання імперыялістычнай вайны, паэт няўхільна прышоў да заклiку ісці:

Адважна ў бой! Вайна вайну
Спладзіла—хай-жа бітва йдзе
За шчасця лепшага вясну,
За волю вольнай грамадзе!

Так успрыняў імперыялістычную вайну ў яе пачатку паэт і так на яе адгукнуўся ў сваёй паэзіі Купала. Аднак ужо і ў „Песнях вайны“, апрача гэтага патрыятычнага духу, яўна адчуваецца нянавісць да братазабойнай вайны, выразна гучаць ноты пацыфізма. Часам хоць і туманнае, але блізкае да сапраўднасці ўяўленне аб тым, што вайна вядзецца не на карысць мірных ніў і сёл.

Вышлі роднай вёскі дзеці
Паміраць на белым свеце,
Рассяваць па свеце косці
Праз кагосці, за кагосці.

Туманна, няясна разумее паэт, што вайна вядзецца „праз кагосці за кагосці“. Канкрэтна за каго і праз каго паэт не зразумеў канчаткова. Але важна адзначыць тое, што ён ужо даходзіў да разумення, што вайна не ў інтарэсах працоўных. Таму паэт у вершы „На вуліцы“ (1915 г.) дакарае пануючыя класы, за вяселле над трупамі ахвяр вайны. Паэту жудасна становіцца і ад вяселля ў гарадскіх мурах, у карчмах, таму:

Што могуць дзіч сабой змяніць і весяліцца,
Не бачачы сваіх бяспутнасцяй, што ім змаглі
І думаць адусюль, як змеяў навальніца!

З нявольніцай нявольнік тут танцуе назабой,
Пад здзекам рабскія свае сагнуўшы шыі,
А там, на акрываўленых палёх крывёй людской,
Нявольнік для нявольніка грабніцу рые.

Калі першы год вайны выклікаў патрыётычны настрой паэта і вышэй цытаваныя радкі, дык далейшы ход вайны ясна паказаў паэту, што імпе-

рыялістычная вайна не апраўдвае яго доўгачаканых надзей аб „волі вольнай грамадзе“, аб волі яго „бацькаўшчыне“. У 1915 г. ён піша верш „Той доўгажданнай“, у якім гаворыць:

Чакаў яе, чакаў з трывогай,
Лічыў хвіліны неспакойна,
Чакаў... і непрышла нябога
Не захацела быць так гойнай.

Вайна не апраўдала надзей аўтара на волю і шчасце сваёй бацькаўшчыны. Замест шчасця і волі паэт зноў пачынае адвечную песню з „вернымі сваімі другамі“, „бязмежным горам“, „нядоляй вернай падругай“ і іншымі.

Паэт губіць усялякія надзеі на „адражэнне“ сваёй „бацькаўшчыны“, а свае ранейшыя мары аб ім называе сумным сном. Вайна „маці-бацькаўшчыну“ ў зямлю закапала, а яе верныя сыны „сябе ў палон аддалі“. Надзей на яе „уваскрашэнне“ паэт не мае. Жудасная рэчаіснасць, з „мукамі мільёнаў“ „дзе за паэтам ідзе услед касцісты, бледны труп— як цень“, не раскрывае перад паэтам ніякіх перспектыў.

У вершах паэта зноў пачынаюць гучэць, знаёмыя нам з другога перыяда яго творчасці „чыстыя парывы“ да вызвалення яго творчага „духа“ ад зямных няшчасцяў „у высь да зор“.

Не паніжай сам духу вольнага
І ў паніжэнне іншым не давай;
Над рабскаю талпой аслепленай,
Над злом зямлі у высь, да зор сягай!

Адыход ад „зла зямлі“ завяршаецца „пахаваннем“ сваёй песні. Вайна, зверства людзей, „зло зямлі“ не даюць шчасця ні „бацькаўшчыне“ ні „вольнаму духу“ паэта.

Пахаваў я сярод злому
У пушчы песню аб шчасці—
Так глыбока, скуль нікому
І ніколі не ўкрасці.

Песню аб шчасці—„адрэджэння“ сваёй бацькаўшчыны паэт пахаваў. Але з паэзіяй—Купала не разлучыўся. Мінорныя песні адзіноцтва, журбы і жалю, скаргаў і пракляццяў, „шалёнаму свету“ паэт не перастае спяваць не толькі ў 1915 г., але і ў 1916 г. Аднак гэтыя яго песні не выражаюць ужо народнага гора, актыўнасці і рашучасці працоўных мас у барацьбе супроць вайны, а журбу і смутак інтэлігента, які адарваўся ад грамадскага руху, ад руху шырокіх працоўных мас.

* * *

Творчасць Купалы неўзабаве сустрэла водгук сярод крытыкі не толькі беларускай, але і рускай, польскай, украінскай і чэшскай. Мы не будзем зараз разглядаць усю гэтую крытыку, а толькі коратка і бегла спынім увагу на некаторых крытычных ацэнках. Увогуле-ж адзначым, што ўся гэтая крытыка класава адзіная.

Расійскія вялікадзяржаўнікі адмаўлялі беларускаму народу ў праве мець сваю паэзію, сваю літаратуру, сваю мову. Яны пісалі, што ў Беларусі не можа быць свайго Шэўчэнка (а з'яўленне украінскага Шэўчэнка яны лічылі гістарычнай недарэчнасцю), „таму, што ў беларусаў няма

сваёй асобнай мовы,... што ў іх агульнаруская мова і што ў іх ёсць дарагія ўсім нам Пушкін, Гогаль, Дастаеўскі. Сам лёс, як бы кажа, што з'яўленне тут сваіх Шэўчэнак і асобнай мовы—не натуральна і немагчыма". Польскія паланізатары ў сваю чаргу пісалі тое-ж самае, але-ж апелявалі да польскай інтэлігенцыі. „Беларускі народ,—пісаў Зенон Петкевіч,—ніколі не меў і не мае сваёй літаратуры. Стварыла яе польская інтэлігенцыя". Наяўнасць беларускай літаратуры, асабліва пасля рэвалюцыі 1905 г. паланізатар прымае за „штучны вытвар" і г. д.

Ідэолагі польскіх памешчыкаў і капіталістаў у адзін голас асуджэннем сустрэлі творчасць Купалы. Польскія крытыкі тыпу Петкевіча, Янкоўскага асабліва абрушыліся на творы Купалы, у якіх паэт ствараў праўдзівыя вобразы сялян класава проціластаўленых памешчыкам, у якіх паэт выражаў рэвалюцыйна-дэмакратычныя настроі і імкненні сялянства. Яны ўсімі сіламі раілі паэту складаць такія песні, якія-б заахвочвалі мужыка да працавітасці на пана, да безропотных адносін да ўціску, эксплаатацыі, здзекаў і г. д. „Навошта яму пад выглядам рыфмаваных твораў кідаць у вочы плахту нэндзы, прыпамінаць аб падатках, даўгах, сушах, неўраджаях?.. Ці не лепей было-б замест гэтых штучных слёз даць яму папулярную брашуру аб штучным угнаенні? Ці не лепей даць раду як арганізаваць сялянскі кааператыў?—пісаў Петкевіч аб творчасці Купалы.

Другі польскі крытык Чаславў Янкоўскі выступіў з вялікім абурэннем на Купалу за тое, што ён беднаму цяжкаму сялянскаму жыццю супроцьставіў раскошу панскіх палацаў.

Зенон Петкевіч не можа дараваць Купале, што ён „ані на хвіліну не дае беднаму хлопу забыць, што ён ёсць найнешчаслівейшы пад сонцам, што яго праца на раллі—гэта цяжкая работа катаржніка. Нават у ўрачыстыя святы прысылаюць да яго падатковых агентаў і зборшчыкаў магазіннага збожжа".

Польскія крытычныя паны асабліва раз'юшана нападаюць на рэвалюцыйна-дэмакратычныя элементы твораў Купалы, яны абвясцілі гэтыя элементы шкоднымі не толькі для панскага двара, але і для „хлопаў". Польскія крытыкі на ўсе лады ахватвалі творчасць Купалы, „разносілі" яе як „нешчырую", а „штучную", не арыгінальную і г. д. і т. п. Сваёй крытыкай яны стараліся прымусіць талант Купалы служыць польскім памешчыкам, стараліся вытравіць з яго творчасці ўсё дэмакратычнае, прогрэсіўнае.

Беларуская нацыяналістычная крытыка таксама імкнулася атруціць паэта буржуазнай ідэалогіяй, накіраваць яго творчасць у карысны для беларускай буржуазіі бок. Беларускія нацыяналісты, як і польскія паланізатары выстаўлялі ў першую чаргу супроць рэвалюцыйна-дэмакратычных элементаў у творчасці Купалы. Не па духу ім былі гэтыя элементы. Нейкі Ю. Верашчака ў № 30 за 1913 г. „Нашай Нівы" зусім адкрыта выразіў незадавальненне беларускіх нацыяналістаў рэвалюцыйна-дэмакратычнымі элементамі творчасці Купалы і Коласа. Ён проста гаворыць, што нечага аплакваць долю беларускага народа, бо „наш край не такі страшны, не такі сумны, брудны і бедны"—як гэта паказваюць паэты у сваіх творах. Ён раіць паэтам лепш „навучыце нас любіць і разумець гоман бору, плеск вады ў сонцы, задуму змеркаў, ясноту ўсходаў". Калі Верашчака не раіў займацца соцыяльнымі матывамі, а асабліва рэвалюцыйна-дэмакратычнымі, то другія нацыяналістычныя крытыкі стараліся або замаўчаць рэвалюцыйна-дэмакратычныя элементы ў творчасці Купалы, або даць ім буржуазна-нацыяналістычнае тлумачэнне. У твор-

часці Купалы яны перш за ўсё і амаль выключна „ўбачылі“ выяўленне „беларускай душы“ і „самабытнасці“.

„Песні Купалы,—пісаў Владэк з Казіміраўкі—гэта люстра, у каторай свеціцца душа беларуса, яго жыццё, яго родны край; гэта праўдзівы, непадроблены голас, што выходзіць з самае глыбі народнае душы...“

Нацыяналіст А. Бульба ў рэцэнзіі на зборнік вершаў Купалы „Гусляр“асабліва ўсхваляе Купалу за „асобны беларускі матыў“, за тое, што ён кахае „нашы горы“, даліны, рэчкі і курганы“. Ён піша „не без радасці трэба прыкмеціць, што Купала ўсё развіваецца, што пазбаўляецца ўсіх чужых налётаў, вырабляе беларускі матыў. Калі ў першым выданні вершаў Купалы („Жалейка“) спатыкаем багата перакладаў і думак чужых, выказаных толькі беларускім вершам, то ў „Гуслярьі“ ўжо іх менш“. А Бульба бачыць гэтыя „налёты чужога у рэволюцыйна-дэмакратычных элементах. Ён бярэ два лепшых вершы са зборніку „Гусляр“, вершы „І вецер і сокал і я...“ матывам для якога паслужылі творы М. Горкага і верш „Кат“ (матыў Сенкевіча) і абвяшчае іх беднымі вершамі, бо яны бачыце не беларускіх „самабытных матываў“.

Максім Багдановіч, таксама як і другія нацыяналістычныя крытыкі, або замоўчвае вершы прагрэсіўнага, рэволюцыйна дэмакратычнага зместу, або абвяшчае іх „не арыгінальнымі“ мастацкі слабымі і старанна ўсхваляе тыя вершы, у якіх паэт апісвае пейзаж, у якіх пануюць вузкасуб‘ектывістычныя настроі паэта, або нацыяналістычная рамантыка. Усе яго „парады“ паэту выходзяць з голага эстэтызма, з патрэб буржуазнанацыяналістычных ідэй.

Уся так званая „нашаніўская“ крытыка імкнулася ўсімі сіламі накіраваць паэта на апяванне абстрактнай „беларускай“ душы, выхаласціць з яго творчасці рэволюцыйныя і дэмакратычныя элементы, зрабіць яе вернай служанкай інтарэсам беларускай буржуазіі і кулацтва. Вядома, і гэтыя намаганні не маглі не мець пэўнага ўплыву на творчасць паэта.

*Канец артыкулу ў наступным нумары*

## БІБЛІЯГРАФІЯ.

**М. ЦЭЛЕШ.** *„КУРЫЛКА". ДзВБ, ЮНДЗЕТСЕКТАР, 1935 г. стар. 56, цана 80 кап.*

„Курылка"—невялікая кніжка, напісаная Цэлешам для чытача школьнага ўзросту. Трэба сказаць, што гэта кніжка пры ўсіх сваіх недахопах (аб якіх будзе сказана ніжэй) прадстаўляе сабой дадатную з'яву ў нашай дзіцячай літаратуры. Таксама неабходна адзначыць, што гэта кніжка ў творчай практыцы Цэлеша, у параўнанні з яго зборнікам паляўнічых апавяданняў, з'яўляецца значным крокам наперад. У кніжцы „Курылка" няма той наіўнасці, таго паўзучага эмпірызма, той надуманасці, што мы наглядаем у вялікай колькасці ранейшых апавяданняў Цэлеша. Праўдзівасць, рэалістычнае раскрыццё фактаў і з'яў рэчаіснасці—вось што характарызуе невялікую кніжку „Курылка".

Тэма кніжкі „Курылка"—гэта старая дарэвалюцыйная пачатковая школа. Тэма распрацавана не дрэнна. Калі чытаеш кніжку, дык адчуваеш, што аўтар недрэнна ведае матэрыял, што аўтар змог з цікавячага яго матэрыялу адабраць і выпукліць больш характэрнае, больш тыповае, што характэрызуе дарэвалюцыйную царска-папоўскую школу.

Галоўную ўвагу ў сваёй кніжцы „Курылка" Цэлеш звяртае на паказ тых спосабаў і метадаў „выхавання", якія ляжалі ў аснове дарэвалюцыйнай царска-папоўскай школы. Асобнымі штрыхамі аўтар таксама падкрэслівае класавую сутнасць гэтай школы, яе ідэйны кірунак.

Зусім праўдзіва Цэлеш паказвае, як дарэвалюцыйная школа трымала дзетвару ў замкнёных рэакцыйных рамках, не давала ніякай мажлівасці развіццю іх здольнасцей і талентаў. Ісці ў школу вучыцца дзетвара баялася, таму што ў ёй звычайна панавалі жорсткія метады пакарання. Жарства, дубовая лінейка, цяганне вучняў за вушы і ўрэшце выкідванне дзяцей беднякоў са школы—вось тыя метады, якімі аперыраваў настаўнік і якія браў пад абарону крыжа поп. Усё гэта лічылася звычайным.

Цэлеш паказвае, што калі дзіцянё падрастала да школьных год, дык яму звычайна ўжо наперад гаварылі: „От, пачакай-жа! Пойдзеш у школу, абдзярэ табе вушы настаўнік"—таму што гэта было ўзаконена ў кожнай школе. У кожнай школе жандармскімі метадамі „выхавання" душылі вучняў, знішчалі ўсякую інцыятыву ў дзетвары.

Васьмігадовы хлапчук (сын бедняка), які пападае ў школу да настаўніка Курылкі, не гледзячы на вялікае жаданне вучыцца, не гледзячы на свае вялікія здольнасці, вымушан пакінуць школу, спыніць вучобу і замест вучобы ісці на шлях „спецыялізацыі" пастуха. Хлапчук зменьвае вучобу на пастуха таму, што яго ў школе фізычна і маральна ўвесь час катавалі. Ён пераносіць ні завошта боль лінейкі, яго цягаюць за вушы, яго трымаюць да няпрытомнасці на экзамене, дзе прысутнічае поп, пры-

стаў, яго мучаць не гледзячы на тое, што ён здольны, што ён лепшы вучань школы. Але ён сын бедняка і таму так да яго ўсе жорстка ставяцца. Іменна аўтар падкрэслівае, што з гэтай прычыны не верыць у яго здольнасці і веды. Настаўнік Курылка не хоча верыць, што гэты сын бедняка сам выканаў пісьмовую працу. Ён пачынае ўжываць усе свае „школьныя“ метады катавання да хлапчука, каб сілком дабіцца ад апошняга супярэчлівага адказу: „Я... пан настаўнік, спісаў...“ Атрымаўшы такі адказ, „Курылка стукнуў лінейкай па маёй (хлапчуковай—*С. К.*) галаве. У вушах зазвінела, пацямнела ў вачах. Я захістаўся. Курылка ірвануў мяне да сябе, торгаў мае вушы, але я ўжо нічога не чуў“.

Такіх фактаў, якія сведчаць аб жандармскім дзікім абыходжанні настаўніка Курылкі з дзяцьмі-школьнікамі, можна было-б прывесці з кніжкі вельмі многа. Яны вельмі характэрны для царска-папоўскай школы, яны даюць чытачу пераканаўчыя зарысоўкі аб тым, у якіх умовах да рэвалюцыі „выхоўвалася“ дзетвара рабочых і працоўнага сялянства.

Асабліва жудаснай і дзікай становіцца дарэвалюцыйная царска-папоўская школа, яе метады „выхавання“, паказаныя ў кніжцы „Курылка“, калі мы сваім выабражэннем пераносімся ад іх у нашу сучасную савецкую школу. У школу, дзе да дзяцей працоўных нашай краіны адносяцца з выключнымі клопатамі, дзе партыяй і ўрадам даюцца ўсе мажлівасці для развіцця здольнасцяй і талентаў дзетвары, дзе забяспечваюцца нашы вучні ўсімі матэрыяльнымі патрэбамі.

Паказваючы жандармскую дзікасць дарэвалюцыйнай царска-папоўскай школы, фізічнае і маральнае катаванне дзетвары, Цэлеш ярка падкрэслівае, што дзікае абыходжанне настаўніка і катаванне вучняў распаўсюджвалася не на ўсю дзетвару. Іменна ў адносінах да дзяцей заможных чыноўнікаў абыходжанне было зусім іншае. Дзеці гэтай катэгорыі не падпарадкаваліся тым катаванням, таму фізічнаму і маральнаму ўціску, як гэта цярпелі дзеці бедныты. Аўтар паказвае вучня адной і той-жа школы—Колю, які сапраўды дрэнна вучыўся, дурэў і інш., але яго настаўнік і пальцам ніколі не крануў. Чаму? А таму, што „бацька Колі меў паравы млын і быў багаты. Яго баялася наша вёска. Нават настаўнік і той пальцам ніколі не крануў Колю, не гледзячы на тое, што ён дрэнна вучыўся і вельмі дурэў“. Паблажка дзецям заможных, жандараў, чыноўнікаў і фізічны і маральны ўціск дзяцей рабочых і працоўнага сялянства, безумоўна было характэрным для старой дарэвалюцыйнай царска-папоўскай школы. Гэта аўтар паказаў досыць выпукла і праўдзіва праз цэлы рад яркіх фактаў, праз мастацкія вобразы дзяцей—удзельнікаў старой школы.

Недрэнна ў кніжцы „Курылка“ таксама раскрыты ідэйны кірунак дарэвалюцыйнай школы,—іменна тое, чаму і як навучалі дзетвару. Тут аўтар асобнымі штрыхамі паказвае, што асноўным прадметам старой, пачатковай школы, быў закон божы, рэлігія. Гэтым забіваліся галовы дзетвары, гэтым дзетвару адгароджвалі ад рэчаіснасці, ад жывой прыроды, ад праўды жыцця. Пад чорным пакрывалам рэлігіі дзецям прышчаплялі шавінізм, выхоўвалі ў іх ненавісць да людзей іншых (не рускай) нацыянальнасцяй. У ва ўсім гэтым галоўную ролю адыгрываў поп, які з'яўляўся фактычным гаспадаром школы, яму дапамагаў настаўнік рэакцыянер Курылка. У кніжцы досыць тонка паказана, як напрыклад, настаўнік Курылка натхняе дзетвару са снежкамі нападаць на яўрэяў, не лічачы апошніх за людзей.

Твор „Курылка“ змяшчае ў сабе рад імён. Тут мы сустракаемся перш за ўсё з настаўнікам-рэакцыянерам Курылкам, затым з настаўніцай Верай Александраўнай, якая прыходзіць на змену Курылку, з папом, прыставам, з сялянамі і вучнямі школы! Усе гэтыя імёны кампазыцыйна знаходзяцца як-бы на сваім месцы. Для таго, каб паказаць іменна дарэволюцыйную школу, без гэтых імён абыйсціся нельга, бо яны ўсе са школай звязаны. Але справа іншая, што гэтыя імёны ў большасці і застаюцца толькі імёнамі, а некаторыя з іх (Курылка, Вера Александраўна і інш.) як вобразы, або без пачатку, або без канца. Ні адно імя, уведзенае аўтарам у кніжку (за выключэннем, бадай, часткова хлапчука, які пакідае школу і нанімаецца ў пастухі), не ператворана ў пэўны вобраз—характар. Гэта безумоўна адзін з важных недахопаў кніжкі. Адчуваецца, што аўтар падняты багаты і цікавы матэрыял звузіў. Адгэтуль—недаапрацоўка і непаўната вобразаў.

Настаўнік Курылка паказан толькі ў дачыненні да дзяцей. Паказаны толькі яго жорсткія, жандармскія адносіны да вучняў. Падкрэслена, што ён рэакцыянер, душыцель якіх бы там не было прабліскаў новага, свежага. Але ён не ясен у плане больш шырокіх грамадскіх паступкаў. Яго аўтар пад канец твора неяк пакідае зусім.

Тое самае і з настаўніцай Верай Александраўнай, якая прыходзіць у школу на змену Курылкі. У асобе гэтага вобраза аўтар, як відаць, хоча паказаць, што сярод настаўніцтва ёсць не толькі рэакцыянеры тыпа Курылкі, а ёсць і ліберальнага кірунку людзі. Сапраўды гэта аўтарам падкрэслена. Мы бачым, як Вера Александраўна ліберальнічае сярод сялян, як яна гаворыць сялянам, што „жыць трэба лепш“, але яна ліберальнічае да пэўных межаў. Калі сяляне ў адказ на яе словы: „жыць, трэба жыць лепш“ крыкнулі, што „зямлі не хапае“,—дык „настаўніца спалохалася і „сход „разагнала“.

Лібералізм Веры Александраўны гэтай сцэнай падкрэслен. Але больш мы пра Веру Александраўну паводле кніжкі, бадай, нічога сказаць не можам. Вобраз не распрацаваны.

Таксама не распрацаваны зусім і вобразы селян, прыстава, папа. Яны перад намі выступаюць толькі з паасобнымі рэмаркамі, у паасобных сцэнах.

Калі падыходзіць да ацэнкі твору „Курылка“ з пункту гледжання яго займальнасці, цікавасці (а гэта для дзяцей асабліва важна), дык трэба сказаць, што твор куды больш выйграў-бы, калі-б ён меў моцную фабулу. Твор пабудаваны з асобных сцэнак, зарысовак, малюначкаў. Чытаецца твор наогул з цікавасцю. Таму, што гэтыя сцэны і зарысоўкі перададзены праўдзіва, жыва, лёгкім кароткім сказам, простай мовай. Але ў творы адсутнічае так званы цэнтр, да якога-б на працягу ўсяго твора прыцягвала маладога чытача. Адсутнічае творчая інтрыга. Гэта бязумоўна зніжае цікавасць твора.

Не папракаючы Цэлеша за мову наогул (яна не надуманая, жывая), трэба сказаць, што ў яго надзвычай шмат рускіх слоў. Замест самых шырокіх па ўжыванню беларускіх слоў Цэлеш ужывае рускія. Як, напрыклад: крыша, фундамент, цялега, пограб і рад іншых.

У падагульненне скажам, што кніжка, не гледзячы на вышэйадзначаныя значныя творчага парадку недахопы, можа быць цалкам рэка-

мандавана нашаму маладому чытачу-школьніку. Праз яе наш школьнік зможа пазнаёміцца з тымі жудаснымі ўмовамі, у якіх даводзілася вучыцца дзецям да рэволюцыі—бацькам нашых совецкіх школьнікаў.

Мастацкае афармленне кніжкі „Курылка“, зробленае мастаком А. В. Волкавым, выканана недрэнна. Афармленне цалкам імпаніруе зместу кніжкі. Пададзеныя малюнкі іменна ўзмацняюць аўтарскі паказ жандарскіх адносін настаўніка дарэволюцыйнай школы да вучняў, выпукляюць імёны папа, прыстава, пад пятой якіх знаходзілася старая школа.

*С. Куніцкі.*

---

Адказны рэдактар *М. ЛЫНЬКОЎ.*

РЭДКАЛЕГІЯ: *Я. Бранштэйн, П. Галавач, З. Жылуновіч, К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны.*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68, Дом Пісьменніка.**

# ЗМЕСТ

